ШТОМЕСЯЧНЫ НАВУКОВЫ І МЕТАДЫЧНЫ ЧАСОПІС

# Роднае слова



2010/4
(268)
красавік

ЗАСНАВАЛЬНІК:
МІНІСТЭРСТВА
АДУКАЦЫІ
РЭСПУБЛІКІ
БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА
«РЭДАКЦЫЯ ЧАСОПІСА
“РОДНАЕ СЛОВА”»

Часопіс выходзіць
з 1988 года
(у 1988 – 1991,
№№ 1 – 48,
выдаваўся пад назвай
**“Беларуская мова
і літаратура ў школе”**)

Галоўны рэдактар

**Зоя
ПАДЛІПСКАЯ**



Над нумарам працавалі
рэдактары:

**Андрэй Грыгаровіч** (*Методыка і вопыт:* Новая рэдакцыя правіл беларускага правапісу, ВНУ – школе, Рыхтуемся да цэнтралізаванага тэсціравання, З вопыту работы, Настаўнік прапануе; *Калі закончыўся ўрок:* Літаратурная гасцёўня, Даніна памяці),

**Аляксандр Канановіч** (*Калі закончыўся ўрок:* Да 65-годдзя з Дня Перамогі),

**Крысціна Пучынская** (*Літаратура і час:* Скрыжаванне культур, Літаратурнае пабрацімства, Паэтычны трыпціх, Віншуем юбіляра!, Лабараторыя паэта, Творчы лёс, Майстэрства творцы; Каляндар памятных датаў і юбілейных дзён; Крыжаванка),

**Ларыса Сагановіч** (*Мовы рысы непаўторныя:* Мова мастацкіх твораў, Скарбы мовы, Малады даследчык прапануе, У свеце слоў, З гісторыі мовы, Жывая мова; *Методыка і вопыт:* Новая рэдакцыя правіл беларускага правапісу, Асобы),

**Мікола Трус** (*Літаратура і час:* Постаці, Класіка і сучаснасць),

**Наталля Шапран** (*Нацыянальная і сусветная культура:* Спадчына, Пачынальнікі, З архіваў часу, Наша гасцёўня, Вяртанне да вытокаў, Мастацтва ў кантэксце часу),

намеснік галоўнага рэдактара **Марыя Кныш,**
адказны сакратар **Аляксандр Канановіч,**
дзяжурны рэдактар **Крысціна Пучынская,**
літаратурныя рэдактары **Ніна Ваніцкая, Вольга Крукоўская,**
вядучы рэдактар літаратурны **Алена Салахітдзінава,**
тэхнічны рэдактар **Канстанцін Лісецкі,**
галоўны бухгалтар **Валянціна Ракіцкая,**
загадчык прыёмнай **Вольга Барздова.**

**WWW.RS.UNIBEL.BY**

# Змест




Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках, мастацтвазнаўстве, культуралогіі, педагагічных навуках (тэорыя і методыка навучання беларускай мове і літаратуры).



# ЛІТАРАТУРА І ЧАС

*Постаці*

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

## ВЯРШЫНІ АЛЯКСЕЯ КАРПЮКА

90

Калі думаю пра Аляксея Карпюка (а жыць у Гародні, жыць літаратурай і не згадваць гэтую знакавую для нашага краю постаць нельга), успамінаю адзін выпадак з майго даўняга, студэнцкага, што было на самым пачатку 1980-х гг. У перапынку між лекцыямі стаю каля акна. Там – зялёны травень. Вуліца Ажэшкі аж зіхаціць свежасцю пасля цёплага вясновага дажджу. Ідзе Аляксей Карпюк. Ведаю яго як знакамітага пісьменніка, ведаю здалёк. Як і ўсе студэнткі, захапляюся яго "Данутай". Раптам ён збочвае з тратуара і ідзе па траве, газон якраз пад нашым акном. Згінаецца: перад ім жоўтая краска, адзіная на ўсім газоне. Звычайны малачай – цудоўнае маленькае сонца між зялёнай травы. Нейкі час узіраецца, дакранаецца да пялёсткаў-промняў. Уздымаецца і сыходзіць. Вялікі, прыгожы, статны.



**14.04.1920 – 14.07.1992.**

У гэтым для мяне ўвесь Аляксей Карпюк. Чалавек адначасна надзвычайнай моцы і пяшчотнай, далікатнай шчырасці, што з гадамі-выпрабаваннямі не страціў здольнасці выхапіць са зменлівай, вірлівай карціны гарадской штодзённасці аскепачак жывой прыроднай красы, умення глядзець на свет дзіцячымі вачыма, захапляцца і здзіўляцца. Гэта ключ да разгадкі таго, як між творамі, дзе малюецца далёка не радасная заходнебеларуская рэчаіснасць, паўстала ў яго спадчыне такая ўзнёслая, шчымлівая аповесць **"Данута"**. Як сцвярджае сучасны крытык, «"Данута", магчыма, лепшы празаічны твор пра каханне, напісаны па-беларуску… Хіба толькі "Альпійская балада" Васіля Быкава вартая стаць з ёю на адну паліцу» [1, с. 15].

Аповесць "Данута" складаецца з трох частак. Трэцяя, што апісвае час, калі ўсё "завярцелася" (а гэта падзеі 1939 года, Вялікая Айчынная вайна), па мастацкіх вартасцях значна саступае першым дзвюм. Тут страчваецца тое незвычайна далікатнае, тонкае пачуццё, якім прасякнуты першыя часткі твора, якім жыве герой і праз якое ён успрымае свет. І гэта натуральна і зразумела, бо і герой у многім змяніўся. Але найперш змяніліся абставіны, бо свет стаў цалкам іншым.

У першых частках падзеі адбываюцца ў Вільні напрыканцы 1930-х гадоў, напярэдадні Другой сусветнай вайны. І ўжо гэта незвычайна. Згадайма твор беларускага савецкага пісьменніка пасляваеннага часу, дзе падзеі адбываліся б у Вільні. Гэта сучасная літаратура вяртае нам "нашу" назаўжды страчаную "крывіцкую Мекку", а ў той час такое месца дзеяння і сапраўды было выключным. Матыў горада – адзін з цэнтральных у аповесці, а незвычайны рамантычны шарм Вільні адыгрывае не апошнюю ролю ў раскрыцці асобы галоўнага героя – беларускага хлопца Янкі Барташэвіча. Такі выбар месца дзеяння абумоўлены яшчэ і тым, што менавіта гэтае – чужое для вясковага хлопца гарадское асяроддзе – і стала першапрычынай таго, што ў яго душы пачаў адбывацца вельмі складаны працэс разбурэння цэласнасці, раздваення.

Незвычайнай свежасці, далікатнасці ў адлюстраванні пачуццяў герояў – беларуса Янкі Барташэвіча і генеральскай дачкі полькі Дануты Янкоўскай – празаік дасягае не ў апошнюю чаргу праз легкавейныя, ледзьве ўлоўныя водары, шолахі, ко-



***Ала Мікалаеўна Петрушкевіч*** *– літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук (1993), дацэнт (2001). Дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Закончыла беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта (1981), аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі (1992). Аўтар кніг "Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы" (2002), "Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку ХХ стагоддзя" (2009) і інш., шэрага метадычных дапаможнікаў, больш як 150 навуковых прац, а таксама паэтычнага зборніка "Пярсцёнак" (1997).*

леры, што ўрываюцца ў абуджаны каханнем свет душы маладога героя як найвялікшы цуд: *"Я пасапраўднаму адчуў вясну з усімі яе пахамі, птушыным шчабятаннем… сіняватую рунь яравых… луг, пакрыты ўжо лотаццю такой далікатнай жаўцізны, што дзіва брала, як гэткая прыгажосць можа ўжывацца з бруднай цінай"* [2, с. 116].

Пад вясковай, сялянскай, грубай, жорсткай, часам нехлямяжай знешнасцю Янкі Барташэвіча і за адпаведна гэткімі ж паводзінамі хаваецца кволая, ранімая, вытанчаная душа, што прагне хараства, здольная на самае ўзвышанае, светлае пачуццё. Грубасць хлопца – гэта і ёсць тая брудная ціна, наносная, напускная, своеасаблівая ахоўная рэакцыя ў свеце чужым, жорсткім і несправядлівым, дзе неаднойчы даводзілася зносіць абразы, пагарду, знявагу з боку не лепшых прадстаўнікоў польскай нацыянальнасці на адрас самага дарагога, роднага. Згадаем хіба самы балючы з мноства іншых выпадкаў, дзе зневажалася душа маладога чалавека: «*Неяк маці прыслала мне ў Вільню вышытую кашулю. На ўроку польскай мовы і літаратуры ўбачыў яе наш прафесар Залескі і заявіў класу:*

*– У Афрыцы ёсць народы, якія любяць каляровыя шкельцы, каменьчыкі, ніткі… У нас на "крэсах" гэтае дзікунства захавалася ў тым, што мясцовыя сяляне расшываюць вопратку рознакаляровымі ніткамі.*

*І выхаленай рукой ён паказаў на мяне:*

*– Вось вам жывы прыклад!*» [2, с. 47].

Цывілізаваны дзікун, прафесар-шавініст быў далёка не адзіным, хто імкнуўся прынізіць і абразіць, хто прадстаўляў не лепшы бок польскай інтэлігенцыі. Таму трэба было абараняцца, станавіцца моцным і жорсткім. А якраз з гэтага свету *яна* – першае і самае вялікае каханне героя, абараніцца ад якога Янка Барташэвіч не мае ніякай сілы.

Пераадоленне сябе, духоўнае ўзыходжанне Янкі Барташэвіча, яго маральныя перамогі і паражэнні праходзяць па шляху пераадолення дысгармоніі, раздваення. І першае, што даволі лёгка ўдалося зрабіць герою, – гэта дабіцца гармоніі з душой горада. Лёгка, таму што яшчэ раней многа ведаў пра Вільню, пра тыя падзеі, якія былі звязаны з беларускай гісторыяй, культурай. Вандроўкі па старажытных вулках горада даюць яму вялікую асалоду, напаўняюць радасцю і гонарам ад усведамлення далучанасці да вялікіх спраў. Успрыманне Вільні як цуду, як святыні напаўняе душу юнака вялікім шчасцем, у якое няпроста паверыць, бо няшмат дарункаў лёсу меў у жыцці: «*Гледзячы на гэтую старажытнасць, я забыўся на ўсё і адчуў, як у мяне пачынае займаць дух ад усведамлення, што хаджу мясцінамі, пра якія толькі пішуць у кніжках.*

*"Няўжо я ў Вільні? А мо толькі сню?*
*І ўсё ж такі я ў Вільні, эх!..*"» [2, с. 37].

У гэтым кароткім выгуку-выдыху змяшчаецца столькі адчайна-радаснага пачуцця, пра што можна расказваць бясконца, але адлюстравана аўтарам менавіта гэтак: як імгненне, як пробліск маланкі.

Ад прыроды Янка Барташэвіч – натура дзейсная, актыўная. Прагны да ўсяго новага, герой не можа прайсці паўз напісанае, з цікаўнасцю чытае надпісы на помніках, шторазу праглядае свежыя газеты, якія выстаўляюць у вітрынах. Усё аналізуе, жыве надзвычай насычаным унутраным жыццём. Старыя кварталы Вільні выклікаюць жывы водгук у раскрытай насустрач новаму душы хлопца, наводзяць на роздум, абуджаюць фантазію: "*Што тут было тысячу гадоў назад? Якія хадзілі людзі? Якая на іх была вопратка? Якія мелі клопаты?..*" [2, с. 44].

У роздумах героя выяўляюцца найлепшыя рысы характару, выхаваныя якраз вясковым асяроддзем: спагада да нялёгкай працы іншых, імкненне дапамагчы. Фігуры магутных атлантаў, якія трымаюць на плячах балкон старасвецкага дома, іх напружаныя мускулы, што так дасканала выяўлены скульптарам, выклікаюць жаданне раздзяліць з веліканамі іх заўсёдную ношу: *"Мне захацелася падперці балкон самому ды кінуць барадачам:*

*– Я за вас крыху патрымаю яго, а вы, хлопчыкі, пабегайце па скверыку, хай вам плечы адыдуць!"*

Праз кранальна-шчыры зварот "хлопчыкі" герой паўстае быццам спагадлівы бацька ці родны брат у адносінах да зусім не каменных атлантаў, а да спрацаваных, стомленых хлопцаў.

Праблема беларуска-польскіх дачыненняў – адна з цэнтральных у творы. Адносіны паміж прадстаўнікамі двух народаў заўсёды былі вельмі няпростыя. Аўтар не ўнікае гэтай спрадвечнай праблемы. Яна існуе на ўзроўні адносін між людзьмі, на што робяць уплыў гістарычныя, геаграфічныя, эканамічныя і іншыя стасункі паміж дзяржавамі.

Шмат гаворыць пра стаўленне тагачасных польскіх уладаў і пэўнай, даволі шматлікай часткі насельнікаў горада да беларускай культуры здарэнне, што адбылося насамрэч, у якім удзельнічаў і сам Аляксей Карпюк, – вечар беларускай літаратуры, які па-варожаму настроеныя малойчыкі імкнуліся сарваць. Янка Барташэвіч ідзе на гэтае змаганне свядома, укладае ў яго нянавісць да ўладаў і жаданне абараняць сваё, беларускае: *"У любы час я быў гатовы прыкласці рукі да ўсяго, што накіравана супроць ненавіснай улады, а тут надарыўся гэткі выпадак пад настрой!"* Патрэбна было змагацца, біцца ў сапраўднай бойцы, каб пракласці беларускаму паэту Граніту (прататыпам гэтага вобраза быў Максім Танк) шлях на сустрэчу з прыхільнікамі яго паэзіі.

Дзякуючы вялікаму, шчыраму пачуццю спакутаваная душа Янкі Барташэвіча пазбаўляецца надрыўнага раздваення, у ёй гарманічна і непадзельна пачынае валадарыць шчасце. Ён адкідае нянавісць, поўніцца дабрынёй. Тым самым Аляксей Карпюк паказвае, як людзі здольныя пераадолець выпрацаваную за доўгі час міжнацыянальную нецярпімасць. Але наперадзе ў герояў яшчэ шмат дарог, выпрабаванняў, расстаняў і страт.

Апошнія старонкі аповесці хвалююць надзвычайна, гучаць як прыгожы заключны акорд вечнай тэмы. Смутак ад страты каханай, ад немажлівасці вярнуць мінулае пераплятаецца тут з радасцю вялікага адкрыцця: каханне вечнае, як вечнае само жыццё.

На жыццёвым шляху Аляксея Карпюка два гарады, якія ён вельмі любіў: Вільня ў маладосці і Гародня – на ўсё жыццё. Менавіта гэтаму гораду прысвечана яшчэ адна вяршыня прозы пісьменніка – раман **"Карані"**. Гэты твор мае выключнае значэнне для ўсіх, хто звязаны з Гародняй, бо ў нашай айчыннай прозе другой паловы XX ст., бадай, не знойдзем такога вялікага, шырокамаштабнага мастацкага палатна, дзе горад быў бы намаляваны са шчырай любоўю, з веданнем "жывой" гісторыі праз успрыманне яе чалавекам, на вачах якога многія падзеі гэтай гісторыі тварыліся. Такім з'яўляецца галоўны герой твора Лаўрэн Маркевіч – вырванае з роднай глебы старое дрэва, чые карані, аднак, засталіся там, дзе пражыў усё сваё нялёгкае жыццё.

Гэта адзін з самых кранальных твораў беларускай літаратуры, які ўздымае балючыя праблемы адрыву ад родных каранёў, страты роднасці між прадстаўнікамі розных пакаленняў, адчужанасці між роднымі, кроўнымі і між людзьмі ўвогуле, што вядзе да непапраўных страт, да трагедыі.

Апроч гэтых праблем, важнае месца займае праблема гарадскога жыцця, горада як месца, дзе сканцэнтравана спрадвечная культура рэгіёна. Горад паўстае як жывы, надзвычай складаны арганізм, што патрабуе клопату, догляду, паважлівага стаўлення ўсіх жыхароў. У мастацкай прасторы рамана горад выступае не толькі месцам, дзе жывуць людзі-сучаснікі, гэта і горад юнацтва героя, што прыпала на перыяд міжваеннага дваццацігоддзя, і Гародня адразу пасля апошняй вайны.

Большасць насельнікаў, герояў рамана, успрымаюць горад толькі як зручнае для існавання месца. Горад жа як асяродак культуры, як гістарычная каштоўнасць для іх перастае існаваць. Наводнены людзьмі малаадукаванымі, мяшчанамі, што так і не далучыліся да праўдзівай гарадской культуры, а адначасна культуры нацыянальнай, беларускай, але старанна перарабляюць выгляд і сутнасць Гародні на свой густ, ён пачынае страчваць старадаўні імідж колішняй каралеўскай сталіцы.

Вобраз Лаўрэна Маркевіча ў многім супрацьпастаўлены вобразам яго сыноў. Выгоды горада ён успрымае з пачуццём вялікай павагі да людской працы, з радасцю ад таго, што і звычайны працоўны люд мае магчымасць карыстацца тым, што раней было даступна толькі прывілеяваным, гаспадарам жыцця. Усё для яго цікава, дзіўна. Стары, малапісьменны чалавек, ён задумваецца над гучаннем слова, на інтуітыўным узроўні здольны адчуваць яго.

Неразуменне, неадчуванне душы горада ўласцівы не толькі людзям невысокай адукаванасці, што выраслі ў іншым, вясковым, асяроддзі, але і так званай інтэлігенцыі, людзям разумовай працы, ураджэнцам Гародні, якія, здавалася б, непасрэдна, па абавязку сваёй працы, павінны ведаць, разумець адметнасць горада, клапаціцца пра яго. Такой у рамане паўстае нявестка галоўнага героя Лаўрэна, кабета з нетутэйшым імем Кіра, што працуе ў музеі, праводзіць экскурсіі па гістарычных мясцінах горада, знаёміць з помнікамі архітэктуры. Але надта ж неглыбокія, "рафінаваныя" яе веды пра гісторыю, якую яна зусім не адчувае.

Лаўрэн, чалавек невысокай адукацыі, але высокай народнай культуры, разумее гэтую няшчырасць, штучнасць, абыякавасць такіх "экскурсаводаў" да сваёй справы. І ён выказвае гэта. Але выказвае ў сваіх непрамоўленых, унутраных маналогах, бо найбольшую прастору твора якраз і займаюць маналогі галоўнага героя, якія ніколі не былі пачутымі тымі, хто жыў побач. Яшчэ з маладосці, часоў службы ў войску, ён памятае пра гісторыю стварэння праваслаўнага храма – Пакроўскага сабора – на пачатку мінулага стагоддзя ў гонар гарадзенцаў, што загінулі ў руска-японскай вайне. Неаднойчы чытаў тое на памятнай шыльдзе. Пачуўшы аповед нявесткі-экскурсавода, Лаўрэн у душы абураецца: *"Заглянула б хоць*



**Аляксей Карпюк з Янкам Брылём.**
1950-я гг. З архіва дачкі пісьменніка Валянціны Карпюк.

*раз у сабор сама, прачытала б, што стаіць на той дошчачцы, і людзям так бы гаварыла!.. Але што зробіш, калі ты, нявестачко, якаясьці вучоная траскотка. Нават турыстаў сваіх лянуешся вывесці з аўтобуса на вуліцу, каб да сабора прыглядзеліся бліжэй, каб яшчэ панюхалі муры ды мо нават памацалі пальцамі"* [3, с. 120]. Аповед экскурсавода Лаўрэн вельмі дакладна называе агіткай, якую ніхто і не слухае.

Горад – гэта шматлікія дарогі, што злучаюць вуліцы, сцяжыны ў парках, скверах, лясных масівах. Але вельмі рэдка яны здольныя злучыць чалавечыя лёсы. Жыццё ў горадзе схавана за сценамі дамоў. Замкнутая прастора горада спрыяе адзіноце, важную ролю пры гэтым адыгрывае топас акна як магчымасць для чалавека далучыцца да свету жыцця іншых. Твар старога чалавека ў акне, якому толькі і засталося, што назіраць за жыццём іншых, бо сваё ўжо аджыта, – гэтая карціна падкрэслівае адзін з галоўных матываў твора – смутку, адзіноты. Але герой Аляксея Карпюка яшчэ поўны сіл, яшчэ здольны прыносіць іншым карысць. Таму змушанае беспрацоўе ў горадзе становіцца для яго пакутай, у душы расце адчуванне непатрэбнасці. Прасторная кватэра сына робіцца для бацькі сапраўднай турмой. Яму ж здавалася на пачатку, што вокны ў дамах дзеля таго, каб адкрываць людзям свет, той жа горад, кожнае парознаму, з новага ракурсу. Вельмі паказальная ў гэтым плане сцэна, калі наш дапытлівы, цікаўны герой падымаецца на апошні паверх дома і просіць у зусім незнаёмых чужых людзей дазволу паглядзець на горад з акна. А акно аказваецца занадта цесным, занадта мала прасторы адкрывае. І яму дазваляюць паглядзець з балкона. Гэтаму чалавеку мала святла, свету, убачанага толькі з цесных рамак акна, яму патрэбны ўвесь гэты свет з жывымі людзьмі, са штодзённымі клопатамі.

Раман дае шмат цікавай спазнавальнай інфармацыі пра Гародню. Напрыклад, колькасць хрысціянскіх храмаў у горадзе да 1939 г. – 12, сінагог – амаль 60, адна мячэць. У будынках сённяшняй тэкстыльнай фабрыкі калісь былі вайсковыя казармы, а назва гарадзенскага прадмесця Румлёва паходзіць ад слова *рум* – месца, дзе сплаўлялі сасну. У самым цэнтры горада, дзе месціцца колішняя анатамічка і атэль "Нёман", калісьці было гразкае балота, што паказалі раскопкі пад кіраўніцтвам Міхася Ткачова. Даведваемся нават пра колькасць труб у аргане фарнага касцёла. Было б недарэчна, каб з вуснаў малаадукаванага селяніна прагучала дакладная лічба. Безумоўна, ён не мог яе ведаць. Лаўрэн згадвае, як звонка, шматгалоса гучала песня, калі па горадзе маршыраваў іх стралковы полк: *"Мелодыя на розныя галасы атрымлівалася ў іх магутнай і складнай – бытта на ўсю вуліцу грымелі на свае сто дваццаць трубаў арганы з фарнага касцёла"* [3, с. 61]. Аляксей Карпюк ужывае прыём аўтарскага ўдакладнення, тактоўна папраўляе свайго героя ў зносцы: *«Дзядзька Лаўрэн памыляецца. Арган у фарным касцёле (фірмы "Вацлаў Бернацкі, Вільна") мае 30 рэгістраў і аж 2184 трубы і трубачкі»* [3, с. 61]. Неаднойчы згадваюцца ў творы перыядычныя выданні 1920 – 1930-х гг., грамадскія арганізацыі Заходняй Беларусі. Аўтар ведае пра неабазнанасць сучаснікаў у гэтай, параўнальна нядаўняй гісторыі нашага краю, таму вымушаны праз зноскі тлумачыць сутнасць гэтых назваў.

Многія старонкі рамана "Карані" прысвечаны асобе знакамітага гарадзенскага паэта Міхася Васілька, чый яркі самабытны талент асабліва кранаў сэрцы простага люду. Аляксей Карпюк паказвае знакамітага паэта даўнім, яшчэ з часоў службы ў польскім войску, сябрам галоўнага героя. Гэта дае магчымасць аўтару расказаць пра многія старонкі жыцця паэта, пра яго погляды на грамадскі лад, пра веру ў светлыя ідэалы. І ўсё гэта пададзена па-чалавечы, па-сяброўску хораша, праз успаміны галоўнага героя.

Вялікім ідэалістам быў Міхась Васілёк, верыў, што ў будучым бяскласавым грамадстве ўсё будзе дасканала. Лаўрэн згадвае пра гэта, калі аналізуе сучасную яму сітуацыю ў горадзе: п'янства, распусту. З болем гаворыць герой, што

грамадства працоўных, пра якое марыў калісьці Міхась Касцевіч, атрымалася далёкім ад ідэалу.

Аўтар падкрэслівае недарэчнасць грамадскай сітуацыі, калі разумныя, таленавітыя людзі не здольныя атрымаць павышэнне па службе толькі таму, што не з'яўляюцца прыхільнікамі існуючай улады, калі не прымаюцца ніякія альтэрнатыўныя погляды. Так, за польскім часам маладыя вайскоўцы Міхась Касцевіч і Лаўрэн Маркевіч выдатна здалі экзамен на эрудыцыю, але старшымі шаранговымі стаць так і не змаглі, бо з паліцыі прыйшла характарыстыка, дзе было напісана: *"Постэрунак паліцыі панствовэй пасвядчае, што Лаўрэн Маркевіч, сын Яфіма, і Міхал Касцевіч, сын Юзэфа, да ўрада другой Рэчы Паспалітай не лаяльныя, і паліцыя на гэта мае дастаткова фактаў"* [3, с. 137]. А "факты" гэтыя – дзейнасць у грамадскіх, культурных беларускіх арганізацыях. Але найперш – літаратурная творчасць на роднай мове. Прыніжэнне нацыянальнай годнасці беларусаў, што мелі талент, імкнуліся да творчасці, – звычайная з'ява ў адноўленай Рэчы Паспалітай. Гэта, аднак жа, нягледзячы на пераслед, мела пэўны, найперш духоўны, супраціў. Шлях у паэзію Міхася Васілька ў гэтым плане надзвычай паказальны: «*Не раз і не два выклікалі яго ў Скідэль на пастарунак, і паліцыянт яму казаў тады: "Ты школы не канчаў? Хадзіў толькі па яе калідорах, так? Таму, хаме, пільнуйся гною, свіней, быдла, а не вершы пішы! Пакінь гэта людзям адукаваным!" А Міхась потым назло ўсім панам ды паўпанкам стаў гэтым самым Васільком! Шчэ і рэдактарам у Вільні быў!*» [3, с. 219].

Пра цікавы выпадак, да якога меў дачыненне сам Аляксей Карпюк, згадвае галоўны герой. На паэтычную сустрэчу са знакамітым земляком Міхасём Васільком у Скідэлі сабралася шмат народу, нельга было зайсці ў набіты біткам Дом культуры. Разам з вядомым творцам на сустрэчу прыехаў малады, у той час нікому невядомы, празаік, якому грамада так і не дала слова, бо «*ўзнялася цэлая бура: "Васілька-а!", "Міхася-а з Баброўні!", "Нашага паэ-эта-а", "Толькі яго хо-очам!"*» [3, с. 157]. А выпадак, што адначасна сведчыў пра сапраўды народную любоў да паэта (*"шпарыў пра тое, што было ў людзей на душы"*) і непрыманне чагосьці новага, невядомага, здарыўся з аўтарам твора, як пазначае тое Аляксей Карпюк у зносцы. Гэта яго не пусцілі на сцэну, яму не далі магчымасці выступіць.

Выснова, ацэнка, якую дае Лаўрэн Міхасю Касцевічу, змяшчае ў сабе крытэрыі чалавека-працаўніка, хлебароба: *"Васілёк – чалавек, які мог бы ўпэўнена сказаць, што жыў на свеце і хлеб еў недарма"* [3, с. 158].

Цікавай старонкай гарадзенскай гісторыі 1930-х гг. сталі "каштанавыя бунты". Каштаны з



**Аляксей Карпюк** (другі злева) **з польскімі пісьменнікамі.**
Варшава. Май 1964 г.
З архіва дачкі пісьменніка Валянціны Карпюк.

даўніх часоў – самае распаўсюджанае ў нашым горадзе дрэва. З якой пяшчотай і захапленнем, быццам дасканалы твор у хрысціянскім храме, згадвае каштанавыя алеі ў час іх красавання галоўны герой: *"Калі зацвіталі вясной гэтыя самыя каштаны, ад свечак у белых кандэлябрах не адарваць было вачэй"* [3, с. 62]. Тагачасны гарадзенскі віцэ-прэзідэнт Цыдзік вырашыў знішчыць каштанавыя алеі, бо прызнаў гэтае дрэва нешляхетным. Вось тады горад і ўскалыхнулі сапраўдныя бунты, якія ў народзе назвалі каштанавымі: *"Брыгады рабочых пачалі старыя дрэвы пляжыць. Гродзенцы ўзбунтаваліся, паадбіралі ў рабочых тапары, паламалі пілы і далі ім па карку"* [3, с. 62].

Для разгону бунту былі выкарыстаны атрады паліцыі, моладзевай ваенізаванай арганізацыі, а ў запасе трымалі яшчэ і вайскоўцаў, якім на той час адмянілі палявое вучэнне. Гісторыя таго супраціўлення ў нашым горадзе закончылася традыцыйна, не на карысць гараджан: *"Дрэвы спілавалі – да апошняга, а завадатары бунту трапілі ў халодную"* [3, с. 62].

Самы зялёны раён горада – Пышкі, улюбёнае месца адпачынку гарадзенцаў. Аляксей Карпюк знаёміць нас з трагічнай гісторыяй, што адбылася ў гэтай мясціне амаль стагоддзе таму, у гады Першай сусветнай вайны, калі Пышкі сталі брацкай магілай для колішніх салдат, ска-

лечаных у час руска-японскай вайны. Яны жылі ў Гародні ў прытулку, узведзеным на сродкі, што засталіся ад пабудовы Пакроўскага сабора. 297 няшчасных калек па загадзе каменданта горада прывезлі ў Пышкі і, пастраляўшы, закапалі ў агульнай магіле. Германіі патрэбны быў тлушч для тэхнічных мэт. Якім жа цынізмам вее ад запісу, які пакінуў кіраўнік гэтай экзекуцыі ў сваім блакноце: *"Каманду грабароў па тлушч і косці на магілу ў Пышкі паслаць не раней лета 1916 года, калі целы рускіх канчаткова разложацца і прыгоднай сыравінай стануць"* [3, с. 154]. Падзеі гэтыя адбываліся ў жніўні 1915 года.

Кайзераўскія войскі адышлі, магіла, пазначаная крыжам і жалезнай дошчачкай з лічбай 297, засталася. Але пасля апошняй вайны была зруйнавана, а недалёка вырас новы помнік – тым, хто фарсіраваў Нёман у 1944 г.

Пышкі – гэта праўдзівы помнік прыроды, здольны супакоіць не толькі расхваляванага даўнімі згадкамі героя твора Аляксея Карпюка, але і многіх гарадзенцаў, навеяць філасофскі настрой: *"Пазіраючы на велічныя кроны і гонкія медзяныя сосны, адчуваючы пахі набрынялай вільгацці ігліцы і кары, Лаўрэн раптам адчуў усю марнасць сваіх клопатаў у параўнанні з адвечным дыханнем гэтай мудрай, самастойнай, упэўненай, жывой і дасканалай масы, адкуль, напэўна, выйшлі вытокі ўсіх продкаў, як і яго самога"* [3, с. 155].

Мудры стары чалавек, назіраючы за гарадзенцамі, услухоўваючыся ў іх мову, прыходзіць да цікавай высновы пра адметнасць людзей, што жывуць у адным горадзе, пра тое, што ўсе яны (а гэта значная частка люду прышлага з розных земляў), пажыўшы тут, набываюць няўлоўнае падабенства. Разгадаць гэты феномен чытачу дапамагае аўтар, выкарыстоўваючы развагі акадэміка Дз. Ліхачова: *«Кожная мясціна ўплывае на паводзіны і на душы жыхароў… Тыя самыя вулачкі і закамаркі прымушаюць людзей бегаць і круціцца дакладна гэтак, як бегалі і круціліся па іх сто гадоў таму. Той самы Нёман, тыя ж высокія берагі, пляжы, лес, азёры, дажджы і вецер змушаюць падобным чынам паводзіць сябе летам альбо – зімой… Чалавек потым і сам не заўважае, калі ўступіць у духоўную сувязь з тутэйшымі продкамі, стане мясцовым патрыётам і карэнным "гродзенцам"»* [3, с. 75].

У аснове жыццёвай філасофіі героя рамана "Карані" і яго аўтара тры галоўныя моманты, што спрадвеку кіравалі светам, – парадак, сумленнасць, праўда. Гэта тры ісціны, па якіх сумленны чалавек вымярае вартасць свайго жыцця. Аляксей Карпюк, паводле шматлікіх успамінаў людзей, што блізка ведалі яго, ніколі не адступаўся ад гэтых праўдаў. Ён адзін з тых гарадзенскіх творцаў, што вярталі мясцоваму насельніцтву гісторыю, марылі, каб тутэйшыя людзі адчулі сябе сапраўднымі гарадзенцамі, гаспадарамі, спадкаемцамі старажытнай гісторыі, вартымі жыць у каралеўскім горадзе.

Яшчэ адна вяршыня прозы Аляксея Карпюка – аповесць **"Вершалінскі рай"**. Пісьменнік здолеў раскрыць спрадвечнае імкненне чалавека да лепшага праз веру, да збавення ад беспрасвецця. Людскія душы былі адкрытыя да ўсяго, што давала надзею. Лёгка прымалі новых прарокаў, падманвалі сябе, у чым горка расчароўваліся, за што мелі жорсткую расплату. Зрэшты, чаму – былі? З'яўляюцца такімі і сёння. Таму так актуальна гучаць творы Карпюка і ў наш час, калі паўстаюць прарокі-лжэпрарокі, што вядуць людзей у нікуды, у цемру. Такім наваяўленым сялянскім прарокам паўстае ў аповесці "Вершалінскі рай" звычайны селянін Гальяш Клімовіч. Народ і прарок, трагедыя прарока адлюстраваны вельмі ярка, балюча. Аднак жа тут праз трагедыйны аспект часам прабіваецца здаровы народны гумар, які ўраўнаважвае драматычную сюжэтную калізію.

У спадчыне Аляксея Карпюка не толькі празаічныя творы. Гэта і не апублікаваны пры жыцці драматычны твор "Сялянская драма" паводле аповесці "Вершалінскі рай", які нарэшце прыйшоў да чытача ў кнігазбораўскім выданні твораў пісьменніка. Гэта і яго палымяная публіцыстыка, сярод іншага – знакамітае выступленне на V з'ездзе пісьменнікаў Беларусі ў 1966 г. Захаваўся фотаздымак, дзе Аляксей Карпюк з Андрэем Макаёнкам перад тым з'ездам, на якім самай знакавай падзеяй і стане прамова гарадзенскага пісьменніка, што будзе мець няпростыя наступствы для смелага выступоўцы. А яшчэ – мастацка-дакументальныя творы "Мая Джамалунгма" і пазнейшы, ужо пазацэнзурны, "Развітанне з ілюзіямі", якія чытаюцца як цікавыя старонкі нашай гісторыі, напісаныя на высокім мастацкім узроўні.

Аляксей Карпюк быў вялікім рамантыкам. І глыбокім рэалістам. А яшчэ – вялікім працаўніком на ніве літаратуры. Бясконцае мноства разоў ён перапісваў-перапрацоўваў свае творы. Напрыклад, аповесць "Данута" перапрацоўваў 32 разы.

Шчаслівая, ганаруся тым, што жыву ў Гародні, хаджу тымі вулкамі, дзе хадзіў ён. І гэтак жа, як яго герой Янка Барташэвіч з захапленнем пытаў сябе пра Вільню, дзіўлюся сама сабе: "Няўжо я ў Гародні?.."

**Спіс літаратуры**

1. **Фядута, А.** У змаганні за праўду / А. Фядута // Выбраныя творы / А. Карпюк. – Мінск : Кнігазбор, 2007. – С. 5 – 24.

2. **Карпюк, А.** Данута // А. Карпюк. Выбраныя творы. – Мінск : Кнігазбор, 2007. – С. 27 – 387.

3. **Карпюк, А.** Карані : раман / А. Карпюк. – Мінск : Маст. літ., 1988. – 351 с.



70

**Уладзімір Іосіфавіч Мархель –** літаратуразнаўца, перакладчык, паэт.

Нарадзіўся 20 красавіка 1940 г. у вёсцы Жыгалкі на мяжы Стаўбцоўскага і Нясвіжскага раёнаў. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар больш як чатырохсот прац, сярод якіх двойчы перадрукаваныя кнігі "Лірнік вясковы: Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні" (1983, 2005), "Шлях да Беларусі: Адам Міцкевіч – прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры" (1998, 2003), а таксама даследаванні "Вяшчун славы і волі" (1989), "Крыніцы памяці: Старонкі беларуска-польскага літаратурнага ўзаемадзеяння" (1990), "Прадвесце: Беларуска-польскае літаратурнае ўзаемадзеянне ў першай палавіне XIX ст." (1991), "Прысутнасць былога: Нарысы, артыкулы, эсэ" (1997) і брашуры. Укладальнік збораў твораў В. Каратынскага (1981, 1994, 2009), Я. Лучыны (1988, 2001), укладальнік і сааўтар перакладаў польска-беларускага зборніка "Санеты" А. Міцкевіча (1998). Укладальнік, аўтар прадмовы, каментарыяў і многіх перакладаў анталагічнага зборніка беларускай польскамоўнай паэзіі XIX стагоддзя "Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай" (1998). Выдаў кнігу перакладаў з польскай мовы "Водгулле" (2000), зборнікі санетаў "Згадкі Нясвіжа" У. Сыракомлі і "Зніч любові" Я. Купалы (абодва 2002) – на мове арыгінала і ў перакладзе на беларускую мову, а таксама ўласны зборнік выбранай лірыкі "але…" (2007). Пераклаў лібрэта Мацея Радзівіла да оперы Яна Голанда "Агатка, або Прыезд пана" (1993), напісаў лібрэта паводле перакладу Яна Чачота "Спевы даўнейшых ліцвінаў" (1996). Адзін з укладальнікаў, сааўтар каментарыяў і прадмоў, перакладчык большасці твораў музычных зборнікаў Станіслава Манюшкі на словы Я. Чачота "Песні з-над Нёмна і Дзвіны" (1996), У. Сыракомлі "Ліра мая для спеваў" (1998) і інш. Адзін з навуковых рэдактараў і аўтар артыкулаў "Гісторыі беларускай літаратуры" (2007). Уганараваны прэміямі Polcul (1998) і прэзідэнтаў трох акадэмій навук Беларусі, Украіны, Малдовы (2004).

*Скрыжаванне культур*

Уладзімір МАРХЕЛЬ

# БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКА-ЎКРАІНСКАЕ СУДАКРАНАННЕ

## ДУХОЎНАЕ АБЛІЧЧА НАЦЫІ Ў ТВОРАХ БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІХ ПАЭТАЎ І ТАРАСА ШАЎЧЭНКІ

Тыпалогія творчасці Тараса Шаўчэнкі і новай беларускай літаратуры прадвызначалася не толькі падабенствам гістарычна-нацыянальнага становішча ўкраінскага і беларускага народаў у Расійскай імперыі, але і асабістым знаёмствам украінскага Кабзара з беларускім краем, з яго пісьменнікамі і іх мастацкім набыткам.

Першае ўражанне ад беларускіх краявідаў ***Тарас Шаўчэнка*** атрымаў яшчэ ў падлеткавым узросце, калі разам з дваровымі людзьмі Паўла Энгельгарта ехаў у Вільню праз Лоеў, Рэчыцу, Жлобін, Бабруйск, Ігумен, Мінск, Радашковічы, Краснае, Маладзечна, Пруды і Смаргонь. У Вільні ён, дваровы казачок, сустрэў сваё каханне – чарнабровую швачку Дуню Гусікоўскую, якая бачылася яму ў сне нават праз шмат гадоў. У лістах да сябра са Случчыны, такога ж, як ён, выгнанніка, Браніслава Залескага Тарас Шаўчэнка неаднойчы з асаблівай цеплынёй згадваў беларускія мясціны. У адным з лістоў ён пісаў: *"Экспедыцыя па Віліі можа быць надзвычай цікавая. Як бы я жадаў паплаваць па гэтай маці літоўскіх рэк"* [5, с. 347].

Праз Беларусь, дакладней, праз яе ўсходнія раёны ехаў Т. Шаўчэнка таксама і ў 1843 г. з Пецярбурга, і ў 1847 г. – у Пецярбург. Менавіта ў Паўночнай сталіцы Расійскай імперыі з Т. Шаўчэнкам пазнаёміліся ў 1839 г. Рамуальд Друцкі-Падбярэскі і Ян Баршчэўскі.

Паводле сведчанняў, ***Рамуальд Падбярэскі*** звярнуў увагу ўкраінскага Кабзара на беларускі мелас, на тыя творы беларускай літаратуры, якія маглі б скласці ўяўленне пра яе блізкасць да ўкраінскай (травесційная паэма "Энеіда навыварат"). Шаўчэнкава ж заўвага пераконвае ў тым, што ён прыхільна ставіўся да беларускамоўных пісьменніцкіх здабыткаў і заклікаў творцаў не пакідаць *"сваёй працы для народа, бо гэта іх павіннасць, а праца іх, нягледзячы на цяжкія варункі, не прападзе дарма…"* [2, с. 118]. Р. Падбярэскі ў сваю чаргу ў рэцэнзіі на "Жывапісную Украіну" выказаў суперажывальнае

разуменне таленту Т. Шаўчэнкі. Характарызуючы гравюру "Судня рада", ён, у прыватнасці, зазначыў: *"Трэба быць філосафам, паэтам і мастаком, каб умець так адмыслова, так трапна вывесці нацыянальныя тыпы. Пан Тарас Шаўчэнка, маларасійскі Кабзар, або пясняр, у такіх сцэнах непераўзыдзены. Хто падарожнічаў па Украіне і ў малых корчмах у стэпе сустракаў украінскіх сялян, таму гэтыя сцэны яскрава нагадаюць дарожныя ўражанні"* [6, с. 570]. З не менш глыбокім разуменнем сэнсу творчасці Тараса Шаўчэнкі выказваецца ў вершаваным прысвячэнні вялікаму Кабзару беларуска-польскі паэт ***Эдвард Жалігоўскі***:

*Глянь, вяшчун, які цуд словаў:*
*Як не мець днём сонцу сховаў,*
*Так ужо знайсці не зможа*
*Схоў для слоў ніхто з тыранаў,*
*Бо ссылае словы Божа*
*На паэтаў, бы капланаў* [7, с. 26].

Пераклад У. Мархеля.

У адказ на гэты верш, занатаваны аўтарам, які выступаў у друку пад псеўданімам *Antoni Sowa*, у сваім дзённіку 13 мая 1858 г. украінскі паэт напісаў "Подражаніє Едуарду Сові", датаванае 19 лістапада 1859 г. [4, с. 537]. Аднак прысвячэнне Эдварду Жалігоўскаму было не спадкаваннем яго паэзіі, а, як вызначыў В. Шчурат, перакладам польскамоўнага варыянта песні, змешчанай у апошнім зборніку "Сялянскіх песенек…" Яна Чачота (Вільня, 1846) пад № LXXIV ("Ej posadzę ja przy chatce…") [7, с. 99].

Тарас Шаўчэнка, такім чынам, уступаючы ў творчы дыялог з беларуска-польскім паэтам, звярнуўся да беларускага меласу праз пасрэдніка, праз Чачотаў пераклад народнай песні на польскую мову, і тым самым пашырыў крэатыўны дыяпазон беларуска-польска-ўкраінскага судакранання культур. Трэба думаць, што вялікі Кабзар меў неблагое ўяўленне пра моўна-нацыянальныя асаблівасці развіцця новай беларускай літаратуры, пра ўстойлівую білінгвальную сітуацыю ў тым літаратурным працэсе, які набліжаўся да пашырэння сферы нацыянальна-беларускага слова ў мастацкай творчасці. Не выключана, што Т. Шаўчэнка свабодна арыентаваўся ў арыгінальным і перакладным фальклорна-песенным масіве, назапашаным у шасці зборніках "Сялянскіх песенек…" Яна Чачота, тым болей што іх, як мяркуе С. Александровіч, мог падараваць паэту яго беларускі сябра Браніслаў Залескі восенню 1859 г. у час сустрэчы ў Пецярбургу [1, с. 173].

Праца ***Яна Чачота***, думаецца, прыцягвала ўвагу Т. Шаўчэнкі, бо адкрывала магчымасць спазнання народна-беларускага элемента ў жанры літаратурнай песні, тым болей што ні ў перакладах беларускай фальклорнай лірыкі, ні ў вершаванай расшыфроўцы народна-песенных матываў Ян Чачот не ўскладняў паэтычную стылістыку рамантычнай фразеалогіяй, але даваў прыклад успрымання вуснай паэзіі як непадробнага і нешматслоўнага выяўлення народнай душы. Вырашаючы праблемы ўзаемадачынення літаратурных песенных твораў з фальклорам, аўтар "Сялянскіх песенек…" урэшце пераканаўся ў неабходнасці пашыраць кола адрасатаў за кошт беларускамоўнага чытача або слухача.

Адраджэнскія тэндэнцыі ў беларускай літаратуры XIX ст., арыентаванай на ўзнаўленне былой Рэчы Паспалітай, становяцца асабліва відавочнымі пры супастаўленні беларускіх аўтараў з Тарасам Шаўчэнкам у тым, што датычыцца іх спасціжэння духоўнай сутнасці сваіх народаў, з аднаго боку, і нацыятворчага моманту ў гэтым спасціжэнні – з другога. Несумненную цікавасць у гэтым сэнсе мае ўзнікненне нелегальных таварыстваў: спачатку філаматаў-філарэтаў – у асяроддзі беларуска-ліцвінскіх студэнтаў Віленскага універсітэта, а потым і Кірыла-Мяфодзіеўскага – сярод украінскай моладзі (як рамантычнае парыванне ў будучую незалежнасць свайго краю і гатоўнасць да аддананага служэння яму). Менавіта гэтыя згуртаванні далі сваіх геніяў – ***Адама Міцкевіча*** і Тараса Шаўчэнку. Іх творчасць збліжаецца найперш непрыманнем расійскай імперскасці, што надзвычай яскрава выяўлена ў Міцкевічавым "Урыўку", далучаным да III часткі дрэздэнскіх "Дзядоў", і ў паэме Т. Шаўчэнкі "Сон". Паводле аўтараў гэтых твораў, горад Пятра ўзнік у балоце на людской крыві, таму пазбаўлены праведнасці і не можа несці ў сабе стваральна-гуманістычнага пачатку. З надзеяй на ўзаемаразуменне ў пытаннях нацыянальна-вызваленчай барацьбы Т. Шаўчэнка пераслаў А. Міцкевічу ў Парыж свой верш "Каўказ", у завяршальных радках якога ўжо гучалі словы славутага "Заповіту":

*Вітер тихий з України*
*Понесе з росою –*
*Мої думи аж до тебе…*
*Братньою сльозою*
*Ти їх, друже, привітаєш,*
*Тихо прочитаєш…*
*І могили, степи, море,*
*І мене згадаєш* [4, с. 266].

Напружанае натхненне ў Пераяслаўскую восень 1845 г. вывела Тараса Шаўчэнку на высокі ўзровень асэнсавання быцця, вечнасці і ўласнага скону, пасмяротнага ўспрымання тых падзей, якія надыдуць пасля яго пахавання. Менавіта

на гэтым спыняецца аўтар, бо яму не ўсё роўна, дзе будзе яго магіла. Вядома ж, *"на Ўкраіне мілай"*, і абавязкова там, адкуль можна будзе бачыць яе шырокія прасторы і дзе, несумненна, раздасца голас вызвалення Айчыны.

Лучнасць паэта з родным улоннем была такая непарыўная, што ён не мог дапусціць і думкі, каб яго дух пакінуў родную зямлю і памкнуўся да Бога перад тым, як гэтая зямля станецца вольнаю. Паводле "Заповіту", пасмяротны рух яго духу да Усявышняга немагчымы без свабоды Радзімы. Вераю ў прышласць вольнай Украіны, адваяванай праз крывавую змогу, прасякнута апошняя просьба Тараса Шаўчэнкі: памянуць яго сярод сваіх у шчаслівейшую часіну. Аднак просьба гэтая не закранала праблем пасмяротнай славы (як у творах "помнікавай" традыцыі, распачатай Гарацыем і прадоўжанай у творчасці Ф. Віёна, Г. Дзяржавіна, А. Міцкевіча, А. Пушкіна, П.-Ж. Беранжэ і інш.), бо чаго вартая слава паэта, калі яго Радзіма заняволена.



**Уладзімір Мархель з зяцем Станіславам Грэбневым.** 2005 г.

Ніводзін паэт Беларусі ні ў першай, ні ў другой палове XIX ст. не суадносіў свабоду Радзімы з уласным сконам. Адам Міцкевіч, памкнёны з Парыжа ўсёй сваёй істотаю ў родныя мясціны, пачынае паэму "Пан Тадэвуш" у надзеі на цуд – вяртанне на Бацькаўшчыну, страта якой роўная страце здароўя. Таму боль расстання з бацькоўскім краем А. Міцкевіч сунімаў калі не фізічным наведваннем Радзімы, то, прынамсі, ілюзіяй гэтага наведвання, г. зн., пішучы паэму, ён вяртаўся да здароўя.

Менавіта ў параметрах настальгіі адбываецца мастацкае адкрыццё Радзімы паэтамі-адраджэнцамі Беларусі, біяграфія якіх стымулявала развіццё міцкевічаўскіх традыцый. Матывы тугі па Радзіме і вяртання ў роднае ўлонне займаюць істотнае месца ў творчасці землякоў А. Міцкевіча наступнага пакалення – Геранiма Марцінкевіча і крыху пазней Вінцэся Каратынскага.

Родныя пейзажы ***Геранім Марцінкевіч*** вымалёўвае з асаблівай цеплынёй, калі знаходзіцца далёка ад іх. Настальгічная памяць паэта ўвасабляецца ў простых, нязмушаных словах. Краявіды Радзімы непаўторныя, яны не параўноўваюцца з чужынай, не супастаўляюцца з ёй, бо па-за канкурэнцыяй. У вершы "Пілігрым", напісаным у Разані, Г. Марцінкевіч гаворыць пра тое, што апынуўся ў чужым краі і не ўяўляе, калі вернецца на родную зямлю. Надыходзіць вясна, чутны птушыныя спевы, але гэта *"чужая краіна, чужая вясна"*. Там, на радзіме паэта, смуткуе любая дзяўчына. Творца перажывае: ці наблізіцца калі хваля спаткання, дзе *"спявае надзея"*, дзе *"пеніцца Дзвіна ад лебядзіных крылаў…"*

Пачатак паэмы "Таміла" і санет "Гара Міндоўга" ***Вінцэсь Каратынскі*** напісаў пад несумненным уражаннем ад свайго вяртання ў мясціны маладосці і ўяўнага вяртання Адама Міцкевіча на Радзіму ў паэме "Пан Тадэвуш". Аднак беларускамоўны верш "Туга на чужой старане" В. Каратынскага ўжо стварае ўражанне, блізкае да "Заповіта" Т. Шаўчэнкі, калі пагроза расстання з родным краем, па сутнасці, ураўноўваецца са сконам, а ўсведамленне непазбежнай страты роднага ўлоння набывае рысы жыццёвай катастрофы.

***Уладзіслаў Сыракомля***, які ў адрозненне ад украінскага Кабзара ідэалізаваў селяніна, але маляваў жыццё (як і Т. Шаўчэнка) у сацыяльных супярэчнасцях, любасць да Радзімы лічыў натуральнай праявай высокай духоўнасці. Яго паказ роднага краю ў паэме "Дабрародны Ян Дэмбарог" выведзены на экзістэнцыйны ўзровень супастаўлення Айчыны з чужынаю, у якім яскравыя іншаземныя фарбы ствараюць фон для вывучэння стрымана-сціплых фарбаў беларускага ландшафту:

*Святая Літва мая, краю мой родны,*
*Пустэчай пяскоў, дзірванамі ты плодны!*
*Не кінецца ў вока глухмень твая надта,*
*Не тое ў табе, што на поўдні прынадным,*
*Дзе, кажуць, палі нібы райскае дзіва,*
*Дзе міртамі лес зарастае, алівай,*
*Дзе горы – не тое, што нашы Панары,*
*Такія навокал раскіданы чары,*
*Такія там рэкі, азёры, мясціны –*
*Змалёўваюць з іх італьянцы карціны,*
*Якія пасля да нас возяць на продаж.*
*Ці ж ты гэту славу, мой край, пераможаш.*

Параўнанне, відавочна, не на карысць родных мясцін. Далейшы аповед ва ўступнай частцы "Дабрароднага Яна Дэмбарога" засяроджаны на шэрых малюнках беларуска-ліцвінскіх краявідаў, падкрэслена кантрастных паўднёваму пейзажу, сціплых і непрэтэнцыёзных, асуджаных на эстэтычна-утылітарную паразу:

*Твой выгляд панурай акрасай напоўнен,*
*Ў малюнку цябе не пакажаш на поўдні.*
*На рэках тваіх не шумяць вадаспады,*
*І шэрань паўсюды ў тваіх даляглядах.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*А люд пад страхою тут просты зазвычай,*
*Што многім здаецца: да трох ён не злічыць*
[3, с. 106].
Пераклад У. Мархеля.

Някідкая на першы погляд Радзіма – *"святая Літва"* – адухоўлена любасцю паэта, што і вызначае яе перавагу над прэзентабельнымі паўднёвымі краямі.

Увогуле, у другой палове XIX ст. тэндэнцыя да ўспрымання Радзімы як сіратлівай, убогай, аўдавелай старонкі, эксплiцытна выяўленая ў творчасці Т. Шаўчэнкі (Украіна-ўдава, бяздзетная ўдавіца ў "Сне"), выразна пазначылася і ў беларускай літаратуры (у творах Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны і інш.), што сведчыла пра пэўную змену парадыгмы роднага краю ў параўнанні з польскамоўнымі творамі патрыятычнага зместу, напісанымі ў першай палове XIX ст. Польскамоўныя творы нараджэнцаў Беларусі мелі апасродкаваны ўплыў на фарміраванне анталагічных асноў нацыі, творчасць жа білінгвальных аўтараў (В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча), для якіх асноўную ролю выконвала беларуская мова (як найвышэйшы паказчык патрыятызму), а мастацкі набытак Т. Шаўчэнкі быў узорам вызначэння ўкраінскага нацыянальнага адраджэння, выяўляла менталітэт беларусаў і непасрэдна ўплывала на духоўнае аблічча нацыі, арыентаванай на самаспазнанне, самаідэнтыфікацыю і самасцвярджэнне ў прасторы Радзімы.

Неаслабная ўвага да жыцця простага чалавека і яго душэўнага стану ў прыгонным грамадстве не магла не наблізіць Уладзіслава Сыракомлю да творчасці Тараса Шаўчэнкі, тым болей што з імем вялікага Кабзара сцвярджалася яшчэ адна славянская літаратура ў Расійскай імперыі. Да паэтычнага набытку Т. Шаўчэнкі Лірнік вясковы звяртаўся, маючы багаты перакладчыцкі вопыт польскамоўнага ўзнаўлення лацінскіх, французскіх, нямецкіх, англійскіх, шведскіх, іспанскіх і рускіх аўтараў. Пераканаўшыся на практыцы ў складанасці прывядзення перакладных тэкстаў у адпаведнасць з арыгіналам, асабліва пры непадобнасці іх моўных прасодый, У. Сыракомля знаходзіў калі не адэкватныя, то, прынамсі, раўнавартасныя сродкі замены выяўленчых магчымасцей мастацкага твора (замест старажытнага гекзаметра, напрыклад, сілаба-танічны рыфмаваны верш).

Пры польскамоўным узнаўленні паэтаў-лацiністаў Лірнік вясковы зыходзіў з перакладчыцкага вопыту рамантыкаў. У прадмове да выдання перакладаў з М. Сарбеўскага ён пісаў: *"Трэба толькі прасякнуцца, прасякнуцца і прасякнуцца духам паэта, кожную яго думку ўзважыць у сабе, часам рассячы гордзіеў вузел замест таго, каб развязаць яго, часам меней лічыцца з якім-небудзь паганскім боствам, калі-нікалі Тэціс назваць морам, а Феба – сонцам, і заўсёды, перакладаючы кагосьці, быць самім сабою – шанаваць думку, памер верша і нават – наколькі магчыма – словы, але перш за ўсё шанаваць душу твора і ані часцінкі не страціць яе, пераносячы ў іншую мову"* [8, с. 11].

Менавіта такога прынцыпу прытрымліваўся У. Сыракомля, працуючы над перакладам Шаўчэнкавай кнігі "Кабзар". У польскамоўных варыянтах твораў, уключаных у "Кабзара", амаль няма купюр. Не цалкам перакладзены толькі верш "Тарасава ноч" і паэма "Гайдамакі". У апошнім творы апушчаныя мясціны перакладчык тлумачыў тым, што *"тут аўтар, абмакнуўшы пэндзаль у крыві, сапсаваў эстэтычную прыгажосць сваіх вобразаў"* [9, с. 210]. Ідучы па шляху адэкватнага ўзнаўлення зместу вершаваных твораў Т. Шаўчэнкі і толькі зрэдку дапускаючы іх перакладчыцкую інтэрпрэтацыю, У. Сыракомля імкнуўся да напісання эквілінеарных і эквірытмічных польскамоўных тэкстаў. Разам з тым ён дазваляў сабе нязначныя адхіленні, пераважна ў бок павелічэння колькасці складоў у рытмарадах, што дыктавалася яго версіфікатарскай практыкай, замацаванай у польскай сілабіцы. Т. Шаўчэнка часта мяняе звычайныя суадносіны рытмаў. Тэкст у яго ранняй паэме "Перебендя" напісаны танічным вершам, у якім імклівае развіццё васьмірадковых вершарадоў нечакана змяняецца дванаццацiскладовымі радкамі эпічнага гучання. Каб наблізіцца да інтанацыйных змен арыгінала, Лірнік вясковы васьміскладовыя і шасцiскладовыя чаргавальныя радкі пераважна танічнага гучання перадае васьміскладовым вершарадам, але праз сілаба-тоніку (чатырохстопны харэй), а дванаццацiскладовыя запаволена-нaратыўныя вершарады арыгінала ўзнаўляе ў перакладзе трынаццацiскладовай сілабікай.

Арыгінал:

*Перебендя старий, сліпий –*
*Хто його не знає?*

*Він усюди вештається*
*Та на кобзі грає…*
*Як серце сміється, сліпі очі плачуть…*
*Послуха, повіє…*
*Старий заховавсь*
*В степу на могилі, щоб ніхто не бачив,*
*Щоб вітер на полю слова розмахав…*
[4, с. 24, 25].

Пераклад:

*Perebenda stary, ślepy,*
*Jego dobrze znają stepy,*
*Bo się dziad ten wszędzie włóczy*
*I przy kobzie pieśni mruczy…*
*Jak nóta grzmi radością lub czarną rozpaczą,*
*Jak mu się serce smieje, slepe oczy płaczą…*
*Posłuchał i poleciał…*
*Bo z pieśnią proroka*
*Dziad ukrył się na stepie od ludziego oka*
[9, с. 212, 214].

Перавёўшы танічную арганізацыю шаўчэнкаўскага верша з нечаканымі рытмічнымі паваротамі і інтанацыйнымі зменамі ў сілабатанічнае, урэгуляванае чатырохстопным харэем рэчышча і замяніўшы дванаццацісkладовы радок трынаццацісkладовай сілабікай, У. Сыракомля пайшоў таксама на замену характару рыфмы. Аднак зроблена гэта было, думаецца, свядома і не як парушэнне рыфма-рытмічных асаблівасцей арыгінала, а ў адпаведнасці з версіфікатарскімі асаблівасцямі Т. Шаўчэнкі, з яго прыхільнасцю да рознага роду адступленняў і прыёму чаргавання доўгага і кароткага памераў у адным і тым вершы. Гэтая мера У. Сыракомлі вымагалася таксама і пастаянным націскам у польскай мове. У асобных выпадках, напрыклад пры перастварэнні паэмы "Кацярына", У. Сыракомля ўжываў, так бы мовіць, мімаходны пераклад, ствараў экспромт, які, арыентуючыся на адпаведныя фонавыя веды ці на адзін маўленчы космас, выходзіў да іншага ў перакладзе катэгарыяльнага значэння. Пры блізкім змесце абодва пераклады ў другім урыўку "Кацярыны" – і экспромт, захаваны ў рукапісе, і канчатковы варыянт – выяўляюць адыход ад арыгінала.

Арыгінал:

*Тоді я веселий,*
*Тоді я богатий,*
*Як буде серденько*
*По волі гуляти!* [4, с. 34].

Экспромт:

*W tenczas ja szczęśliwy,*
*W tenczas ja bogaty,*
*Gdy serce swobodne,*
*Choć na plecach łaty* [10].

Пераклад:

*Bogatszym od króla,*
*Próżność mię nie łechce,*
*Kiedy serce hula*
*Jako samo zechce* [9, с. 256].

Сыракомлеў пераклад "Кабзара" (1861) на польскую мову як з'ява ў творчасці беларуска-польскага паэта прадвызначала папулярнасць вялікага ўкраінскага паэта на тэрыторыі Беларусі ў XX ст. і будучае выданне (1939) "Кабзара" па-беларуску.

У сувязі з гэтым становіцца актуальным вылучэнне пытанняў пераемнасці беларускімі аўтарамі (Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, А. Гарун і інш.) ідэйных запаветаў, эстэтычных прынцыпаў, маральных каштоўнасцей мастацкіх урокаў украінскага Кабзара, запатрабаванасці яго паэзіі ў працэсе развіцця новай беларускай літаратуры, звязаным з нацыянальнымі адраджэнска-дэмакратычнымі тэндэнцыямі, патрыятычнымі ідэямі, шляхамі фарміравання нацыі і яе рэпрэзентацыі ў свеце.

Асабістае знаёмства Т. Шаўчэнкі з беларуска-польскімі паэтамі спрыяла пашырэнню ў яго творчасці дыяпазону беларуска-ўкраінскага судакранання культур, што адлюстравалася ў тэматыцы канкрэтных твораў і ў прысвячэннях. Аднак у параўнанні з шаўчэнкаўскім парадыгматам Радзімы патрыятычныя матывы беларуска-польскіх паэтаў мелі больш стрыманы характар і таму менш уплывалі на фарміраванне анталагічных асноў нацыі. Набліжэнне да шаўчэнкаўскага ўзроўню разумення роднага ўлоння адбылося ў тых паэтаў, якія аддавалі прыярытэт беларускамоўнай творчасці як найважнейшай праяве патрыятызму.

**Спіс літаратуры**

1. **Александровіч, С.** Тарас Шаўчэнка і Беларусь / С. Александровіч // Полымя. – 1958. – № 9.
2. **Зямкевіч, Р.** Тарас Шаўчэнка і беларусы / Р. Зямкевіч // Наша Ніва. – 1911. – № 8.
3. **Сыракомля, У.** Добрыя весці / У. Сыракомля. – Мінск, 1993.
4. **Шевченко, Т.** Кобзар / Т. Шевченко. – Київ, 1960.
5. **Шевченко, Т.** Повна збірка творів в трьох томах / Т. Шевченко. – Київ, 1949. – Т. III.
6. **Шевченкова дорога в Білорусь.** – Львів, 2004.
7. **Щурат, В.** Літературні начеркі / В. Щурат. – Львів, 1913.
8. **Kondratowicz, L.** Poezye / L. Kondratowicz. – Wyd. zupełne. – Warszawa, 1872. – T. IX.
9. **Kondratowicz, L.** Poezye / L. Kondratowicz. – Wyd. zupełne. – Warszawa, 1872. – T. X.
10. **ЦДАЛМ Літвы.** – Ф. 96. – Воп. 1. – Адз. зах. 32.

Мікола ТРУС

# МАЙСТРОЎНЯ “ПРАЖСКАЙ ШКОЛЫ” ЎКРАІНСКАЙ ПАЭЗІІ

## “ЦЫТАДЭЛЬ ДУХУ” АЛЕГА ОЛЬЖЫЧА



**Алег Ольжыч.** 1930 г.

Творчасць Алега Ольжыча сёння ва Украіне шануецца як нацыянальная класіка. Не страцілі навуковай вартасці многія яго працы як вучонага-археолага. Але быў іншы час, было забыццё, калі імя палымянага барацьбіта, “герольда няскоранага пакалення” (П. Іванішын) не згадвалася. Шмат напісана пра грамадска-палітычную дзейнасць гэтай выбітнай асобы ва ўкраінскай гісторыі 1930 – 1940-х гг. Трагічная кропка ў жыцці паэта была пастаўлена ў час Другой сусветнай вайны ў нацысцкім канцлагеры Заксенхаузен. Задача артыкула – даць асноўныя, “эскізныя” звесткі пра жыццё і ўласна паэтычную творчасць А. Ольжыча з дадаткам асноўнага спіса літаратуры, які ілюструе яго грамадска-культурную, навуковую дзейнасць. Таксама мы прапануем некалькі ўзораў перакладаў яго паэзіі. Гэтай публікацыяй мы распачынаем знаёмства з творчасцю некаторых прадстаўнікоў “пражскай школы” ўкраінскай паэзіі.

*У папярэднім нумары даследчык **Мікола Трус** распачаў цыкл артыкулаў, прысвечаных украінскай літаратуры XX ст. Там змешчаны ўступны аглядавы матэрыял «Творчасць мужнасці і любові: “Пражская школа” ўкраінскай паэзіі».*

### АЛЯКСАНДР АЛЕСЬ І АЛЕГ ОЛЬЖЫЧ: ЗМЕНА ТВОРЧЫХ ГЕНЕРАЦЫЙ

Пры аглядзе гісторыі ўкраінскай літаратуры XX ст. на ўзроўні ўзгадак і пералічэнняў знакавых постацей і мастацкіх твораў найперш з пісьменніцкай сям’і Кандыбаў будзе названы Аляксандр Алесь (сапр. Аляксандр Іванавіч Кандыба, 1878 – 1944) – выдатны паэт-лірык, чый дэбютны паэтычны зборнік “З журбою радість обнялась…” (Пецярбург, 1907) атрымаў узрушаную характарыстыку самога Івана Франка: “Вясною дыхае ад гэтых вершаў… Амаль кожны верш так і просіцца пад ноты, мае ў сабе мелодыю”.

Прывабная сіла слова ўкраінскага пісьменніка, яго музычная стыхія, думаецца, невыпадкова прыцягнулі ў свой час і ўвагу Максіма Багдановіча, які ў сваім “Вянку” (Вільня, 1913) змясціў два пераклады на беларускую мову вершаў Алеся: “Пекла было тут у тую часіну…” і “Астры” (“У поўначы астры ў саду расцвілі…”).

Сын пісьменніка Алег Ольжыч (Алег Аляксандравіч Кандыба, 1907 – 1944) – прадстаўнік новай генерацыі нацыянальнага пісьменства, вучоны-археолаг, гісторык, мастацтвазнаўца, яркая постаць “пражскай школы” ўкраінскай паэзіі, палымяны публіцыст, актыўны грамадска-палітычны дзеяч у Чэхаславакіі і Заходняй Украіне 1930 – 1940-х гг. У савецкі час гэтае імя замоўчвалася, творчая спадчына А. Ольжыча зберагалася і асэнсоўвалася толькі ў нацыянальнай дыяспары. Але «нават за савецкім часам, калі ведаць і памятаць А. Ольжыча было забаронена, ён усё адно быў сярод свайго народа. А. Алесь прысвяціў сыну некалькі вершаў, якія насуперак забаронам і праследаванням чыталіся (“Алфавіт вершамі, напісанымі для сына”) і спяваліся (“Над калыскаю”, “Калыханка”). І неабазнаныя, непасвечаныя людзі мімаходзь адчувалі яго прысутнасць, яго чароўнасць» [14, с. 353].

Маці А. Ольжыча Вера Антонаўна Свадкоўская мела беларускія карані. Тыповая “партрэтная” беларускасць прасочвалася і ў аблічча паэта: светлавокі, бялявы хлопчык у дзяцінстве; “светлая, кучаравая чупрына, сціплая, нібы сарамлівая, усмешка, лагоднасць і мяккасць у паводзінах, тонкае пачуццё гумару, што часта пераходзіла ў досыць з’едлівую, але дбайна завуа-

ляваную іронію” (М. Антановіч) – А. Ольжыч у сталым веку.

У сучасным украінскім літаратуразнаўстве паэт часта пазіцыянуецца як “рыцар украінскай ідэі”, сімвал цэлага пакалення ўкраінскай моладзі 1920 – 1930-х гг., яскравы прадстаўнік дзяцей першай хвалі эміграцыі, якія здолелі не толькі зберагчы, але і ўзмацніць пасіянарную энергію ўкраінскага народа.

Алег Кандыба і яго паплечнікі супрацьпаставілі творчасці старэйшага пакалення яскравую ідэйнасць, валявы характар, веру. «Ды і само абранае прозвішча “Ольжыч” азначала “сын Алега”, кіеўскага князя, што згадваецца ў летапісах як “Ольг”. Гэта быў яўны выклік тату, які падпісваўся прыгожа і саладжава: А. Алесь» [14, с. 395].

#### СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯПІСУ АЛЕГА ОЛЬЖЫЧА

Нарадзіўся Алег Ольжыч 8 ліпеня 1907 г. у Житоміры. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Пушчы-Вадзіцы каля Кіева. З малых гадоў Алег выяўляў выдатныя творчыя здольнасці: у тры гады ўжо ўмеў чытаць, у пяць напісаў п’еску пра казацкае жыццё, добра маляваў, іграў на фартэпіяна і скрыпцы.

Пра жыццё сям’і Кандыбаў у 1916 г., а таксама першыя спробы пяра Алега Ольжыча ўзгадвала яго сяброўка Людміла Краскоўская: «У той час у Пушчы-Вадзіцы жыў пісьменнік А. Алесь – Аляксандр Іванавіч Кандыба з жонкай Верай Антонаўнай і сынам Алегам. Алег быў на тры гады маладзейшы за мяне, але сябраваў са мною, а не з маім братам Сяргеем, які быў яго равеснікам. Сям’я Алеся жыла недалёка ад нашага дома, і я хадзіла ў госці да Алега. Аляксандр Іванавіч працаваў ветэрынарам на бойні ў Кіеве. Ён быў заўзяты рыбак і ў вольны час хадзіў на рыбалку на суседні ставок. Вера Антонаўна тады нідзе не працавала і займалася толькі гаспадаркай. На двары яны мелі курэй. Вось гэтых курэй Алег пачаў даследаваць, а я яму дапамагала. Мы добра іх вывучылі і ўмелі адрозніваць. Алег запісваў розныя прыгоды з курынага жыцця. Вынікам гэтых доследаў было невялікае апавяданне “Рудзько – жыццяпіс аднаго пеўня”, якое Алег напісаў у Празе. Яно там і было надрукавана. Ужо тады ў Алега праявілася метадычнасць і вытрымка ў працы. Вера Антонаўна цярпліва пераносіла гэтае ўмяшанне ў яе гаспадарку, а Аляксандр Іванавіч ласкава пасміхаўся з нашай “навуковай” працы» [7, с. 42 – 43].

У 1923 г. уся сям’я Кандыбаў апынулася ў эміграцыі. У 1924 г. будучы паэт паступае на філасофскі факультэт Карлава універсітэта ў Празе, дзе вывучае археалогію і гісторыю мастацтва,



**Дарчы подпіс Алега Ольжыча Людміле Краскоўскай на адной з прац вучонага па археалогіі.** 1930-я гг.

адначасова запісваецца на літаратурна-гістарычнае аддзяленне Украінскага педагагічнага інстытута імя М. Драгаманава. У ліку яго выкладчыкаў у Карлавым універсітэце быў вядомы гісторык, археолаг, этнограф, аўтар славутых “Славянскіх старажытнасцей”, своеасаблівай энцыклапедыі гісторыі і культуры старажытных славян, Любар Нідэрле (1865 – 1944); “вялікі чэшскі вучоны называў Алега Кандыбу сярод сваіх самых любімых і самых здольных вучняў” [14, с. 362].

Малады даследчык праводзіць археалагічныя раскопкі ў Галіцкім Падоллі, працуе з фондамі музеяў Прагі, Львова, Кракава. Восенню 1930 г. А. Кандыба абараніў дактарат на тэму “Неалітычная кераміка Галіччыны”. Перад ім адкрываюцца выдатныя навуковыя перспектывы. Вучоны ўдзельнічае ў шэрагу замежных навуковых канферэнцый, публікуецца ў прэстыжных выданнях, чытае лекцыі ў Гарвардскім універсітэце. Знаходзячыся за акіянам, бярэ ўдзел у заснаванні Украінскага навуковага інстытута ў ЗША. У Празе ў 1939 г. арганізуе выданне зборніка навуковых прац гэтай установы.

З пачаткам Другой сусветнай вайны А. Ольжыч цалкам прысвячае сябе грамадска-палітычнай дзейнасці.

#### ТВОРЧЫЯ ЭТАПЫ ЎЗВЯДЗЕННЯ “ЦЫТАДЭЛІ ДУХУ” ОЛЬЖЫЧА

Як самабытны, арыгінальны паэт, публіцыст Алег Ольжыч заявіў пра сябе з пачатку 1930-х гг. публікацыямі ў пражскіх (“Студентський вістник”, “Пробоєм”) і львоўскіх перыядычных выданнях (“Літературно-Науковий Вістник”, “Вістник”, “Обрії”, “Напередодні”).

Канцэптуальнае творчае сталенне паэта Ольжыча, ідэйная “загартоўка” яго вершаў, выспельванне прыярытэтных тэм, вобразнай сістэмы, шліфоўка вершаванай тэхнікі адбываліся ў цыклах “Крэмень” (1931), “Камень” (1932), “Бронза” (1932), “Жалеза” (1932). Ужо толькі іх назвы пацвярджаюць характарыстыку М. Невырлага: “Паэзія кветачак, яснага сонейка, банальнага кахання і іншых атрыбутаў расслабленай лірычнасці была чужой для валявой натуры Ольжыча.




**Вокладка першай кнігі Алега Ольжыча "Рунь".**
1935 г.

Знаёмства з Маланюком, Кленам, Мосендзам, Стэфановічам і іншымі ўкраінскімі выбітнымі паэтамі на Захадзе яшчэ больш выклікала ў яго неахвоту да пачуццёва-сентыментальнай лірыкі, скіроўвала яго да паэзіі духоўнай энергіі, інтэлектуальнай і валявой, здольнай выхаваць цэласную натуру, моцны характар" [10, с. 8].

Эрудыцыя вучонага-археолага, вытанчанасць у агранцы паэтычнага стылю яшчэ больш яскрава, чым у вышэйзгаданых цыклах, выявіліся ў першым зборніку паэта **"Рунь"** (Львоў, 1935). А. Ольжыч прадставіў свайго роду "духоўную анталогію" вобразаў даўняй гісторыі чалавецтва (правеку, Старажытнай Грэцыі і Рыма) з лаканічна вымаляванымі тонкімі лірычнымі зрухамі ў душах, паводзінах воінаў, абаронцаў, дзяўчат-паланянак і інш. Як пісаў сам пра сябе А. Ольжыч у аглядным артыкуле "Сучасная ўкраінская паэзія", праецыруючы сваю творчасць на ўкраінскую нацыянальную сучаснасць, у гэтым зборніку *«прагалошвае паэт – улюбёны ў мужную чысціню "жалезнага веку" – суровым, сціслым вершам прыход новага веку герояў»* [11, с. 182].

Другі свой зборнік **"Вежы"** (Прага, 1940) паэт ахарактарызаваў як адну з *"самых смелых праяў сучаснай украінскай лірыкі"*, у ім ён развітаўся з так званай літаратурнай "манерай". *«Зборнік гэты – ужо не прадчуванне новага, гераічнага веку, а прамое сведчанне яго… інспіруе паэта тут ужо не Старажытны Рым ("Рунь"), а канкрэтная ўкраінская зямля ў канкрэтным часе (Карпацкая Украіна, Гарадок Ягайлонскі). …Сучаснасць тут ці не ўпершыню з такой надасобнай сілай намагаецца ў слове перарасці сваю прастору і час і выліцца ў пафас паэтычнага сімвала»* [11, с. 183]. У якасці ілюстрацыі, падмацавання сваіх слоў паэт прывёў радкі:

*О вітре, всі мури земного*
*впадуть,*
*як серце обернеш у сурму.*
*Найвищі-бо вежі духовости*
*ждуть*
*Твойого шаленого штурму* [11, с. 183].

Апошні зборнік А. Ольжыча **"Падзамча"** (1946), падрыхтаваны яшчэ ў 1940 г., выйшаў пасля смерці паэта, без указання месца выдання. У "Падзамчы" выявіўся сінтэз творчых пошукаў ранейшага часу, засведчана высокая культура мастацкага мыслення аўтара, схільнасць да драматычных калізій, філасофскіх разваг і духоўнай дзейнасці. Паэт застаўся верным сваёй цікавасці да моцных і нескароных постацей, фанатычна адданых рэлігійнай ідэі і справе ("Прарок", "Пакуты св. Кацярыны"). Гэтак жа перакана́ўча, як і ў папярэдніх зборніках, гучыць тэма гераізму, самаахвярнасці, паяднанасці ўласнага лёсу з лёсам усяго народа ("Трыпціх").

Усе тры зборнікі А. Ольжыча пазначаны інтэлектуальнасцю, падкрэсленай гісторыясафічнасцю, дзе мінулае і сучаснае цесным чынам паяднаны, дэманструюць агульныя, надчасавыя праблемы чалавечага існавання. Гісторыя часта паўстае ў фактах свайго жорсткага самасцверджання, фатальнай разарванасці, толькі зрэдку даючы месца ў творчасці паэта багатай танальнасці эстэтызаванага гамеастазу або імпрэсіяністычным накідам. Паэзія А. Ольжыча дэманструе відавочную ашчаднасць выяўленчых сродкаў, лаканізм і дынаміку, драматургію думкі і пачуцця. Вызначальнай рысай паэзіі, публіцыстыкі, а таксама навуковай, грамадскай дзейнасці А. Ольжыча сучаснікі, а ўслед за імі і даследчыкі яго творчасці, часта называюць *апантанасць*. Апантанасць ідэяй, апантанасць Радзімай…

*Працяг будзе.*

**Спіс літаратуры**

1. **Багдановіч, М.** Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1992. – Т. 1 : Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды. – 752 с.

2. **Брюховецька, Л.** Олег Ольжич : Життя, віддане за Україну / Л. Брюховецька // Дзеркало тижня. – 2001. – № 9 (333). – 3 – 8 березня // Рэжым доступу : http://www.dt.ua/3000/3680/30258. – Дата доступу : 17.02.2010.

3. **Відейко, М. Ю.** Наукова спадщина Олега Ольжича / М. Ю. Відейко, С. І. Кот. – Київ, 2008.

4. **Державин, В.** Поетичне мистецтво О. Ольжича / В. Державин // Українське слово : хрестоматія української літератури та літературної критики XX ст. : в 4 кн. – Київ, 1994. – Кн. 2.

5. **Історія української літератури XX століття** : у 2 кн. / за ред. В. Г. Дончика. – Київ, 1998. – Кн. 2.

Алег ОЛЬЖЫЧ

# *“Я ЖЫЎ КАЛІСЬ…”*



### МАЛІТВА

*Ігумен ўстаў. Браты-дамініканы*
*Двума радамі выйшлі з-за сталоў.*
*І сэрца храма працялі арганы.*
*І цемень кінула свой ціхі схоў.*

*Вось брат адзін. Страховішча іконам:*
*Рудыя валасы, мядзведжы стан…*
*Ён быў бы дзесь разбойніцкім баронам,*
*На смерць сваіх бы катаваў сялян.*

*Магутна моц Твая, Ісусе Хрысце,*
*Калі да ног Тваіх такога прывяла!*
*Ён моліцца… І шчыра-прамяніста*
*Штось свеціцца з-пад дзікага чала.*
1931

### АРХЕАЛОГІЯ

Са зборніка “Рунь”, 1935

Л. Мосендзу

*Паважнай моваю шкляных вітрын*
*Гавораць гістарычныя аналы:*
*“Мы жалі хлеб”. “Пабудавалі млын”.*
*“Мы зналі медзь”. “Заўсёды ваявалі”.*

*“Я быў забіты у цяжкім баі,*
*Закрыў мне вочы шэлест сухавею”.*
*І думкі мчаць ў забытыя краі*
*З пpасторнай залы мудрага музею.*

*Мне так выразна бачыцца цяпер*
*Пякучымі бяссоннымі начамі:*
*Я жыў калісь, дзе шапацеў аер…*
*Хаціна. Возера з крутымі берагамі.*

### ГОТЫ

*Пахмурны дзень стаіўся у тумане.*
*Над бродам, спалахнеўшы, іржуць коні.*
*Мой меч звініць, і чую, што уранні*
*Не здрадзяць мне крамяныя далоні.*

*Учора цвёрда так, без павароту*
*Прамовіў: “не”, суворы да астанку…*
*І ночку цэлую пад буру і пад слоту*
*Працалаваў я дзіва-паланянку.*

*Хай анты дыбяцца за рэчкай у тумане,*
*Не здрадзяць мне крамяныя далоні.*
*І толькі вобраз галубіны ўранні*
*Не асяніць мае скрываўленыя скроні.*

Пераклаў з украінскай **Мікола ТРУС.**

6. **Кандиба, О.** Старша мальована кераміка в Галичині : відбитка зі Збірника Українського Наукового Інституту в Америці / О. Кандиба. – Сент Пол. – Прага, 1939.

7. **Красковська, Л.** З давніх часів / Л. Красковська. – Prešov : EXCO s. r. o., 1999. – 84 с.

8. **Неврлий, М.** Празька поетична школа / М. Неврлий // Муза любові й боротьби : Українська поезія празької школи; упорядк., стаття й примітки М. Неврлого. – Київ : Український письменник, 1995. – С. 3 – 19.

9. **Неврлий, М.** Згадую поета-борця Ольжича / М. Неврлий // Минуле й сучасне : збірник слов'янознавчих праць. – Київ : Смолоскип, 2009. – С. 677 – 681.

10. **Неврлий, М.** На ясність дум / М. Неврлий // Україна. – 1989. – № 29 (1693). – С. 8 – 10.

11. **Ольжич, О.** Незнаному Воякові / О. Ольжич; упорядк., післямова і прим. Л. Череватенка. – Київ, 1994. – 432 с.

12. **Ольжич, О.** Цитаделя духа / О. Ольжич. – Пряшів, Братислава, 1991.

13. **Сюндюков, И.** Мужество убежденного поступка [Олег Ольжич] / И. Сюндюков. – Режим доступа : http://vkurse.ua/analytics/muzhestvo-ubezhdennogo-postupka.html. – Дата доступа : 20.02.2010.

14. **Череватенко, Л.** *“Я камінь з Божої праці”* : [післямова] / Л. Череватенко // Незнаному Воякові. – Київ, 1994. – С. 351 – 424.

15. **Kandyba, O.** Die fortlaufende Spirale in der bandkeramischen Ornamentik : Sonderdruck aus “Archiv für Anthropologie”. – N. F. Bd. XXIII, Heft 4.

16. **Kandyba, O.** Kamenné nástroje neolithické malované keramiky v Haliči : Zvláštní otisk z Obzoru Praehistorického. – Ročník IX. – Rok 1930-31.

17. **Kandyba, O.** S-spiral in the decoration of the Dniestro-Danubian neolithic pottery : Reprinted from the American Journal of Archaelogy. – Vol. XL (1936). – No. 2.

18. **Kandyba, O.** Vyloupené latènské hroby v Kobylisích : Zvláštní otisk z Obzoru Praehistorického. – Ročník IX. – Rok 1930-31.

*Віншуем юбіляра!*

# СЛАВУТЫ БУКВАРЫСТ АНАТОЛЬ КЛЫШКА



75

Ужо больш як сорак гадоў першыя школьныя крокі беларускія першакласнікі робяць з "Букваром" **Анатоля Канстанцінавіча Клышкі**. Каля сарака перавыданняў, мільённыя тыражы – такому прызнанню пазайздросціць аўтар любога сусветнага бестселера. 16 красавіка сучаснаму беларускаму асветніку, складальніку галоўнай кнігі школьніка, метадысту, перакладчыку споўнілася 75 гадоў.

– Акрамя асноўнай даты, сваім днём нараджэння лічу таксама 1 верасня, – жартуе Анатоль Канстанцінавіч. – У 1969 годзе гэтага дня я чакаў з асаблівым хваляваннем. Бо з таго часу першакласнікі пачалі вучыцца па маім беларускім "Буквары".

**– Скласці буквар – смелае рашэнне для маладога ў методыцы і навуцы чалавека. На той час Вам было толькі за 30. Хваляваліся за вынік?**

– Хваляванне, безумоўна, прысутнічала. Усё ж такі браўся вучыць грамаце малых дзяцей. Мяне, як бацьку і настаўніка (скончыў я Наваградскае педвучылішча), непакоіла няякаснасць тагачасных буквароў, напісаных штучнай, калькаванай мовай. І тэксты для чытання ў іх былі не зусім удалыя. Таксама падручнік падаваўся занадта строгім, правільным, быццам салдацкі шынель, зашпілены на ўсе гузікі. А мне хацелася, каб на яго старонках знайшлося месца і гумару, і лічылкам, і прымаўкам, і цікавым малюнкам.

Цягам навучання ў Наваградку даводзілася наведваць школу для глуханямых дзяцей. Там я пазнаёміўся з аслеплым на вайне паэтам Гаўрылам Шуценкам, які навучыў мяне чытаць і пісаць шрыфтам Брайля. У далейшым гэты навык спатрэбіўся пры распрацоўцы методыкі навучання грамаце.

Перш чым узяцца за працу, я пераглездзеў каля 200 айчынных і замежных букварoў, грунтоўна пазнаёміўся з амаль 500 метадамі навучання грамаце, якія былі сабраны дарэвалюцыйным метадыстам Паульсанам. Не паверыце, але многія з іх я апрабаваў на практыцы. Глыбока цікавіўся і гісторыяй пісьма. Бо, пагадзіцеся, першакласніку, па сутнасці, за год трэба авалодаць тым, да чаго нашы далёкія продкі ішлі тысячагоддзямі – ад малюнкаў і піктаграфіі да фанетычнага і сучаснага графічнага афармлення літар.

Калі Міністэрства асветы БССР абвясціла конкурс, я працаваў у часопісе "Полымя", галоўным рэдактарам якога быў Максім Танк. Ён часта паўтараў, што народам з дзяржаўнасцю прызнаецца той, які мае свае герб, гімн, сцяг, буквар, энцыклапедыю, каляндар. Мяне гэта надзвычай уразіла і скіравала на працу. Тым больш што "Буквар" маіх дзяцей мне не падабаўся. Таму ў 1968 г. я вырашыў удзельнічаць у конкурсе.

**– І як склаўся лёс Вашага "Буквара"?**

– У 1969 г. убачылі свет першыя экземпляры. Людзі лічаць, што кожны год з'яўляецца новае выданне буквара. Але гэта не зусім так. 42 гады выходзіць толькі беларускі "Буквар". А ёсць яшчэ і рускі, і польскі.

**– Якія абставіны падштурхнулі Вас да распрацоўкі рускага і польскага букварoў?**

– На напісанне рускага скіравалі настаўнікі і бацькі, якія скардзіліся на складанасць тагачаснага падручніка. Для мяне важна было ўлічыць, што "Буквар", хоць і рускамоўны, ствараецца для беларускіх дзяцей. Таму яны павінны пазнаёміц-




**Анатоль Клышка з першакласнікамі адной з мінскіх школ.**
1 верасня 1988 г.

ца не толькі, напрыклад, з Пушкіным і Талстым, але і са Скарынам, Купалам, Коласам, Багдановічам, найбольш вядомымі мясцінамі Беларусі, нашымі народнымі святамі.

А вось польскі “Буквар” я ўвогуле не павінен быў складаць. Але ў свой час супрацоўнік Міністэрства асветы, які мусіў працаваць над ім, адмовіўся. Справу перадалі мне. Да гэтай задачы я паставіўся сур’ёзна і адказна: пазнаёміўся з вялікай колькасцю старых і сучасных польскіх буквароў, метадычнымі парадамі, нават з падшыўкамі дзіцячых часопісаў “Пломка”, “Пломычка”, “Місь”. Аднак у той жа час мне хацелася, каб малы паляк адчуваў сябе ў Беларусі паўнапраўным грамадзянінам нашай краіны, таму і ў гэты падручнік я ўключыў партрэт Францішка Скарыны і тэкст пра яго, тэксты пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Аднак паўтаруся: польскі “Буквар” я не збіраўся распрацоўваць.

**– Буквары сёння і ўчора непадобныя адзін да аднаго. У чым іх прынцыповае адрозненне?**

– Адрозненні галоўным чынам у тэкстах. У дарэвалюцыйных букварах тэкстаў увогуле не было: падавалася слова, потым адзін сказ, другі, не звязаны сэнсава з папярэднім. Помню, як сам чытаў у першым класе: *“У Данілы – барада. На дубе – жалуды”*. А мне хацелася паказаць, як я ўмею хутка чытаць уголас. І тараторыў: *“У Данілы барада на дубе…”* А далей паветра не хапала. Атрымлівалася смешна.

Я лічу, што тэкст – галоўнае ў “Буквары”. Аднак без методыкі навучання чытанню нават самыя добрыя тэксты страчваюць сваю каштоўнасць.

**– Гэтая думка была падтрымана?**

– Відаць, што так. На Выставе дасягненняў народнай гаспадаркі СССР мой “Буквар” атрымаў срэбраны медаль менавіта за тэксты, бо яны ўразілі спецыялістаў. Украінцы нават пазычылі некалькі для свайго “Буквара”. Для мяне гэта было прыемна і пачэсна. Пасля быў і залаты медаль на Лейпцыгскай міжнароднай кніжнай выставе. Аднак галоўнае, што мой “Буквар” добра прынялі ў Міністэрстве асветы БССР. Думаю, гэта таму, што тэкстам я аддаваў найбольшую ўвагу.

**– Якія асноўныя цяжкасці пры складанні “Буквара”?**

– Іх шмат. Асноўная заключаецца ў тым, што нават калі дзіця вывучыла мала літар, у яго павінен быць якасны і зразумелы тэкст для чытання. З цягам часу я распрацаваў новую методыку навучання чытанню, якая прадугледжвае першачарговае вывучэнне не галосных літар, як раней, а зычных. Да новай сістэмы я прыйшоў шляхам эксперыменту са сваімі дзецьмі. Чытаю з сынам: *“ма, му, мы…”*. Быццам усё атрымліваецца, а праз паўгадзіны зноў пачынаем спачатку: бачу, цяжка даецца такое навучанне. Спрабую інакш. І высветліў, што значна прасцей, калі дзіця ведае 10 зычных і хоць адну галосную. Чытайце разам *“ма, ла, на…”*, а потым незаўважна замаўчыце, і дзіця, калі яно добра ведае літары, працягне чытаць склады самастойна. Многія метадысты з такім спосабам не пагаджаюцца. Аднак на практыцы такім чынам я навучыў у тры з паловай гады чытаць сваю праўнучку. Нават дзяржаўная экспертыза пацвердзіла, што тэхніка чытання ў дзяцей, якія вучыліся па маёй методыцы (пачыналі з зычных), на трэць вышэйшая, чым у тых, хто вучыўся па іншай.

**– Нягледзячы на крытыку, Ваша методыка прыжылася і дае плён.**

– І нават больш за тое. Нядаўна ў маскоўскім выдавецтве “ЛабиринтПресс” выйшла кніга Валерыя Марусяка “Учим ребенка читать. Как? Где? Когда?”. А ў раздзеле “Методика обучения грамоте” разглядаюцца методыкі М. Зайцава, А. Клышкі і Г. Домана. У дачыненні да майго



**З беларускімі літаратарамі каля руінаў Наваградскага замка.** 1980-я гг.

“Буквара” напісана наступнае: “Букварь Анатолия Константиновича Клышки в методическом плане удивителен и уникален. Могу утверждать это с полной ответственностью, поскольку ничего подобного я не нашел в более чем трехтысячной коллекции Юриса Цибульса. Есть буквари, которые превосходят букварь Клышки в оформительском отношении, но ни один из них не сравнится с его методической проработкой”. Гэтая ацэнка надзвычай каштоўная для мяне. Нават няёмка стала: на радзіме чуў крытыку, а за мяжой атрымаў прызнанне.

**– Ці былі яшчэ праблемы пры распрацоўцы?**

– У савецкія часы існавала праблема з правядзеннем эксперыменту ў беларускамоўных школах. Быў перыяд, калі такіх школ у Мінску не было, таму мне даводзілася ездзіць за 40 кіламетраў у вясковую школу. Дзякуй настаўніцы, якая дазваляла эксперыментаваць па новай методыцы ў яе класе.

Нядаўна ўзнікла яшчэ адна сур’ёзная праблема. Цяпер “Буквар” не перавыдаецца штогод. Раней кожны першакласнік атрымліваў сваю першую кніжку ў падарунак, а зараз вымушаны перадаваць яе паслядоўнікам. Таму мне давялося пазбавіцца ад некаторых практыкаванняў, якія спрыялі візуальнаму ўспрыманню літары як графічнага знака. Для дзіцяці важна не толькі ведаць назву літары, але і суадносіць яе з пэўнай графічнай выявай. Таму ў свой час і прыдумаў практыкаванне абводзіць пункцірныя літары паводле прынцыпу *“рука вучыць вока глядзець”* – з Зайчыкам-забывайчыкам, які спяшаўся і забыўся дапісаць літару. Вучню неабходна было дапамагчы зайчыку дапісаць адзін ці два элементы. А цяпер, калі “Буквар” перадаюць наступнаму пакаленню першакласнікаў, такія практыкаванні, дзе трэба пісаць, давялося прыбраць і перанесці ў “Пропісь”. Але лепш, калі пісаць можна і ў “Пропісі”, і ў “Буквары”. Такая сітуацыя мне не падабаецца, бо лічыцца, што чалавек павінен захоўваць сваю першую кнігу, кнігу, па якой вучыўся чытаць.

**– Чым Вы займаліся да напісання буквара?**

– Пасля заканчэння школы я ледзь не стаў архітэктарам – паступіў у Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум. Аднак праз паўтара месяцы кінуў вучобу: стыпендыя малая, бацькі далёка, жыць цяжка. На цягніку прыехаў на сваю станцыю Моўчадзь, а дадому вяртацца сорамна, у школу ісці – таксама. Таму вырашыў накіравацца ў Наваградскае педвучылішча і адразу ісці да дырэктара. На дварэ толькі кастрычнік, а я ўжо ў бурках, бо больш нічога няма абуць. Ці то дырэктару спадабалася мая настойлівасць, ці то сваю справу зрабілі выдатныя адзнакі па ўсіх прадметах, але, нягледзячы на тое, што заняткі ішлі поўным ходам, я быў прыняты ў вучылішча. Якія там былі цікавыя і дасведчаныя настаўнікі! Рускую літаратуру чытаў Васіль Фёдаравіч Сакалоўскі, які да вайны вучыў у Белпедтэхнікуме Паўлюка Труса, Максіма Лужаніна і іншых беларускіх літаратараў. Беларускую літаратуру выкладаў Мікалай Мікалаевіч Жук. На яго заняткі я ішоў з асаблівым жаданнем і радасцю.

Аднак педагогам я не стаў. Калі вучыўся на апошнім курсе, мяне запрасілі працаваць у раённую газету, у якой я і раней друкаваўся. Пазней вырашыў паступаць на факультэт журналістыкі БДУ, аднак у прыёмнай камісіі пераканалі, што на філфаку я атрымаю больш грунтоўныя веды па мове і літаратуры, а працу ў газеце я і без таго добра ведаю.

А вось гады працы ў часопісе “Полымя” лічу найлепшымі. Галоўны рэдактар – Максім Танк, сярод калег – Рыгор Шкраба, Янка Брыль, Ян Скрыган… Працавалася лёгка, жорсткага графіка не было, бо шмат рабілі дома, у бібліятэках. Такая спецыфіка творчай дзейнасці. Аднак хоць дэмакратыя ў рэдакцыі існавала, але работу трэба было выканаць своечасова.

А якія сустрэчы, размовы адбываліся ледзь не штодзень! Пачыналі мы з таго, што кожны дзяліўся ўражаннямі ад прачытанага. Дарэчы, без Максіма Танка мы не мелі смеласці паставіць у нумар ніводны матэрыял. А калі яму штосьці не клалася да душы ў працы рэдактараў ці аўтараў, то ён адразу пераходзіў на рускую мову і казаў: “Приветствую в другом журнале!”

**– Што ў Вашых найбліжэйшых творчых планах?**

– Цяпер я заканчваю працу над перакладам Новага Запавету са старагрэчаскай мовы. Святое Пісанне на беларускай мове існуе, але ніхто не перакладаў з арыгінала. У час працы я выкарыстоўваю пераклады і на іншыя мовы: англійскую, нямецкую. Дарэчы, пераклад Новага Запавету на нямецкую мову лічу адным з найлепшых у свеце, бо немцы – народ педантычны, а таму да працы паставіліся скрупулёзна.

Пераклад Бібліі – справа складаная. Гэта з мастацкім творам можна "пагуляць", а пры працы са Святым Пісаннем неабходна дакладнасць. Таму, лічу, такія творы трэба перакладаць толькі з арыгінала. Праца амаль завершана, мяркую, у хуткім часе мой пераклад убачыць свет. Пасля вазьмуся за "Адысею" і "Іліяду" Гамера. Частка "Адысеі" перакладзена, урыўкі публікаваліся.

Нядаўна скончыў працу над кнігай загадак "1000 арэшкаў", якую таксама планую выдаць сёлета. Чаму вырашыў звярнуцца менавіта да гэтага жанру? Сучасныя загадкі мяне раздражняюць, бо іх складаюць так, каб хаця адгадалі. На такія загадкі я нават склаў пародыю: *"Што мы на галаву надзяём, калі зімою на двор ідзём?"* Кожны дурань адкажа, што гэта шапка. Ці ж гэта загадка? Народная загадка заклікае думаць, разважаць, кеміць, абуджае фантазію. Калісьці трапна сказаў Альберт Эйнштэйн: "Уяўленне нашмат важнейшае за веды". Калі дзіця не знаходзіць адгадку, можна і падказаць, але потым суаднесці адгадку з загадкай, каб яно сапраўды разумела, чаму такі адказ. Вось прыклад маёй загадкі на слова *шапка*: *"Што за дзіўны посуд носіш, браце, ты? Дагары дном поўны, дном уніз пусты"*.

Гадоў 20 таму ў "Маладосці" я даваў урокі "Гаворым па-беларуску". Хочацца сабраць іх і выдаць пад адной вокладкай.

Карацей, задумак і планаў хапае. Аднак адна справа планаваць, зусім іншая – рэалізоўваць.

У творчасці дапамагае дача. Можна спакойна працаваць, ніхто не перашкаджае. Пройдзешся па лесе, збярэш думкі разам – і за справу. Ды і для здароўя свежае паветра карыснае.

Гутарыў
**Аляксандр КАНАНОВІЧ.**

*Лабараторыя паэта*

Анатоль КЛЫШКА

# *"ЗДАРОЎ, МАРОЗНЫ, ЗВОНКІ ВЕЧАР!"*

## ПАЭТЫКА ВЕРША МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Яшчэ ніхто да Максіма Багдановіча не вітаўся так у беларускай паэзіі з зімовым вечарам:

*Здароў, марозны, звонкі вечар!*
*Здароў, скрыпучы, мяккі снег!*

Як толькі вымавіліся гэтыя першыя радкі, увесь знакаміты верш "Зімой" вымкнуў з грудзей, увесь да астатку:

*Мяцель не вее, сціхнуў вецер,*
*І волен лёгкіх санак бег.*

*Як мары, белыя бярозы*
*Пад сінявой начной стаяць.*
*У небе зоркі ад марозу*
*Пахаладзеўшыя дрыжаць.*

*Вільготны месяц стуль на поле*
*Празрысты, светлы стоўп спусціў*
*І рызай срэбнаю раздолле*
*Снягоў сінеючых пакрыў.*

*Ўзрывайце ж іх санямі, коні!*
*Звіні, вясёлых бомаў медзь!*
*Вакол лятуць бары і гоні,*
*Ў грудзях пачала кроў кіпець.*

І зноў звяртаемся да пачатку верша. Якой моцы гэты вітальны зварот, пасланы ў прасцяг: *Зда**РО**ў, ма**РО**зны, зв**О**нкі веча**Р**!* У апошніх словах радка, здаецца, аж раздваілася рэха.

Чытач адразу заўважае яркі россып прыметнікаў, адметных на зрок, на слых, на дотык: "***марозны***, ***звонкі*** *вечар*", "***скрыпучы***, ***мяккі*** *снег*". Нават у радку, дзе няма прыметнікаў, ёсць прытоеныя азначэнні – 'безмяцелічны' ("*мяцель не вее*"), 'бязветраны' ("*сціхнуў вецер*"). Заўважце, якая музыка! Націскныя склады са слоў "*мя**це**ль не **ве**е*" як бы азірнуліся, глянулі ў люстра слова ***ве***-***це***-*р* – тыя ж склады, толькі ў адваротным кірунку. А далей зноў прыметнікі – "*і **волен лёгкіх** санак бег*".

Але невыпадкова ў трэцім радку ўжыты ўжо дынамічныя дзеясловы, бо сама прырода ("*мяцель не вее, сціхнуў вецер*") ладзіць, рыхтуе нам неўзабаве, праз радок, сустрэчу з красою – раскошаю зімовага вечара, крыху казачнага праз параўнанне бяроз з прывідамі, зданямі: "*Як ма**ры**, белыя бя**ро**зы / Пад сіняв**О**й начн**О**й стаяць*".

Мы бачым каляровы малюнак – белыя бярозы ў сіняве ночы – і чуем музыку з радка (*ма**ры** – бя**ро**зы*), а яшчэ нібы ўдары бубна: ***бе**лыя **бя**розы*. Калі дазволіць сабе ўмяшацца ў радок, змяніць толькі *мары* на *здані* (“як здані, белыя бярозы…”), гучанне адразу знікне.

І вось у самы верх, у неба сягае наш позірк – *“У небе з**О**ркі ад мар**О**зу / Пахаладзеўшыя дрыжаць”*. Зноў ***о*** звязала найбольш важныя словы, абдаўшы нас марознаю свежасцю. І цяпер ужо з вышыні неба ападае долу гэтая празрыстая светласць на снежную роўнядзь!

Трэцяя страфа сыпанула ў кожным радку прыметнікамі ці азначэннямі, гуляючы асанансамі і алітэрацыямі:

*Вільг**О**тны ме**с**яц **с**туль на п**О**ле*
*Празры**сты**, **св**етлы **стО**ўп **спусц**іў*
*І рызай срэбнаю разд**О**лле*
***Сн**яг**О**ў **сін**еючых пакрыў.*

Словы ў радках і праз радкі абдымаюцца сваімі гукапаўторамі, працягваючы толькі гэтаму вершу ўласцівую мелодыю. Не трэба думаць, што паэт свядома падбірае гэтыя спалучэнні. Сам маўленчы апарат творцы ў парыве пачуцця адбірае патрэбныя гучанні. Душа паэта іграе на вуснах, як на музычным інструменце, нараджаючы патрэбныя гукі і перагукі.

Сіняе *неба* другой страфы з сінечай *снягоў* на доле ўтварылі адзіны суцэльны малюнак адкрытага вачам вобраза зімовага вечара.

Раптам гэтая апісальная інтанацыя змяняецца выбухам неўтаймоўнага ўзрушэння ў пачатку заключнай страфы. Чацвёртая страфа як бы падхоплівае першую з яе зваротам (*“Здароў, марозны, звонкі вечар!”*). Тут зноў зварот: *“Ўзрывайце ж іх санямі, коні! / Звіні, вясёлых бомаў медзь!”* Толькі ён перадае ўжо не апісанне навакольнай прыроды, а вялікае душэўнае ўзрушэнне ёю: *“Вак**О**л лятуць ба**р**ы і г**О**ні, / Ў **гр**удзях пачала **крО**ў кіпець”*. Якая гармонія пачатку і завяршэння твора! Які выдатны, геніяльны верш!

Адметнасць гэтага твора і ў рыфмоўцы. Звычайна ў чатырохрадкоўях паэты дбаюць пра рыфмоўку другога і чацвёртага радкоў як апорных, а першы і трэці радкі часам нават пакідаюць без рыфмы. Тут жа якраз наадварот. Рыфмы жывуць у першых і трэціх радках (*вечар – вецер, бярозы – марозы, поле – раздолле, коні – гоні*), а ў другіх і чацвёртых (*снег – бег, медзь – кіпець, стаяць – дрыжаць, спусціў – пакрыў*) нават для дзеяслоўнай рыфмы – забедна: гукава не супадаюць канчаткі. Затое якая повязь слоў унутры радка, якая там рытмічная мускулатура з гучаннем ледзь не ў кожным радку працяжна спеўнага ***о***.

З дня першай нашаніўскай публікацыі – 6 студзеня 1911 г. (а значыць, верш быў напісаны ў 1910 г., з чаго вынікае, што ён сёлетні 100-гадовы юбіляр!) – гэты твор стаў вершам-скарбам, багаццем беларускай нацыі.

Два-тры, нават як бы і ненаўмысныя, прачытанні – і верш на ўсё жыццё з табою. Ён западае ў памяць, бо словы тут лучацца перагукамі, рыфмамі вяжуцца ў строфы. Вось што робіць майстэрства, якога звонку амаль не відаць!

Каб ты, выходзячы з дому, ім, гэтым вершам, вітаўся з беларускім зімовым вечарам, шчыра прамаўляючы Багдановічавы словы: *“Здароў, марозны, звонкі вечар!”*

На гэтым, можа, і трэба было б закончыць наша чытацкае захапленне, узрушэнне красою верша, але, здаецца, нельга абысці і іншае, на чым заўсёды спатыкаецца сучасны чытач, маючы перад сабою Багдановічавы творы. І ў гэтым вершы – таксама. *Мяцель* (замест *мяцеліца*), *стоўп*, *пахаладзеўшыя* (калі так лёгка, здавалася б, было паправіць на *пахаладзелыя*) або *“снягоў сінеючых”*. Чатыры страфы – чатыры русізмы. Толькі ў чацвёртай страфе іх няма, затое ў першай – ажно два. Але ў чацвёртай страфе *пачáла* гучыць таксама не па-беларуску.

Цудоўны верш, але… Але згадваецца і іншае. Максім Багдановіч, будучы ў Вільні, прызнаваўся, што ён зайздросціць кожнаму пастушку, які ўзрастае на родных гонях. І ў Ніжнім Ноўгарадзе ён бег, прагнучы Беларушчыны, да родных цётак, што жылі там, каб пачуць родную мову, якой гаварыла колісь мама… Бо ад’езд з Гародні і незадоўга перад гэтым смерць маці, яго сіроцтва назаўсёды павязаліся з успамінамі пра Радзіму, пра маці. Яны зрабіліся для яго неаддзельнымі. І іх праз усё жыццё яму неставала.

Толькі “Слоўнік беларускай гаворкі” Івана Насовіча, запісы фальклору ды нячастая “Наша Ніва”… Ніякіх іншых слоўнікаў, каб параіцца, пад рукою не было, яшчэ не напісаная граматыка беларускай мовы, а літаратурныя нормы толькі выпрацоўваюцца, усталёўваюцца.

Хто ведае: каб здароўе, а не сухоты ды сыры Пецярбург (тагачасная студэнцкая культурная беларуская сталіца), можа, Максім Багдановіч адгукнуўся б на запрашэнне выдатнага рускага мовазнаўца акадэміка Шахматава. І першую друкаваную беларускую граматыку мы мелі б з рук Максіма Багдановіча… І спраўдзілася б яшчэ адна задума шчырага руплўца: стварыць для дзетак каляровы беларускі буквар.

Ды засталіся творы і сярод іх – гэты верш-юбіляр. І мы любім цябе такім, які ты ёсць, верш “Зімой”! Табе жыць і жыць!

Віктар ЖЫБУЛЬ

# АЛЕСЬ ПРУДНІКАЎ І ЯГО АРХІЎ



100

У беларускай літаратуры пісьменнікаў з прозвішчам Пруднікаў было двое: Аляксандр Трафімавіч (Алесь) і Павел Іванавіч. Нарадзіліся яны з розніцай адзін год у вёсцы Стары Дзедзін Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні і даводзіліся адзін аднаму стрыечнымі братамі. Паўлу Пруднікаву, нягледзячы на ўсе цяжкія жыццёвыя выпрабаванні, пашчасціла дажыць ажно да 2000 г., а вось шлях Алеся Пруднікава абарваўся заўчасна, таму імя яго менш вядомае сённяшняму чытачу.

Алесь Пруднікаў нарадзіўся 1 (14) красавіка 1910 г. У трохгадовым узросце страціў бацьку, які загінуў на Першай сусветнай вайне. Таму будучага паэта разам са старэйшым братам Сымонам і сястрой Марыяй гадаваў айчым. У 1925 г. Алесь закончыў пачатковую школу, у 1929-м – Мілаславіцкую сямігодку, пасля чаго год правучыўся ў Магілёўскім педтэхнікуме. Яшчэ школьнікам А. Пруднікаў захапіўся складаннем вершаў, яго пачынанні падтрымліваў і заахвочваў паэт Янка Бобрык, які выкладаў у сямігодцы мову і літаратуру. На першую публікацыю А. Пруднікаў адважыўся ў час студэнцтва ў педтэхнікуме: 24 красавіка 1930 г. у газеце “Чырвоная змена” выйшаў яго верш “Асінбуд” – пра адну з найбуйнейшых тагачасных будоўляў краіны.

Прага новых уражанняў падштурхнула хлопца кінуць навучанне. Нейкі час ён працаваў на будаўніцтве чыгункі Асіповічы – Магілёў – Рослаў, а потым, у кастрычніку 1930 г., перабраўся ў сталіцу, дзе паспрабаваў шэраг прафесій: працаваў align рознарабочым на мінскіх новабудоўлях, рэспубліканскай кніжнай базе, потым – стыльрэдактарам у Белдзяржвыдавецтве, рэпарцёрам у БелТА. Але асноўнай справай свайго жыцця лічыў усё-такі паэзію, друкаваўся ў многіх беларускіх выданнях, часта выступаў па радыё, а таксама ў заводскіх клубах, хатах-чытальнях, навучальных установах. У 1932 г. паэт паступіў на творчае аддзяленне літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута. Яго планы паламала сталінская рэпрэсіўная машына: 16 сакавіка 1933 г. Алесь Пруднікаў быў арыштаваны па сфабрыкаванай справе. У параўнанні з іншымі ахвярамі рэпрэсій яму пашанцавала: у жніўні таго самага года ён быў вызвалены і адразу прызваны на службу ў Чырвоную Армію. Як сведчыў П. Пруднікаў, яго стрыечны брат працягваў у гэты час пісаць і друкавацца, але “пераважна ўжо ў армейскіх выданнях” [1, с. 152]. Сапраўды, у выданнях рэспубліканскіх пры жыцці А. Пруднікава яго творы болей не з’яўляліся. Відаць, прычына ў тым, што рэдакцыі насцярожана ставіліся да паэта, які правёў некалькі месяцаў у турме.

Дэмабілізаваўшыся праз два гады, паэт не страчваў надзеі набыць добрую філалагічную адукацыю. Папрацаваўшы год у клімавіцкай раённай газеце “Камуна”, ён пераехаў у Ленінград, дзе паступіў на літаратурны факультэт Ленінградскага настаўніцкага інстытута. Пасля яго заканчэння Алесь Пруднікаў быў накіраваны ў вёску Спаская Губа Пятроўскага раёна Карэльскай АССР. Там працаваў настаўнікам і завучам школы, а таксама інспектарам раённага аддзела народнай асветы. Адначасова імкнуўся ўдасканаліць адукацыю: завочна вучыўся на філалагічным факультэце Карэльскага універсітэта. Працягваў пісаць вершы, паэмы, апавяданні, нарысы, збіраў фальклорны матэрыял.

Тут, у Карэліі, яго і застала Другая сусветная вайна. Алесь Пруднікаў апынуўся ў шэрагах народнага апалчэння, потым быў у Пятроўскім знішчальным батальёне, дзе выконваў абавязкі начальніка разведкі. На вайне 5 жніўня 1941 г. і абарвалася яго жыццё. Доўгі час лічылася (і нават дагэтуль пішацца ў некаторых выданнях), што паэт быў схоплены і павешаны гітлераўцамі, аднак Павел Пруднікаў, сустрэўшыся з Еўдакіяй Страмілавай, спачатку Алесевай калегай па школе, а потым аднапалчанкай, даведаўся пра сапраўдныя абставіны яго смерці [2, с. 163 – 164]. Высветлілася, што загінуў Алесь Пруднікаў у перастрэлцы з ворагам у час выканання баявога задання каля



**Алесь Пруднікаў. “Веянь зялёных вішань…”. Аўтограф верша.** Пачатак 1930-х гг.

вёскі Вохтвозера Пятроўскага раёна Карэльскай АССР. Там і быў пахаваны, пакуль яго астанкі не перанеслі ў брацкую магілу ў Спаскай Губе.

Творчая спадчына Алеся Пруднікава раскідана па перыядычных выданнях 1930 – 1933 гг. Большасць паэтавых вершаў, якія ў той час даходзілі да друку, маюць ідэалагічна абумоўленую тэматычную скіраванасць. Гэта творы, прысвечаныя ўслаўленню чалавека працы і поспехам сацыялістычнага будаўніцтва, пра што сведчаць ужо самі іх назвы: “Вуглякоп”, “Трактару дайце дарогу”, “Я падношу цэглу…”, “Сэлікатны”, “У бой за торф”, “Дрывасекі”, “Калгасная вясна”, “Ідзе ўдарная ўборка”, “Качагар Драбушынскі”, “На штурм другой пяцігодкі”…

І мог бы Алесь Пруднікаў так і застацца ў гісторыі беларускай літаратуры пераважна аўтарам “вытворчай” паэзіі, калі б не збярогся невялікі рукапісны архіў паэта, захаваны Верай Цярэнцьеўнай Сталяровай, удавой яго роднага брата Сымона, і ў 1991 г. не быў бы перададзены Паўлам Пруднікавым у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (ф. 55, адз. зах. 188 – 208). Дакументы ахопліваюць як друкаваныя, так і не друкаваныя пры жыцці вершы, паэмы, інсцэнізацыі А. Пруднікава, напісаныя ў 1926 – 1933 гг., то бок ад часу навучання ў Мілаславіцкай сямігодцы да арышту. Паколькі аўтар пад многімі творамі пазначаў дату, а дзе-нідзе і месца напісання, няцяжка прасачыць творчую эвалюцыю паэта за згаданы прамежак часу. А галоўнае – знаёмячыся з архіўнымі матэрыяламі, мы адкрываем для сябе Алеся Пруднікава ва ўсёй шырыні яго творчага дыяпазону, не абмежаванага ідэалагічнымі рамкамі.

Самыя раннія вершы з захаваных у фондзе Алесь Пруднікаў напісаў, будучы вучнем 5-га класа сямігодкі. У гэтых тэкстах, складзеных яшчэ даволі каструбавата, з заўважнай колькасцю памылак, выказана юнацкае захапленне сонцам і вясной як жыццесваральнай, усёабуджальнай сілай.

Пазней А. Пруднікаў пачаў асвойваць і буйныя эпічныя формы. Захаваўся рукапіс паэмы, напісанай ім у 1928 г. Некалькі першых старонак твора адсутнічаюць – таму невядомая і яго назва. У паэме распавядаецца пра трагічны лёс беларускіх сялян, якія ў пошуках лепшай долі выправіліся ў Сібір. Цікава, што аўтар уводзіць у твор і самога сябе: цытуючы тужліва-настальгічны ліст герояў з ужо абрыдлай чужыны ў родную вёску, ён у канцы падпісвае: *“Няпісьменным* сялянам / Па прозьбе пісаў А. Пруднікаў”* [3].

Што ж перанёс паэт са сваёй ранняй вучнёўскай творчасці ў пазнейшую? Найперш прыродную тэматыку, якая дамінавала ў вершах да пачатку яго выступленняў у друку і нікуды не знікала нават пры яго актыўным звароце да “вытворчай” паэзіі, пераўвасабляючыся ў шматлікія лірычныя адступленні і мастацкія дэталі. Прырода ў А. Пруднікава напоўнена эмоцыямі, пейзажныя малюнкі люструюць унутраны стан, а часам і жыццёвую філасофію лірычнага героя:

*Я вось прагну сёньня ў залаты авёс,*
*Дзе дзяцінства цяжкае за нішто правёў,*
*Дзе ў квяцістых травах марнаваў часы*
*І такім забытым, і такім басым.*
*Выйду я наўлоньня і пайду я скрозь*
*Пад хістаньне мілае шоўкавых бяроз,*
*Апрануся лісьцямі радасных завей*
*І там застануся дагараць увесь!*

“Я спазнаў, што шчасьце вецер ня прыносіць…”.
1929 [4].

Шэраг вершаў Алеся Пруднікава прысвечаны сялянскай працы, зноў жа – на ўлонні прыроды. Так, у цыкле эскізаў **“Касавіца”** паэт шмат увагі аддае рамантычна-ўзнёсламу апісанню краявідаў, якія разгортваюцца вакол лірычнага героя – маладога вясковага касца.

Менавіта пры апісанні прыроды А. Пруднікаў выкарыстоўвае найбольш яркія разгорнутыя метафары, уласцівыя паэтыцы імажынізму: *“Вечар люляе прасторы / Шоўкамігценьнем зары”*, *“Я прыеду, як сьняжынак сода / Саваны расьцеліць на палёх…”*, *“Сягоньня зорны сеў / Фарбуе бронзай даль…”*, *“За ракой зара купаецца, / расчасаўшы косы граблямі”*, *“Сонца смактала смалу, / Мэлірава-*

* Тут і далей цытаты падаюцца з захаваннем правапісу арыгінала.

*ла канавы"* і інш. Часам паэтычная вобразнасць заснавана на спалучэнні неспалучальнага: *"бомы радасных элегій"*, *"У тумане вечнасьці загіну"*, *"[вочы] крышталёвым ільсьняцца жалезам"*.

Вобразы месяца (маладзіка), зорак, сонца метафарызуюцца ў вершах А. Пруднікава даволі часта, а ў вершы **"Зацьменне"** рэалізацыя метафары набыла такое развіццё, што з дапамогай ланцужка паэтычных асацыяцый твор перарос у *"легенду"* – так азначыў жанр сам аўтар. Імкненне А. Пруднікава да метафарызацыі заўважаецца і ў яго ліра-эпічнай паэме **"Зямныя зоры"**. Гэты твор пра электрыфікацыю калгаснай вёскі, нягледзячы на ўведзены ў сюжэт класавы канфлікт, утрымлівае лірычныя ўстаўкі, якія, калі меркаваць па рукапісах, спачатку былі самастойнымі вершамі.

Прыроду, увесь сусвет і чалавечае жыццё паэт успрымае як вялікую таямніцу, якая наўрад ці калі будзе разгаданая. І лірычнаму герою-рамантыку прыемна знаходзіцца менавіта ў стане невядомасці, нявызначанасці, у прадчуванні новых жыццёвых уражанняў. Таму адзін з ключавых матываў паэзіі А. Пруднікава – гэта матыў "шляху ў невядомае", які набывае самыя розныя рэалізацыі і паэтычныя фармулёўкі: *"Пуціны мае вы, пуціны, / Куды вас сталецьці вядуць?"*, *"Валацугам зьнікнуць у бязьмежнасьць"*, *"Вечна мкнуся – дарога вялікая"*, *"Ісьці бясконца хочацца у даль…"*, *"Вядзі ж мяне, шлях, / у зазыўна-далёкае"*, *"Толькі я, калі зорка пагасла, / Заблудзіўся туды, падарожнік"*, *"…Вось так жа і я па гасьцінцы пайду / З надзеяй на будучынь дальнюю, / Пакуль на парог забыцьця прывядуць / Ногі майго разьвітаньня"*. Квінтэсенцыяй "дарожных" матываў стаў цыкл вершаў **"Круг дарог"** (Заклік, 1933, № 2, с. 49 – 54), які можна ўспрымаць і як паэму пра падарожжа лірычнага героя – то цягніком, то пешкі – з апісаннем яго ўспамінаў, роздумаў, уражанняў. У вершы **"Назад"** згаданага цыкла лірычны герой з юнацкім запалам заяўляе пра намер здзейсніць кругасветнае падарожжа, якое, аднак, прадугледжвае вяртанне дадому, да маці: *"Дарогі ў вузел зьвяжу / і з пройдзеных тысяч прагалаў, / як поясам, я абвяжу / па экватары земную галу"* [5, с. 64].

Дарога, прыдарожныя слупы, вакзалы, чыгунка, пероны, станцыі – частыя рэаліі ў творах А. Пруднікава, а паэтаў лірычны герой – валацуга, гэткі вечны вандроўнік, *"хадок у далёка"*. Сіла, якая кіруе ім, часам падаецца ірацыянальнай, але адчуваецца і натуральная прага юнака "пабачыць свет". Вандраванні – крыніца натхнення для паэта, а ў творчасці ён бачыць сваё найвышэйшае прызначэнне. І яго не палохае тое, што становішча вечнага блукання не толькі ўзвышае асобу, але і робіць яе адзінокай, адчужанай, незразуметай.

Гэты настрой адчужанасці пераходзіць у А. Пруднікава і ў вершы пра каханне. У цэнтры яго інтымнай лірыкі – рамантызаваны вобраз каханай, якой паэт даў старажытнарымскае імя Семпронія. Яна існуе для яго не ў рэальным часе, а пасля развітання (яшчэ адзін даволі часты для аўтара матыў), у згадках і летуценнях: *"Я пайду, дзе аўсы зіхацяцца, / Толькі адзін – не з табою"*.

Лірычны герой Алеся Пруднікава – фаталіст, які, здавалася б, прымае як належнае ўсё, што сустракае на сваім шляху. Чалавечае жыццё, на яго думку, *"роўна на хвалях у чоўне / Некуды ў далеч плыве"*. У гэтым кантэксце арганічна ўспрымаюцца і некаторыя вершы на "вытворчую" тэматыку, якія з'яўляюцца не водавочным сацыяльным заказам, а адлюстраваннем непасрэдных уражанняў ад таго, праз што прайшоў або сам аўтар, або хтосьці з яго блізкіх і знаёмых. Гэта своеасаблівыя прыпынкі, "новыя станцыі" на яго шляху вечных блуканняў. Аўтабіяграфічны характар мае, напрыклад, верш **"Я – падносчык**



***Віктар Вячаслававіч Жыбуль*** *– даследчык літаратуры. Кандыдат філалагічных навук (2003). Закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (2000), аспірантуру пры ім (2003). Працаваў у рэдакцыях часопісаў "Першацвет", "Роднае слова", "Arche". Цяпер – вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.*



**Алесь Пруднікаў з піянерважатай Спаскагубскай сярэдняй школы Еўдакіяй Страмілавай.** 1940 г.

**цэглы”** (у іншым варыянце – “Вырас цень…”, 1930), у якім паэт шчыра прызнаецца:

*Я знаю – кожны баявы вучастак*
*Адмеран, выстаўлены плянаваю вехай, –*
*Таму й працую я,*
*Знаходжу ў працы шчасьце,*
*Сталёвых будняў творчую уцеху!* [6].

Праца напаўняла аўтара, чалавека эмацыйнага і ўражлівага, не менш моцнымі пачуццямі, чым падарожжы, ён бачыў у ёй своеасаблівую рамантыку эпохі. А гэта было акурат тое, што ахвотней за ўсё друкавалі залежныя ад савецкіх ідэалагічных установак рэдакцыі. Вось і пісаў паэт не толькі пра перажытае, але і пра пачутае з рупараў усеагульнай прапаганды. Таму рабочая, індустрыяльная, “вытворчая”, “ударніцкая” паэзія А. Пруднікава была навідавоку, а інтымная, філасофская і, збольшага, пейзажная лірыка заставалася ў цені. Так, паэт актыўна друкаваўся ў перыядычных выданнях, а паэма “Зямныя зоры” перажыла дзве публікацыі (у часопісе “Полымя” ў 1931 г. і асобным выданнем у 1932 г.) і атрымала станоўчыя крытычныя водгукі. Здавалася б, гэта былі першыя поспехі на творчым шляху Алеся Пруднікава. Аднак мала хто ведаў, што ж тады рабілася насамрэч у душы паэта. Некаторыя творы, напісаныя ім не для друку, па сваім настроі кантрастуюць з тымі, што публікаваліся ў газетах і часопісах, і нават аспрэчваюць іх. Верш **“Вароты адчынены”** (1932) адлюстроўвае катастрафічнае светаадчуванне, выяўленае праз згушчэнне падкрэслена змрочных фарбаў: *“над зямлёю ноч”, “я ня ведаю, ці бывае май”, “зацягнула сузор’і муць – невядомая сатана”*. Аўтар не прымае свету, якім завалодалі фальш, здрадлівасць, хцівасць, драпежная прага нажывы. У гратэскна-экспрэсіўнай манеры, з выкарыстаннем антыэстэтычных гіпербал аўтар малюе карціну поўнай маральнай дэградацыі грамадства: *“Чалавек – не для чалавека, / За сябе ён стаіць сьцяной. / Ён таму падбірае калеку, / Каб яго абглыдаць сьцягно”* [7].

Пад варотамі ж, згаданымі ў назве, разумеецца адчыненая брама ў іншасвет, куды лірычны герой хоча ўцячы ад *“жыцьцёвых блытанін”*, сярод якіх ён вымушаны *“маліцца пустому вобразу”*. Адзінае, што не перастала вабіць яго ў гэтым свеце, – улонне прыроды, дзе *“паляны ўсё так жа пахнуць / Мёдам ягад лясных, жывых”, “пеніцца шчэць травы”, “зоры гараць”, “сонца свеціць”*. Але гэты твор выглядае сродкам псіхалагічнай разгрузкі: лірычны двайнік паэта знаходзіць сілы, каб *“мучыцца, плакаць і гусьць / І зубамі скрыпець па-воўчы”*, але не *“ад’яжджаць назаўсёды”*.

Верш **“Проста седзячы вось тут у пакоі…”** напоўнены пачуццём канчатковага адчаю і безвыходнасці. Аўтар называе адну з прычын свайго прыгнечанага стану: ён вымушаны пісаць *“паэму – нейкую хлусьню”*. Безумоўна, малады творца, які аснову паэзіі найперш бачыў у шчырасці, не мог мірыцца з самой магчымасцю хлусіць. Па размашыстым, неахайным почырку відаць, што верш занатоўваўся ў стане вялікага душэўнага хвалявання. Заканчваецца ён радкамі:

*Я хацеў бы зараз ўпасьці ніцам,*
*Паваліцца ў мерзлы сьнег на ўсё.*
*Будуць вечна лепшыя суніцы*
*Засыхаць, як вось і я засох.*
*Пракляну усіх, хто надрываўся сілай*
*Для таго, каб выпусьціць на сьвет мяне,*
*Калі жывым я хочу лезьць ў магілу*
*Вось які зараз ёсьць увесь…* [8].

Твор мае граматычныя і фармальныя хібы: аўтар быў так узрушаны, што пра гэты бок, магчыма, нават не думаў. Гэта, відавочна, адзін з вершаў, напісаных “для сябе”, – тых, што вылучаюцца інтымна-спавядальнай інтанацыяй і на якіх паэт быццам “адводзіў дух” паміж напісаннем твораў пра поспехі ўдарных пяцігодак.

Алесь Пруднікаў меў адметны паэтычны голас, але яго быццам абыходзілі ўвагай. Нават пасля пасмяротнай рэабілітацыі аўтара яго вершы рэдка з’яўляліся ў друку (калектыўны зборнік “Крывёю сэрца”, газеты “Літаратура і мастацтва”, “Чырвоная змена”), прычым – на працягу многіх гадоў адны і тыя: “Ноч глухая…”, “Звіняць абшары”, “Магілёў”, “Абрабаваны Стронг”. Напэўна, А. Пруднікаў успрымаўся як адзін з паэтычных агітатараў 1930-х, хай сабе і з праблескамі лірычнага таленту. Аднак мы бачым, што ён заслугоўвае значна большай увагі. І калі вершы пра Асінбуд і меліярацыю сучаснага аматара паэзіі, можа, і не зацікавяць, то ёсць і іншы Алесь Пруднікаў – аўтар “Семпроніі” і “Адчыненых варот”. Першыя крокі ў вяртанні яго недрукаванай спадчыны зрабіў Алесь Бельскі, апублікаваўшы ў газеце “Літаратура і мастацтва” (2001, 3 жн.) і анталогіі “Скрыжалі памяці” (Т. 3. Мінск, 2005) некалькі вершаў, арыгіналы якіх захоўваюцца ў 55-м фондзе БДАМЛМ. Далучымся ж і мы да незвычайнага паэтычнага свету Алеся Пруднікава.

**Спіс літаратуры**

1. **Пруднікаў, П.** Далёкае, але не забытае / П. Пруднікаў. – Мінск : Маст. літ., 1988.
2. **Прудников, П.** Как погиб поэт / П. Прудников // Неман. – 1988. – № 1.
3. **БДАМЛМ.** – Ф. 55. – Адз. зах. 188. – Арк. 5 адв.
4. **БДАМЛМ.** – Ф. 55. – Адз. зах. 191. – Арк. 1.
5. **Пруднікаў, А.** Паэзія / А. Пруднікаў // Скрыжалі памяці : з творчай спадчыны пісьменнікаў, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны: у 3 кн. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 2005. – Кн. 3 / уклад., біягр. давед. пра аўт. і камент. А. Бельскага.
6. **БДАМЛМ.** – Ф. 55. – Адз. зах. 191. – Арк. 11.
7. **БДАМЛМ.** – Ф. 55. – Адз. зах. 197. – Арк. 1 адв.
8. **БДАМЛМ.** – Ф. 55. – Адз. зах. 199. – Арк. 10.

Алесь ПРУДНІКАЎ

# “СЯГОНЬНЯ ЗОРНЫ СЕЎ ФАРБУЕ БРОНЗАЙ ДАЛЬ…”

### МАЯ СЕМПРОНІЯ…

Патануць бы ў дыме каляровым,
Валацугам зьнікнуць у бязьмежнасьць.
На абшарах весьніх Задняпроўя
І туманн[а], [і бел]асьнежна…

Ухаплюся рукамі за скроні я,
На зямлю павалюся ніцма –
Можа, і мая дарагая Семпронія
Ў шалясьценьні аўсоў прысьніцца.

Там увечары сьпелае жыта
Мне быліну адну раскажа
Пра дзяцінства маё пражытае,
Якое ў жыцьці ня двойчы…

Вечна мкнуся – дарога вялікая,
І прыстаць не магу я сам.
Буду разам з сабою клікаць
Веянь росную на верасах…

Так я там вечарамі кволымі
Па гасьцін[цах] брадзіў адзін,
Калі цьвіў у зялёным полымі
Над палянамі маладзік…

Я ня знаю, адкуль ты такая,
Дзе радзімы твае кут.
Колькі раз цябе спатыкаў я
І тут, і ў другім баку.

Стан маленькі і вочы ня меркнуць,
Крышталёвым ільсьняцца жалезам.
З нізу самага і да верху
Палынееш ты паэзіяй…

Сваім зіркам сэрца раніла –
Я адчуў ў гэтай ране слодач,
І пайду з гэтай ранай ураньні
Выпіваць сенакосу водар…

За таемнась[ць] і кос шалясьценьне,
За вішнёвую шчок каляровасьць
Называю цябе лятуценьнем –
Дарагою сваёй Семпроніяй…

Я ня ведаў, адкуль ты такая,
Дзе радзімы твае ёсьць кут.
Ты студэнтам мяне гукаеш –
Я студэнтка на руку!

Не магу, не хачу застацца
Ў гэтых вуліц глухіх перабоях.
Я пайду, дзе аўсы зіхацяцца,
Толькі адзін – не з табою.

Там я вырас і там аддам
Дараваньне палём белаліцым.
Толькі ты мяне ўспомніш адна,
Я магу табе прысьніцца.

Патану так у дым каляровы,
Зьнікну ў далях сваіх бязьмежных…
[На] абшарах весьніх Задняпроўя
[І туманн]а, і беласьнежна.
*13-III-30 г.*

### ПЯЕ ГУДОК…

Альтом пяе гудок
Сымфонію вясны
Пра тэмпы пабудоў
Маторнай стараны.
Сьляды былой зімы
Спаліў электрабляск…
Ў чатыры скончым мы
Пяцігадовы плян!..
Крыніца дзён бурліць
Струменьнямі руды, –
Сягоньня кожны лік
Гаворыць за уздым!
Сягоньня зорны сеў
Фарбуе бронзай даль…
І кожны з нас нясе
Жыцьцю насустрач дань.
І просінь зіхаціць
У прозалаці зор,
Бо здолелі прайсьці
Праз сьцюжы і праз золь…
На шахтах, на станкох,
На зоравых палёх
Адзінаю рукой
Будуем шчасьця лёс!
І ў тэмпах пабудоў
Маторнай стараны
Альтом пяе гудок
Сымфонію вясны…
*8-IV-30 г.*
*в. Ст. Дзедзін. Магілёўшчына.*
*Клімавіцкі р.*

* * *

Я да скроні руку падняў:
Небасхілу блакіт гарэў…
Я глядзеў на аблічча дня –
Госьць вяртаўся да нас з-за марэй.
Ноччу доўга вярзьліся сны –
Перастрэлкі, пралёты станцый.
Недалёка было да труны,
Ды нарэшце жывым застаўся…
Ў меднай касцы худы салдат
Наляцеў, як арол на ахвяру –
Шыю грыз маю, быццам кат,
Клявятурай зубоў ліхвярскіх.
З бліндажоў устаюць франты –
Скогуць здані бязлікіх сьмерцяй.
І з размаху ударыў штых,
Штых халод[н]ы ў полымя сэрца!
Я ачнуўся. Ціша кругом.
Даль сьмяецца калосьсем сьпелым.
З-за марэй к нам вяртаўся госьць,
Даль далёкую песьню пела…

Падрыхтоўка
тэкстаў да друку
**Віктара ЖЫБУЛЯ.**

*Майстэрства творцы*

# СОРАМ СЭРЦА

## МЕТАФІЗІЧНЫ ЗМЕСТ АПОВЕСЦІ "СУД У СЛАБАДЗЕ" ВІКТАРА КАЗЬКО

Чым больш абвостранымі і трагічнымі аказваюцца маральныя канфлікты ў сучасным грамадстве, тым відавочней душа чытача прагне адшукаць у кожным з вядомых твораў змест, раней не заўважаны, не запатрабаваны. Усё, што ў сюжэтах выступае адлюстраваннем сацыяльнай і гістарычнай абумоўленасці, скрупулёзна вывучаецца і сёння, але ўжо не ўспрымаецца як вычарпальнае. Чалавецтву патрэбна асэнсаваць сваё месца ў рэчаіснасці надсацыяльнай, надрацыянальнай, метафізічнай, анталагічнай, яно шукае вышэйшага сэнсу быцця. Не павінна знаходзіцца ўбаку ад гэтых тэндэнцый і літаратуразнаўства. Тым больш што самі літаратурныя творы выразна дэманструюць сваю метафізічнасць. Аповесць "Суд у Слабадзе" Віктара Казько – пацвярджэнне таму.

Азначаны падыход да мастацкага вобраза ставіць перад даследчыкам пытанні на першы погляд парадаксальныя: навошта чалавецтву ўвогуле патрэбна вобразнае адлюстраванне рэчаіснасці? Дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу бязмежныя. Што ёсць у вобразе непадуладнага рацыянальнаму аналізу? Мастацтва – вынік працы чалавека ці надчалавечая дадзенасць? Мы зыходзім з таго, што ў кожнай праяве жыцця ўсюдыісна прысутнічае нехта Першы. Ці нешта, бо Бог можа разумецца як асоба (у хрысціянстве, напрыклад), а можа – як найвышэйшы розум, стан усясветнай любові. Толькі Ён як першавыток ведае, дзеля чаго з'явіўся чалавек на зямлі і чаму, апрача рацыянальнай, паняццевай дзейнасці, нам патрэбная вобразная форма выяўлення асобы ў свеце.

Пытанні падобнага кшталту цікавяць і персанажаў аповесці В. Казько. Такую з'яву, як смерць, да прыкладу, ім не хочацца ўспрымаць адназначна і вытлумачальна: *"Няўжо ўсё на гэтым, капцы, кранты, няўжо ўсё на гэтым і канчаецца? Не можа быць такога. Ёсць, ёсць жа вышэйшы розум і вышэйшы сэнс…"**. Прымем гэтую цытату за зыходную для ўспрымання метафізічнага сюжэта аповесці. Смерць – гэта не толькі фізічны скон, але і тая праява духу, без прадчування якой не абыходзіцца аніводнае імгненне свядомага жыцця асобы, што і даводзяць героі аповесці. Гэтае прадчуванне самадастатковае, надсацыяльнае, надрацыянальнае, падобнае да кропелькі вады, па якой можна здагадацца пра цэлае мора. Герой (і чытач, і пісьменнік) шукае вышэйшага сэнсу. Задача чалавека-крэатара, на нашу думку, – адшукаць тыя слоўныя фарбы і прыёмы, з дапамогаю якіх прамова вышэйшага сэнсу можа дайсці да чытацкага ўспрымання. Пісьменнік бачыцца нам перакладчыкам з мовы Божай на мову чалавечую.

Цікавае пытанне, наколькі можа лічыць сябе самастойнай перад найвышэйшым розумам асоба ў самаздзяйсненні – творчасці і ўвогуле жыцці. У аповесці В. Казько чытаем: *"І Лецечка адчуваў сябе такой трэскай, якая трапіла ў павадкавы вір. Так кідала, шпурляла яго ад аднаго чалавека да другога, ён ляпіўся да кожнага, да каго толькі не прыбівала яго, але ненадоўга: жыццёвыя хвалі, жыццёвы вір быў таксама бязлітасны, як і той, сляпы, стыхійны, тут таксама была стыхія. І нельга было прыбіцца, прыстаць ні да аднаго з берагоў, ніводзін бераг, ніводзін чалавек не прымалі яго"* (с. 95). Што ж такое жыццё для герояў аповесці: вышэйшы сэнс ці стыхія або і тое, і другое адначасова? Нездарма В. Казько распавядае пра суд не толькі рацыянальны, але і ірацыянальны. Першы суаднесены з канкрэтна-гістарычнымі падзеямі, другі раскрывае сэнс з'яў надчалавечных, датычыцца экзістэнцыйных аспектаў усясветнай існасці.

У анонсе да кнігі ідзе размова пра суд у паняццевым, сацыяльна абумоўленым сэнсе гэтага слова: «У аснове аповесці "Суд у Слабадзе" ляжаць сапраўдныя падзеі – судовыя працэсы над здраднікамі Радзімы ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Галоўны герой – сялянскі хлопец Лецечка з трагічнай доляй. Бацькі яго загінулі ад рук фашыстаў, а ён трапіў у канцэнтрацыйны лагер, дзе ў дзяцей бралі кроў для раненых фашысцкіх салдат і афіцэраў.

Барацьба за мір, нянавісць да вайны – вось асноўная ідэя твора» (с. 2).

Усё жыццё людзей у метафізічным сэнсе – гэта няспынны Божы суд над грахамі чалавечымі. І ўся мастацкая літаратура – пра такі суд. Жыццё – перш за ўсё не рух падзей, а развіццё станаў душы. І злачынствы фашыстаў не толькі гістарычна-канкрэтны жудасны факт, але і адзін з момантаў, калі частка чалавецтва парушыла Божы заклік пра любоў да бліжняга. Паліцэйскіх-карнікаў судзяць не толькі ўлады,

* **Казько, В.** Суд у Слабадзе / В. Казько. – Мінск, 1978. – С. 170. Далей цытаты падаюцца паводле гэтага выдання з пазначэннем старонкі ў дужках.



70

Віктар Казько нарадзіўся 23 красавіка 1940 г. у Калінкавічах на Гомельшчыне. У гады Вялікай Айчыннай вайны страціў маці і маленькую сястрычку. Пасля вайны Віктар не прыжыўся ў новай сям'і бацькі, падлеткам сышоў з дому. Выхоўваўся ў Вільчанскім і Хойніцкім дзіцячых дамах на Палессі. Пасля заканчэння васьмі класаў паехаў на Кузбас, дзе паступіў вучыцца ў горнапрамысловую вучэльню. Працаваў у шахце, у геолагаразведцы прахадчыкам. З 1962 г. звязаў лёс з журналістыкай: быў загадчыкам аддзела прамысловасці таштагольскай гарадской газеты "Красная Шория" (там і дэбютаваў з апавяданнем "Халімон"), літсупрацоўнікам абласной газеты "Комсомолец Кузбасса", карэспандэнтам абласнога радыё. У 1970 г. скончыў завочна Літаратурны інстытут у Маскве. З 1971 г. жыве ў Мінску, быў літсупрацоўнікам газет "Чырвоная змена", "Советская Белоруссия", у 1973 – 1976 гг. – часопіса "Неман". У 1986 – 1988 гг. сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Аўтар кніг "Высакосны год" (1972), "Добры дзень і бывай" (1974; прэмія Ленінскага камсамола 1977 г.), "Суд у Слабадзе" (1978; Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Я. Коласа 1982 г.), "Неруш" (1981), "Хроніка дзетдомаўскага саду" (1987), "Но пасаран" (1990), "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел" (1991) і інш.

Віктар Казько адзін з вядучых беларускіх празаікаў. Яго творчасць мае ярка выражаную аўтабіяграфічную аснову. Ён адзін з першых у беларускай і савецкай прозе паказаў вайну праз прызму ўспрымання дзіцяці ("Суд у Слабадзе"). Трагічныя падзеі, што своеасабліва адбіліся ў дзіцячай свядомасці, пераламляюцца ў сюжэтах аповесцей пісьменніка. Дзіцячымі ўражаннямі абумоўлены розныя планы аповеду пра ваеннае мінулае: жорсткія духоўныя траўмы, нанесеныя юнай душы, цяжкае станаўленне юнака, імкненне пераадолець невыносны цяжар успамінаў. Значную ўвагу В. Казько аддае экалагічным праблемам: выступае не толькі за чысціню прыроды, але і за чысціню чалавечых стасункаў. Гібель прыроды, варварскія адносіны да яе знішчаюць чалавечае ў самім чалавеку ("Цвіце на Палессі груша", "Неруш"). Своеасаблівым падагульненнем творчых пошукаў празаіка 1970 – 1980-х стаў раман "Хроніка дзетдомаўскага саду" (1987), у якім спалучаны найбольш значныя дасягненні творцы ў распрацоўцы тэмы вайны і ўзаемадзеяння чалавека з прыродай.

Творам Віктара Казько ўласцівы драматызм, пераканальнасць, псіхалагічнае заглыбленне. Вобразы, намаляваныя мастаком, набываюць сімвалічна-алегарычны сэнс, адкрытую публіцыстычнасць, філасафічнасць. Яго творы былі экранізаваны на кінастудыі "Беларусьфільм" ("Паводка", "Сад", "Судны дзень"), перакладаліся на многія мовы.

---

народ-пакутнік, але яшчэ і тая найвышэйшая моц, прысутнасць якой так адчувае Колька Лецечка.

Боскае "Палюбі!" у якасці анталагічнай мастацкай аксіёмы прысутнічае, на нашу думку, у кожным мастацкім вобразе незалежна ад таго, ставіў перад сабою пісьменнік задачу яго ўвасаблення ці не. Творчы працэс уяўляе з сябе духоўнае суперажыванне трох крэатыўных асоб. Першая з іх – Усявышні; Божае тварэнне несканчонае, яно працягваецца і сёння. Другая творчая асоба – пісьменнік, які, адчуўшы Боскі боль з нагоды недасканаласці роду чалавечага, пачынае гэты боль лячыць тым, што стварае матэрыю мастацкага твора. Чым больш мастаку ўдаецца наблізіцца да суперажывання з Боскім болем, тым больш патрэбным аказваецца яго твор Усявышняму, які жыве ў душы кожнага з чытачоў. Трэцяя творчая асоба – чытач, які з дапамогай пісьменніка выходзіць на дыялог з Усявышнім; кожны твор сусветнай мастацкай літаратуры – гэта ўвасабленне патаемнай асобы самога чытача.

Цытаты з аповесці В. Казько, прыведзеныя вышэй, сведчаць, што ў гэтым творы самадастаткова прысутнічае выхад да трыадзінага суперажывання, праз якое мы атрымліваем магчымасць бачыць не толькі пачварнасць паводзінаў фашыстаў, але і трагічную супярэчлівасць чалавечай натуры. Нельга не заўважыць пэўных алюзій на Евангелле. Падлетак Колька Лецечка любіць увесь свет і прымае пакутніцкую смерць

за грахі чалавечыя. У сваім цяжкім жыцці хлопец узносіцца да горніх вяршынь подзвігу ў імя любові і справядлівасці: *“А ён, Лецечка, негаручы, ён загавораны ад кулі, няхай страляюць, няхай паляць, ён усё верне ім: іх агонь, іх кулі, за ўсё адплоціць. Разам з тымі, загубленымі, знішчанымі імі, ён знойдзе іх на тым свеце. На тым свеце ён збярэ ўсіх… А ідзе суд справядлівы і бязлітасны. Страх за страх, боль за боль… Ідзе расплата. …Таму ён, Лецечка, і ўбірае цяпер у сябе чужы боль і булькі, набрыньвае чужымі болем і болькамі…”* (с. 136).

Паводле В. Казько, жыць па-сапраўднаму – гэта ўбіраць у сябе чужы боль. Боль дае мастаку моц маральнага прадбачання. Адкуль бярэцца ў творцы дар прароцтва? Можа, ён нараджаецца з пачуцця сораму за злачынствы людзей, з немагчымасці супрацьстаяць ім. Сорамам сэрца прасякнута ўся аповесць “Суд у Слабадзе”: *“І самота, туга агарнулі сэрца, нібыта ён у нечым вельмі і вельмі правініўся, вінаваты перад усім белым светам… шмат чаго не адбудзецца з таго, што наканавана яму, і нічога ён не зробіць з таго, што павінен зрабіць… Ён застаўся ні з чым. Зашчымела ад сораму сэрца. І Лецечка заспяшаўся, заспяшаўся, каб што-небудзь ды паспець зрабіць, каб хоць чым-небудзь аддзякаваць беламу свету за тое, што ён хоць і не доўга, цяжка, але жыў на зямлі. І любіў, любіў і любіць…”* (с. 162).

Аповесць “Суд у Слабадзе” адказвае на пытанне, чаму чалавек стварае мастацкія творы, клапоціцца пра прыроду, аднаўляе зруйнаваныя храмы. Сорам сэрца вядзе па жыцці Кольку Лецечку і павінен весці кожнага, бо няма такога чалавека, які сказаў бы напрыканцы жыцця, што ён усё наканаванае яму *“паспеў зрабіць, каб хоць чым-небудзь аддзякаваць беламу свету за тое, што ён… жыў на зямлі”*. Гэтае адчуванне выклікае аповесць, чытаючы якую нібы шукаеш лекі ад неспатольнай нястачы шчасця.

У творы шырока скарыстаны прыём адухаўлення: машыны, зямля і сабака Асталоп усё адчуваюць па-чалавечаму. Усе людзі, жывёлы, з’явы прыроды, нават тэхнічныя прыстасаванні маюць своеасаблівыя характары, суперажываюць адно аднаму. Вось як, да прыкладу, намалявана жудасная сцэна, калі эсэсаўцы забіраюць ад матак іх дзяцей: *“Машыны аглухлі ад стогнаў і ляманту, здранцвелі ад усяго, што тут адбывалася… Скаланулася і дрыжала ўзятая ў калючы дрот зямля, скаланулася і дрыжала здрапежаная салдацкімі ботамі зямля”* (с. 154). Падаецца, што радкі, створаныя пісьменнікам, выпакутавала збалелая душа ўсясвету, творца ж, неверагодна чуйны да чужога болю і шчыры ў выказванні яго, толькі перадаў нам словам надзвычайны, надчалавечы боль.

Побач з Лецечкам – іншыя цікавыя персанажы: стары Захар’я, баба Зося, сябры па інтэрнаце Васька і Стась… Усе яны звычайныя і незвычайныя. І машыны, і прырода, і людзі – раўнапраўныя ўдзельнікі адзінага тварэння Усявышняга. Апрача суда над здраднікамі-паліцаямі ў кнізе адбываецца суд над усім, што ёсць у тварэнні скажонага, няўдалага, народжанага аддаленасцю чалавека ад ідэалу людскасці, ад вышэйшай мэты.

Лецечка разумее, што дні яго ў свеце жывых злічаныя, што смерць хутка павядзе яго за сабой. Але яна не ў стане супыніць усяго Божага тварэння. Смерць для Лецечкі – магчымасць судзіць тых, хто цураўся міласэрнасці пры жыцці, хто пражыў без сораму сэрца: *“Трэба ж калісьці і па-сапраўднаму памерці. Прабіў час. Ён дачакаўся яго, прыспеў судны дзень, але няхай не думаюць тыя, хто забіваў яго, што яны памруць лёгкай смерцю. Ён пойдзе за імі і ў зямлю. Будзе суд і там. Градзе суд”* (с. 161).

Слабада, у якой адбываюцца падзеі аповесці, не столькі тапонім, колькі сімвал. Відавочная сувязь слова *Слабада* са словам *свабода* (*слабодамі* называлі да адмены прыгоннага права вялікія сёлы з непрыгонным насельніцтвам). Такім чынам, аповесць распавядае пра суд людзей вольных над духоўна прыгоннымі. Чытач ставіць сабе пытанне: хто я на гэтым судзе – адвакат, сведка, суддзя, злачынца? Але адназначна адказаць не дае сорам сэрца. Вольныя ў аповесці В. Казько і людзі, і прырода, і сам парадак быцця, які змяшчае ў сабе нараджэнне і смерць, сустрэчы і развітанні, хваробы і ацаленні. Свабода ў Слабадзе – гэта адсутнасць страху перад звыклымі праявамі жыццёвага парадку, перад усім, што натуральна і невыпадкова ў свеце. Прыгонныя ж – персанажы, якія скаваныя страхам. Гэта паліцэйскія і карнікі, тыя беларусы, каму давялося знішчаць уласны народ, стаўшы ў шэрагі эсэсаўцаў. Забіваючы нявінных, яны твораць не суд, а злачынства.

Так праз канкрэтна-гістарычны сюжэт аповесці выступае метафізічны яе змест, які распавядае пра адвечную барацьбу дабра і зла ў чалавечых сэрцах, праблемы маральнага выбару. Сацыяльна абумоўлены сюжэт не можа быць адэкватна ўспрыняты без заглыблення даследчыка ў сюжэт метафізічны, надчалавечы, субстанцыянальны, першасны, без разгадвання сэнсаў, якія паўсталі ў творы па-за свядомаю задумкаю літаратара.

**Юры ПАТАЛКОЎ,**
кандыдат філалагічных навук.

*Класіка і сучаснасць*

Святлана МАЛЮКОВІЧ

# ФІЛАСОФСКІ ДЫСКУРС АНТЫЧНАГА МІФА ПРА СІЗІФА

Старажытны міф тоіць у сабе глыбінныя сэнсы і магчымасці для шматлікіх мастацкіх версій. Ён не вычэрпваецца ні рацыянальным тлумачэннем, ні рэцэпцыяй у асобных творах. Пераканаўчы прыклад – элінскі міф пра заснавальніка і цара Эфіры (Карынфа) Сізіфа, які стаў вельмі прыцягальным для мастацкіх інтэрпрэтацый у розных нацыянальных літаратурах дзякуючы сваёй філасофскай змястоўнасці, загадкавасці і неадназначнасці героя.

Сусветная вядомасць Сізіфа грунтуецца на міфалагеме пра яго пакаранне, якое ўпершыню апісана ў гамераўскай "Адысеі" (XI, 593 – 600). Гэтая міфалагема з'яўляецца толькі "эпілогам" міфалагічнага расповеду, якога мы, па сутнасці, не ведаем. Так, Сізіф быў асуджаны на цяжкую, пакутлівую і згодна з традыцыйным уяўленнем марную працу, якая пераконвала ў дарэмнасці любых спроб смяротных узяць верх над багамі. Але інфармацыя пра ўчынкі Сізіфа, з якімі магло суадносіцца гэтае жахлівае пакаранне, фрагментарная і супярэчлівая.

Мастацкія творы, і перш за ўсё антычныя драмы, у якіх асэнсоўваліся дзеянні Сізіфа, не захаваліся, а антычныя міфографы пісалі пра прычыны пакут героя занадта сціпла і даволі заблытана. Часцей за ўсё ў іх тлумачэннях звяртаецца ўвага на выпад Сізіфа супраць вярхоўнага бога. Найбольш аўтарытэтная крыніца – "Міфалагічная бібліятэка" Апаладора сведчыць: "Сізіф у пакаранне быў павінен у Аідзе каціць на гару галавой і рукамі вялізны камень: але, калі ён спрабаваў пераваліць гэты камень цераз гару, камень скочваўся назад. Такому пакаранню ён быў падвергнуты з-за Эгіны, дачкі Асопа. Калі Зеўс таемна выкраў Эгіну, Сізіф расказаў пра гэта Асопу, які шукаў яе" [3, с. 15].

У схоліях* да антычных твораў згадваецца пра хітрасць Сізіфа і яго вераломства ў дачыненні да іншых уладарных багоў грэчаскага пантэона. Герой закаваў у ланцугі бога смерці Таната і нават пасля таго, як быў дастаўлены ў змрочнае царства ценяў, здолеў вярнуцца ў верхні свет, бо ашукаў Гадэса (варыянт – Персефону). Нягледзячы на даброты, якія падарыў Сізіф людзям: здабыў для свайго горада ваду, заснаваў Істмійскія гульні (другія па сваім значэнні ў Эладзе пасля Алімпійскіх), адтэрмінаваў наступленне смерці, міфалагічны погляд бясспрэчна абвінавачваў героя за яго супрацьстаянне бессмяротным. Можа, таму Сізіфу пачалі прыпісваць самыя ганебныя ўчынкі і адносна людзей: разбой і гвалт. Дык за што ж тады кахала Сізіфа адна з цудоўных Плеяд Меропа?! Дзеля любага мужа яна ахвяравала сваёй боскай свабодай і пражыла побач з ім звычайнае, цяжкае чалавечае жыццё. Да апошняга часу ў сусветнай літаратуры не было твора, які спалучыў бы ўсе вядомыя дзякуючы Гамеру і міфографам матывы і вобразы міфа пра Сізіфа. Такім скразным расповедам стаў раман рускага аўтара ***Аляксея Кавалёва*** **"Сізіф"** (2003). Пісьменнік выкарыстаў усю рэлевантную інфармацыю пра Сізіфа і нарэшце прымірыў (часам у сафістычным духу) розныя супрацьлеглыя версіі, асэнсаваў іх такім чынам, каб пераканаць чытача ў слушнасці ўчынкаў міфічнага героя.

Мастацкая і філасофская цікавасць да вядомага міфа, актуальнасць яго распрацоўкі ў XX ст. у значнай ступені зададзеныя філасофскім эсэ ***Альбера Камю*** **"Міф пра Сізіфа"** (1942), асабліва яго завяршэннем – прытчай-расповедам пра славутага грэка. Французскі аўтар стварыў экзістэнцыялісцкую версію гэтага міфа, паказаў Сізіфа абсурдным героем. Сізіф Камю ўсведамляе несправядлівасць лёсу і перамагае яго "яснасцю розуму", сваёй пагардай да багоў. Цяжкая, марная праца ператвараецца ў абвінавачанне, становіцца сведчаннем няскоранага і разняволенага духу героя. Так бяссэнсавасць бесперапыннага дзеяння набывае сэнс. "Сізіф вучыць вышэйшай слушнасці, якая адмаўляе багоў і рухае камяні… Адной барацьбы за вяршыню дастаткова, каб запоўніць сэрца чалавека. Сізіфа трэба ўяўляць шчаслівым" [10, с. 22]. Цяжка пагадзіцца з высновай пра шчаслівага Сізіфа ("Абсурд трымаў свайго песняра ў палоне лагічнасці" [11, с. 296]), але яе можна зразумець у кантэксце сувязі філасофскай канцэпцыі Камю з крызіснай палітычнай сітуацыяй, якая склалася ў Францыі пасля разгромнага для краіны 1940 г. У трагічнай сітуацыі, "сітуацыі Сізіфа", калі няма на што спадзявацца і, здавалася б, няма выбару, толькі годнасць самасвядомасці, свавольная ўпартасць і маглі стаць апірышчам нязломнай чалавечнасці. Гэта своеасаблівая форма бунту, які Камю супрацьпаставіў абсурду.

Невялікае апавяданне ***Сяргея Дубаўца*** **"Сізіф"** (1984), што ўвайшло ў першы зборнік яго твораў "Практыкаванні" (1992), спароджана

* **Схоліі** (з грэч.) – заўвагі, тлумачэнні да тэксту. – *Заўвага рэд.*



***Святлана Дзяменцьеўна Малюковіч** – даследчык літаратуры. Дацэнт кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Кандыдат філалагічных навук (1984). Даследуе творчасць Ю.-І. Крашэўскага ў кантэксце польскага літаратурнага працэсу і міжнацыянальных літаратурных сувязей, распрацоўвае праблему рэцэпцыі антычнай літаратуры на Беларусі. Аўтар падручніка для студэнтаў ВНУ "Зарубежная литература XIX века" (1992; у сааўтарстве з Н. Лапідусам), навучальнага дапаможніка "Міфалогія: Старажытная Элада" (ч. 1, 2000; ч. 2, 2003). Мае больш за 100 навуковых прац у выданнях Беларусі, Польшчы, Літвы.*

прытчай Камю. Малады аўтар, захоплены філасофскімі ідэямі Альбера Камю і Жана Поля Сартра, спрабуе спалучыць іх з праблематыкай, актуальнай для сучаснасці. Як і Камю, Дубаўца цікавіць Сізіф у момант спуску з гары, але беларускі аўтар мадэлюе памежную сітуацыю непазбежнага выбару. Спускаючыся ў чарговы раз з гары, стомлены Сізіф не заўважае каменя, які заўсёды абганяў яго на сёмым кроку… Пасля пошукаў унізе і супярэчлівых думак герой убачыў камень нерухомым на самай вяршыні. Такім чынам, у пакутніка з'яўляецца магчымасць пазбавіцца цяжкай працы. Цяпер, як разважае Сізіф, ён можа падымацца і спускацца без каменя. Дастаткова пераконваць сябе кожны раз, што закаціў яго на гару і што той сарваўся: "Так можна хадзіць, хадзіць і забыцца, што ты нявольнік" [6, с. 60]. Аднак герой выбірае іншае: штурхае камень уніз.

У сусветнай літаратуры існуе нямала мастацкіх версій міфа пра Сізіфа, у якіх герой робіць выбар на карысць сваёй цяжкай і марнай працы. Так, у апавяданні ***Усевалада Іванава* "Сізіф, сын Эола"** (1944) багі даруюць герою і ён можа прыняць прапанову: сілай, гвалтам вярнуць сабе ўладу ў Карынфе, зноў стаць царом. Але Сізіф адмаўляецца, бо не хоча жыцця, сутнасць якога – вайна. Тым самым герой рускага пісьменніка супрацьпаставіў свой свабодны выбар несвабодзе (вайна – гэта заўсёды несвабода).

Згодна з міфалагічнай свядомасцю старажытных грэкаў лёс смяротных быў прадвызначаны воляй багоў, і таму, нягледзячы на магчымасць нейкай ініцыятывы ў паводзінах герояў, не існавала паняцця іх самастойнага выбару ў дачыненні да лёсу. Зыходзячы з гэтай логікі беларускі філосаф Валянцін Акудовіч заўважае, што Камю памылкова абраў Сізіфа "ў якасці інтэграла абсурду": "Праца Сізіфа не можа ацэньвацца па меры сэнсу, бо тое, што трывае наканаванне, – не патрабуе гэтай меры. Наканаванне само ёсць прычынай верагоднамагчымых сэнсаў і бессэнсоўніц…" [1, с. 134 – 135]. Канцэптуальную метафару Камю В. Акудовіч выкарыстоўвае для таго, каб разгледзець міф у кантэксце ідэі "вечнага вяртання", і прыходзіць да высновы, што Сізіф – абсурдны чалавек у той момант, калі без каменя на плячах стаіць на вяршыні гары: "…вяршыня – гэта тое месца, дзе ўсё толькі заканчваецца і нічога не пачынаецца… Ён (Сізіф) яшчэ ёсць, але ўжо ні для каго і ні для чаго" [1, с. 135]. Калі камень зрушваецца з месца, Сізіф успамінае пра наканаванне… "Прырода вяртаецца па крузе свайго кругазвароту, а чалавек як найкарацей – напрасткі, каб потым зноў прайсці тым жа карацейшым шляхам, але ўжо з цяжарам іншага зместу на плячах" [1, с. 135]. Такім чынам, кожны раз камень наканавання скіроўвае чалавека да нейкага новага сэнсу.

Сізіф у апавяданні С. Дубаўца свядома выбірае бесперапынную цяжкую працу, выбірае камень – свой здабытак, клопат, долю. Да гэтага выбару герой пазіцыянаваў сябе як нявольнік. Цяпер ён зразумеў, што сваёй адмысловай хітрасцю не адолее абсурд: можна «пераканаць сябе, што дрэва, каля якога ты праходзіш штодня, – няма. Можна проста перастаць заўважаць яго. Але аднойчы, рана ці позна, ты ўсё ж спакусішся прайсці па тым месцы, дзе яго "няма". Дык ці варта ашукваць сябе?» [6, с. 60]. Супрацьпаставіўшы абсурду свой дзейны стаіцызм, Сізіф беларускага аўтара, герой А. Камю, набывае ўнутраную свабоду і ўяўленне пра сваю працу як "карысную і плённую". Але сугестыўны план апавядання напаўняецца дадатковымі сэнсавымі адценнямі, якія становяцца зразумелымі ў кантэксце іншых твораў зборніка "Практыкаванні". Гэтыя новыя сэнсы звязаны з пытаннямі быцця краіны і нацыі.

Сяргей Дубавец пісаў "Сізіфа" ў час панавання таталітарнай савецкай сістэмы, у перыяд застою, калі стэрэатыпы, выпрацаваныя афіцыйнай ідэалогіяй, былі скіраваны на разбурэнне непаўторна-індывідуальнага, творчага ў чалавеку і яго жыццёвай пазіцыі, у мастацтве. «Прамоўце: "Я", – звяртаецца пісьменнік да людзей у сваім краі, – і адчуйце неабмежаванасць сваіх магчымасцей, сваю ні з кім не падзеленую адказнасць. Для кожнага гэта – прасвятленне» [6, с. 190]. Цікава, што ва ўводзінах да беларускага выдання "Міфа пра Сізіфа" А. Камю, якое з'явіцца праз восем гадоў пасля напісання працытаваных радкоў, С. Дубавец зноў акцэнтуе гэтую думку: "Застой у жыцці людзей, калі ўсё вызначана і паўтараецца па прывычцы, калі чалавек прыстасоўваецца і прывыкае да нятвор-

часці, – такі застой вядзе да дэфармацыі маралі" [8, с. 5].

Набалелыя пытанні нацыянальнага быцця, якія тычацца беларускай мовы, літаратуры, дзяржаўнай незалежнасці, нацыянальнай свядомасці і годнасці, С. Дубавец спрабуе асэнсаваць у экзістэнцыялісцкім і філасофскім кантэксце. Гэта асабліва характэрна для яго наступнай кнігі "Дзённік прыватнага чалавека" (1998), якая з'явілася своеасаблівым працягам "Практыкаванняў". Аўтар засяроджваецца на ключавых пытаннях філасофіі, разгорнутай А. Камю ў эсэ "Міф пра Сізіфа": трагізм чалавечага жыцця, абсурднасць свету, смерць як праява абсурднасці існавання, асабістая адказнасць за выбар і свабоду. Экзістэнцыялісцкія модусы быцця белетрызуюцца ў апавяданнях ("У цішыні ночы", "Чалавек без галавы", "Кліч мора") або канстатуюцца ў эсэ і імпрэсіях: "Чалавек заўсёды адзін" ("Дзядзька Міхась"), "Адказнасць – другі бок свабоды" ("Персанажы і аўтары"), "Смерць – адзінае, што ў цябе па-сапраўднаму ёсць" ("Эцюды аб смерці"). У "Практыкаваннях" і "Дзённіку…" шмат спасылак на асобу французскага філосафа, яго грамадскія погляды (у прыватнасці, аргументацыю супраць смяротнага пакарання), шмат алюзій на мастацкія творы Камю, а таксама Сартра.

Сэнсавызначальным цэнтрам апавядання С. Дубаўца "Сізіф" з'яўляецца рух каменя. Гэты бесперапынны рух аўтар супрацьпаставіў нерухомай стагнацыі – ідэалізаванай нарматыўнасці, канфармізму, усеагульнай уніфікацыі, адным словам, нятворчасці свайго часу. Маршрут Сізіфа – шлях, па якім чалавек павінен упарта падымацца ўгару: пераадольваць матэрыяльнае прыцягненне быцця і сцвярджацца ў духоўнасці і годнасці, а інакш сапраўды атрымаецца бессэнсоўнасць: "Бясконцыя і цяжкія намаганні Сізіфа – сімвал зусім не бяссэнсавай працы, як прынята думаць, а вялікі сімвал менавіта жыцця" [2, с. 272].

Ёсць такія творы, дзе рэальныя жыццёвыя падзеі па-мастацку суадносяцца з тымі ці іншымі міфалагічнымі матывамі, якія не з'яўляюцца прадметам адлюстравання ці апісання іх аўтарам і нават не згадваюцца ў структуры тэксту. Да прыкладу, прытча ("прыпавесць") ***Васіля Быкава*** **"Камень"** (1998), у якой іншасказальны план узнікае дзякуючы алюзіі на камень Сізіфа і працу міфічнага героя ў яе звыклай, прыземленай інтэрпрэтацыі – як марную, бессэнсоўную. Рэальна-побытавы (апавядальны) план гэтага прытчавага твора звязаны з дзеяннем абсурдных герояў – вяскоўцаў, якія насуперак здароваму сэнсу і матэматычным разлікам надумаліся зрушыць з наляжалага месца велізарны валун, каб ускаціць яго на схіл гары і па той бок скінуць у прорву. Абсурдныя намаганні скончыліся трагедыяй: пакалечыўшы наваяўленых сізіфаў, камень пакаціўся ўніз, па вуліцах, ператварыўся ў каменную лавіну, якая "абрынулася на крайнія забудовы паселішча, кузню… і праз момант накрыла ўсю вуліцу горна-пыльнаю хмарай" [5, с. 600].

Прытча В. Быкава "Камень" мае кропкі судакранання з экзістэнцыялізмам, такімі яго катэгорыямі, як "абсурд", "памежная сітуацыя", "выбар", "клопат", "адчай" (толькі адказнасць тут бярэ на сябе не індывід, а супольнасць). Думкай пра трагізм чалавечага існавання пачынаецца і заканчваецца твор. Хоць і "з незапамятных дзён" высіўся камень над вёскай, ён уяўляў пэўную пагрозу, быў своеасаблівым знакам бяды. Праўда, знак гэты ператварыўся ў рэальнасць з прычыны абсурдных паводзін людзей, якія супрацьпаставілі свой ірацыяналізм законам прыроды. Несуцешны, жахлівы фінал твора: "А ўнізе тым часам разносіўся ветрам глухі невыразны лямант бяды, які на адлегласці зліваўся ў суцэльны працяглы стогн…" [5, с. 601].

Нягледзячы на повязь з філасофіяй экзістэнцыялізму, аўтар "Каменя" цалкам засяроджаны на праблемах рэчаіснасці. Працытаваныя вышэй радкі можна суаднесці з Чарнобылем, калі да атама паставіліся таксама груба і неразумна, як быкаўскія гора-асілкі да каменя. Сімволіка гэтай прытчы шматмерная. Аўтар здзекуецца з "калектывісцкай ідэі", якая "часам набывае матэрыяльную сілу" [5, с. 594]. Менавіта яна авалодала вяскоўцамі і падштурхнула іх да абсурднага ўчынку. Гэтая ідэя, як вядома, – адна з галоўных складнікаў ідэалогіі бальшавізму. Аўтар "Каменя" паказвае небяспечнасць уплыву на свядомасць чалавека псіхалогіі натоўпу, ахвярай якой стаў вучыцель. З самага пачатку гэты герой сумняваўся ў мэтазгоднасці плана дзеяння, задуманага аднавяскоўцамі, а пасля праведзеных разлікаў пераканаўся ў яго недарэчнасці. Тым не менш незвычайная актыўнасць землякоў так падзейнічала на вучыцеля, што ён "міжволі прыняў удзел у агульным клопаце" і "пачаў сумнявацца ва ўласных сумневах" [5, с. 597].

Самую значную і злачынную ролю ў тым, што здарылася, адыграў завадзіла разыкоўнай справы, яўны лідэр, рашучы і жорсткі тракціршчык. Пад націскам гэтага карчмара вяскоўцы трапілі ў палон "грандыёзнай" ідэі, якой ён натхняў людзей з дапамогай бочкі маладога віна. Такім чынам, В. Быкаў прапаноўвае чытачу падумаць над тым, як фарміруецца грамадская думка, над прыродай лідэрства. Сюжэт прытчавага твора, як вядома, мае універсальны характар. Адсутнасць назвы мясцовасці і імёнаў герояў у прыт-

чы "Камень" надаюць ёй філасофска-сімвалічную абагульненасць.

У адрозненне ад прозы, у якой пераасэнсоўваецца міфалагема пакарання Сізіфа, паэзія пераважна развівае багаборніцкую канцэпцыю гэтага вобраза, акцэнтуе бунтарства Сізіфа, яго дапамогу людзям. Падобная рэцэпцыя набліжае героя да першага ў антычным свеце філантропа і багаборніка, тытана Праметэя, які, дарэчы, быў прапрадзедам Сізіфа. Героі розных пакаленняў гэтага роду (брат Сізіфа Салманей, унук Белерафонт і інш.) праяўлялі *hybris* (ганарыстасць, дзёрзкасць), што жорстка каралася, бо азначала пераход смяротнымі дазволенага ім багамі.

Верш ***Максіма Танка*** **"Сізіф"** ("Збор калосся", 1989), напісаны верлібрам, і версэт ***Уладзіміра Арлова*** **"Сізіф"** ("Там, за дзвярыма", 1991), пры ўсёй мастацкай і філасофскай адметнасці кожнага, родняцца паміж сабой ідэйна. Абодва аўтары (Максім Танк – падтэкстава, асацыятыўна; У. Арлоў – у рытарычных пытаннях свайго лірычнага героя) сцвярджаюць гераізм супрацьстаяння Сізіфа ўсталяванаму небам парадку і перамогу яго, смяротнага, над несмяротнымі багамі. Таму і застаецца Сізіф неўміручым у чалавечай свядомасці: "Вы чуеце, як з громам / Зноў коціцца з гары / Цяжкі яго валун?!" [11, с. 272].

Светлае, аптымістычнае ўспрыманне Антычнасці дамінуе ў вершы Максіма Танка. Твор прыцягвае ўвагу ўласцівай яго паэтыцы парадаксальнасцю думкі; нават багі не маглі прадбачыць, што "ім давядзецца / Адысці ў нябыт. / А пакараны імі… / Нейкі там Сізіф / Усіх перажыве іх" [11, с. 272]. Відавочна, што паэт мае на ўвазе знікненне не багоў, а веры людзей у іх, бо разам са стратай гэтай веры міфалогія ператварылася ў арсенал для мастацтва, сусветную скарбніцу, з якой багата і плённа жывіўся аўтар гэтых вершаваных радкоў.

Версэт У. Арлова "Сізіф" уяўляе з сябе спавядальны маналог лірычнага героя, звернуты да тых, хто "шкадуе" яго, і вызначаецца медытатыўна-роздумнай інтанацыяй: "Вас, хто шкадуе мяне… / вас я хачу спытацца: / ці адкрывалі вы простым смертным / таямніцы падступных багоў?.." [6, с. 37]. Сэнсавая канцэнтрацыя гэтага твора выяўляецца ў пераліку неардынарных, накіраваных супраць багоў учынкаў Сізіфа, за якія ён варты захаплення, а не шкадавання. Фінальная частка версэта ўзыходзіць да прытчы А. Камю. Упэўнены ў трагізме жыцця ўсіх смяротных, Сізіф Арлова прызнае наяўнасць шчаслівых імгненняў у сваёй "сённяшняй" долі: "ёсць у мяне тыя хвілі, калі я няспешна іду / да ўзножжа, твар узмакрэлы аддаўшы / ласкаваму ветру, а сэрца – успамінам" [4, с. 37]. Сізіф, герой А. Камю, уздыхаў з палёгкай у час спуску з гары, калі да яго вярталася свядомасць (памяць, успаміны), і ён узвышаўся над сваім лёсам і адчуваў сябе мацнейшым за камень.

У крытычным нарысе **"Тлумачэнне Сартра"** (1989) зборніка "Практыкаванні" С. Дубавец сцвярджаў, што на Беларусі няма экзістэнцыяльнага мыслення, бо горад не стаў "заканадаўцам у нацыянальнай культуры" [6, с. 229]. Цяпер ужо ніхто не сумняваецца ў далучанасці беларускай літаратуры, і перш за ўсё прозы В. Быкава, да сусветнай філасофскай і літаратурнай традыцыі, чаму паспрыялі трагізм і абсурднасць ХХ ст. Разгляд беларускіх твораў – рэцыпіентаў міфа пра Сізіфа – дае падставы сцвярджаць, што пераасэнсаванне аднаго з самых трагічных міфаў Антычнасці інспіравана зваротам да экзістэнцыялізму. Нельга забываць пра вялікі ўплыў распрацоўкі гэтага міфа ў філасофскай прытчы А. Камю. Разам з тым выхад беларускіх аўтараў на ўзровень філасофска-экзістэнцыяльнага мыслення лучыцца з асэнсаваннем жывой і актуальнай праблематыкі, у тым ліку нацыянальнай.

Звычайна векавыя вобразы з'яўляюцца ў творах, для якіх характэрны элементы прытчы. Прытчавасць уласціва апавяданню С. Дубаўца, версэту У. Арлова, у пэўнай ступені – вершу Максіма Танка. Твор жа В. Быкава, жанр якога – "прыпавесць" – вызначыў сам аўтар, з'яўляецца толькі алюзіяй на традыцыйны міфалагічны сюжэт.

Рэцэпцыя міфа абумоўліваецца як светапогляднай пазіцыяй аўтара, так і філасофскімі, этычнымі ідэямі эпохі.

**Спіс літаратуры**

1. **Акудовіч, В.** Альбер Камю : Камень Сызыфа / В. Акудовіч // Мяне няма : Роздумы на руінах чалавека. – Мінск, 1998.

2. **Антонян, Ю. М.** Миф и вечность / Ю. М. Антонян. – М., 2001.

3. **Аполлодор.** Мифологическая библиотека / Аполлодор. – Л., 1972.

4. **Арлоў, У.** Сізіф / У. Арлоў // Там, за дзвярыма. – Мінск, 1991.

5. **Быкаў, В.** Камень / В. Быкаў // Поўны збор твораў. – Мінск – М., 2005. – Т. 1.

6. **Дубавец, С.** Практыкаванні / С. Дубавец. – Мінск, 1992.

7. **Дубавец, С.** Дзёньнік прыватнага чалавека / С. Дубавец. – Мінск, 1998.

8. **Дубовец, С.** Чего стоит жизнь? / С. Дубовец // Миф о Сизифе. Бунтарь / А. Камю. – Минск, 1998.

9. **Ерофеев, В.** В лабиринте проклятых вопросов / В. Ерофеев. – М., 1990.

10. **Камю, А.** Миф о Сизифе / А. Камю // Бунтующий человек. – М., 1990.

11. **Танк, М.** Сізіф / М. Танк // Збор калосся: вершы. – Мінск, 1989.



# МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ

*Мова мастацкіх твораў*

Пятро ЖАЎНЯРОВІЧ

## КАНЦЭПТ ПУБЛІЦЫСТЫЧНАГА ТЭКСТУ

### НА ПРЫКЛАДЗЕ ПУБЛІЦЫСТЫКІ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

У семіётыцы, лінгвістыцы, літаратуразнаўстве – навуках, якія займаюцца вывучэннем феномена тэксту, – існуюць дзесяткі яго азначэнняў. Навукоўцы-лінгвісты прытрымліваюцца думкі, што тэкст – закончаны маўленчы твор, асноўнымі ўласцівасцямі якога з'яўляюцца цэласнасць, звязнасць, інфарматыўнасць, літаратурная апрацаванасць, замацаванасць у пэўнай знакавай сістэме. У апошнія дзесяцігоддзі даследчыкі, выкарыстоўваючы найноўшыя дасягненні лінгвістыкі і стылістыкі тэксту, кагніталогіі, псіхалінгвістыкі, лінгвістычнай антрапалогіі, тэорыі маўленчых актаў, дыскурснага аналізу, дасягаюць значных поспехаў у выяўленні асаблівасцей паслядоўнага і лагічнага разгортвання зместу, прагматычных характарыстык разнастайных па стылістычнай прыналежнасці тэкстаў, тых схаваных кодаў, якія ўтрымліваюцца ў адным вербальным масіве і выклікаюцца інтра- і экстралінгвістычнымі прычынамі.

Цэласнасць тэксту характарызуецца тэматычным адзінствам, наяўнасцю сэнсавага стрыжня, з якім счапляюцца ўсе структурныя кампаненты аднаго цэлага, г. зн. асобныя элементы семантычнага напаўнення як асобных выказванняў (сказаў), так і макраструктур (складаных сінтаксічных цэлых). Такі сэнсавы стрыжань літаратуразнаўцамі тлумачыцца як ідэя твора, а лінгвістамі – як канцэпт тэксту. "Са змястоўнага пункту гледжання пад канцэптам разумеецца глыбінны сэнс, згорнутая сэнсавая структура тэксту, якая з'яўляецца ўвасабленнем інтэнцыі і – праз яе – матыву дзейнасці, што прывёў да спараджэння тэксту аўтарам" [6, с. 57]. Зыходзячы з гэтага, можна сказаць, што цэласнасць тэксту падмацоўваецца звязнасцю не толькі як сінтаксічнай, але і як семантычнай катэгорыяй (семантычнай кагезіяй).

Даследаванне канцэпту тэксту суправаджаецца працэсам дэкадзіравання выказвання, бо праз наяўныя маўленчыя структуры трэба прайсці шлях, адваротны кадзіраванню, і змагчы дабрацца да думкі і матыву, якія гэты тэкст спарадзілі. Відавочна, што пры гэтым прасвятляецца і сістэма ідэй, каштоўнасцей аўтара, разуменне ім грамадскага жыцця. Так "ідэалагічны аспект, адлюстроўваючы пазнаваўча-сэнсавы бок тэксту, канкрэтна праяўляецца ў яго канцэпце" [7, с. 105], часта ўваходзіць у яго візуальна не выяўленымі маўленчымі канструкцыямі.

Канцэпт можа выражацца па-рознаму: ад схаванай за пісьмовым матэрыялам разгорнутай думкі да кампрэсіўнага ядра з адной лексемы. У публіцыстыцы У. Караткевіча канцэпт тэксту канструюецца пераважна трапеічнымі сродкамі, якія ствараюць неабходныя перадумовы для ўспрымання рэцыпіентам семантыкі, сфакусаванай у адной або некалькіх лексемах. Троп з яго катэгорыяй імпліцытнасці "набывае прынцыпова важнае значэнне і выступае ў якасці інструментальнай дамінанты звязнасці" [4, с. 134], прычым не толькі ў мастацкіх, але і ў публіцыстычных тэкстах, дзе, па-першае, паміж аўтарам і адрасатам няма прамежкавых звёнаў (стваральнік не схаваны за мастацкімі вобразамі), па-другое, мастацкія сродкі выкарыстоўваюцца найперш для дасягнення дыялагічнасці дыскурсу і запланаванага перлакутыўнага (уплывовага) эфекту.

Публіцыстыка У. Караткевіча высокачастотна напоўнена тропамі, якія рэалізуюцца ў тэксце згодна з задумай і магчымасцямі імплікацыі канкрэтных лексем. Пісьменнік імкнецца надаць тэксту безумоўную цэласнасць і звязнасць з выразнымі прагматычнымі ўстаноўкамі і накіраванасцю на ўздзеянне. Пацвердзім сказанае даследаваннем твора "Рыгору Раманавічу Шырме – сардэчныя словы любові" [5], апублікаванага ў першым нумары часопіса "Маладосць" за 1972 г.

Твор мае невялікі аб'ём (645 слоў) і прысвечаны 80-годдзю знакавай постаці ў беларускім музычным фальклоры, што канстатуе прыналежнасць тэксту да публіцыстыкі (паводле нашай дыферэнцыяцыі жанр яго вызначаны як эсэ-партрэт [гл. 3, с. 52]), аднак падзагаловак



***Пятро Пятровіч Жаўняровіч*** *– даследчык мовы і стылістыкі. Кандыдат філалагічных навук (2006). Закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1990). Дацэнт кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі БДУ. Аўтар вучэбных дапаможнікаў "Асновы рэдагавання" (2005) і "Асновы рэдагавання тэкстаў службовай дакументацыі" (2006), шматлікіх артыкулаў па праблемах моўнай арганізацыі тэкстаў Уладзіміра Караткевіча.*

з указаннем юбілейнай даты адсутнічае, і менавіта ў гэтым, верагодна, заключаецца асаблівасць апублікаванага ў літаратурна-мастацкім часопісе тэксту: чытач даволі адукаваны і гэтай інфармацыяй валодае. Акрамя таго, у самой прыналежнасці тэксту да публіцыстыкі і яе канкрэтнага жанру "заключана прэсупазіцыя, г. зн. у працэсе яго намінацыі раскрываецца і ў нейкай ступені прадвызначаецца асноўны прагматычны накірунак самога тэксту" [2, с. 30], а рэцыпіент падсвядома ўяўляе магчымыя крокі аўтара пры яго стварэнні і прэзентацыі масавай аўдыторыі.

Аўтар будуе тэкст на рэалізацыі імпліцытных магчымасцей лексемы *песня*, якая найбольш адпавядае роду заняткаў семантычнага суб'екта (кіраўнік хору, харавой капэлы) і становіцца канцэптам названага тэксту. Трапеічная адзінка, раскрыццю імпліцытнага значэння якой падпарадкавана ўся структура і на падставе якой ствараецца кагезія тэксту, генералізавана ў апошнім сказе: *Жывіце яшчэ сто год на радасць нам,* ***лятучая наша песня****, наш дарагі дзядзька Рыгор*. Імпліцытнасць (або вобразнасць) – "вынік такога прагматычнага ўжывання мовы, асноўная мэта якога – выражэнне адносін (станоўча ці адмоўна афарбаваных) эмацыянальнага ўздзеяння суб'екта маўлення да абазначанага і заражэнне гэтымі адносінамі адрасата" [8, с. 35], што стасуецца з важнай асаблівасцю публіцыстычнага стылю – функцыяй уздзеяння.

З другой макраструктуры аўтар пачынае рыхтаваць рэцыпіента да ўспрымання імпліцыта ўключэннем празапапеічных генітыўных метафар *лёс* і *праследаванні* [песні]: *Ён быў дужа цяжкі, былы* ***лёс*** *вялікай* ***песні*** *нашага народа: пад забаронай, толькі пад дымнымі стрэхамі сялянскіх хат. І* ***праследаванні яе****, што скончыліся ў былой Заходняй Беларусі параўнаўча яшчэ зусім нядаўна.* Эпітэт *вялікая* ў дачыненні да песні арганічна дапаўняецца эпітэтам *родная* з параўнаннем: *Здарыцца магло б горшае. Каб не энтузіясты і фанатыкі народнай песні, вечныя прапаведнікі яе, людзі, што яшчэ ў мінулым стагоддзі запісвалі яе і апрацоўвалі і выконвалі, прымушаючы сэрцы людзей дрыжаць ад хвалявання, ад замілавання, ад любові да гэтага, напаўзабытага, але* ***роднага, як пяшчотныя матчыны рукі над роднай страхой***. Імпліцыт сведчыць пра наяўнасць у вылучаным гіпоніме сем 'пяшчотная', 'ласкавая', 'знітаваная з маці', 'сялянская' і інш.

Адразу пасля такіх металагічных фрагментаў аўтар уводзіць пакуль што толькі адзін сказ-абзац з фактуальнай інфармацыяй, звязанай з аб'ектам даследавання: *Да ліку такіх людзей належыць з поўным правам і дзядзька Рыгор, Рыгор Раманавіч Шырма, васьмідзесяцігоддзе якога мы зараз з любоўю і ўдзячнасцю адзначаем*. Падкрэслім: *такія людзі* – гэта *энтузіясты, фанатыкі, прапаведнікі песні*, пра якіх сказана ў папярэднім фрагменце, г. зн. і тут прысутнічаюць элементы семнага напаўнення імпліцыта.

Здавалася, цяпер аўтар павінен быў бы адразу звярнуцца да расповеду пра жыццёвы і творчы шлях Р. Шырмы, як гэта найчасцей і адбываецца ў большасці "юбілейных" матэрыялаў. Аднак пісьменнік стварае першы сказ наступнай макраструктуры з актыўна эматыўным гучаннем, выкліканым клічнай інтанацыяй, вербальнай метафарай *звінець*, аднесенай да лексемы *зямля*, і гіпербалай, якая характарызуе *песню*: *О, гэта* ***пружанская зямля****, што ўся* ***звініць песнямі****, дзе іх болей, чым жаўранкаў у сінім небе над пружанскай раллёй!* Арганічна адбываецца пераход да другога сказа, дзе сінтагма 'звінець песнямі' трансфармавана ў чатыры разы паўтораную празапапеічную вербальную метафару: ***Спяваюць*** *сінія роўныя лясы,* ***спяваюць*** *салаўі ў альховых зарасцях,* ***спяваюць*** *у залатым вячэрнім сонцы пчолы,* ***спяваюць*** *лянотныя рэкі і сама зямля*. Такім чынам інтэнсіўна рэалізуецца імпліцытнае значэнне ўзмацняльнага эпітэта *лятучая* да канцэпту *песня*: 'звінець песнямі' → 'звон песняў ляціць'; 'у небе жаўранкі, салаўі, пчолы' → 'лятаюць'; 'спяваюць' → 'спеў чуецца, ляціць'. Наступныя сказы макраструктуры тлумачаць прычыну такой кампазіцыі: У. Караткевічу трэба было падкрэсліць невыпадковасць месца нараджэння Р. Шырмы: *Што здзіўляцца, што й людзі тут спявучыя. Што здзіўляцца, што 80 гадоў таму назад…*

Тры кароткія абзацы наступнай макраструктуры, утвораныя пераважна намінатыўнымі сказамі, знаёмяць рэцыпіента з разнастайнасцю заняткаў знакамітага творцы. Аднак трэці абзац – адзін сказ! – спалучае ў сабе экспліцытную і імпліцытную (фактуальную і вобразную) інфармацыю: *Выдавец шматлікіх, ім жа сабраных*

*збораў песень, дзе кожная* – ***непаўторны дыямент***. Інтэгральнай прыкметай пры стварэнні эпітэта служыць ‘адзінкавасць’, а пры стварэнні субстантыўнай метафары – ‘прыгажосць’. Аднясенне ж гэтых прыкмет да Р. Шырмы найперш сведчыць пра сапраўдную выключнасць падобных асоб, якіх трэба берагчы і шанаваць, пра шматлікія грані (дыямент – ‘агранены алмаз’) іх таленту.

Паступова празапапея ад генітыўнай метафары ‘лёс песні’ з пачатку тэксту падхопліваецца вербальнай: *Усё жыццё сваё ён паклаў на тое, каб* ***жыла***, *каб* ***пераможна звінела песня наша***.

Перадапошняя макраструктура, насычаная субстантыўнымі метафарамі, рыхтуе рэцыпіента да поўнага ўспрымання канцэпту тэксту: *Але перш за ўсё –* ***Яна***. *Першая і апошняя яго* ***любоў***. *Яго* ***мара***, *яго* ***пяшчота***, *ягоная* ***душа***, *гарачае* ***сэрца*** *ягонае.* ***Маці***, *што выхавала яго, і* ***дзіця***, *над якім ён дрыжыць*. Песня набывае кампрэсіўны імпліцыт, з дапамогай якога У. Караткевіч і стварае публіцыстычны вобраз аднаго з самых знакамітых людзей Беларусі: *песня* – яго *любоў*, *мара*, *пяшчота*, *душа*, *сэрца*, *маці* і *дзіця*. Зразумела, што ўсе разам узятыя складнікі-метафары найлепшым чынам характарызуюць Р. Шырму, які не ўяўляў свайго жыцця без песні – самай важнай для яго духоўнай сутнасці.

Арганічна ўключаныя ў межы парцэляваных сказаў метафары *маці* і *дзіця*, аднесеныя да аднаго аб’екта *песня*, дазваляюць адначасова аднесці імпліцытныя семы і да адной асобы: ‘Рыгор Шырма – *маці* песні; песня – *дзіця* Рыгора Шырмы’. У гэтым выпадку будзе дарэчы прывесці цікавую формулу лінгвіста з сусветным імем Г. Вяжбіцкай: «X – маці Y-ка = (a). Адзін час Y быў унутры X-a (б). У той час Y быў як бы часткай X-a; (в) таму з-за гэтага людзі могуць падумаць пра X прыкладна так: “X хоча рабіць добрыя рэчы для Y-ка; X не хоча, каб з Y-ам адбываліся дрэнныя рэчы”» [1, с. 209]. Узаемадзеянне складнікаў асацыятыўнага поля *песня* пераконвае рэцыпіента, што аб’ект даследавання (X) – чалавек, які не можа рабіць чагосьці дрэннага для свайго дзіцяці – *песні*. Адначасова *дзіця*-песня таксама любіць і паважае сваю *маці* (X), але тут ужо выяўляюцца і аўтарскія адносіны да сваёй маці, гонар за яе (гэта неаднойчы зафіксавана ва ўспамінах пра У. Караткевіча). Пісьменнік здолеў, выкарыстаўшы ў адным фрагменце субстантыўныя метафары, стварыць падвойную пазітыўную ацэначнасць моўнага факта – канцэпту тэксту.

Заключная макраструктура пачынаецца сказам: *Дзякуй Вам ад імя беларускай* ***песні***, *якая* ***перамагла***. Вербальная празапапеічная метафара *перамагчы* арганічна звязваецца з вобразам Р. Шырмы, які перамог усе нягоды і выпрабаванні разам з *песняй*. Метафарычныя кантэксты дазваляюць прасачыць лёс песні: цягам доўгіх гадоў была пад забаронай, але жыла; дзякуючы бардам, потым фанатыкам і прапаведнікам – звінела; урэшце – перамагла.

Дэйктычныя сродкі маркіроўкі суб’екта маўлення ў тэксце – 13 займеннікаў *мы* і *наш* – становяцца не столькі фармальным паказчыкам прысутнасці аўтара, колькі адным з дзейсных спосабаў уздзеяння і змянення тэзаўруса рэцыпіента (ён падсвядома задумваецца над тым, ці “заслугоўвае права” ўключыць сябе ў склад *мы* і *наш*), садзейнічаюць стварэнню камунікатыўнага адзінства і “дапамагаюць” трапеічнаму стрыжню ў генерацыі канцэпту тэксту. Гэта ж можна сказаць і пра паняццевыя семы лексемы *песня*, якія прысутнічаюць ва ўсіх 19 абзацах і таксама з’яўляюцца інструментарыем пры стварэнні канцэпту.

Варта звярнуць увагу на інтэртэкстуальнасць разглядана твора, які пачынаецца сказам: *Час бардаў мінуў*. Прэтэкст як наўмыснае ўключэнне ў тканіну твора іншага тэксту выяўляецца ў трэцім абзацы: легенда пра барда-вайдэлота, з якога насміхаліся, не разумеючы яго спеваў, выразна канструюе пазіцыю У. Караткевіча адносна рэальнай магчымасці знікнення народнага меласу без наяўнасці сярод прадстаўнікоў нацыі такіх людзей, як Р. Шырма. Прэтэкставыя канструкцыі далучаюцца да творчага працэсу з мэтай узмацніць арыгінальны аўтарскі матэрыял, павысіць глыбіню і інтэнсіўнасць яго ўздзеяння на свядомасць чытача. Гэтаму ж служыць і спрэчка з невядомым аўтарам выкарыстанага ў тэксце верша, і канстатацыя таго, што *песня часам можа знікнуць*.

Усе схаваныя сэнсы тэкставай тканіны, суаднесеныя з аўтарам, дазваляюць рэканструяваць частку яго карціны свету, яго кантынуума. Аднак У. Караткевіч, ствараючы публіцыстычныя тэксты пры дапамозе эсэістычнага метаду адлюстравання складаных праблем рэчаіснасці, не можа не праявіцца адкрыта, таму арганічна далучае да аб’ектыўнага апавядання згадкі пра сваё першае знаёмства з Р. Шырмам, пра знешнасць Майстра, пра выкарыстанне гэтай сустрэчы ў час напісання рамана “Каласы пад сярпом тваім”. Эсэізм дазваляе У. Караткевічу без шкоды для ўспрымання тэксту, захоўваючы яго цэласнасць, разбураць усталяваныя жанрава-кампазіцыйныя схемы і юбілейнага артыкула, і партрэтнага нарыса, таму што «“маральная пропаведзь” і “філасофскі трактат”, інтымнае прызнанне і выдуманая сцэнка, мысленчая пабудова і бытавая замалёўка – усё гэта ўваходзіць у магчымасці эсэістычнага жанру, адзіны “абавязак” якога заключаецца ў тым, каб паперамен-

на карыстацца ўсімі гэтымі магчымасцямі, не абсалютызуючы адну з іх» [9, с. 343]. Сапраўды, у прааналізаваным тэксце разнажанравыя элементы маюць глыбока прадуманае аўтарам размяшчэнне і з'яўляюцца арганічнымі часткамі эсэ-партрэта.

Такім чынам, канцэпт *песня*, аднесены да Р. Шырмы, поўнасцю рэалізуе сваё імпліцытнае значэнне на працягу разгортвання дыскурсу. Імпліцытныя семы разгледжанага канцэпту размяшчаюцца не толькі лінейна, характарызуючы сінтагматыку тэксту, але і вертыкальна, выяўляючы парадыгматыку, а таксама ствараючы семантычную кагезію рознамясцовых макраструктур. Канцэпт і існуе ў рэальным часе тэксту "Рыгору Раманавічу Шырме – сардэчныя словы любові", і сягае ў мінуўшчыну і будучыню, нітуючы песенную творчасць продкаў і нашчадкаў. Трапеічныя адзінкі, аднесеныя да канцэпту *песня*, утрымліваюць дадатковыя канатацыйныя семы пазітыўнай ацэнкі, якія выяўляюць адносіны У. Караткевіча да семантычнага суб'екта і перадаюць своеасаблівую псіхаэмацыянальную энергію рэцыпіенту.


**Спіс літаратуры**

1. **Вежбицкая, А.** Язык. Культура. Познание / А. Вежбицкая; пер. с англ. – М. : Русские словари, 1996. – 416 с.
2. **Гальперин, И. Р.** Текст как объект лингвистического исследования / И. Р. Гальперин. – М. : Наука, 1981. – 140 с.
3. **Жаўняровіч, П. П.** Публіцыстыка Уладзіміра Караткевіча / П. П. Жаўняровіч // Беларуская мова і літаратура. – 2005. – № 3. – С. 51 – 53.
4. **Іўчанкаў, В. І.** Дыскурс беларускіх СМІ. Арганізацыя публіцыстычнага тэксту / В. І. Іўчанкаў. – Мінск : БДУ, 2003. – 257 с.
5. **Караткевіч, У.** Рыгору Раманавічу Шырме – сардэчныя словы любові / У. Караткевіч // Зб. тв. : у 8 т. – Мінск : Маст. літ., 1991. – Т. 8, кн. 2. – С. 317 – 320.
6. **Красных, В. В.** От концепта к тексту и обратно (к вопросу о психолингвистике текста) / В. В. Красных // Вестник МГУ. Сер. 9, Филология. – 1998. – № 1. – С. 53 – 70.
7. **Мисонжников, Б. Я.** Феноменология текста (соотношение содержательных и формальных структур печатного издания) / Б. Я. Мисонжников. – СПб. : Изд-во С.-Петерб. ун-та, 2001. – 490 с.
8. **Телия, В. Н.** Экспрессивность как проявление субъективного фактора в языке и ее прагматическая ориентация // Человеческий фактор в языке : языковые механизмы экспрессивности / Ин-т языкознания; отв. ред. В. Н. Телия. – М. : Наука, 1991. – С. 5 – 35.
9. **Эпштейн, М.** Парадоксы новизны : о литературном развитии XIX – XX веков / М. Эпштейн. – М. : Советский писатель, 1988. – 414 с.


*Скарбы мовы*

Ніна ГАЎРОШ

# ЭПІТЭТЫ НА СТАРОНКАХ "НАШАЙ НІВЫ"

*Заканчэнне. Пачатак у № 3.*

Эпітэты – гэта дапасаваныя да назоўнікаў (паяснёных слоў) назоўнікі, простыя прыдаткі. Прыдаткі – з'ява старажытная, пра што сведчаць даследчыкі паэтыкі народнай лірыкі. Так, Ніл Гілевіч, характарызуючы эпітэты-прыдаткі ў беларускіх народных песнях, звяртаў увагу на непаўторную вобразнасць і выразнасць гэтых мастацкіх азначэнняў, на багаты іх змест і падтэкст (Гілевіч Н. Паэтыка беларускай народнай лірыкі. Мінск, 1975, с. 29 – 51).

Прыдатак у адрозненне ад дапасаванага азначэння-прыметніка выражае прымету прадмета праз адносіны да яго прадмета, названага самім прыдаткам. У выніку супастаўляюцца два розныя паводле семантыкі назоўнікі, адзін з якіх выконвае функцыю азначэння (прыдатка), надзяляючы другі своеасаблівай лексіка-семантычнай характарыстыкай. Прыдатак канцэнтруе ў сабе і значэнне прыметы, і яе своеасаблівую характарыстычнасць, што забяспечвае абагульненае і цэласнае ўспрыманне вобраза; фактычна ствараецца новае слова-характарыстыка. Прыдатак амаль немагчыма замяніць азначэннем-прыметнікам: не толькі губляецца сэнсавая і эмацыйная напоўненасць, вобразнасць эпітэта, але і нярэдка разбураецца сам эпітэт – замяняецца лагічным азначэннем; параўнаем: *вецер-**свавольнік*** і *свавольны вецер*; *хорам-**астрог*** і *астрожны хорам. Ды прыціх **свавольнік**-вецер, / Шэпча мне, зьмяніўшы тон* (Якуб Колас. Вецер. 1908. № 9)*. *Славен, грозен і ты* [князь], *і твой хорам-**астрог**…* (Янка Купала. Курган. 1912. № 25). *А асінкі-**пашаптушкі**? Кіўні ёй толькі веткай, а яна, як тая саромлівая панночка, затрасецца ўся і лісточкамі цябе абсыпе* (Ядвігін Ш. Дуб-Дзядуля. 1909. № 20). *Вецер і сьвішчэ, і гне што-раз болей / **Сіротку**-сасонку к зямлі* (Юзя Шчупак. Сасонка. 1909. № 17). *А хто ходзіць полем-**логам**? / Чаго ж ходзяць, што шукаюць / Сярод цьмы-**нягоды**?* (Якуб Колас. Пад новы год. 1941. № 2). *Холадом-**сцюжаю** разам павеяло* (Цішка Гартны. Восень. 1910. № 43). *А люд? Ён сагнуўшыся ходзе / Пад ношкай **знямогі**-пакуты* (Янка Купала. Мой край. 1910. № 44-45).

Асаблівую выразнасць набываюць эпітэты-прыдаткі, калі ў сказе (тэксце) ужываюцца іншыя

* Усе ілюстрацыйныя прыклады падаюцца з арфаграмамі, граматычнымі формамі і пунктаграмамі арыгінала.

вобразныя азначэнні, выражаныя метафарызаванымі прыметнікамі ці дзеепрыметнікамі. У такім выпадку эпітэт-прыдатак падкрэслівае, канцэнтруе ў сабе асноўную думку інфармацыі, робіць акцэнт на аўтарскай характарыстыцы стану чалавека, прадмета, з'явы: *Не ўздыхай, не бядуй, брат, **замучэны** мой! **Думку**-песьню запей, стань **адважнай** ступой* (Янук Купала. Не ўздыхай, не бядуй… 1909. № 24). *Конік **старэнькі** чуць цягне **дрыжачую** / Матку-**карміцельку**, сошку дрэўляную, / Сам-жэ араты ею кіруючы, / Шчыра ўзрыхляе зямельку **жаданую*** (М. Ландыш. Араты. 1914. № 18). ***Думачкі**-думкі, **чорные** думкі / Зважна снуюцца* (К. Буйло. На чужыне. 1910. № 5). *З поўначы **цёмнае**, сівера **дальняго** / **Нудная** восень прыйшла! / С поля убранаго, з луга зялёнаго / Жыцьцё-**красу** прыняла* (Цішка Гартны. Восень. 1910. № 43). *Я хацеў-бы громам-**бурай** / Пранясьціся ў ноч **глухую**, / Ваеваць з жыцьцём **панурым**, / Слаць маланку **залатую*** (Ф. Чарнышэвіч. Жаданьне. 1911. № 50).

У некаторых выпадках замена прыдатка азначэннем-прыметнікам немагчымая: *песня-**гімн**, **песьняр**-салавейка, думкі-**сны**, песьня-**дума**, **маці**-ніва*: *Засьпевай, як птушка, / Песьню-**гімн** вясьне!* (Я. Журба. У маевы дзень. 1913. № 19). ***Песьняр**-салавейка ў простым уборы / Сьвяргатам сваім заліваўся* (Юстына. Здалёку. 1909. № 20). *Век увесь трывожна бьешся / У грудзях, / Ажно кроўю аблієшся / – У думках-**снах*** (К. Буйло. Люлі, люлі. 1912. № 7). *Акалічны народ гусьлі знаў гусьляра; / Песьня-**дума** за сэрцэ хватала* (Янка Купала. Курган. 1912. № 25). *А чароўны спакой / Залегае кругом… / А ў празрыстай вадзе / Ручайкоў і балот / **Байкі**-казкі вядзе* (Цішка Гартны. Начные чары. 1910. № 36). *Дзе ты, дзе ты, краю родны? Край далёкі, **маці**-Ніва!* (Алесь Гарун. Журба. 1912. № 9).

Эпітэт-прыдатак разам з паяснёным словам утварае складанае цэлае, што з'яўляецца не проста лексічным сінтэзам, элементы якога злучаюцца ў якасна новую семантычную адзінку. Гэта слова-сінтагма, кампаненты якой уваходзяць у сінтаксічныя адносіны паясняльнага і паяснёнага. У такой сінтагме трансфармуюцца і прыдатак, і паяснёнае слова. Прыдатак можа знаходзіцца і ў прэпазіцыі, і ў постпазіцыі да паяснёнага слова, адметнай рысай такога эпітэта з'яўляецца граматычна большая самастойнасць і незалежнасць ад паяснёнага назоўніка, чым звычайнага эпітэта-азначэння: *Не чурайся, дзяўчынка-**галубка**, мяне! / Пажалей, прыгалуб **бедака**-сірату / Ажно долю паганую кляў я сваю* (Янук Купала. Да дзяўчынкі. 1909. № 20). *Паляцеў бы ў луг, / Дзе Нёман / Бераг точыць, мые, / Дзе гамоняць з ветрам-**бурай** / Дубы векавые* (Якуб Колас. Хмары. 1910. № 27). *Так зайграем, засьпеваем / Гучна разам, тон у тон, / Каб за рэчкай, за Дунаем / І у гаі, і за гаем / Разыйшоўся гул-**разгон**!* (Піліпоў. Окліч. 1912. № 8). *Здаўна гадаў я… загляНуць пад саламяные стрэхі ў тые куткі-**куточкі**, аб каторых столькі пішуць…* (Ядвігін Ш. Лісты з дарогі. 1910. № 23-24).

Прымета, якая лягла ў аснову эпітэта-прыдатка, можа выяўляцца з яго зместу, з лексічнага значэння слова. У такім выпадку семантычны аб'ём новага вобраза як бы звужаецца – увага чытача скіроўваецца на нейкую пэўную прымету, канцэнтруецца на ёй, а яна можа ўдакладняцца і пашырацца за кошт кантэксту: *думкі-**весялушкі*** (*вясёлыя, радасныя*), *ліст-**бедачок*** (*бедны, адзінокі, апошні*) і інш. *Думкі, думкі-**весялушкі**! Скуль вы ўзяліся, / Што ў душы, як тыя птушкі, / Песьняй азваліся* (Янка Купала. Да сваіх думак. 1914. № 9). *Эх, аджыў ты свой век, / Жоўты ліст-**бедачок**, / А на весну цябе скіне новы лісток* (Якуб Колас. Апошні лісток. 1908. № 18). *Вечарком, скрыпку ўзяўшы, на вуліцы пад хатай пасядзець, сыйграць скокі танцы ды песьні-**весялушкі** розные* (Максім Беларус. Родные карэні. 1913. № 33). *Чыя песня-**скарга** / Ў неба йдзе дакорам, / К месяцу і к сонцу, / І к далёкім зорам* (Якуб Колас. Ворагам. 1914. № 2). *Ці вас песня-**жальба**, / Думкі, ўзгадавала? / Ці людское гора / Ў лесе вас спаткала?* (Якуб Колас. Рана вам журыцца. 1906. № 6).

Сярод эпітэтаў-прыдаткаў асобнае месца займаюць метафарычныя эпітэты. Пісьменнік персаніфікуе паяснёны назоўнік, адухаўляе нежывыя прадметы. Натуральна, што і эпітэты-прыдаткі пры такіх назоўніках метафарызуюцца. У выніку ствараецца своеасаблівая семантычная двухпланавасць вобраза: *А вецер-**задзіра** гудзе, як шалёны, / І вые над лесам пустым* (Якуб Колас. Увосень. 1908. № 9). *Лес-**ноч** гаманіста, шумліва / З мінуўшчыны казкі складае / І шле іх далёка…* (Янка Купала. Мой край. 1910. № 44-45).

Пісьменнікі шырока карыстаюцца эпітэтамі-прыдаткамі, што ўзнікаюць на аснове аналогіі. Да такіх адносяцца прыдаткі тыпу *маці, матуля, матка*, якія ў спалучэнні з назоўнікам *зямля* (*зямелька*) рэалізуюць сваё пераносна-вобразнае значэнне, напаўняючы яго своеасаблівым зместам і экспрэсіяй. Маці дае жыццё чалавеку. Яна крыніца дабра, шчодрасці, цеплыні. Аналагічна зямля – аснова чалавечага існавання, крыніца жыццёвых і творчых сіл народа: *Далёка ты, мая зямля-**матуля*** (Якуб Колас. Мая зямля. 1914. № 6). ***Матка**-зямелька! Эх, не, дарма ты / Корміш… свой люд* (Якуб Колас. Араты. 1909. № 5). *Ніхай прытуліцца* [беларус] *гарачым сэрцэм да зямелькі-**маткі** роднай і вокам загляне глыбока, глыбока ў жыцьцё* (Змітрок Бядуля. Не адным хлебам… 1913. № 21). *Паслухай шэпты зямлі-**маткі*** (Янук Купала. Песьняру-Беларусу. 1909. № 25).

Аднаслоўны прыдатак не заўсёды дае пісьменніку прастор для індывідуальнай творчасці. Рамкі яго часам бываюць вузкія для выражэння думак,

пачуццяў, асабістых адносін аўтара да той ці іншай з'явы (прадмета). Выяўленча-вобразныя магчымасці прыдаткаў-эпітэтаў залежаць непасрэдна ад кантэксту, ад творчай манеры пісьменніка. Невыпадкова мастакі слова нярэдка пашыраюць змест эпітэтаў-прыдаткаў увядзеннем эпітэтаў-азначэнняў, выражаных прыметнікамі ці дзеепрыметнікамі, якія або ўносяць у змест сінтагмы дадатковую інфармацыю, або паглыбляюць, пашыраюць змест эпітэта-прыдатка, дэталізуюць, канкрэтызуюць яго, робяць эмацыянальна больш насычаным: *Тры зоркі мігам апалі на зямлю! Чые яны? Ці* ***беднаго*** *мужыка-****працаўніка****, ці пана вяльможнаго?* (Цішка Гартны. На ўсходзе сонца. 1909. № 23). *Ты зжылося з намі, бацькоўскае слоўцэ, / Як-бы корань з дрэвам, як-бы з небам сонцэ; / Дзеліш з намі вечна ўсё, што з намі ходзе, / У* ***благой і добрай мачысе****-прыгодзе* (Янка Купала. Роднае слова. 1910. № 51). *Ой, дарога-****сцежка****, /* ***Вуская****,* ***крывая****!* (Якуб Колас. Дарога. 1906. № 4).

Паказальныя ў такім плане паэтычныя творы Якуба Коласа, змешчаныя на старонках штотыднёвіка: *Сам лес таемна шапацеў* ***чуллівымі*** *лісточкамі-****струнамі*** (Што яны страцілі). *А як хороша сьцеле бляск вадзе /* ***Неразгаданы*** *месяц-****вандроўнік*** (Дуб).

Узорам дакладнасці, трапнасці, ёмістасці ацэнкі-характарыстыкі выступаюць эпітэты-прыдаткі ў Купалавым вершаваным радку паэмы "Курган": *На вяселле-****разгул*** *наплыло, як на сход*; *На калені ляглі гуслі-****баі***; *Песьня-****дума*** *за сэрца хапала*; *Вакол гэтай думы дудара-****званара*** */ Казак дзіўных злажылась нямала*; *Загадаў ён* [князь] *пазваць гусляра-****старыну***; *Ажно трэцяга дня князь прыдумаў адну / Для дружыны пацеху-****забаву***; *Ты збялеў, ты дрыжыш, слаўны княжа-****ўладар*** (Янка Купала. Курган. 1912. № 25).

Паводле семантычнай злітнасці з паяснёным словам вылучаюцца агульнамоўныя (агульнапаэтычныя), індывідуальна-аўтарскія (аказіянальныя, рэдкасныя) і народна-паэтычныя (сталыя, традыцыйныя) эпітэты. Найбольш пашыраны ў мастацкіх тэкстах "Нашай Нівы" агульнапаэтычныя эпітэты, характэрная прымета якіх – адносна ўстойлівая сувязь з паяснёным словам, узнаўляльнасць, частая ўжывальнасць у мове. Гэта словы з прамым і пераносным значэннем, стылістычна афарбаваныя і нейтральныя. Сэнсавая напоўненасць такіх вобразных азначэнняў у пераважнай большасці забяспечваецца семантыкай паяснёнага слова, яго своеасаблівай сэнсавай напоўненасцю, а таксама значэннем прыметнікаў-эпітэтаў: *Як жылося лёгка з думкамі / У дні* ***шэрые****,* ***пастылые****! / И мяне не раз вы цешылі / У ночку* ***цёмную****,* ***бессонную****, / Хоць на момэнт засланили вы / Ад вачэй нуду* ***бездонную*** (Якуб Колас. Моладасць. 1906. № 6). *И* ***непрыглядную*** *хату с пажыткамі, / И поле* ***скупое****, выган без пашы / Мы, апрануўшыся* ***старыми*** *сьвиткамі, / Любим и цэним – бо яны нашы* (Янка Лучына. Роднай старонцы. 1907. № 17). *И чаго ж, непагода* ***сьлязьливая****, / Непрасьветна висиш над зямлёй?* (Янук Купала. Непагода. 1907. № 26). *Думка сэрцу аб вясне /* ***Здрадны*** *голас падае* (Янук Купала. Адцвітаньне. 1909. № 44). ***Востры*** *холад* ***пустых і жудасных*** *верхавін* ***дзікіх*** *гораў моцна сьціскаў Хмарку* (Тарас Гушча. Казкі жыцьця. 1914. № 24). *Розум сціскае адна* ***незгаданая хворая*** *думка* (Фабіян Шантар. Ноч. 1910. № 2). ***Мягкі*** *сьнег лажыцца пухам / І канца яму німа, / І нясе* ***сярдзітым*** *духам /* ***Дзікім*** *сіверам зіма* (Якуб Колас. Зіма. 1910. № 5). *І клічэ* [сонца] *к жыцьцю ўсё стварэньне / С сваёй* ***крыштальнай*** *вышыны / І будзіць клік той аддаленьне / Прызывам* ***радасным*** *вясны* (Якуб Колас. Вясной. 1910. № 15). *Хацеў* [Палуян] *будаваць* ***новую****,* ***багатую і слаўную*** *гісторыю бацькоўшчыны сваёй* (В. Л. Памяці Сергея Полуяна. 1910. № 18). *Мінулася* ***грозная*** *бура… Ў* ***бязмежным свінцовым*** *абшары ўздымаюцца дзе-не-дзе хвалі* (Максім Богдановіч. Над морэм. 1910. № 42). *Весяліць весна* ***сьвятая*** */ Ўсё стварэньне на зямле* (Ільля Дзежко. Весна. 1911. № 13).

Выразныя мастацкія азначэнні, якія спалучаюцца з адцягненымі назоўнікамі. Метафарычныя эпітэты, што характарызуюць назоўнікі з адцягненым значэннем, маюць сваю спецыфіку: іх пераносна-вобразнае значэнне развіваецца ў выніку змен лексічных сувязей, якія выходзяць за межы семантычнай катэгорыі канкрэтнасці. Такія эпітэты пераважна характарызуюць метафарызаваныя назоўнікі, у якіх выяўляецца асабістае ўспрыманне аўтарам навакольнага жыцця. Метафара – абстрактны назоўнік – заўсёды складаны вобраз з багатым і значным падтэкстам, адпаведна і эпітэты да яго семантычна ёмістыя, змястоўныя: *Не пагасиць вам праўды* ***яснай****: / Жыў беларус – и будзе жыць!* (Янук Купала. Ворагам Беларушчыны. 1908. № 12). *Дамагацца мусяць людзи / Праўды* ***чыстай*** *и* ***сьвятой*** (Альбэрт Пав-ч. Мары. 1907. № 36). *Вы,* ***злые*** *туманы, вы, хмары без жалю, / Закрыли, забрали мне ўсё…* (Янук Купала. Развейся туман… 1908. № 15). *Не змаўкае сьмех* ***глухі і дзікі*** (Максім Б-віч. На чужыне. 1909. № 43). *З вялікай журбою і з болем сардэчным / Хачу сваю жальбу спісаць / з душы* ***набалелай****, з душы* ***адзінокай****, – / Ўжо годзі сном* ***мёртвым*** *нам спаць* (Я. Журба. За айчызну. 1913. № 9). *Я бачыў бяздушные харомы с* ***шалёнай*** *роскашшу і побач сырые скляпы са* ***страшэннай*** *беднасцю і горам* (Сцепан Зенчэнко. Да роднай Беларусі. 1913. № 412). *Горда* [бор] *над нивай высицца соннай, / З небам вядзе* ***патайны*** *разгавор* (Янук Купала. Бор. 1908. № 20).

Вобразнасць, сэнсавая напоўненасць метафарычных эпітэтаў яскрава выступае, калі ў кантэксце яны ўжываюцца разам з іншымі агульнапаэтычнымі мастацкімі азначэннямі: *Як жылося*

*лёгка з думкамі / У дні* ***шэрые, пастылые!*** */ И мяне не раз вы цешыли / Ў ночку цёмную,* ***безсонную****, / Хоць на момэнт засланили вы / Ад вачэй нуду* ***бездонную*** (Якуб Колас. Моладасць. 1906. № 6). *З гора сьпеваючы песьню* ***маркотную****, / Лейцы ў руках мазалістых трымаючы, / Ціха ідзе ён за сошкай сагнуўшыся* (М. Ландыш. Араты. 1914. № 18). *Месяц бледны глядзіць на* ***нямую*** *лагчыну* (Ясакар. Сэрцэ прарочэ. 1914. № 20). *Выгодавала яго* [Палуяна] *земля Пінская –* ***сумная****, як доля вечна адзінокага чэлавека,* ***пустынная і пекная*** *пакрасай* ***безканечнай*** *маркотнасьці* (В. Л. Памяці Сергея Полуяна. 1910. № 18). ***Вольным*** *гоманам хвоек высокіх, / Туманамі* ***санлівых*** *нізін, / Казкай векаў блізкіх і далёкіх / Клічэм, сонцэ, цябе* (Янка Купала. Песьня сонцу. 1910. № 27). *Люблю ў пагодную я ночку… / На месяц* ***залаты*** *глядзець* (Констанція Буйло. Я люблю. 1911. № 24).

Агульнамоўныя (агульнапаэтычныя) эпітэты найчасцей – гэта метафарызаваныя прыметнікі, пераносна-вобразнае ўжыванне якіх выклікана метафарычнасцю паяснёнага слова: *Эх, ты, разводзейка! Эх, ты,* ***будлівая!*** */ Ты аднаўляеш, купаеш зямлю: / Вынясі-ж, вынясі хваляй* ***жычліваю*** */ К лепшаму шчасьцю людзкую сямью* (Янук Купала. Паводка. 1909. № 15). *Ой, ты, вецер* ***непрытульны****, / Родны брат мой ў доли* (Якуб Колас. Вецер. 1908. № 9). *Вам страшна нашай* ***сьлёзнай*** *песьни, / И скарги страшна вам* ***глухой?*** (Янук Купала. Ворагам Беларушчыны. 1908. № 12). *Плачэ каласок / Плачэ, што нема с кім / Думку раздзеліць, /* ***Нудную*** *галоўку / Ціхо прыхіліць* (Якуб Колас. Ржаны колас. 1909. № 34). *Аж бачу – мне* ***сіняй*** *галоўкай ківае / Наш* ***родны, забыты*** *ў ценю васілёк* (Максім Б-віч. На чужыне. 1909. № 43).

Вобразнасць агульнамоўных эпітэтаў у значнай ступені забяспечвае іх ампліфікацыя. Побач ці ў адным кантэксце (сказе, страфе) ужываецца некалькі розных паводле сэнсавай напоўненасці і эмацыйнай патэнцыі эпітэтаў: *Ноч* ***беспрасьветная, страшная, сумная*** */ Цяжка на землю сырую легла* (Альберт Паўловіч. Ноч на Івана Купалы. 1910. № 26). *Чуецца ў вышы нечый* ***жаласьлівы, працяжны*** *крык: гэта лятуць жураўлі ў вырай* (А. Гурло. Восень. 1910. № 38). *Ешчэ минута, другая – упаўшы на калени пад панским палацам бедак забудзецца пра свае муки ў* ***вяликим непрабудным, вечным*** *сне* (Пиотра Просты. Слёзы. 1907. № 4). *Циха месяц* ***адзиноки*** */ Ходзиць ў небе над зямлёю. /* ***Неразгаданы, далёки*** (Якуб Колас. Месяц. 1907. № 14). *Сьвет* ***шыроки****, сьвет* ***свабодны****, / Тольки нам дарог нима* (Якуб Колас. Згнаннику. 1907. № 29). *Нейкая радасць і лёгкасць напоўніла маё сэрцэ, і, абярнуўшы вочы на ўсход, заспеваў я разам з усім жывым* ***сьвятую, дзіўную, шчырую*** *песьню ўзышоўнаму сонцу* (Цішка Гартны. На ўсходзе сонца. 1909. № 23). *Гэй, вецер* ***разгульны!*** *Ты –* ***вечны, дарожны*** */* ***Асуджэны богам, людзьмі закляты****. /* ***Заўсёды маркотны, заўсёды трывожны****, / Спакою ніколі не ведаеш ты* (Якуб Колас. Вецер. 1914. № 50). *Для* ***вольнай, шырокай*** *душы трэба было прастору, шыры…* (В. Л. Памяці Сергея Полуяна. 1910. № 18). *Восень* ***халодная, чорная, хмурая****, / Сунецца ціха, нячутна што дзень…* (Алесь Гарун. Восень. 1911. № 37-38). *Адно твой* [Беларусь] *народ /* ***Цёмны, замучэны****, / З долей, волею / Век разлучэны* (Цішка Гартны. Бяздольны. 1909. № 2). *Пасьледки сьвету сонца… абняли Яго* [чалавека] *хвигуру* ***высокую*** *и* ***тонкую, згибленую пад ацягаючым плечы*** *пакункам* (Элиза Ожэшкова. Гэдали. 1907. № 11).

Індывідуальна-аўтарскія (аказіянальныя) эпітэты вызначаюцца арыгінальнасцю, самабытнасцю аўтарскага ўжывання. Яны ў значнай ступені суб'ектыўныя, бо не толькі адлюстроўваюць светапогляд пісьменніка, але і перадаюць яго настрой, душэўны стан. Ступень устойлівасці сувязі паміж кампанентамі такога атрыбутыўнага словазлучэння нязначная. Умовай узнікнення індывідуальна-аўтарскіх эпітэтаў служыць незвычайнасць, нестандартнасць спалучэння слоў, якая адлюстроўвае своеасаблівасць аўтарскіх асацыяцый, непаўторнасць бачання свету, успрымання прадметаў і з'яў рэчаіснасці мастаком слова: *І твае бязлюдные балоты здаваліся мне мілей за* ***вырайную (тропікаву)*** *зелень каўказкіх далін* (Сцепан Зенчэнко. Да роднай Беларусі. 1913. № 42). *Гэй, вы ўсе, каго зваць Беларусам / Не чурайцеся мовы* ***айчыстай****, / Не зракайцесь яе пад прымусам: / Ваша моц у гэтай мове* ***вячыстай*** (Алесь Гарун. Гэй, вы ўсе, каго зваць Беларусам. 1910. № 47). *Ужо з сваім* ***аклічным*** *словам / Прарок далёка быў вядом, / Народу шмат збудзіў к дням новым, / Даў славу братнюю братом* (Янка Купала. Прарок. 1912. № 51-52).

На старонках "Нашай Нівы" нямала Купалавых эпітэтаў-наватвораў, якія надаюць арыгінальнасць і непаўторнасць стылю паэта. Нагадаем радкі з паэмы "Курган" (1912. № 25): ***Скурганіў*** *бы душу чырванцом тваім я. Скурганіць душу* – зрабіць нячулым, глухім да гора і бяды таго, каму служыць "роўная сонцу і арлам" песня гусляра. Ад дзеяслова *скурганіць* паэт утварае дзеепрыметнік *скурганены* 'змярцвелы, нежывы, нячулы, абыякавы' – непаўторны эпітэт-азначэнне да назоўніка *сэрца*: *Песьня мая не шукае прывету, / Ласкі ў* ***скурганеным*** *сэрцы чыім* (Песьня мая). Пра незвычайную здольнасць паэта чуць, адчуваць і разумець роднае беларускае слова сведчаць такія аўтарскія эпітэты, як ***невыдумная*** *світка,* ***задумныя*** *вочы,* ***непанятліваe*** *слова,* ***абнядолены*** *народ,* ***нядольныя*** *думкі,* ***святлянае*** *святло,* ***скочная*** *музыка,* ***ніўныя*** *сялібы,* ***жаласняная*** *песня,* ***шумнацечная*** *рака.* Большасць такіх індывідуальна-аўтарскіх эпітэтаў ужыты ў паэме "Курган".

Як ужо адзначалася, нашаніўскі перыяд быў перыядам фарміравання беларускай літаратурнай мовы, якая складвалася на аснове жывой народнай гаворкі. Беларускія пісьменнікі-нашаніўцы ў значнай ступені адлюстравалі асаблівасці дыялектнай мовы. Але не толькі. Фальклорныя творы сталі той гаючай крыніцай, якая жывіла слоўнае мастацтва Беларусі пачатку XX ст. Народна-паэтычныя эпітэты прыйшлі праз творы пісьменнікаў-нашаніўцаў у літаратурную мову з беларускіх фальклорных жанраў – з песень, прыпевак, казак, прыказак. Яны спалучыліся з пэўнымі словамі даўно і на працягу стагоддзяў пераходзяць з твора ў твор як гатовыя паэтычныя формулы, амаль не абнаўляючы свайго вобразнага значэння. Невыпадкова даследчыкі называюць іх сталымі, традыцыйнымі. Значная частка такіх эпітэтаў засведчана на старонках газеты. Найбольш часта сталыя эпітэты сустракаюцца ў паэтычных творах, аўтары якіх свядома арыентуюцца на фальклор, выкарыстоўваюць вобразы і багацце паэтычнай мовы вуснай народнай творчасці: *О наш* ***чысты****, наш* ***свабодны*** */ Нёман,* ***быстрая*** *рэка* (Якуб Колас. Нёман. 1906. № 1). ***Родную*** *песьню дзе ціха сьпевае / Сын Беларусі – мужык* (Якуб Колас. С песень вастрожніка. 1909. № 5). *Вее вецер* ***вольны*** (Алесь Гарун. Вецер. 1910. № 23-24). *Ой панёсся-б з вамі, хмары, я ў той лес* ***цяністы*** (Якуб Колас. Хмары. 1910. № 27). *Цэлы гай* ***старасьвецкіх*** *дубоў раскінуўся на берэзі Нёмана* (Тарас Гушча. Родные зьявы. 1912. № 32). *Прайшлі дзянькі* ***залатые*** (Піліпоў. Восеньню над магілай. 1910. № 35). *На кургане, на* ***адвечным****, / Пад асінай* ***векавой****, / Сеў дудар…* (Янка Купала. Дудар. 1910. № 40). *Часта заплачэ / Мужык араты дзеля* ***злой*** *доли, / Цяжка працуючы* (Янка Лучына. Роднай старонцы. 1907. № 17). *Душы* ***сильные*** */ Абязсилели, / Сэрцы* ***добрые*** */ Азвярэлися* (Янук Купала. Чаго носяцца… 1908. № 1). ***Чорные*** *думы заснуць не даюць* (Янук Купала. Хмары и думы. 1908. № 16). *Плачэ-галосе ў коміне вецер* ***глухі*** (Янук Купала. Вучыцелям людзкім. 1909. № 8). *Іх* ***убогая*** *зямліца / Родзіць хлеб гады ў рады* (Язэп Мурашка. Родны край. 1909. № 12). *Сонейка схавала ў лесе* ***ясны*** *вочы* (Андрэй Зязюля. Песьня дзеўчаці. 1909. № 40). *Ня ўмёр і ня ўмрэць наш дух /* ***вольны****,* ***бадзёры****; / Аб* ***ясных*** *днях будзем сьпеваць!* (Я. Журба. За айчызну. 1913. № 9). *Зоры мае* ***сьветлые****, / Вы развейце жаль, / Думку маю* ***вольную*** */ Панясіце ў даль* (Я. Журба. Зоры мае сьветлые. 1914. № 8). *Дажывае* ***стара*** *маці, / Сіроцінаю у хаці, / У* ***соннай*** *волі, ў* ***чорнай*** *долі* (Янка Купала. Адступнік. 1914. № 18). *Заглянь у сэрца: там цякуць сьлёзы* ***крывавые*** (Фабіян Шантар. Ноч. 1910. № 2). *У сэрцэ* ***балючае****, у душу* ***сіротную*** */ Многа ліеш ты* [восень] *нуды* (Цішка Гартны. Восень. 1910. № 43).

Народна-паэтычныя эпітэты дапамагаюць пісьменнікам паказаць цяжкае становішча беларуса-селяніна, яго невыносную горкую долю, што пацвярджае даволі шырокі дыяпазон спалучальнасці эпітэта ***горкі*** (***гаручы***) з паяснёнымі словамі: ***горкі*** *лёс, пот, сьмех, плач*; ***горкая*** *доля, песьня, сьлязіна, атрута, бядота, крыўда, часіна*; *гора* ***гаручае***; ***горкіе*** *сьлёзы, думы*; ***гаручае*** *гора*: *Рэха-ж ўсё сьпевала* ***горкі*** *лёс дзявочы* (Андрэй Зязюля. Песьня дзеўчаці. 1909. № 40). *Хай* ***горкие*** *слёзы, што ў спеки, ў марозы / Лиюцца на беднай зямли, / Дадуць табе, браце, сил горэ змагци* (Янка Купала. За праўду, за шчасьце. 1908. № 4). ***Горки*** *пот заливае яму вочы* (Дзядзька Карусь. Паўлюковы думки. 1907. № 21). *Нядоля пакрыла мяне сваей* ***горкай*** *атрутай, горэ заваражыло душу маю* (Зьмітрок Бядуля. Міньятуры. 1912. № 35). *Бачыш слёзы ты люцкие, / Як з расою яны льюцца, / Як у тумане думки злые /* ***Горким*** *плачэм панясуцца* (Якуб Колас. Месяц. 1907. № 14). *Выйшаў Васіль ад пана з* ***горкай*** *крыўдай у сэрцы* (Лесавік. Васіль Чурыла. 1907. № 35). *Многа абудзіш ты гора* ***гаручаго****, смуціш душу ты маю* (Якуб Колас. Песьня. 1912. № 3).

Вобразнасць азначэнняў-эпітэтаў, як правіла, выяўляе кантэкст. Менавіта кантэкст акрэслівае стылістычную функцыю эпітэта, вызначае яго месца ў мастацкім радку. Спалучаючы ў адным тэксце розныя паводле граматычнага выражэння і функцыянальна-стылістычнага прызначэння эпітэты, аўтары публіцыстычных артыкулаў і мастацкіх твораў даюць яркае і дакладнае апісанне прыроды, навакольнага асяроддзя, чалавека, яго сацыяльнага становішча і душэўнага стану: *На дварэ стаяла* ***пекная****,* ***чароўная*** *ноч! Неба* ***цемнавата-сіняе****,* ***глыбокае без меры****,* ***доўгае і шырокае без канца****,* ***густа натыканае мігатлівымі****,* ***яснымі зоркамі****, як* ***вялізны дарагі*** *купол, аблегло круг-кругом* ***чорную грэшную*** *зямлю. Зорка падае на зямлю і ліе па дарозе свае* ***шчаслівые агнёвые*** *слёзы. Тры зоркі мігам апалі на зямлю! Чые яны? Ці* ***беднаго*** *мужыка-****працаўніка****, ці пана вяльможнаго? Ты – дзіця люду* ***цёмнаго****,* ***забітаго****,* ***спрацаванаго****, дзеля каторого німа нічога другога, апроч – працы* ***цяжкой****,* ***нязможнай****, якую ён сам апявае ў песьні* ***нуднай****,* ***зложэнай яго балячым сэрцам****,* ***яго клапатлівым мозгам і напісаную чыстаю памяццю на шэра-чорных лістах часу*** (Цішка Гартны. На ўсходзе сонца. 1909. № 23).

Аналіз вобразных азначэнняў-эпітэтаў, зафіксаваных на старонках мастацкіх, публіцыстычных і навукова-папулярных твораў нашаніўцаў, пацвярджае шырокі дыяпазон выкарыстання эпітэтаў як своеасаблівых ацэнак-характарыстык і выяўляе адметнасць беларускага мыслення, у пэўнай меры акрэслівае фарміраванне публіцыстычнага і мастацкага стыляў новай беларускай літаратурнай мовы.

*Малады даследчык прапануе*

# ЛЕКСІКА НАРОДНЫХ ПРОМЫСЛАЎ І РАМЁСТВАЎ

## СТРУКТУРНА-ГЕНЕТЫЧНАЯ І СЛОВАЎТВАРАЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

Лексічная сістэма беларускай мовы прайшла доўгі і складаны эвалюцыйны шлях, што падзяляецца на шэраг гістарычных этапаў, у аснове размежавання якіх знаходзяцца шматлікія лінгвістычныя і экстралінгвістычныя фактары. Перш за ўсё гэта абумоўлена тым, што адзінкі нацыянальнай лексічнай сістэмы, у тым ліку і лексіка народных промыслаў, вельмі розныя паводле часу ўзнікнення і паходжання.

Як вядома, базавы кампанент лексічнай сістэмы беларускай мовы – спрадвечнабеларускія словы, што захаваліся з перыяду агульнаславянскага моўнага адзінства.

Склад спрадвечнабеларускіх лексем дапаўняюць словы ўсходнеславянскага паходжання. Фарміраванне гэтага лексічнага пласта адбывалася пераважна за кошт унутраных рэсурсаў мовы, а таксама ў выніку ўскладнення семантыкі агульнаславянскіх адзінак.

Важны элемент спрадвечнабеларускай лексікі – уласнабеларускія лексемы, якія пачалі ўзнікаць на этапе станаўлення беларускай народнасці, самастойнага функцыянавання беларускай мовы.

Асобную групу складаюць запазычанні (пераважна з суседніх моў), якія прадстаўлены значна меншым аб'ёмам у параўнанні са спрадвечнымі словамі.

**І. *Агульнаславянскія словы*** – найбольш старажытны пласт спрадвечнабеларускай лексікі. Яны функцыянавалі ў мове славян як адзіны моўны рэсурс да VI – VII стст. Гэтыя лексічныя адзінкі ўвайшлі ва ўжытак заходніх, усходніх і паўднёвых славян і выкарыстоўваюцца ў большасці сучасных славянскіх моў. У слоўніку сучаснай беларускай мовы "агульнаславянскія лексемы займаюць прыблізна 2% (каля дзвюх тысяч)" [7, с. 133].

Паводле сваёй структуры агульнаславянскія намінацыі аднакаранёвыя, невытворныя, у пераважнай большасці з нязменным семантычным напаўненнем.

Непасрэдную суаднесенасць з паўсядзённай дзейнасцю чалавека маюць народныя промыслы і рамёствы, зараджэнне якіх адбылося ў глыбокай старажытнасці. Значная частка іх лексічнага складу адносіцца да перыяду агульнаславянскага моўнага адзінства, што пацвярджаецца наяўнасцю такіх лексем у некалькіх або многіх славянскіх мовах розных моўных груп.

**Лексіка рыбалоўнага промыслу** агульнаславянскага паходжання прадстаўлена дзвюма асноўнымі тэматычнымі групамі: "назвы рыб", "прылады для лоўлі рыбы".

У тэматычную групу "назвы рыб" уваходзяць адзінкі, якія ідэнтыфікуюць рыб, распаўсюджаных на тэрыторыі пражывання славян: *вугóр, карáсь, карп, клень, кляпéц, лéскаўка, лешч, лін, падýста, пячкýр, піскýр, сом, уклéйка*.

*Вугор*: рус. *ýгорь*, польск. *węgorz*, каш. *wangorz*, чэш. *úhoř*, славен. *ogór* (ЭСБМ, т. 2, с. 208); *карась*: укр. *карась*, рус. *карась*, чэш. *karas*, балг. *караш*, серб.-харв. *кàрас*, славен. *karas* (ЭСБМ, т. 4, с. 264); *карп*: укр. *карп*, рус. *карп*, чэш. *karp*, славац. *kapor*, польск. *karp* (ЭСБМ, т. 4, с. 278); *лін*, назва адносіцца да праславянскага перыяду: **linъ* і *linjь*, параўн. укр. *лин*, рус. *лин*, польск. *lin*, н.-луж., в.-луж., чэш. *lin*, славац. *lieň*, балг. *лин* (ЭСБМ, т. 5, с. 311); *падуста*: рус. *подуст*, укр. *підуст*, польск. *podusta*, чэш. *podousev*, славац. *podustva* (ЭСБМ, т. 8, с. 114); *сом*: укр., рус. *сом*, польск. *sum*, н.-луж. *som*, чэш., славац. *sumec*, славен. *sóm*, балг., макед. *сом* (ЭСБМ, т. 12, с. 246); *уклейка*: укр. *уклія*, балг. *оклéй*, серб.-харв. *ỳклиjа*, чэш. *úkleje*, славац. *ukleja*, польск. *uklej* (Фасмер-4, с. 156) і інш.

Тэматычнае аб'яднанне "прылады для лоўлі рыбы" ўключае ў свой склад такія лексемы агульнаславянскага паходжання, як *клóмля, мярэ́жа, нéвад, óсці, сак, сéжа*.

*Кломля* 'рыбалоўная прылада з сеткі на жэрдках з калкамі': укр. *климля*, *кломля*, рус. *кломля*, славен. *klônja*, польск. *kłomia*; славац. *kloňa* 'кошык для квактухі' (ЭСБМ, т. 5, с. 64); *мярэжа* 'рыбалоўная снасць з двух сеткавых мяшкоў, нацягнутых на абручы': укр. *мережа*, рус. *мерёжа*, ст.-польск. *mrezeża*, чэш. *mříže*, славац. *mreža*, макед., балг. *мрежа* < прасл. **mergia* (ЭСБМ, т. 7, с. 147); *осці* 'прылада з вострымі жалезнымі прутамі для лоўлі рыбы': рус. *ость*, польск. *ość*, чэш. *ost'*, славен. *ôst* (ЭСБМ, т. 2, с. 200) і інш.

У агульнаславянскай мове-аснове прадстаўлена **пчалярская** народная тэрміналогія і наменклатура, у складзе якой вылучаюцца такія тэматычныя групы, як "назвы пчол і іх аб'яднанняў", "прадукты, вырабленыя пчоламі", "вулей і соты", "прылады працы пчаляра".

Тэматычная група "назвы пчол і іх аб'яднанняў" складаецца з лексем, пашыраных у боль-

шасці славянскіх моў. Да ліку іх адносяцца наступныя словы: *мáтка, пчалá, пóіск, скаль.*

*Матка* ‘самка пчол’: укр. *матка*, рус. *матка*, польск. *matka*, чэш., славац. *matka*, прасл. **matъka* (ЭСБМ, т. 6, с. 255); *пчала* ‘насякомае, якое перапрацоўвае кветкавы нектар на мёд’: укр. *пчола*, *бджола*, рус. *пчела*, польск. *pszczoła*, чэш., славац. *včela*, балг. *пчела*, макед. *пчела*, прасл. **bъčela* (ЭСБМ, т. 10, с. 264); *скаль* ‘атрад пчол, які шукае для рою новае месца жыхарства’: укр. *скаль*, рус. *скалья*, польск. *skal*, н.-луж., дыял. *skal*, прасл. **jьskalь* (ЭСБМ, т. 12, с. 107) і інш.

Сярод выяўленых лексем тэматычнай групы “прадукты, выраблены пчоламі” ёсць наступныя адзінкі агульнаславянскага паходжання: *воск, клей, мёд.*

*Воск* ‘мяккае пластычнае рэчыва, якое выкарыстоўваецца пчоламі для будовы сотаў’: рус. *воск*, укр. *віск*, польск. *wosk*, чэш. і славац. *vosk*, в.-луж., н.-луж. *wosk*, каш. *vosk*, балг. *вóсък*, славен. *vósek* (ЭСБМ, т. 2, с. 198); *мёд* ‘салодкае рэчыва, якое выпрацоўваюць пчолы з нектару’: укр. *мед*, *мід*, рус. *мёд*, польск. *miód*, н.-луж. *mjod*, в.-луж. *měd*, чэш., славац. *med*, макед. *мед*, балг. *мед(ът).* Індаеўрапейскія адпаведнікі – літ. *medùs*, лат. *medus* (ЭСБМ, т. 7, с. 31) і інш.

У тэматычнай групе “вулей і соты” аб’ядноўваюцца назвы, што бытуюць у большасці славянскіх моў: *борць, ляжáк, снет, сóты.*

*Борць* ‘вулей у выглядзе калоды або дупло ў дрэве, дзе жывуць пчолы’: рус. *борть*, укр. *борть*, польск. *barć*, чэш. *brť* (ЭСБМ, т. 1, с. 372); *ляжак* ‘ляжачы вулей’: укр., рус. *лежак*, польск. *leżak*, в.-луж. *ležak*, чэш. *ležák*, славац. *ležiak*, славен. *ležák*, балг. *лéжак*, *лéжяк* (ЭСБМ, т. 6, с. 115). Шырока выкарыстоўваецца ў мове славян намінацыя *соты* ‘ячэйкі з воску для адкладвання мёду’: укр. *соти*, рус. *сот*, *соты*, серб.-харв. *sât*, славен. *sât*, балг. *sъt*, макед. *сот*, прасл. **sъtъ* (ЭСБМ, т. 12, с. 253) і інш.

Тэматычную групу “прылады працы пчаляра” ўтвараюць такія агульнаславянскія намінацыі інструментаў і дапаможных прыстасаванняў для працы пчаляра, як *астрóва, лáзіва, пéшня.*

*Астрова* ‘пчалярскія лескі, па якіх узлазяць на дрэва’: рус. дыял. *островь*, *островье*, укр. дыял. *острова*, *острів*, *острева*, польск. *ostrew*, *ostrewka*, чэш. *ostrev*, славац. *ostrva* (ЭСБМ, т. 1, с. 184); *лазіва* ‘прыстасаванне з вяровак для ўзнімання на дрэва’ (прасл. **lazivo* / *lezivo*): зах.-укр. *лазиво*, рус. *лезево*, польск. *łaziwo* (> чэш. *lezivo*) (ЭСБМ, т. 5, с. 207) і інш.

**Бандарная** лексіка агульнаславянскага паходжання ўваходзіць у склад дзвюх асноўных тэматычных груп: “бандарныя вырабы і іх састаўныя часткі”, “прылады працы бондара”.

Група “бандарныя вырабы і іх састаўныя часткі” налічвае 10 адзінак. У пераважнай большасці гэта словы, якія актыўна выкарыстоўваюцца ў многіх славянскіх мовах: *абрýч, бóчка, дзяжá, кáдаўб, кáдзь, карыта, карэ́ц, кýбак, паз, утóр.*

Назва *абруч* ‘спецыяльнае кальцо, якое набіваецца на бандарныя вырабы для іх трываласці’ зафіксавана намі як агульнаславянская: укр. *обруч*, ст.-рус. *обручь*, чэш. *obruč*, польск. *obręcz*, славен. *obrôč*, балг. *обръч* (ЭСБМ, т. 1, с. 58); *бочка* ‘драўляная пасудзіна з клёпак для гаспадарчых патрэб’: рус. *бочка*, укр. *бочка*, чэш. *bečka*, *bečva*, польск. *beczka*, серб.-харв. *бäчва*, славен. *bečvá*, *bečká* (ЭСБМ, т. 1, с. 374); *дзяжа* ‘бандарны посуд для кармлення жывёлы і інш.’: рус. *дежа*, укр. *діжа*, польск. *dzieża*, чэш. *díž*, славен. *déža*, прасл. **deža* (ЭСБМ, т. 3, с. 136); *кадзь* ‘бандарная пасудзіна (з клёпак)’: укр. *кадь*, рус. *кадь*, польск. *kadź*, в.-луж. *kadź*, н.-луж. *kaź*, славац. *kiad* (ЭСБМ, т. 4, с. 30); *паз* ‘спецыяльная выемка ў бандарным посудзе, куды ўстаўляецца дно’: рус. *паз*, укр. *паз*, польск. *paz*, чэш. *paz*, славен. *pâz*, праслав. **pazъ* (ЭСБМ, т. 8, с. 117); *утор* ‘нарэзка ў клёпках бочкі, якая трымае дно’: укр. *утори*, балг. *вътор*, славен. *votòr*, чэш. *útor*, славац. *útor*, польск. *wątor* (Фасмер-4, с. 175) і інш.

У тэматычным аб’яднанні “прылады працы бондара” прадстаўлены назвы прылад, якія могуць выкарыстоўвацца і ў іншых дрэваапрацоўчых працэсах: *дóлата, скóбля, свéрдзел.*

*Долата* ‘інструмент для выдзёўбвання дзірак, пазоў у драўніне’: рус. *долотó*, укр. *долотó*, чэш. *dláto*, польск. *dłuto*, балг. *длатó*, прасл. **dolbto* (ЭСБМ, т. 3, с. 141); *скобля* ‘інструмент для цясання драўніны’: укр., рус. *скóбель*, польск. *skobla*, чэш. *skoble*, славац. *skobl’a*, балг. *скóбел*, прасл. **skobelь*, **skobla* (ЭСБМ, т. 12, с. 142); *свердзел* ‘прылада для пракручвання адтулін у драўніне’: укр. *свердел*, *свердло*, рус. *свердел*, *сверло*, польск. *świder*, чэш., славац. *svider*, балг. *свърдел*, макед. *сврдел* (ЭСБМ, т. 12, с. 17).

Агульнаславянская лексіка **ганчарнага** рамяства ў выяўленых намі крыніцах прадстаўлена лексемамі *ганчар* і *гліна* і тэматычнай групай “ганчарныя вырабы”.

*Ганчар* ‘майстар, які займаецца вырабам посуду з гліны’: рус. *гончар*, укр. *ганчар*, *гончар*, польск. *garncarz*, чэш. *hrnčiř*, балг. *грънчáр*, серб.-харв. *грнчар* (ЭСБМ, т. 3, с. 49); назва *гліна* ‘прыродная маса, якая выкарыстоўваецца для вытворчасці посуду’ паходзіць ад праславянскага **glina* і адлюстравана ў шэрагу славянскіх моў: рус. *глина*, укр. *глина*, польск. *glina*, чэш. *hlína*,

славац. *hlina*, балг. *глúна*, в.-луж. *hlina*, н.-луж. *glina* (ЭСБМ, т. 3, с. 94).

Тэматычную групу "ганчарныя вырабы" складаюць лексемы *збан, латýшка, макацёр. Збан* 'гліняная пасудзіна пэўнай формы': рус. *жбан*, укр. *збан*, *дзбан*, польск. *dzban*, чэш., славац. *džbán*, балг. *джибáн*, *джубáн* (ЭСБМ, т. 3, с. 313); *латушка* 'глыбокая гліняная міска': рус. пск., смал., калуж. *латушка*, польск. *łatuszka*, *łotuszka*, чэш. *latuška* (ЭСБМ, т. 5, с. 255) і інш.

Да **кавальскай** лексікі агульнаславянскага паходжання адносяцца дзве лексемы: *кавáль* і *кавáць*. Назва *каваль* 'майстар, які апрацоўвае жалеза ў кузні' засведчана ў заходніх і ўсходніх славян: укр. *коваль*, рус. дыял. *коваль*, польск. *kowal*, н.-луж. *kowal*, чэш. дыял. *koval* (ЭСБМ, т. 4, с. 18); *каваць* 'выкоўваць з жалеза розныя прадметы': укр. *ковати*, *кувати*, рус. *ковать*, польск. *kować*, н.-луж. *kowas*, в.-луж. *kować*, чэш. *kovati*, славац. *kovat'*, мак. *ковам* (ЭСБМ, т. 4, с. 17).

Многія з разгледжаных лексем агульнаславянскага паходжання адлюстраваны ў помніках старабеларускай мовы: *бочка* (ГСБМ, т. 2, с. 170), *венгор* (ГСБМ, т. 3, с. 100), *глина* (ГСБМ, т. 6, с. 293), *дзежа* (ГСБМ, т. 8, с. 19), *кадь* (ГСБМ, т. 14, с. 218), *карась* (ГСБМ, т. 14, с. 280), *карп* (ГСБМ, т. 14, с. 290), *кломля* (ГСБМ, т. 15, с. 123), *корыто* (ГСБМ, т. 16, с. 44), *лезиво* (ГСБМ, т. 16, с. 336), *лещ* (ГСБМ, т. 17, с. 25), *лінь* (ГСБМ, т. 17, с. 41), *мрежя* (ГСБМ, т. 18, с. 198), *неводъ* (ГСБМ, т. 20, с. 29), *пешня* (ГСБМ, т. 24, с. 293) і інш.

**II. *Усходнеславянская лексіка*** фактычна папоўніла тэматычныя групы лексічнай сістэмы агульнаславянскага паходжання. Значныя змены ў гэтай сувязі адбыліся і ў складзе лексікі народных промыслаў і рамёстваў, хоць і не ў такім аб'ёме, як у агульнаславянскі перыяд.

Так, група "назвы рыб" папоўнілася лексічнымі адзінкамі *бабы́р, галавéнь, песказýб, налíм, сібéль, маляўка. Бабыр* 'рыба ёрш': укр. *бобирь*, рус. *бобырь* (ЭСБМ, т. 1, с. 259); *песказуб* 'рыба пячкур': укр. *піскозоб*, рус. *пескозоб*, *пискозоб*, ад *пясок* і *забаць* 'кляваць, дзёўбаць' (ЭСБМ, т. 9, с. 104); *сібель* 'рыба сялява': укр. *себель*, рус. *себель*, *сибиль* (ЭСБМ, т. 12, с. 73) і інш.

У групе "прылады для лоўлі рыбы і іх часткі" з'явіліся ўсходнеславянскія назвы *брэ́дзень, кадóл, матня́. Брэдзень* 'від рухомай рыбалоўнай прылады' (ад дзеяслова **bresti* 'ісці'): рус. *бредень*, укр. *бредень* (ЭСБМ, т. 1, с. 394); *матня* 'куль у рыбалоўнай сетцы': укр. *матня*, рус. пск. *мотня* (ЭСБМ, т. 6, с. 257) і інш.

Лічанымі адзінкамі ўсходнеславянскага паходжання папоўніліся: а) **пчалярская лексіка** [*лятóк* 'адтуліна ў вуллі, праз якую вылятаюць пчолы': укр. *льоток*, рус. *леток* (ЭСБМ, т. 6, с. 142)]; б) **бандарская лексіка** [*паставéц* 'драўляны посуд для алею': укр. *поставець*, рус. пск. *поставец* (ЭСБМ, т. 8, с. 192), *перарэ́з* 'драўляны посуд з клёпак у выглядзе бочкі, перарэзаны на дзве часткі': укр. *переріз*, рус. дыял. *перерез* (ЭСБМ, т. 9, с. 75), *рáжка* 'невялікая дзежачка': рус. дыял. *ряжка*, укр. *ряжка* (ЭСБМ, т. 11, с. 35)]; в) **лексіка ганчарства** [*гладыш* 'збанок без вушка': рус. *гладыш*, укр. *гладишка* (ЭСБМ, т. 3, с. 92), *махóтка* 'маленькі гліняны гаршчок': параўн. укр. *махітка*, паўдн.-рус. дыял. *махотка* (ЭСБМ, т. 6, с. 271)].

"Гістарычны слоўнік беларускай мовы" адзначае сярод выяўленых намі ўсходнеславянскіх промыславых слоў толькі 4 адзінкі: *бредникъ* (т. 2, с. 213), *бродень* (т. 2, с. 219), *головень* (т. 7, с. 38), *кодола* (т. 15, с. 172).

*Заканчэнне будзе.*

**Спіс літаратуры**

1. **Анічэнка, У. В.** Уласнабеларуская лексіка / У. В. Анічэнка // Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. – Мінск : Навука і тэхніка, 1970. – С. 52 – 80.
2. **Булыка, А. М.** Даўнія запазычанні беларускай мовы / А. М. Булыка. – Мінск : Навука і тэхніка, 1972.
3. **Булыка, А. М.** Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV – XVIII стст. / А. М. Булыка. – Мінск : Навука і тэхніка, 1980.
4. **Булыка, А. М.** Слоўнік іншамоўных слоў : у 2 т. / А. М. Булыка. – Мінск : БелЭн, 1999.
5. **Емельяновіч, В. М.** Уласнабеларуская лексіка / В. М. Емельяновіч // Беларуская мова : энцыклапедыя. – Мінск : БелЭн, 1994. – С. 573 – 574.
6. **Жураўскі, А. І.** Запазычаная лексіка ў старабеларускай мове / А. І. Жураўскі // Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. – Мінск : Навука і тэхніка, 1970.
7. **Плотнікаў, Б. А.** Лексіка беларускай мовы паводле паходжання / Б. А. Плотнікаў, Л. А. Антанюк // Беларуская мова : лінгвістычны кампендыум / Б. А. Плотнікаў, Л. А. Антанюк. – Мінск : Интерпрессервис, Книжный Дом, 2003. – С. 131 – 136.
8. **Станкевіч, А. А.** Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках / А. А. Станкевіч. – Гомель : ГДУ імя Ф. Скарыны, 1996.

**Скарачэнні**

**ГСБМ** – Гістарычны слоўнік беларускай мовы: вып. 1 – 28. – Мінск: Навука і тэхніка, Беларус. навука, 1982 – 2008; **Фасмер-4** – Этимологический словарь русского языка: в 4 т. – М.: Прогресс, 1986 – 1987. – Т. 4; **ЭСБМ** – Этымалагічны слоўнік беларускай мовы: у 12 т. – Мінск: Навука і тэхніка, Беларус. навука, 1978 – 2008.

**Міхаіл МАКАРЭВІЧ,**
аспірант кафедры беларускага мовазнаўства
Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта
імя І. П. Шамякіна.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук прафесарам М. Прыгодзічам.*

Вольга ГАЛАЙ

# *ГАРБАР, ГРАБАР, ГАНДЛЯР*

## НАЗВЫ АСОБ ПАВОДЛЕ ДЗЕЙНАСЦІ

БАЛЬВАР (дыял.) ‘фельчар’ (Дон.).

**Балберъ, барбиръ, барверъ** ‘цырульнік, лекар’ – польск. *balwierz, barbierz, barwierz* ‘цырульнік, лекар’. У “Старапольскай энцыклапедыі” адзначана, што балверы ў Польшчы, як і ва ўсёй Еўропе, займаліся пусканнем крыві, ставілі банкі і п’явак, перавязвалі раны, лячылі хворых, займаліся галеннем барод. Н.-в.-ням. *Balbier, Barbier* ‘цырульнік’ ад лац. *barba* ‘барада’.

БЕРЭЙТАР ‘аб’ездчык верхавых коней; той, хто вучыць верхавой яздзе’.

**Берейтаръ** ‘аб’ездчык, наезнік’ – н.-в.-ням. *Bereiter* ‘аб’ездчык, наезнік’.

БЛЯХАР ‘майстар, які вырабляе з бляхі; той, хто крые бляхаю дах’.

**Блехаръ** ‘чалавек, які нешта вырабляе з металічных пласцінак’ – польск. *blacharz* ‘бляхар’ – н.-в.-ням. *Blechner* ‘бляхар’.

БРУКАР ‘спецыяліст па ўкладцы бруку’.

**Брукаръ** ‘укладчык бруку’ – польск. *brukarz* ‘брукар’ – н.-в.-ням. *Brücke* ‘брук; мост’.

БРАКАР ‘бракаўшчык’ (Барм., Зас., Зап.), ‘бракароб’ (Тк., Вял.).

**Бракаръ** ‘бракаўшчык’ – польск. *brakarz* ‘бракаўшчык’ – н.-в.-ням. *Bracker* ‘той, хто правярае тавары’.

БУХГАЛТАР ‘спецыяліст па бухгалтарскай справе, які вядзе грашовую і камерцыйную справаздачнасць’ – польск. *buchalter* – н.-в.-ням. *Buchhalter* ‘бухгалтар’.

ВАЛГАР (дыял.) ‘выпрацоўшчык смалы’ (Баб.), ‘сплаўшчык лесу’ (Бяльм.).

**Валгаръ** ‘выпрацоўшчык смалы’ – н.-в.-ням. *Waldharz* ‘лясная смала’.

ГАНДЛЯР ‘1) той, хто займаецца прыватным гандлем, крамнік; 2) перакупшчык; 3) перан. беспрынцыповы чалавек, які гандлюе сваім сумленнем, талентам і пад.’.

**Гандляръ** ‘гандляр; уладальнік крамы’ – польск. *handlarz* ‘гандляр’ – н.-в.-ням. *Händler* ‘гандляр; уладальнік крамы з рознымі таварамі’.

ГАРБАР ‘той, хто займаецца апрацоўкай і вырабам шкур’.

**Кгарбаръ, гарбаръ** ‘той, хто вырабляе шкуры’ – польск. *garbarz* ‘гарбар’ – с.-в.-ням. *gelber*, н.-в.-ням. *Gelber* ‘гарбар’.

ГРАБАР ‘рабочы, які выконвае земляныя работы; землякоп’.

**Грабаръ, кграбаръ** ‘землякоп’ – польск. *grobarz, grubarz* ‘землякоп’ – с.-в.-ням. *grabaere*, н.-в.-ням. *Gräber* ‘землякоп’.

ДРАГЕР, ДРАГІЛЬ, ДРАГОЛЬ (дыял.) ‘возчык (але не людзей), грузчык’ (Баб., Тк.), ‘уст. насільшчык’ (Мел., Мядзв., Там.), ‘коўдра для накрыцця вазоў, коней’ (Задвар.).

**Драгиль, драголь, дряголь** ‘насільшчык, грузчык’ – н.-ням. *drager* ‘насільшчык’.

ДРУКАР ‘работнік друкарскай справы; паліграфіст’.

**Друкаръ** ‘друкар’ – польск. *druckarz* ‘друкар’ – н.-в.-ням. *Drucker* ‘друкар; набойшчык’.

ЕГЕР ‘паляўнічы-прафесіянал, які вядзе нагляд за дзікімі жывёламі, арганізуе паляванне, вучыць паляўнічых і інш.; работнік лясной аховы ў запаведніках’.

**Егеръ** ‘паляўнічы; стралок’ – н.-в.-ням. *Jäger* ‘паляўнічы; стралок’.

ЗЭГАРМІСТР (дыял.) ‘майстар гадзіннікаў’ (Агародн., Баб., Б. Ляс., Дон., Кр., Мелях.).

**Зекгармистръ, загармистръ, зегармистръ, зикгамистръ** ‘майстар гадзіннікаў’ – польск. *zegarmistrz* ‘майстар гадзіннікаў’ – с.-в.-ням. *seiger* ‘гадзіннік’ + *meister* ‘майстар’.

КАХЛЯР (дыял.) ‘плітачнік’ (Зап., Тк.), ‘чалавек, які будуе печ з кафлі’ (Агародн., Шут.). Слова *кахляр* – вытворнае ад *кафля, кахля* (польск. *kachel* – н.-в.-ням. *Kachel*) ‘выраб для абліцоўкі сцен і печаў у выглядзе пліткі’ пры дапамозе суфікса *-ар*. Адносна паходжання суфікса *-аръ* існуе думка, што ён быў запазычаны з лацінскай мовы (*-arius*) яшчэ ў агульнаславянскую эпоху і захаваўся ва ўсіх славянскіх мовах. На беларускай глебе агульнаславянскі суфікс *-arjo* змяніўся на *-ар*, дзе пад уплывам фанетычных прычын адбылося зацвярдзенне [р].

КРАМАР (дыял.) ‘крамнік’.

*На старонках “Роднага слова” ў 1996 – 2000 гг. друкаваліся матэрыялы **Вольгі Галай**, прысвечаныя агульнай для беларускай і нямецкай моў лексіцы. Разгледжаны назвы тканін і ткацкіх вырабаў (1996, № 6), назвы посуду (1996, № 11), назвы будынкаў, жылых і гаспадарчых частак дома (1997, № 5), назвы прылад і прыстасаванняў (1998, № 12), назвы збруі, павозак, найменні прадметаў культурнага ўжытку (1999, № 4), назвы ўпрыгожанняў і аздоб (2000, № 6). Назвы прадметаў размяшчаюцца ў алфавітным парадку. Спачатку падаецца сучасная літаратурная або дыялектная форма, потым – тая форма, у якой гэтае слова выяўлена ў помніках беларускай пісьменнасці XV – XVII стст., пасля – роднасныя словы з нямецкай і іншых моў.*

**Крамаръ, крамеръ** ‘гандляр; уладальнік крамы’ – польск. *kramarz* ‘уладальнік крамы’ – н.-в.-ням. *Krämer* ‘гандляр’.

КУХАР ‘той, хто гатуе стравы; повар’.

**Кухаръ** ‘кухар’ – польск. *kucharz* ‘повар’ – чэшск. *kucharz* ‘кухня, страва’ – н.-в.-ням. *Küche* ‘кухня (памяшканне); страва’.

КУШНЕР ‘спецыяліст па вырабе футра’.

**Кушнеръ** ‘кушнер’ – польск. *kusznierz* ‘кушнер’ – с.-в.-ням. *kürsner* – н.-в.-ням. *Kürschner* ‘кушнер’.

МАЛЯР ‘рабочы, які займаецца афарбоўкай будынкаў, унутраных памяшканняў і пад.’, ‘перан. пра дрэннага мастака, жывапісца’.

**Малеръ, маляръ** ‘жывапісец’ – польск. *malarz* ‘жывапісец; маляр’ – н.-в.-ням. *Maler* ‘жывапісец; маляр’.

МАШТАЛЕР (дыял.) ‘чалавек, які даглядае племянную жывёлу’ (Шут.).

**Машталеръ, маштелеръ, маштарелъ** ‘канюшы’ – польск. *masztalerz* ‘канюшы’ – чэшск. *masztal* і *marsztal* ‘стайня’ – н.-в.-ням. *Marstall* ‘стайня для коней, вазоў’.

МУЛЯР ‘1. пячнік; 2. каменшчык, кладчык’.

**Муляръ, мураль, мураръ** ‘спецыяліст па будаванні з каменю, цэглы, гліны, вапны’ – польск. *murarz, mularz* ‘пячнік; каменшчык’ – с.-в.-ням. *mûrer* – н.-в.-ням. *Maurer* ‘каменшчык; штукатур’.

РЫМАР ‘майстар, які займаецца вырабам раменнай вупражы’.

**Римаръ, ремаръ, рымаръ** ‘той, хто вырабляе конскую вупраж’ – польск. *rzymarz* ‘сядляр’ – с.-в.-ням. *riemer* – н.-в.-ням. *Riemer* ‘рымар’.

СЛЕСАР ‘рабочы, спецыяліст па ручной апрацоўцы, зборы і рамонце металічных вырабаў’, *слёсар* (Воўч.), *слосар* (Сцяшк. І).

**Слесаръ, слёсаръ, слосаръ, шлосаръ** ‘слесар’ – н.-в.-ням. *Schlosser* ‘слесар’.

СТАЛЬМАХ ‘вазоўнік, каляснік’, *стольмах* (дыял.) ‘сталяр’ (ММГ II).

**Стельмахъ, стальмахъ, стольмахъ** ‘сталяр, вазоўнік; каляснік’ – польск. *stelmach, stalmach, sztalmach* ‘каляснік’ – н.-в.-ням. *Stellmacher* ‘вазоўнік; каляснік’.

СТРЕХАРЪ (дыял.) ‘цагельнік’ (Кам., Прыб., Там.), *стрыхар* ‘цырульнік’ (Сцяшк. І), ‘той, хто крые будынак’ (Жодз., Задвар., Мел., Тк., Цыг.), *стрыхарка* ‘прылада, якой раўнялі салому, калі крылі будынак’ (Зас., Зал.).

**Стрыхаръ, струхаръ, стрихаръ** – польск. *strycharz* ‘цагельнік’ – с.-в.-ням. *strîcher* – н.-в.-ням. *Streicher* ‘цагельнік’.

ФУРМАН ‘чалавек, які кіруе коньмі ў запрэжанай фурманцы; вазак’.

**Хвурман** (дыял.) ‘удзельнік вяселля, які распараджаецца транспартам: машынай, канём’ (Селяв., Сцяшк. II).



***Вольга Максімаўна Галай*** *– даследчык моў. Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт кафедры нямецкай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Закончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў (1964). Выкладала беларускую і нямецкую мовы ў школах Брэстчыны і Міншчыны. З 1969 г. – у БДУ. Аўтар шматлікіх прац па методыцы выкладання нямецкай мовы.*

**Фурманъ, фороманъ, фурмонъ, хурманъ, хурмонъ** ‘фурман’ – польск. *furman* ‘фурман’ – с.-в.-ням. *vourman* – н.-в.-ням. *Fuhrmann* ‘фурман’.

ШНІЦАР (дыял.) ‘рэзчык дошак у тартаку’ (Баб.), ‘рэзчык па дрэве’ (Мел.).

**Шницаръ, сницаръ** ‘рэзчык’ – польск. *nycer, snycarz* ‘рэзчык; токар’ – н.-в.-ням. *Schnitzer* ‘рэзчык (па дрэве, косці і да т. п.); разец (інструмента)’.

ФІЛІСТЭР ‘чалавек з вузкім, абывацельскім, мяшчанскім кругаглядам і ханжаскімі паводзінамі; абывацель’ – польск. *filister* ‘абывацель, мешчанін’ – н.-в.-ням. *Philister* ‘які належыць да аднаго несеміцкага народа на ўзбярэжжы Палесціны; вузкалобы чалавек, абывацель; уст. (XVI – XVII) праціўнік Божага слова; не студэнт’ з яўр. *Pelistim* ‘перасяленец, імігрант’. (А. Брукнер у “Этымалагічным слоўніку польскай мовы” адзначае, што слова *filister* ‘пагардлівая назва мяшчан’ выйшла з нямецкіх універсітэтаў. Так называлі тых, хто не з’яўляўся студэнтам.)

ЦВІКАР ‘рабочы, які займаецца вырабам цвікоў’.

**Цвекъ, цвехъ, цвяк** ‘цвік’ – польск. *ćwiek* ‘цвік’ – с.-в.-ням. *zwic, zwec* ‘цвік’.

ШВЕЙЦАР ‘вартаўнік каля знадворных дзвярэй у пад’ездах устаноў, рэстаранаў, гасцініц і жылых памяшканняў’ – рус. *швейцар* – н.-в.-ням. *Schweizer* ‘вартаўнік; назіральнік у каталіцкіх цэрквах; член папскай гвардыі’. Дыял. *швайцар* ‘вартаўнік’ (Тк., Лазд.) з польск. *szwajcar* ‘швейцар’.

ШЫНКАР ‘уст. уладальнік шынка або прадавец спіртных напіткаў; асоба, якая займаецца шынкарствам (забароненымі законам вырабам і гандлем спіртных напіткаў)’, дыял. ‘гандляр’ (Задвар., Тк., Зал.).

**Шинкаръ** ‘шынкар’ – польск. *szynkarz* ‘прадавец спіртных напіткаў’ – н.-в.-ням. *Schenk, Schenke* ‘шынок; уладальнік шынка’; *Schank* ‘гандаль спіртнымі напіткамі’.

ШЫНДЭЛЬНІК (дыял.) ‘гантаўшчык’.

**Шиндли** ‘гонты’ – польск. *szyndle* ‘гонты’ – н.-в.-ням. *Schindel* ‘гонты’ – сучаснае дыял. *шындлі* ‘інструмент, пры дапамозе якога выганяюць пазы ў гонтах’ (Тк.).

ШТУКАР ‘артыст, які паказвае фокусы; той, хто вырабляе розныя складаныя мудрагелістыя рэчы; майстар, вынаходнік; выдумшчык, жартаўнік’ – н.-в.-ням. *Stücker* ‘(разм.) майстар, вынаходнік; жартаўнік’.

**Скарачэнні**

лац. – лацінскае, н.-в.-ням. – нававерхненямецкае, н.-ням. – ніжненямецкае, польск. – польскае, рус. – рускае, с.-в.-ням. – сярэдневерхненямецкае, чэшск. – чэшскае;

Агародн. – Агароднікі Лідскага р-на, Б. Ляс. – Белы Лясок Пружанскага р-на, Баб. – Бабінск Іўеўскага р-на, Барм. – Бармуты Бярозаўскага р-на, Бяльм. – Бяльмонты Браслаўскага р-на, Воўч. – Воўчыцы Камянецкага р-на, Вял. – Вялічкі Камянецкага р-на, Дон. – Доневічы Іўеўскага р-на, Жодз. – Жодзішкі Смаргонскага р-на, Задвар. – Задвараны Пружанскага р-на, Зал. – Залужжа Бярозаўскага р-на, Зап. – Запруды Кобрынскага р-на, Зас. – Засімы Пружанскага р-на, Кам. – Камароўка Брэсцкага р-на, Кр. – Краснае Бераставіцкага р-на, Лазд. – Лаздуны Іўеўскага р-на, Мел. – Меляхі Ляхавіцкага р-на, Мелях. – Меляховічы Дзятлаўскага р-на, Мядзв. – Мядзведзічы Ляхавіцкага р-на; Прыб. – Прыбарава Брэсцкага р-на; Селяв. – Селявіны Слонімскага р-на; Там. – Тамашоўка Брэсцкага р-на; Тк. – Ткачы Пружанскага р-на; Цыг. – Цыгань Ляхавіцкага р-на; Шут. – Шутавічы Смаргонскага р-на;

ММГ II – Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. – Мінск, 1974. – Вып. 2; Сцяшк. I – Сцяшковіч Т. Ф. Матэрыялы для слоўніка Гродзенскай вобласці. – Мінск, 1972; Сцяшк. II – Сцяшковіч Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. – Мінск, 1983.

*З гісторыі мовы*

# ТРАНСФАРМАЦЫЯ СТРУКТУРЫ І СЕМАНТЫКІ НАЗОЎНІКА *ДОЛЪ* У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Назоўнік ***долъ*** з праславянскага **odolŭs* як аднесены да непрадуктыўнага скланення з асновай на *ŭ у лінгвістычнай літаратуры не азначаецца. Між тым адвербіялізацыя формаў давальнага склону адзіночнага ліку пераканаўча сведчыць, што ён адносіўся менавіта да згаданага тыпу скланення: *долови* – у рускай мове *долой* (страта білабіяльнага [в] з заменай канцавога [и] паўгалосным [й]), тады як у беларускай мове азначанаму прыслоўю адпавядае варыянт *далоў* (страта галоснага [и] у выніку рэдукцыі, замена зычнага [в] паўгалосным [ў], галоснага [о] у першым складзе гукам [а] ў выніку акання). Аналагічныя змены зазнала форма давальнага склону назоўніка *домъ*: *домови* > *домой* у рускай і *дамоў* у беларускай мове, што, у сваю чаргу, сведчыць пра аднатыповасць скланення адзначаных слоў.

Прыслоўе *далоў* як пазнейшае па паходжанні старабеларускай мове невядома. У працэсе адвербіялізацыі яно замацавалася ў значэнні ‘на зямлю, на падлогу’, а таксама ў складзе фразеалагізмаў *і з капытоў далоў* ‘зваліцца з ног; паваліцца’, *і з плеч далоў* ‘пра завяршэнне якой-небудзь справы, вызваленне ад непрыемных абавязкаў’ (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, т. 2, с. 127; далей ТСБМ). Прыслоўе *долой* як атрыманае ў спадчыну ад старарускай мовы (гл. Словарь русского языка XI – XVII вв., вып. 4, с. 305; далей СРЯ XI – XVII вв.) са значэннем ‘прэч, далоў’, акрамя вышэйадзначанага, ужываецца ў значэнні загаду, патрабавання пайсці прэч. Апрача таго, яно ўваходзіць у склад такіх фразеалагічных адзінак, як *с глаз долой* ‘пра выдаленне, выгнанне каго-небудзь’ і *с плеч* (*или рук*) *долой* ‘пра вызваленне ад якіх-небудзь абавязкаў пасля завяршэння якой-небудзь справы’ (СРЯ, т. 1, с. 574). У прыслоўях *домой*, *дамоў* у адрозненне ад *долой*, *далоў* разыходжання значэнняў не адзначаецца. Яны замацаваліся са значэннямі ‘ў свой дом, сваю кватэру, сваю сям’ю’, ‘на радзіму’ (СРЯ, т. 1, с. 578; ТСБМ, т. 2, с. 131).

У сувязі з адвербіялізацыяй зыходнай формы на *-ови* ў давальным склоне адзіночнага ліку пад уплывам скланення з асновай на *ŏ замацаваўся канчатак *-у*, адзінкавыя выпадкі наяўнасці якога адзначаюцца ў помніках беларускай пісьменнасці: *Михаилъ запретилъ пропастномоу долоу и реч* (Чэцця 1489 г. Рукапіс Бібліятэкі Акадэміі навук УССР; да 415 л.). Аднак пашырэнне новай формы ў асноўным было абумоўлена уніфікацыяй сістэмы склонавых канчаткаў, што, у сваю чаргу, звязана з пераразмеркаваннем назоўнікаў па тыпах скланення на падставе аднолькавасці канчаткаў назоўнага склону адзіночнага ліку і прыналежнасцю да граматычнага роду. У выніку аб’яднання кампанентаў адпаведнага склонава-прыназоўнікавага спалучэння ў сучаснай беларускай мове замацавалася прыслоўе *дадолу* са значэннем ‘далоў, на зямлю’ (ТСБМ, т. 2, с. 115). Выходзіць, што працэс адвербіялізацыі формы давальнага склону назоўніка *дол* працягваўся і пасля азначанай трансфармацыі.

Зыходным значэннем назоўніка *дол*, хутчэй за ўсё, было ‘зямля, прызначаная для падзелаў’. Пад-

ставай для такога меркавання можа паслужыць вытворны ад яго назоўнік *доля* з зыходным значэннем 'надзел, участак зямлі, выдзелены для аднаго землеўласніка'. Адно з уласцівых яму цяпер значэнняў 'лёс чалавека' як другаснае – вынік пераноснага словаўжывання.

Па помніках пераважна дзелавой беларускай пісьменнасці назоўнік *долъ I* адзначаецца з канца XV ст. Са значэннем 'зямля, зямная паверхня' ён вядомы таксама сучаснай беларускай мове. Аднак паводле дадзеных "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы" (вып. 8, с. 265 – 268; далей ГСБМ) самым пашыраным значэннем яго было 'ніз, ніжняя частка чаго-небудзь', у тым ліку і 'ніжняя частка будынка, склеп'. Зноў-такі ў працэсе адвербіялізацыі на аснове розных склонава-прыназоўнікавых спалучэнняў са значэннем месца развіліся фразеалагізмы *зъ долу* 'знізу', *на долъ* 'уніз' (у тым ліку 'ўніз па цячэнні'), *к долу* 'данізу'. З цягам часу пералічаныя фразеалагізмы выйшлі з ужывання, замяніўшыся адзначанымі прыслоўямі месца як больш адпаведнымі патрабаванням граматычнага ладу мовы пры выражэнні ўласцівых ім значэнняў, што характэрна для сучаснай рускай мовы.

На аснове значэння 'яма' склаўся фразеалагізм *сходящий в долъ* 'той, хто памірае', а фразеалагізм *скидати на долъ* ужываўся са значэннем 'звяргаць, скідаць, нішчыць' і таксама з цягам часу выйшаў з ужывання. Акрамя разгледжаных, назоўніку *долъ* былі ўласцівы значэнні 'даліна, нізіна', 'яма', 'дно, прорва', 'пекла, царства мёртвых, той свет', апошняе пры пераносным словаўжыванні. На жаль, у згаданым слоўніку не адзначаецца такое ўласцівае сучаснай літаратурнай мове значэнне, як 'магільная яма', якое, магчыма, было атрымана ў спадчыну ад старабеларускай мовы: **Ѹмерла девора мамка ревечина, погребена есть на долѣ веѳиль под дубомъ** (Біблейскія кнігі пачатку XVII ст. Рукапіс Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына, f. 1.2). Дарэчы, менавіта ў гэтым значэнні назоўнік *дол* захаваўся ў народных гаворках паўночна-заходняй дыялектнай зоны. Больш кампактна ён адзначаецца на Гродзеншчыне (гл.: Лексічны атлас беларускіх народных гаворак, т. 3, карта 291). На гэтай падставе можна меркаваць, што ён, як атрыманы ў спадчыну ад праславянскай мовы, быў вядомы племянным дыялектам былой Чорнай Русі.

Для сучаснай беларускай мовы характэрна звужэнне семантыкі назоўніка *долъ*. З вядомых яму раней значэнняў захаваліся толькі 'зямля, паверхня зямлі' (у тым ліку 'земляная падлога ў памяшканні'), а таксама 'даліна, нізіна' і 'магільная яма' (ТСБМ, т. 2, с. 188). Іншыя ўласцівыя яму раней значэнні ў працэсе паступальнага развіцця граматычнага ладу страціліся. Тое ж самае трэба сказаць пра фразеалагізмы, якія ўзыходзяць да адзначаных вышэй склонава-прыназоўнікавых словазлучэнняў.

У параўнанні са старабеларускай у старарускай мове дыяпазон значэнняў назоўніка *долъ* быў больш абмежаваны. Гэты назоўнік ужываўся толькі са значэннямі 'ніз', 'даліна', 'прыродная ўпадзіна ў зямлі', 'шырокая жалабкаватая выемка на вырабах' (СРЯ XI – XVII вв., вып. 4, с. 205). У сучаснай рускай літаратурнай мове слова *дол* як устарэлае сустракаецца толькі ў значэнні 'даліна' і, акрамя таго, у складзе фразеалагізмаў *за горами, за долами* са значэннем 'далёка'; *по горам, по долам* – 'усюды, у розных месцах' (СРЯ, т. 1, с. 570).

Да ліку вытворных ад *дол* як звязанае з яго адвербіялізацыяй адносіцца прыслоўе ***долу***, атрыманае ў спадчыну ад старабеларускай (ГСБМ, вып. 8, с. 265) і старарускай моў (СРЯ XI – XVII вв., вып. 4, с. 295). Пры гэтым звяртае на сябе ўвагу тое, што прыслоўе *долу* (па паходжанні форма давальнага склону разглядананага назоўніка) у якасці залежнага кампанента ўваходзіла ў склад фразеалагізма *приклониться долу* са значэннем 'быць пакорлівым' (ГСБМ, вып. 8, с. 265). Сучаснай беларускай мове гэты фразеалагізм таксама невядомы.

Што датычыць назоўніка *долъ II*, то ён ужываўся ў значэнні 'доля як частка чаго-небудзь' (ГСБМ, вып. 8, с. 268).

Такім чынам, праведзенае на фактычным матэрыяле блізкароднасных рускай і беларускай моў параўнальна-супастаўляльнае даследаванне паказала, што звязаная з адвербіялізацыяй эвалюцыя структуры і семантыкі розных словаформаў назоўніка ***долъ*** адбывалася за кошт скарачэння дыяпазону ўласцівых яму раней значэнняў. Перш за ўсё гэта выявілася ў замене яго склонава-прыназоўнікавых спалучэнняў, што набылі статус фразеалагізмаў (*зъ долу, на долъ, к долу*), адпаведнымі па значэнні прыслоўямі месца (*знізу, уніз, данізу*).

На падставе адвербіялізацыі зыходнай формы давальнага склону адзіночнага ліку можна сцвярджаць, што назоўнік *долъ*, як і назоўнік *домъ*, адносіўся менавіта да непрадуктыўнага тыпу скланення з асновай на *й. У сувязі з тэндэнцыяй да адкрытасці складоў і рэдукцыяй канца слова звяртае на сябе ўвагу трансфармацыя структуры яго назоўнага склону (*dolŭs > dolu > долъ). Як было паказана вышэй, вынікі трансфармацыі семантыкі і структуры назоўніка ***дол*** замацаваліся пераважна ў беларускай мове.

**Аляксей ГРУЦА,**
доктар філалагічных навук.

Алесь КАЎРУС

# СЛОВЫ, ЛЮДЗІ, ЧАС

## МОЎНА-ПЕДАГАГІЧНЫЯ АПОВЕДЫ

*Заканчэнне. Пачатак у № 3.*

### *Чарна́я – Макляк – Востраў*

У маленстве не раз чуў прыгожае і крыху загадкавае слова *Чарна́я*. Загадкавае крыху, бо ўжо ведаў, што гэта назва далёкага ад Брусоў сенакосу. А што яна абазначае, улоўлівалася вухам з яе гучання і дапаўнялася з чутага ад дарослых: 'балоцістая', 'цёмная', 'страшнаватая'.

Пазней, калі аднаасобныя гаспадаркі аб'ядналі ў калгас, балота асушылі. Сталі сеяць шматгадовую траву. У калгасных дакументах абноўленая зямля пазначалася: *Востраў*. Там нарыхтоўвалі сена для грамадскага статку. Але часам сенажаць давалі касіць калгаснікам на корм уласнай жывёле. Ад тых гадоў пачала ўжывацца новая назва яе – *Макляк*.

Адным летам адмералі дзялянку травы і нам. Я скасіў. Стаяла пагода. Праз два дні з мамай сена зграблі, склалі ў копкі.

Было яшчэ доўга да вечара, калі мелася прыехаць машына па сенавальнікаў. Пэўна ж, мы прытаміліся. Але чакаць – сядзець ці ляжаць без працы некалькі гадзін – не хацелася. Дый нейкая патрэба вымушала быць дома раней. Сказаў пра гэта маці. А яна: "І я пайду!"

Выправіліся карацейшымі, як мага болей напрасткі, ляснымі і палявымі дарогамі. Ужо за кіламетраў 6-7 ад дому, у Шкленікове ці Па́мараччы, заўважылі немаладога чалавека, які сядзеў на лаўцы каля плоту. Падышоўшы бліжэй, убачылі, што ён сляпы.

Павіталіся. Мама загаварыла да чалавека, сказала, адкуль мы, куды ідзём. Прыселі на лаўцы. Нешта сказаў і я.

– Ты, пэўна, Ляксандраў сын?! – болей сцвярджальна, чым запытальна прамовіў невідушчы.

Дзіва! Чалавек ніколі не бачыў і не чуў мяне ды напэўна дагэтуль не ведаў, што я ёсць на свеце. Вёска гэтая ўбаку, наўрад ці быў ён калі, як стаў інвалідам, у нашых Брусах.

Крыху пасядзеўшы, развіталіся з чалавекам і пайшлі далей.

"Адкуль ён мог так добра ведаць і памятаць майго бацьку, каб з голасу пазнаць, чый я?"

Мама нібы ўгадала мае думкі.

– У бацькі было многа знаёмых, таварышаў кругом па вёсках. Ён прайшоў, казаў той, свет, павет і Памарачча, як вёў работу за Беларусь… Каб школа была беларуская… Бацька малады быў круты – лёгкі на нogі. За дзень зайшоў у Вільню да нейкіх сваіх начальнікаў. А гэта ж, мы лічылі даўней, сто вёрст. Але, казаў, як сеў у крэсла, дык не мог падняцца.

Дома пра незвычайную сустрэчу мама расказала бацьку. І ён успомніў. У годзе, здаецца, 1926-м хлопцы на фэсце дзеля храбрасці троху выпілі, але не жандоўкі (гарэлкі), а дэнатурату. Гэтаму "добраму, спакойнаму хлопцу" пашкодзіла найболей – на вочы. Можа, віной і тое, што гарэлка была дарагая – не дакупіцца. Увогуле ж напівацца не было заведзена. Дзецюкі куплялі "сотачку" (бутэлечку на 100 грамаў) і пілі праз саломінку – каб крыху захмялець і "падвесяліцца".

### "Іспутнік", "касманавец"

У далёкія пяцідзесятыя, калі я, студэнт, прыехаўшы дадому, быў не ў хаце, а на двара, на ганак выйшла маці і ўсхвалявана сказала: "Нашы іспутніка запусцілі!" Навіна, як на той час і на тыя абставіны, сапраўды вялікая. І як усякія навіны дзяржаўнага маштабу, яна ўпершыню паступала праз рэпрадуктар з Масквы і, вядома ж, на рускай мове. Беларусу заставалася толькі ўмежаваць рускае слова ў сваю гаворку ў адпаведнасці з фанетычнымі і граматычнымі законамі яго роднай мовы. У гэтым выпадку вясковая жанчына натуральна далучыла да новага ёй слова са збегам зычных прыстаўны галосны. Як і ў словах *іржышча, аржавы, аскарынка, ірзаць* (з маёй гаворкі).

Пасля таксама ад мамы пачуў і такое: "У радзівя казалі, *касманаўцы* лётаюць".

Прыклад яскрава ілюструе тэндэнцыю да асваення запазычаных слоў, якая шырэй, паўней, чым у літаратурнай, выяўляецца ў народна-дыялектнай мове. Індывідуальны наватвор *касманавец* арганічна далучаецца да беларускіх асабовых назоўнікаў з суфіксамі *-ец*, *-овец* (*-авец*), *-анец* і пад.: *местачковец, хутаранец, выхаванец, германец*. Параўнальна з нарматыўным варыянтам *касманаўт* аказіяналізм *касманавец* мае больш празрыстую, характэрную для беларускай мовы марфемную структуру і ўспрымаецца як больш мілагучны.

**“Як там Кітай маецца?”**

Бацька шмат гадоў быў прыкаваны хваробай да ложка: падымаўся, сядзеў, але хадзіць не мог. На сцяне, за спінай, вісела палітычная карта свету. Ён, здаецца, ведаў яе на памяць. Слухаў радыёкропку, чытаў газеты, кнігі.

Як толькі я пасля доўгай адлучкі зайшоў у хату, перакінуўся з бацькам некалькімі словамі, ён раптам спытаў: “Як там Кітай маецца?” Сказаў, як пра жывога чалавека, а не дзяржаву. Думаю, бацька не горш за мяне ведаў тыя справы: стасункі паміж СССР і Кітаем былі вельмі напружаныя – атмасфера патыхала вайной. Проста яму хацелася хутчэй перайсці да самай актуальнай тэмы, да самага вялікага клопату. Трывога і боль за лёс сваіх родных, за сваю краіну, дзеля якой аддаў здароўе (зведаў катаванні ў Бяроза-Картузскім канцлагеры, перанёс цяжар ваенных і пасляваенных гадоў), адсунулі ўбок, перамаглі ўласны боль. Пра яго бацька не казаў і тым разам, і заўсёды. Хіба ўжо калі нельга было вытрываць, ён мог расслабіцца прыглушаным стогнам.

**“Патрэбна круціць галавой”**

У нашым класе ў сямігодцы найлепей вучыўся Віця Т. Ён і стараўся быць першым. Аднойчы класны кіраўнік Віктар Ціханавіч пакінуў вучняў пасля ўрокаў, каб напісалі нататкі ў насценгазету. Я папытаўся: “А ці можна вершык?” – “Можна”. Вершык атрымаўся ў адпаведнасці з паэтычным “талентам” і літаратурным “досведам” прыкладна такі (падаю скарочана):

Вось зіма ўжо настала,
Ніжэй сонца хадзіць стала.
Дні кароткія насталі,
Рэкі ўсе пазамярзалі.
Многа снегу намяло –
Адмянілася сяло.

Вершык прачытаў і Віця. Не памятаю, ці сказаў што. Толькі ў наступным нумары газеты з’явіўся ягоны верш. На тэму вучобы. Усе сталі чытаць. Запомніліся два радкі і мой “па гарачых слядах” каментар.

Каб добра, выдатна вучыцца,
Патрэбна круціць галавой.

– Віця, а ці ж будзеш выдатна вучыцца, як будзеш круціць галавой, а не ўважліва слухаць на ўроку?..

Віцю, пэўна ж, не спадабалася, але ён змоўчаў. Увогуле Віця ўмеў стрымліваціца. Толькі раз, калі, дужаючыся, я паваліў яго і ён ударыўся галавой аб падлогу, з яго вуснаў сарвалася нейкае лаянкавае слова.

Як на сённяшні досвед, не меў на сто працэнтаў рацыі і я: проста ўспрыняў кампаненты фразеалагізма так, як у свабодным словазлучэнні. Напэўна, у форме *(круціць) галавой* ступень фразеалагізацыі большая, чым мною тады ўспрынялося.

Прыклады, здаецца, простыя, а праблема – складаная. Ці ж маглі мы, вучні сямігодкі, разабрацца ў тонкасцях мовы? Але важна, што адзін адчуў патрэбу ўжыць фразеалагізм, а другі – яго ўспрыняць, асэнсаваць. Дарэчы, сёння спецыялісты-мовазнаўцы не маюць адзінства погляду на выразы *круціць галавой*, *круціць галаву*. У ТСБМ змешчаны фраземы **круціць галаву** *над чым* – старацца зразумець, вырашыць штонебудзь, **круціць мазгамі** (**галавою**) – тое, што і **варушыць мазгамі** (**галавою**). Як бачым, перавага аддадзена фразеалагізму *круціць галаву*. А вось І. Лепешаў не ўключыў у “Фразеалагічны слоўнік…” (1993) абодвух варыянтаў (*круціць галаву*, *круціць галавой*) у значэнні, ужытым калісь вучнем.

**“Дорогой Микула Селянинович…”**

Наш настаўнік Міхаіл Паўлавіч шмат увагі аддаваў пазакласнай працы, быў добрым выхаваўцам. З вучнямі сямігодкі ён падрыхтаваў вечар у гонар 150-годдзя А. С. Пушкіна. Перад канцэртам вучні (тады я быў у шостым, старэйшым класе: сямігодка расла) рабілі даклад, кожнаму была вызначана пэўная частка біяграфіі паэта. Мне – дуэль А. С. Пушкіна з Дантэсам.

Расказваючы, я зрабіў агаворку: “Пуля попала ниже живота”. Нехта з прысутных вяскоўцаў, мужчына, зарагатаў. Напэўна, у тэксце было: “Пуля попала в нижнюю часть живота”.

Мерапрыемства дзеля ўшанавання памяці вялікага паэта і папулярызацыі яго творчасці вырашала і педагагічную задачу – выводзіла нас, вучняў, на людзі, у людзі.

Неяк мы, хлопцы, хадзілі з Міхаілам Паўлавічам нарыхтоўваць дровы для школы. Дарогай, ідучы, ён расказваў, як адрозніць ядавітую змяю ад неядавітай: працаваць жа збіраліся ў лесе.

Міхаіл Паўлавіч выкладаў рускую мову і літаратуру, імкнуўся разнастаіць методыку правядзення ўрокаў. Памятаецца дагэтуль, як на класнай дошцы ён паказваў графічна (лініяй) змену настрою Хлестакова ў адпаведнасці з ходам падзей у гогалеўскай камедыі. Практыкаваўся і пісьмовы пераказ вершаванага твора. Аднойчы настаўнік даў класную работу – пераказаць быліну “Вольга и Микула”.

Праца пачалася добра, змест быліны я ведаў. Але ў адным месцы, як кажуць, заела. Трэба было напісаць, як у дарозе, паехаўшы разам з Вальгою “ко тем городам за получкою”, ратай Мікула ўспомніў, што на полі засталася яго сош-

ка нявыцягнутая з “зямелькі”. Памятаю тагачасныя разважанні – пошук слова. “Едучи, Микула Селянинович…” *Едучи* мне было ўжо вядомае з рускай літаратуры (інтуіцыйна – як гутарковае), але ж загучала як надта беларускае. “Едя” – не клалася граматычна, словаўтваральна. “Когда ехал…”? – неяк груваства. А вось “по пути” або яшчэ што падобнае мне тады не прыходзіла ў галаву. І раптам знайшлося (тое, што трэба, – падумаў я): “Дорогой Микула Селянинович…” Але ж зноў небездакорна: настаўнік можа палічыць, што я напісаў *дорогóй*… Давялося пазначыць націск: *дорóгой*. (А быў прасцейшы варыянт – *дорогою*.)

Напераджываўся і за граматыку (*дорогой*), і за арфаграфічную самачыннасць (абазначаны націск).

У вёсцы Брусах (яшчэ скланялася гэтая назва) навокал сябе настаўнік, вядома ж, чуў, як гаварылі тутэйшыя людзі: *ехаць Пярэчным гасцінцам, ішоў Лаўнай дарогай, баліць гэтым месцам*. А як ён ацэніць падобную форму ў маім рускім тэксце? Можа, палічыць за памылку?

Але ўжо правераныя сшыткі раздадзены – і хваляванні скончыліся: настаўнік нават не падкрэсліў “памылканебяспечнага” слова.

Пазней зразумеў: мой настаўнік – тыпу Кудрынскага, які вучыў Якуба Коласа ў Нясвіжскай семінарыі.

Як яны патрэбныя, такія настаўнікі, сёння, пры магутнай экспансіі рускай мовы! На жаль, сярод асобных настаўнікаў пануе прасталінейны, прымітыўны падыход: лепей няхай вучань ужыве рускае слова накшталт *совсем*, чым мясцовае роднае *саўсім* (Настаўніцкая газета. 26.06.1993).

**Недалёка ад злачынства**

Прыезд Міхаіла Паўлавіча ў нашу школу (гэта быў 1948 год) стаўся сапраўднай падзеяй, асабліва для вучняў. Па вёсцы разнеслася чутка: прыехаў настаўнік і прывёз два мяхі кніг. Сёння цяжка ўявіць, як ён іх даставіў: тады аўтобусы да нас не хадзілі.

Адразу, без запрашэння, пайшоў і я да новага настаўніка “па кнігі”. Ён пасяліўся ў “тым канцы” – за паўкіламетра ад школы. Кнігі Міхаіл Паўлавіч даваў. Гэта былі творы рускіх і савецкіх пісьменнікаў – проза і паэзія. Дзякуючы такой дабрачыннасці маладога настаўніка я пазнаў новыя для сябе імёны: Баратынскі, Пляшчэеў, Фет, Гайдар, Касіль, Каверын…

Аднае ночы дачытваю пры лучыне ў зямлянцы “Отцы и дети” І. Тургенева. У канцы твора, калі старыя бацькі прыходзяць на магілу сына, разжаліўся… Прачнулася мама.

Калі я ўжо прачытаў пэўную колькасць кніжак і Міхаіл Паўлавіч аднёс мяне да катэгорыі падрыхтаваных чытачоў, ён прапанаваў мне Маякоўскага. Хоць мы ў адносінах літаратурнай адукацыі былі суцэльная цемра, але і да мяне аднекуль дайшло, што гэты паэт, кажучы нашай простай тады мовай, “нядобры”. Не памятаю, ці сказаў пра гэта настаўніку, але браць Маякоўскага адмовіўся. Як на дарослы розум, кнігу трэба было ўзяць і пачытаць, каб пераканацца самому ў яе вартасці.

Тады я не ведаў, што зрабіў не проста непрыгожы ўчынак, а нават злачынства. Калі ўжо вучыўся ў педагагічным інстытуце (1954 – 1959), то часта бачыў у актавай зале пры сцэне такую памятку, выкладзеную залацістымі літарамі: “Маяковский был и остаётся лучшим, талантливейшим поэтом нашей советской эпохи. Неуважение к его памяти – преступление. И. В. Сталин”.

Падчас вучобы ў інстытуце перанятая раней чужая ацэнка творчасці У. Маякоўскага, зразумела, адкінулася. Мы нават з Сашкам Барсуковым, студэнтам-аднакурснікам з рускага аддзялення гісторыка-філалагічнага факультэта, перакладалі (вусна) некаторыя сатырычныя вершы, як, напрыклад:

Праз мут гарэлкі –<br>
Усе дзеўкі.<br>
Любая пачвара –<br>
Нічога з твару.

Не ўпэўнены ў мастацкасці, адэкватнасці перакладу, але імкненне захаваць нацыянальную спецыфіку беларускай мовы тут выявілася, як цяпер кажуць, напоўніцу. Параўнаем арыгінал (з памяці): *Сквозь призму водки – / Все красотки. / Любая гадина – / Распривлекательна.*

…Дзіўныя ўсё ж, неспазнаныя шляхі пашырэння звестак ці проста дзеек пра літаратуру, пра пісьменнікаў. Яшчэ ў сямігодцы было пачута, што ёсць такі цікавы раман (там пішацца і пра “пустое”, паводле сучаснай тэрміналогіі – эратычнае) – “Ціхі Дон”.

Пры гэтым мы вымаўлялі прыметнік *ціхі* з націскам на першым складзе, у адпаведнасці з літаратурнымі акцэнтнымі нормамі, якія рэалізоўваліся ў кніжнай мове, у сферы навучання. Тым часам як у побыце, пры штодзённых зносінах прыметнік *ціхі* ўжываўся з націскам на другім складзе: *ціхí хлопец*, *ціхí дождж* (без грому). І такіх прыметнікаў было шмат: *цяжкí, лягкí, цвярдый, мяккí, чарствый*.

У перыяд нашага навучання ў школе родная гаворка і літаратурная мова суіснавалі як адносна замкнёныя сістэмы і выкарыстоўваліся ў адпаведнасці з мэтай і сітуацыяй зносін.

**Пісьменнасць – не загана**

Калісьці я пісаў успамін пра Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага – "Дыктоўка" (Крыніца. 1999. № 1). І там паводле сюжэта трэба было згадаць, што я любіў і ўмеў пісаць дыктоўку (гэта мне неаднойчы дапамагала). Але падчас напісання нататкі і пасля яе надрукавання браў сумнію: ці добра гэтак рабіць, ці няма тут выхваляння?

І вось нядаўна яшчэ больш упэўніўся, што з майго боку не было нейкага этычнага парушэння.

Гартаючы часопісы і газеты, я натрапіў на аповед вядомага літаратара, дзе ён адкрытым тэкстам паведамляе, што падчас вучобы ў пед-інстытуце і нават пры паступленні ў яго ён, мякка кажучы, быў не надта пісьменны.

Узбегла на памяць і чытанае ў школе ці інстытуце, як вядомы пісьменнік у маленстве (юнацтве?) не справіўся з дыктоўкай ці сачыненнем. А калі звычайны, просты чалавек быў звычайна, проста пісьменны, як належыць выпускніку сярэдняй школы, дык хіба ж гэта загана, пра якую абавязкова трэба маўчаць?!

Што да мяне, то дарога ў Краіну Пісьменнасці (даруйце за педагагічна-журналісцкі штамп) не адразу была гладкай – на пачатку яе моцна спатыкнуўся.

У 1948 годзе ў нашай школе адчыніўся пяты клас, запачаткаваўшы сабой сямігодку, якая мела расці. У першыя дні таго далёкага верасня прыйшлі вучні з навакольных пачатковых школ. Набралася 43 вучні. Настаўнік рускай мовы Міхаіл Паўлавіч правёў дыктоўку. Пасля праверкі выявілася, што на "3" напісаў толькі адзін хлопец, Міша Б., які потым стаў маім блізкім таварышам. Дарэчы, ён быў выдатны апавядальнік – здавалася, расказваючы, сам зачароўваўся працэсам гутаркі. Такім чынам, не справіўся з дыктоўкай і я. Але мне ўбачылася і запомнілася навек, што адзнака-лічба "2" была нібыта падмаляваная, падпраўленая. Я суцешыўся тым, што, можа, настаўнік спярша быў паставіў "3", а пасля, узважыўшы памылкі, вывеў "2". Тады ў мяне, вясковага хлопца, не было такой смеласці, як у цяперашніх вучняў, каб папытацца. Так і застаўся гэты факт, мабыць, толькі ў маёй шчымлівай памяці.

**"Цвяток радзімы васілька"**

У сямігодцы "праходзілі" і вучылі на памяць верш Максіма Багдановіча "Слуцкія ткачыхі". Апошнія тры радкі яго: *І тчэ, забыўшыся, рука / Заміж персідскага ўзора / **Цвяток радзімы васілька**.*

Мне ўяўлялася. Дзяўчына тчэ не васілёк, а нейкую іншую кветку ("цвяток"), характэрную "для радзімы васілька". Апошняе словазлучэнне ўспрынялося як перыфраза ў значэнні 'Беларусь', а ўвесь радок – 'цвяток (кветка) Беларусі'. Паводле такога (памылковага) разважання, у вершы згадваюцца дзве расліны: 1) нейкая безназоўная кветка ("цвяток"), 2) васілёк. Насамрэч паэт гаворыць пра адну расліну – васілёк. А "цвяток" (цвет) – гэта 'кветка (сіняя) на расліне (васільку) у перыяд цвіцення'.

Тое, што я палічыў прыметнік *радзімы* 'родны' за назоўнік (*радзіма*), пацягнула за сабой сэнсавае скажэнне паданалізнага радка.

Згаданы факт напамінае, што настаўнік, вядучы працу з вучнямі над мастацкім творам (чытанне, аналіз, завучванне на памяць), павінен звяртаць увагу і на "звычайныя", "лёгкія" словы, якія, аднак, стаўшы элементам індывідуальна-аўтарскага кантэксту, могуць аказацца для некаторых вучняў цяжкімі і няправільна зразуметымі.

**"На святой зямлі грузін"**

У сямігадовай школе вывучаўся верш Пятра Глебкі "Пасылка". Пра дружбу і еднасць савецкіх народаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. На фронт чырвонаармейцам з усіх куткоў СССР прыслалі падарункі. Лірычнаму герою, беларусу, выпаў "дарунак" ад грузінскай дзяўчыны: "шоўкам вышыты кісет", дзве хусцінкі і пакет з надпісам:

**Вышываны там, дзе горы**
**На святой зямлі грузін,**
Каб ты ведаў, што і ў горы
Ты на свеце не адзін.

Верш празрыстага зместу. Лёгкі на запамінанне. Але вылучаныя радкі адразу, з першага чытання (слухання) не былі зразуметыя мною адэкватна. Назоўнік *грузін* успрыняўся як форма назоўнага склону адзіночнага ліку, сінтаксічна – як дзейнік. У 1948 – 1951 гг. мы, вучні сямігодкі, ведалі, што ў Горы нарадзіўся І. В. Сталін, якога тады абагаўлялі. Таму тая зямля "святая". Тут, як цяпер кажуць, без пытанняў.

Пры такім разуменні вылучаная частка сказа здавалася няпоўнай, недааформленай, нібы ў ёй прапушчаны нейкі дзеяслоў-выказнік, бо з верша невядома, што рабіў грузін, г. зн. Сталін. Ад сябе хацелася ўставіць слова *нарадзіўся*, *рос* і пад. Цікава, што хоць назоўнік *горы* напісаны з малой літары, але ён успрыняўся як айконім (напэўна, паэт свядома прадугледзеў тут двухсэнсавасць). Мне, вучню, пазамоўны (ідэалагічны) чыннік у гэтым выпадку аказаўся мацнейшым за граматыку і пунктуацыю.

Пазней, калі я ўжо атрымліваў філалагічную адукацыю, стала зразумела прычына вучнёў-

скай няўцямнасці. У нашай мясцовасці, у маёй роднай гаворцы назоўнікі мужчынскага роду другога скланення *салдат*, *партызан*, *грузін*, *цыган* і падобныя ў родным склоне множнага ліку ўжываюцца з канчаткам *-аў* (*-оў*): *салдатаў*, *партызанаў*, *грузінаў*, *цыганоў*. Такая граматычная норма была змалку засвоена і мною.

**“Бязь зьмен”**

Апрача беларускай мовы, фізікі, геаграфіі, Віктар Ціханавіч нейкі час вёў урокі малявання. Найбольш запомніўся адзін з іх.

Настаўнік прайшоўся па класе, паглядзеў у нас сшыткі – мы малявалі акно, стол. Зазвінеў званок. Вучаніца падняла руку.

– Віктар Ціханавіч, а што нам дамоў?

– Бязь зьмен.

На наступным уроку Віктар Ціханавіч, праглядаючы дамашняе заданне, быў вельмі здзіўлены: некаторыя вучні намалявалі бязмен – прыладу, добра вядомую дзецям у пасляваенныя гады.

Настаўнік жа хацеў (казаў), каб вучні выконвалі ранейшае, пачатае на ўроку заданне, гэта значыць яно заставалася без зменаў. Прычына непаразумення паміж настаўнікам і вучнямі – тая самая, як і ў выпадку з назоўнікам *грузін*. Настаўнік ужываў назоўнік *змена* з нулявым канчаткам у родным склоне множнага ліку, паводле кніжнай граматыкі, якую засвоіў у інстытуце. Вучні яшчэ вольна пачуваліся ў стыхіі натуральнай беларускай гаворкі.

**“Можна так, можна так”**

Правяраючы пісьмовае практыкаванне, настаўнік беларускай мовы часам звяртаўся да класа: “Хто іначай напісаў?” Ніхто не падымаў рукі. Наважыўся я прапанаваць свой варыянт. Настаўнік крыху падумаў – кажа: “Можна так, можна й так”. Настаўнік казаў правільна (у мове ж ёсць варыянты), а вучню падумалася, што ён памыляўся.

Цяпер, у свае сталыя (на жаль, толькі засталыя) гады я зразумеў, як шкодзіць і навучанню, і навуцы, і выдавецкай справе безварыянтнасць адказу ці рашэння. Такая методыка ацэнкі (“толькі так”) не выкаранена да нашага часу.

**“Кінь ку́рыць”**

У 1951 годзе ў нас імшылі (складалі) хату. На традыцыйнай вячэры (акла́дзінах) была цётка Марына, бацькава стрыечная сястра, з Пясэччыны, недалёка ад Выгалавіч. Мы яе звалі за вочы *цётка выгалаўская*. Можа, праз цяжкасць утварэння прыметніка ад назвы *Пясэччына*? Светлая, амаль белая ў твары, з зеленаватымі жвавымі вачыма. Было вядома, што яна адгадвае сны, крыху нават прадказвае.

Калі яна нечага звярнулася да мяне, я, асмялеўшы, папытаўся: “Цётка, а ці буду я пісьменнікам?” (Сказаў: пісацялям.) Увесь фокус у тым, што я тады якраз паступіў вучыцца на пчаляра. Пасля кароткай паўзы цётка Марына адказала не вельмі катэгарычна: “Будзеш… Толькі не спяшайся… Кінь ку́рыць”.

Курыць то я кінуў, праўда, куды пазней – пасля дзвюх сур’ёзных спробаў у студэнцтве: адзін раз пратрываў 3 месяцы, другі – 7. І вось за трэцім разам – як за боскім абразам: ужо амаль 50 гадоў не браў у рот папяросы і не пераношу тытунёвага дыму. Хоць ужо немалады, кланяюся перад сустрэчнымі курцамі – нахінаю ці адводжу ўбок галаву, калі бачу небяспеку глынуць чужога дыму.

Выконваю і другое настаўленне цёткі Марыны: не спяшаюся пісаць.

А пісьменнікам не стаў, а мо і не надта імкнуўся. Калі надрукавалі некалькі маіх вершаў, адразу закінуў рыфмаванне, бо гэта магло пашкодзіць вучобе: баяўся атрымаць тройку на экзамене. Тады (без стыпендыі) прыйшлося б кідаць інстытут.

Але ж, мусіць, нарэшце, пачынае збывацца прадказанне цёткі Марыны (жартую!): спрабую пісаць во гэтыя абразкі.

**“Каб нашымі словамі…”**

Вясковыя паэты і крытыкі

Сымон Палікарпавіч Т. быў надта гаваркі і гаварыў гладка. Аднойчы пасля вайны ён прыдумаў жыццёвы аповед пра тое, як купляў лямпу. Асноўная думка зводзілася да таго, што тавары паступаюць не ў камплекце. Пузыр (магазін) купіў у Мядзеле, машынку – у Кабыльніку, а па шкелка давялося ехаць аж у Паставы.

Апрацаваная журналістам, гэтая цікавая, займальная гісторыя была апублікавана ў абласной газеце. Людзі прыходзілі ў хату да Сымона, каб паслухаць яе ад самога аўтара. І Сымон ахвотна “чытаў”. Нехта заўважыў, што чытальнік трымаў газету дагары нагамі – ён быў непісьменны.

За актуальны выступ – і ў газеце, і недзе на прадстаўнічым сходзе – Сымона паслалі ў Маскву дэлегатам на каапературыўную нараду ці з’езд.

Вясковы чалавек, адмалку прывыклы хадзіць па лесе і балоце, ён няспрытна выходзіў з трамвая, аступіўся і пакалечыў нагу. Лячыўся ў бальніцы. З Масквы прывёз фотаздымкі ці проста паштоўкі. І паказваў: “Во тут я жыў”, “Во тут я хадзіў”, “Во Маўзалей”…

Склаў і вершык пра свой побыт у Маскве.

Ляжу я ў гасцініцы і думаю:
"Масква мая родная!
Але ж якая ты мая –
Ты народная!"

Расказваў Сымон пра жыццё пры польскай уладзе. Неяк ён хаваўся ў гумне, а палякі шукалі, паролі ў саломе штыхамі, але не знайшлі. І дапаўняў свой аповед вершаванымі радкамі, з якіх запомніліся:

Вы не думайце, палякі,
Што мы ходзім без атакі,
А мы ходзім із атакай…

У школе і я спрабаваў складаць вершы. У сям'і гэта ведалі. Аднаго разу дзядзька Віталь, як быў у нас, папрасіў:

– Пачытай свае вершыкі…

Не памятаю, адзін ці болей я прачытаў. Але не забыліся радкі і дзядзькава рэцэнзія на іх.

Беларусь – мая родная маці,
Залячыла ты раны свае,
Уздымаюцца ў неба палацы…

І г. д. У такім духу і стылі.

– Складны вершык, але каб ты… нашымі словамі. А то як з кнігі ўсё роўна, – сказаў амаль непісьменны селянін, дзядзька Віталь.

Дзядзька хоць амаль непісьменны, але гонар меў. Часам, распавядаючы што (асабліва нападпітку), ён ускідваў правую руку ўгору, выцягнуўшы вялікі палец, неяк хітра-весела падміргваў і казаў: "Во якія мы людзі!" Нібы ставіў сабе адзнаку чалавечай годнасці.

А мой бацька наконт складання вершаў аднойчы пажартаваў: "І я магу злажыць вершык". І з ходу праказаў:

Я па вуліцы ішоў
І гармонік знайшоў.
Я гармонік падняў
І ў яго заіграў.

Меўся на ўвазе губны гармонік, якіх прывозілі шмат пасля вайны з Нямеччыны.

Выявіў схільнасць да літаратурнага слова мой брат Валодзя. Але ён больш пісаў нататкі, замалёўкі. У 1948 годзе раённая газета "Савецкая вёска" змясціла яго аповед пра тое, як фашысцкія карнікі падчас блакады 1943 года распраўіліся з мірнымі жыхарамі нашай вёскі Брусы. Цікава напісаў Валодзя пра краязнаўчы паход вучняў вакол возера Нарач. Дзейснымі былі яго крытычныя сігналы. Так, ён паведаміў, што ў Брусянскай школе пакасіўся прасценак і ёсць пагроза абвалу. Праз хуткі час сцяна была адрамантавана. За актыўнае супрацоўніцтва з газетай рэдактар падараваў Валодзю кнігу байк І. Крылова ў перакладзе на беларускую мову. У дарчым надпісе мяне моцна зацікавіла новае і прыгожае, на тагачаснае ўспрыманне, слова *юнкор*.

Вершы Валодзя, калі зрэдку і складаў, дык, напэўна, нікуды не пасылаў. У маёй памяці захаваліся яго радкі.

Насунулась цёмная хмара –
Блакада нямецкіх звяроў.
Спалілі мне родную вёску,
Людзей у няволю звязлі.
І так я сумую, гарую
Па роднай зямлі Беларусі.

Няма падстаў казаць, што на творчасць вяскоўцаў рабіў непасрэдны ўплыў А. С. Пушкін, але тоўсты том яго паэзіі і прозы з цёмна-сінімі вокладкамі (мабыць, выдання 1949 года) сапраўды быў у нас настольнай кнігай – не толькі ляжаў на адзіным, яшчэ з Першай сусветнай вайны століку на жалезных ножках, але і часта гартаўся і чытаўся, а бацька нават і спяваў паводле вершаў Пушкіна, найчасцей: "Наша бедная лачужка…"

**"Цялушачкі паляцелі"**

Будзе несправядліва, нават грэх, калі ў гэтай тэме (вясковая паэзія) не сказаць пра маці.

Зіма 1989. Маме пад восемдзесят. Увосень збыла карову – не было змогі трымаць.

Аднаго дня адчыніла дзверы ў хлеў: пуста, холадна – не дыхнула жывым духам кароўка, цялятка, як бывала раней. І самі пачалі складацца поўныя нязбыўнай журботы радкі.

Загарадачкі мае апусцелі,
Цялушачкі мае паляцелі.
Асталіся ж яны у полі,
Я не ўбачу ўжо іх ніколі.

Ад нядаўняй паўнаты жыцця ў хляве (мэканне, рохканне, кудахтанне) засталіся толькі гэтыя радкі – эмацыянальнае сведчанне любові да працы, нягледзячы на яе часта пякельныя ўмовы.

А цялушачак (так ласкава называлі ў нас і дарослую карову) у мамы дый у мяне было нямала. Не так сваіх, як грамадскіх ці людскіх. У 1945 годзе я адпасваў за пяць гаспадынь. Мама ўжо ў пенсійным веку рабіла даяркай у калгасе.

Найболей заслужыла быць згаданай наша першая пасляваенная карова. Купляць яе пайшла мама некуды далёка, у бок Свянцянаў. Не адзін дзесятак кіламетраў ад Брусоў. Праз некалькі дзён прыводзіць мама карову. Чорную, з белымі плямамі і лысінай (каб зваць яе рабой – не хапала пярэстасці).

Не паспела мама нацешыцца з каровы і адпачыць пасля нялёгкай дарогі, кажа: "Трэба ізноў ісці да таго чалавека на хутар, занесці

грошы, што недаплаціла". Потым, вярнуўшыся, расказвала. Гаспадар здзівіўся, што яна прынесла грошы. І нават нібы зжаліўся: "Можна было, маладзіца, не прыносіць. Я думаў, не прынясеш".

Але яшчэ не меншая была фатыга наперадзе. Карова, гадаваная на хутары, не пайшла да вясковага статку. Давялося мне ўсё лета і восень вадзіць яе на повадзе па межах, раўках і ўзлесках. Затое надыхаўся вольным паветрам! (Гэта ўжо ўсведамляецца сёння, калі сяджу ў загерметызаванай бетонасценцы пры кальцавой дарозе.)

У дзень свайго 90-годдзя мама (Настасся Максімаўна) прыгадала эпізод, звязаны з яе ранейшай працай.

"Заходзіўся да нас два разы Коля Т. Кожны дзень ходзіць на магілку. У яго жонка памярла. Мы некалі із ей рабілі на ферме. Дык я ўспамінала, як мы дружылі, як мы і песні разам пяялі. Ну, гаварыла як трэба".

Мама казала "як трэба" (чалавеку ў горы), а не толькі "як было". Вось яна, формула спагады! Тут і жыццёвая мудрасць-педагогіка, і дакладнасць слова.

Сядзім з сёстрамі Любай і Ленай каля мамінага стала і ложка.

– Мама, спяі песню, – кажа Люба. А маме нібы толькі гэтага і трэба. Заспявала. Песні добрыя, асабліва старадаўнія.

За Кубаняй за ракой
Там салдацік паміраў,
Там салдацік паміраў
І каня прызываў.

Дзякую маме і прашу спыніць спяванне – баюся, што стоміцца.

– Не зморыцца, – пярэчыць Люба. – Некалі прыязджалі з Інстытута культуры запісваць песні, дык мама ім болей як сто напяяла.

– Адкуль, мама, ведаеш столькі песень? – пытаюся.

– А я як была маладая, дык раз пачую песню і запомню.

Умела мама і пачуць, і пацешыцца з трапнага народнага слова.

Падчас той "юбілейнай" сустрэчы мама ўспамінала.

"Села Капіталіна з Пашкам (можа, помніш кульгавага?) палуднячаць. А ў яе ўжо і зубоў няма. Узяла папыталася:

– Як жа ж ты есці будзеш?

– Малое – цалое, а большае – напалам".

**"Што значыць ваша прозвішча?"**

Ніколі не цікавіўся паходжаннем свайго прозвішча. Займаў, так бы мовіць, у гэтым пытанні пасіўную пазіцыю. У час вучобы ў інстытуце вычытаў з "Курса сучаснай беларускай літаратурнай мовы", што яно з літоўскай мовы. І паверыў.

На пачатку 1960-х мне давялося быць у камандзіроўцы ў навуковай бібліятэцы ў Вільні. Там сустрэўся з беларускім мовазнаўцам А. К. Антановічам, які працаваў у дзяржаўным універсітэце Літоўскай ССР і даследаваў кітабы. Знаёмячыся, ён звярнуў увагу на "неславянскасць" майго прозвішча. Але калі я нагадаў пра версію, выказаную ў дапаможніку беларускай мовы, А. К. Антановіч сказаў, што такога слова ён не ведае, не сустракаў у літоўскай мове – літаратурнай і дыялектнай.

З таго часу прайшло амаль чатыры дзесяцігоддзі. І вось аднойчы мне на працу тэлефануе з выдавецтва знаёмы рэдактар. Пасля кароткага "словаабмену" ён раптам кажа: "З табой будзе гаварыць Іван Антонавіч Брыль".

Вось дык неспадзеўка! Асабіста з Янкам Брылём я быў знаёмы даўно – дзякуючы Ф. Янкоўскаму. Але каб да мяне адмыслова звяртаўся такі чалавек…

– Ці ведаеце, што значыць ваша прозвішча?

Я нешта адказаў няўцямнае.

Іван Антонавіч вылажыў:

– А яно з латыні. Абазначае: паўночна-заходні вецер.

Паспяшаўшыся падзякаваць за інфармацыю, я, аднак, не спытаўся пра яе крыніцу. Падумаў, сам пакапаюся ў слоўніках, даведніках.

Увечары, як толькі прыйшоў дахаты, закарцела папытацца ў сына, студэнта першага ці другога курса філалагічнага факультэта.

– Алесь, ведаеш, што значыць наша прозвішча?

А ён, ані не здзівіўшыся, спакойна кажа:

– Ведаю. Паўночна-заходні вецер.

Тут ужо я здзівіўся.

– Хто табе сказаў? Ці пазваніў хто?

– Не, ніхто не званіў і не казаў. Во ёсць у кнізе.

І хуценька разгарнуў "Боскую камедыю" Дантэ, якую якраз чытаў.

У рускім перакладзе знакамітага твора ўжыта слова *Кавр*, а ў каментарыях яно тлумачыцца: *Кавр*, лац. *Caurus* – назва паўночна-заходняга ветру.

Было дзіва. Але не так з таго, што знойдзена магчлівая крыніца прозвішча (і яна існавала даўно, а я не заўважаў ці не ведаў). Галоўнае, што ўразіла, – абставіны "адкрыцця" прозвішча. Гэта ж трэба такому здарыцца! Амаль адначасова і дарагімі мне людзьмі: народным (і маім) пісьменнікам і родным сынам!



# МЕТОДЫКА І ВОПЫТ

*Новая рэдакцыя правіл беларускага правапісу*

## ПРАВІЛЫ НАПІСАННЯ РАЗАМ, ПРАЗ ЗЛУЧОК І АСОБНА

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 1 – 12 за 2009 г., №№ 1 – 3.*

**Каментарыі.** У главе 7 выкладзены асноўныя правілы напісання слоў разам, праз злучок і асобна. Гэтыя правілы ў беларускай мове рэгламентуюць правапіс слоў розных часцін мовы (назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў, прыслоўяў і г. д.) і практычна застаюцца нязменнымі ў параўнанні з "Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" 1959 г.

У § 34 выкладзены агульныя правілы напісання разам, праз злучок і асобна. Разам пішуцца складанаскарочаныя словы і вытворныя ад іх (*газпрам*, *фізфак*, *прадмагаўскі*), складаныя словы і вытворныя ад іх з пачатковымі іншамоўнымі часткамі (*аўдыявізуальны*, *веласпорт*), словы з першай часткай *поў-* (*паў-*) (*поўнач*, *паўяблыка*), словы з прыстаўкамі і падобнымі да прыставак пачатковымі элементамі (*архіважны*, *контрагент*, *міжраённы*, *панславізм*, *сінгармонія*), словы з першай часткай лічэбнікам (*двухбаковы*, *чатырохразовы*). Праз злучок пішуцца словы з часткай *паў-*, якая спалучаецца з уласнай назвай (*паў-Слуцка*), а таксама слова-выключэнне *контр-адмірал*.

Адпаведна праз злучок пішуцца ўтварэнні з паўторам слова для ўзмацнення яго значэння (*сіні-сіні*, *хадзілі-хадзілі*), з паўторам слова ў іншай лексіка-граматычнай форме (*братка-брацейка*, *калі-нікалі*), спалучэнні блізкіх або супрацьлеглых па значэнні слоў (*шум-гам*, *больш-менш*, *там-сям*). Таксама праз злучок пішуцца складаныя словы, першай (або апошняй) часткай якіх з'яўляецца літара або літарная абрэвіятура любога алфавіта, а таксама лічба любога злічэння (*α-часціца*, *Q-код*, *мода-2008*). Усе гэтыя правілы сфармуляваны дастаткова выразна і не павінны выклікаць цяжкасцей пры карыстанні пісьмовай мовай.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на правапіс праз злучок літарных скарачэнняў складаных слоў: *сельскагаспадарчы – с.-г.*, *індаеўрапейскі – і.-е.* У дадзеным выпадку назіраецца разыходжанне ў напісанні поўнага складанага слова (пішацца разам) і яго літарнага скарачэння, якое ўяўляе сабой першыя літары абедзвюх частак (пішуцца праз злучок).

Таксама неабходна цвёрда засвоіць асаблівасці ўжывання "вісячага дэфіса", які выкарыстоўваецца пасля першай часткі складанага слова пры ўжыванні рада аднародных складаных слоў з аднолькавай другой часткай (*газа-* і *вадалічыльнік*).

У § 35 выкладзены асноўныя правілы правапісу назоўнікаў разам, праз злучок і асобна. У дадзеным выпадку асаблівую складанасць уяўляе правапіс уласных геаграфічных назваў і іншамоўных уласных імён. Неабходна цвёрда засвоіць правапіс геаграфічных назваў з элементамі *на*, *дэ*, *сюр* (*Растоў-на-Доне*, *Па-дэ-Кале*, *Булонь-сюр-Мэр*); іншамоўных уласных імён з канцавымі часткамі *-хан*, *-паша*, *-бей* і інш. (*Асман-паша*, *Ізмаіл-бей*), уласных назваў асоб і геаграфічных назваў з пачатковымі часткамі *Ван-*, *Сен-*, *Сент-* і інш. (*Ван-Дэйк*, *Сан-Себасцьян*, *Сан-Марына* і інш.), а таксама ўласных назваў з артыклямі і часціцамі *да*, *дэ*, *ла*, *ле* і інш. і словамі *дэр*, *дон*, *фон*, *ван* (*Леанарда да Вінчы*, *Анарэ дэ Бальзак*, *Ван дэр Мейлен*, *Людвіг ван Бетховен* і інш.). Асаблівая цяжкасць у гэтым выпадку заключаецца ў тым, што ў іншамоўных назвах іншы раз складана адрозніць, якая частка з'яўляецца, напрыклад, часціцай, а якая – часткай складанага слова. Акрамя таго, згодна з традыцыяй сустракаюцца выпадкі, калі розныя найменні з аднолькавымі часткамі пішуцца паразнаму (*Ван-Дэйк*, але: *Ван дэр Мейлен*, *Людвіг ван Бетховен*). Фактычна напісанне падобных назваў вызначаецца па спецыяльных даведніках, у тым ліку энцыклапедычных.

Найбольшую цяжкасць у напісанні разам або праз злучок складаных прыметнікаў уяўляюць складаныя прыметнікі з першай часткай прыслоўем (*цяжкаўспрымальны*, але: *дыяметральна процілеглы*). Напісанні разам і праз злучок падобных слоў замацаваны папярэдняй пісьмовай традыцыяй, і іх правапіс вызначаецца па слоўніку.

Асобных тлумачэнняў патрабуе п. 4 § 36, што датычыцца правапісу субстантываваных (!) складаных прыметнікаў з першай часткай *ваенна-*, якія пішуцца разам (*ваеннапалонны*, *ваеннаабавязаны* і *ваеннаслужачы*). Усе астатнія складаныя прыметнікі з першай часткай *ваенна-* пішуцца праз злучок (*ваенна-палявы*, *ваенна-марскі*, *ваенна-спартыўны* і інш.).

Правапіс лічэбнікаў разам, праз злучок і асобна не складае асаблівых цяжкасцей. Неабходна толькі выразна размяжоўваць ужыванне дэфіса пры напісанні спалучэнняў простых лічэбнікаў для абазначэння прыблізнага ліку (*восем-дзевяць гадоў*, *2-3 гады*) і ўжыванне працяжніка пры напісанні спалучэнняў складаных і састаўных лічэбнікаў у аналагічных выпадках (*трыццаць пяць – трыццаць сем гадоў*, *50 – 60-я гады*).

Найбольш складанымі з'яўляюцца правілы правапісу разам, праз злучок і асобна розных груп прыслоўяў, таму іх вывучэнне патрабуе асаблівай увагі на ўроках беларускай мовы ў школе. Пры неабходнасці вызначыць правільнае напісанне разам, праз злучок ці асобна прыслоўяў неабходна звяртацца да спецыяльных слоўнікаў.

Правапіс разам, праз злучок або асобна службовых часцін мовы, часціц і выклічнікаў (§ 39) сфармуляваны дастаткова выразна і не выклікае асаблівых складанасцей.

У цэлым правілы правапісу слоў разам, праз злучок і асобна адносяцца да найбольш складаных у беларускай мове, паколькі тое ці іншае напісанне ў многіх выпадках абумоўлена толькі папярэдняй пісьмовай традыцыяй. Таму пры вывучэнні гэтых правіл неабходна прывіваць вучням навыкі карыстання спецыяльнымі слоўнікамі.

# ПРАВІЛЫ ПЕРАНОСУ

**Каментарыі.** Згодна з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" ў традыцыйныя правілы пераносу слоў уносяцца пэўныя змены, якія датычацца пераносу слоў са збегам зычных паміж галоснымі. У падобных выпадках у адпаведнасці з новымі правіламі дапускаецца свабодны перанос такіх слоў (гл. п. 2 § 41). Фактычна гэта азначае істотнае спрашчэнне правіл пераносу. Абмежаванні ў падобных словах зводзяцца да наступнага:

– перанос можа ажыццяўляцца на мяжы папярэдняй галоснай і наступнага збегу зычных, але не можа ажыццяўляцца на мяжы папярэдняга збегу зычных і наступнай галоснай (можна пераносіць: *ра-змова*, *раз-мова*; *за-става*, *зас-тава*, але нельга: *разм-ова*, *заст-ава*);

– нельга адрываць ад папярэдняй галоснай зычныя літары *й* і *ў* (трэба пераносіць: *сой-ка*, *праў-да*);

– нельга аддзяляць ад папярэдняй зычнай мяккі знак і апостраф (трэба пераносіць: *прось-ба*, *бур'-ян*);

– нельга раздзяляць пры пераносе спалучэнні *дж* і *дз*, калі яны абазначаюць адзін гук (можна пераносіць: *па-дземны*, *пад-земны*, *ра-дзіма*, *ура-джай*, але нельга: *рад-зіма*, *хад-зіць*, *урад-жай*).

У астатніх выпадках правілы пераносу засталіся без змен.

# ПУНКТУАЦЫЯ

**Каментарыі.** Правілы пастаноўкі знакаў прыпынку паводле Закона Рэспублікі Беларусь "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" застаюцца нязменнымі. У новай рэдакцыі толькі ўдакладнены фармулёўкі правіл пастаноўкі знакаў прыпынку, часткова абноўлены ілюстрацыйны матэрыял, групіроўка матэрыялу.

Таму неабходна асобна адзначыць толькі адзін момант, які датычыцца правіл пастаноўкі кропкі, калі ў канцы апавядальнага сказа ўказваецца аўтар або даецца пашпартызацыя. Гл. п. 2 § 42: Калі ў канцы апавядальнага сказа ў дужках указваецца аўтар або даецца пашпартызацыя, то кропка ставіцца пасля дужак: *Жнеі спяваюць у полі, жыта густое жнучы* (М. Танк). *Госця, маладая дзяўчына, сядзела ў пакоі і ціха размаўляла з маці* (У. Караткевіч). *Выдатны паэт і крытык Максім Багдановіч вылучаўся глыбокай і шырокай адукацыяй, тонкім разуменнем паэзіі* (ЛіМ).

Неабходнасць такога ўдакладнення абумоўлена тым, што ў розных крыніцах назіраюцца разыходжанні ў пунктуацыйным афармленні падобнага роду тэкстаў.

**Заўвага.** Пашыраны варыянт каментарыяў аўтары плануюць выдаць асобнай кнігай.

# ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ “РОДНАГА СЛОВА”

Паспяховае ўвядзенне ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь “Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” з 1 верасня 2010 г. немагчыма без падрыхтоўкі адпаведнай даведачнай базы і новых арфаграфічных слоўнікаў, якія забяспечылі б паспяховае вывучэнне беларускай мовы ў школе.

Падрыхтоўка такога слоўніка патрабуе асаблівай адказнасці, паколькі неабходна ўлічыць усе тыя змены, якія прадугледжаны Законам. “Беларускі арфаграфічны слоўнік” (уклад. Л. П. Кунцэвіч, І. У. Кандраценя; пад рэд. А. А. Лукашанца. – Мінск: Беларус. навука, 2009. – 695 с.), падрыхтаваны ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, з’яўляецца якраз такім даведнікам. Ён утрымлівае каля 50 тыс. найбольш пашыраных ва ўжыванні слоў, у тым ліку і тых, якія могуць выклікаць цяжкасці ў напісанні. У рэестр слоўніка ўключана новая лексіка, якая атрымала пашырэнне ў сучасным маўленні ў апошнія дзесяцігоддзі і якая ў першую чаргу патрабуе арфаграфічнага ўпарадкавання.

Слоўнік мае нарматыўны характар і паслядоўна адлюстроўвае ўсе змены ў правапісе, што ўводзяцца Законам Рэспублікі Беларусь “Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”. Структура слоўніка адпавядае патрабаванням нарматыўных арфаграфічных даведнікаў, прызначаных для выкарыстання ў навучальным працэсе.

Лексічны матэрыял у слоўніку размешчаны ў алфавітным парадку з указаннем націску. Загалоўныя словы выдзелены паўтлустым шрыфтам і даюцца ў сваёй зыходнай форме: назоўнікі, займеннікі, лічэбнікі – у форме назоўнага склону адзіночнага ліку (назоўнікі, якія не маюць форм адзіночнага ліку, – у форме назоўнага склону множнага ліку), прыметнікі – у форме назоўнага склону мужчынскага роду адзіночнага ліку, дзеясловы – у форме інфінітыва.

Паколькі ў зменных часцінах мовы напісанне некаторых форм слоў можа таксама выклікаць цяжкасці, у слоўніку падаюцца асобныя формы назоўнікаў, дзеясловаў і займеннікаў. Родавыя і склонавыя формы прыметнікаў не прыводзяцца, таму што яны не выклікаюць цяжкасцей пры напісанні.

Склонавыя формы назоўнікаў (займеннікаў і лічэбнікаў) і спрагальныя формы дзеясловаў звычайна прыводзяцца ў скарочаным выглядзе, яны скарачаюцца часцей за ўсё да апошняй агульнай для ўсіх іх літары:

**вадзíць**, ваджý, вóдзіш; -дзім, -дзіце
**лóдка**, -і, -дцы; -дак
**акрýга**, -і, -ýзе; -ýг

Памета, якая ўказвае на часціну мовы, падаецца пры прыназоўніках, прыслоўях, займенніках, субстантываваных назоўніках і выклічніках:

**даўнó** *прысл.*
**сталóвая** *наз.*
**рáнены** *прым.*, *наз.*
**гэй** *выкл.*

Пры нязменных словах указваецца род і падаецца памета *нескл.*:

**барóка** *н.*, *нескл.*

Значэнне слоў падаецца толькі ў тых выпадках, калі ад яго залежыць канчатак або месца націску ў формах змянення, а таксама часам пры вузкаспецыяльных словах:

**абрэ́з** (*зброя*) -а, -е; -аў; (*дзеянне*) -у, -е
**абнóжка** (*пылок з кветак*) -і, -жцы

Прадмова да слоўніка ўтрымлівае звесткі аб падачы ў слоўнікавым артыкуле форм назоўнікаў, дзеясловаў, займеннікаў і лічэбнікаў, а таксама спіс прынятых скарачэнняў.

Падрыхтоўка любых нарматыўных слоўнікаў, у тым ліку і арфаграфічных, – справа вельмі складаная і адказная. На жаль, пры гэтым непазбежны і пэўныя хібы, асабліва ў перыяд пераходу на новую рэдакцыю правіл. Не пазбаўлены асобных недахопаў і “Беларускі арфаграфічны слоўнік”. Так, па тэхнічных прычынах у рэестры слоўніка побач з нарматыўным ***бяз’ядзерны*** знаходзіцца і *без’ядзерны*, якое супярэчыць новым правілам арфаграфіі. Не адпавядае сучасным правілам напісанне ў слоўніку слоў *эсенцыя* і *квінтэсенцыя* (трэба: ***эсэнцыя***, ***квінтэсэнцыя***), *зарыентаваць*, *зарыентавацца* (трэба: ***сарыентаваць***, ***сарыентавацца***).

Укладальнікі слоўніка з удзячнасцю прымуць усе заўвагі, якія будуць абавязкова ўлічаны ў наступным выданні.

**Аляксандр ЛУКАШАНЕЦ,**
**Любоў КУНЦЭВІЧ,**
**Ірына КАНДРАЦЕНЯ.**

*Аўтары ахвяруюць ганарар на развіццё часопіса.*

Паважаныя чытачы! З гэтага нумара ў часопісе "Роднае слова" будуць змяшчацца дыдактычныя матэрыялы, якія дапамогуць настаўнікам эфектыўна арганізаваць працу на ўроку, а вучням – засвоіць правапісныя нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў новай рэдакцыі.

*Новая рэдакцыя правіл беларускага правапісу*

# СЛОЎНІКАВЫЯ ПРАКТЫКАВАННІ ЯК СРОДАК НАВУЧАННЯ РОДНАЙ МОВЕ

Сістэмна-функцыянальны, камунікатыўна-дзейнасны і лінгвакультуралагічны падыходы пры выкладанні беларускай мовы вызначаюць розную методыку падачы вучэбнага матэрыялу, таму значнае месца ў працы настаўніка-славесніка займаюць практыкаванні, пабудаваныя на выкарыстанні тых ці іншых відаў слоўнікаў і лексікаграфічных даведнікаў. Менавіта слоўнікі з'яўляюцца найпаўнейшай скарбніцай лексічнага багацця мовы, дапамагаюць атрымліваць неабходныя веды ў галіне фанетыкі, лексікі, фразеалогіі, словаўтварэння, граматыкі і стылістыкі, акрамя таго, у адзінстве з падручнікамі і вучэбна-метадычнымі дапаможнікамі дазваляюць сфарміраваць у навучэнцаў трывалыя навыкі літаратурнага вымаўлення і правапісу.

"Слоўнік сучаснай беларускай мовы" У. Завальнюка, М. Прыгодзіча і В. Раманцэвіч падрыхтаваны з улікам новай рэдакцыі правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі і прызначаны найперш для настаўнікаў і метадыстаў, школьнікаў і студэнтаў. Прапанаваныя ніжэй практыкаванні пабудаваны на аснове гэтага слоўніка, таму могуць быць выкарыстаны настаўнікам як матэрыял пры правядзенні заняткаў, дапамогуць навучэнцу правільна адказаць на пастаўленыя пытанні і выканаць прапанаваныя заданні па розных раздзелах вучэбнага курса беларускай мовы. Аўтары ўпэўнены, што заданні будуць цікавыя педагогам і школьнікам, падкажуць правільны шлях да спазнання таямніц роднага слова.

## ФАНЕТЫКА. АРФАЭПІЯ. ГРАФІКА. СКЛАД СЛОВА. ЛЕКСІКА. МАРФАЛОГІЯ. ПРАВАПІС

**Практыкаванне 1.** Знайдзіце ў слоўніку лексемы, пры чытанні якіх злева направа і справа налева атрымліваюцца самастойныя словы, і запішыце іх парамі. Вусна растлумачце значэнні гэтых слоў.

а) с. 18, 27, 38, 52, 310;
б) с. 263, 283, 300, 305, 308;
в) с. 164, 165, 167, 181, 190;
г) с. 187, 209, 248, 265, 305.

**Практыкаванне 2.** Выпішыце са слоўніка словы, якія пры чытанні злева направа і справа налева гучаць аднолькава і маюць аднолькавае значэнне. Адкажыце, якой часцінай мовы з'яўляецца кожнае слова (вусна).

а) с. 122, 128, 151, 163, 194;
б) с. 10, 249, 302, 358, 375.

**Практыкаванне 3.** Спішыце словы, растлумачце правапіс ***е*** пасля заднеязычных. Пазначце ў словах націскі. Праверце напісанае па слоўніку. Знайдзіце і выпішыце (с. 86) яшчэ 2 словы, якія адпавядалі б агульнаму правілу.

Геолаг, гепард, гербарый, герой, геена, кефір, кераміка, гегемон.

НОВАЯ РЭДАКЦЫЯ ПРАВІЛ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

**Практыкаванне 4.** Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары – ***е*** або ***я***. Праверце напісанае па слоўніку. З адным словам на выбар складзіце словазлучэнне па схеме *прыметнік + назоўнік*.

Дз…журны, зм…стоўны, л…гкавы, знам…нальны, н…выразны, н…стомны, н…малады, п…радавы, п…кельны, б…спамылковы.

**Практыкаванне 5.** У прыведзеных словах пастаўце націскі, праверце па слоўніку. Амографы выпішыце парамі. З астатніх слоў складзіце просты апавядальны клічны сказ.

Прыклад, прымус, вецер, плаціна, канюшына, падаць, рады, парушыць, разносіць, вараны, водар, выразны, паліўны, памяць, прагнуць, пара.

**Практыкаванне 6.** Размяркуйце словы ў два слупкі: у першы запішыце тыя, якія са зменай граматычнай формы мяняюць месца націску, у другі – словы з нязменным націскам. Праверце напісанае па слоўніку.

Рэжым, рукаў, рукзак, рыбалоў, рыжык, рухавік, ручай, рынг, рытм, ручнік, рыбак, рэбус, рэгістр, рывок.

*У студзеньскім нумары за 2010 г. на старонках часопіса "Роднае слова" была змешчана рэцэнзія* ***Мікалая Аляхновіча*** *на "Слоўнік сучаснай беларускай мовы" У. Завальнюка, М. Прыгодзіча, В. Раманцэвіч.*

**Практыкаванне 7.** Запішыце словы ў алфавітным парадку, расстаўце ў іх націскі. Праверце напісанае па слоўніку. З адным са слоў складзіце просты апавядальны сказ, падкрэсліце ў ім граматычную аснову.

Садавіна, спіна, слабы, сліна, магазін, сажалка, саджалка.

**Практыкаванне 8.** Спішыце, устаўляючы літару ***а*** або ***о***. Падкрэсліце другую частку слова і пастаўце ў ёй націск. Растлумачце правапіс слоў.

Д…брадзей, д…ўгажыхар, д…брабыт, д…браахвотна, д…братворны, д…браўпарадкаваны, д…браякасны, д…брасуседскі, д…маводства, д…бразычлівы, д…маседка, др…бналессе, дв…яборства.

З адным прыметнікам на выбар складзіце словазлучэнне па схеме *прыметнік + назоўнік*. Знайдзіце 2 прыслоўі і запішыце, ад якіх слоў яны ўтвораны.

**Практыкаванне 9.** Спішыце, устаўляючы літару ***а*** або ***о***. Падкрэсліце другую частку слова і пастаўце ў ёй націск. Выпішыце з новага радка словы, якія не падпарадкоўваюцца агульнаму правілу правапісу ***о*** – ***а*** ў складаных словах.

Ф…таздымак, ф…тахроніка, ф…таплёнка, ф…тавыстаўка, ф…таальбом, ф…таграфія, ф…таатэлье, ф…тафаграфавацъ, ф…тажурналіст.

**Практыкаванне 10.** Спішыце. Падкрэсліце тыя пары слоў, дзе са з'яўленнем мяккага знака змянілася не толькі значэнне слова, але і яго часцінамоўная прыналежнасць. Праверце напісанае па слоўніку.

| | |
|---|---|
| стол – столь | ледзянец – ледзянець |
| паяц – паяць | бал – баль |
| вяз – вязь | ніц – ніць |
| тол – толь | мел – мель |

**Практыкаванне 11.** Спішыце словы, устаўце, дзе трэба, мяккі знак ці апостраф. Праверце па слоўніку. Падкрэсліце словы з раздзяляльным мяккім знакам.

1) Кар…ер, сін…ёр, міл…ён, узмор…е, іншавер…е, шын…ён, з…яднанасць, раз…юшыць, суб…ект, пад…ёмны, раз…бяны, ц…мяны, бяз…мерны, аб…ёмны.

2) Бал…ніца, біл…ярд, валяр…ян, вал…ер, з…ява, здароў…е, сузор…е, шчаў…е, нізоў…е, атэл…е, раз…яднаны, раз…езд, бар…ер, мадэл…ер, кал…е.

**Практыкаванне 12.** Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары. Праверце правільнасць напісання па слоўніку. У пункце 3 падкрэсліце два словы, лексічнае значэнне якіх залежыць ад устаўленай літары.

1) *д – т*

| | |
|---|---|
| кла…ка | паваро…ка |
| ло…ка | скла…ка |
| намо…ка | пахо…ка |
| наса…ка | |

2) *ж – ш*

| | |
|---|---|
| паду…ка | бамбё…ка |
| вало…ка | выця…ка |
| дзе…ка | ду…ка |
| сту…ка | |

3) *з – с*

| | |
|---|---|
| прыка…ка | ма…ка |
| ка…ка | дапі…ка |
| завя…ка | ра…ка |
| нагру…ка | |

**Практыкаванне 13.** Спішыце словы, дастаўляючы патрэбныя літары. Правільнасць напісання праверце па слоўніку. Вызначце, якой часцінай мовы з'яўляюцца словы. У пункце 3 падкрэсліце слова, у якім больш гукаў, чым літар.

1) *д – т*

| | |
|---|---|
| штого… | нарасхва… |
| убро… | зашма… |
| навылё… | |

2) *з – с*

| | |
|---|---|
| уні… | уразрэ… |
| наадрэ… | угола… |
| уразно… | |

3) *г – х*

| | |
|---|---|
| уподбе… | удваі… |
| упяцё… | умі… |
| увер… | |

**Практыкаванне 14.** Спішыце. Дастаўце патрэбныя літары. Запішыце праверачныя словы. Правільнасць напісання праверце па слоўніку. Вызначце, якой часцінай мовы з'яўляецца кожнае слова (вусна).

1) *ж – ш*

| | |
|---|---|
| бага… | кірма… |
| віра… | мякі… |
| рубе… | |

2) *д – т*

| | |
|---|---|
| азіму… | погля… |
| пахо… | блакі… |
| зага… | |

3) *з – с*

| | |
|---|---|
| гарбу… | віртуо… |
| аўтобу… | тэрма… |
| парэ… | |

**Практыкаванне 15.** Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары – ***ж*** або ***ш***. Праверце напісанае па слоўніку. Падкрэсліце словы, у якіх назіраецца прыпадабненне (асіміляцыя) звонкіх да глухіх. Асобна выпішыце чатырохскладовыя словы і падзяліце іх для пераносу.

Усме…ка, успы…ка, старо…ка, стру…ка, ватру…ка, даме…ка, ва…касць, наапа…кі, навыця…ку, ду…ка, заглу…ка, зады…ка, засу…ка, лы…ка, мура…ка.

НОВАЯ РЭДАКЦЫЯ ПРАВІЛ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

**Практыкаванне 16.** Спішыце словы, устаўце прапушчаныя спалучэнні зычных – ***сч*** або ***шч***. Праверце напісанае па слоўніку. Складзіце і запішыце тры словазлучэнні па схеме *дзеяслоў* + *назоўнік*.

Умо…ваць, ра…апіць, умя…ацца, расплю…ыць, ра…асаць, ра…уліць, спра…аць, ра…ысціць.

**Практыкаванне 17.** Спішыце, устаўляючы літару ***э*** або ***а***, абгрунтуйце напісанне. Праверце па слоўніку. Падкрэсліце словы, у якіх мяккасць зычных не перадаецца графічна.

Шніц…ль, шпат…ль, грэйд…р, лід..р, камп'ют…р, бельвед…р, пэндз…ль, эспанд…р, менедж…р, фарват…р, крат…р, прэсвіт…р.

**Практыкаванне 18.** Спішыце, устаўце прапушчаныя літары і падкрэсліце націскныя склады. Праверце напісанае па слоўніку. Растлумачце правапіс дадзеных арфаграм.

Р…клама, р…спубліка, р…форма, р…актар, р…візія, р…естр, р…жым, д…фект, д…т…ктыў, д…таль, д…легат, гард…роб, д…серт, д…фіс, д…цыметр, т…орыя, т…арэма, т…леграф, т…атр, т…кстыль, ц…лафан, ц…люлоза, ц…мент, ц…нзура.

З адным са слоў на выбар складзіце просты, апавядальны, развіты сказ, ускладнены звароткам.

**Практыкаванне 19.** Спішыце словы, пастаўце ў іх націскі. Праверце напісанае па слоўніку. Ад выдзеленых назоўнікаў утварыце прыметнікі і абазначце словаўтваральную марфему.

*Эканоміка*, экалогія, экзамен, экватар, элемент, элеватар, экспрэсія, *экскурсант*, *эксперт*, экстраклас, эпіграф, эвакуатар, экспедытар.

**Практыкаванне 20.** Спішыце словы, устаўляючы літару ***у*** або ***ў***. Вызначце націскі і праверце напісанае па слоўніку. Укажыце колькасць складоў выдзеленых слоў.

Са…на, *фа…на*, а…кцыён, а…ра, джо…ль, па…метра, *шо…*, шо…к, *а…л*, *ба…л*, ка…чук, ка…нер, ваку…м, ва-…сю, крыкі "…ра", да …ніята, ва …ніверсітэце, за …нівермагам.

Са с. 228 – 229 выпішыце з новага радка 7 слоў з першай часткай ***паў-***.

З адным са слоў на выбар складзіце пытальны сказ.

НОВАЯ РЭДАКЦЫЯ ПРАВІЛ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

**Практыкаванне 21.** Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары – ***д*** або ***т***. Праверце напісанае па слоўніку. Падкрэсліце словы, у якіх адсутнічае з'ява прыпадабнення (асіміляцыі) звонкіх зычных да глухіх.

Скі…ка, рэш…ка, вокла…ка, па…кова, даве…ка, рэ…ка, бры…кі, ва…кі, гла…кі, зрэ…ку, навыпера…кі, зво…ка, пала…ка, кла…ка, ні…ка.

**Практыкаванне 22.** Спішыце, падкрэсліце словы з асіміляцыйнай мяккасцю [з'], [с']. Прасачыце, як мяккасць гэтых зычных падаецца ў слоўніку. Першыя два словы затранскрыбіруйце.

Схема, расліна, сцёк, раскідаць, расхінуць, распеў, раздзел, расхіліць, раскілзаць, разлік, размен, схіл, злёт, разняць.

**Практыкаванне 23.** Выпішыце словы з фанетычным падаўжэннем зычных, ставячы іх у месным склоне адзіночнага ліку. Праверце напісанае па слоўніку.

Палоззе, аддзел, угоддзе, узлессе, рассеянасць, жыццё, ранне, сумяшчэнне, эскадрылля, узбярэжжа, стручча, узвышша, паддувала.

**Практыкаванне 24.** Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары – ***з***, ***с*** або ***ш***. Праверце напісанае па слоўніку. Падкрэсліце словы з прыпадабненнем свісцячых да шыпячых.

Падпі…чык, пажары…ча, палотні…ча, палясоў…чык, пака…чык, пя…чанік, пагру…чык, …чотка, …чыгол, …чыліна, …чэпка, па…чыпаны.

**Практыкаванне 25.** Спішыце словы і ўстаўце, дзе трэба, прапушчаную літару ***с***. Праверце напісанае па слоўніку. Падкрэсліце словы з марфалагічным падваеннем зычных.

Паднябес…е, рас…ольнік, пакрыс…е, рас…лаблены, калос…е, рас…пыліць, рас…таноўка, рас…таваць, рас…талы, перанос…е, узлес…е, рас…топлены, рас…ыльны, рос…тань.

**Практыкаванне 26.** Перакладзіце прапанаваныя словы на беларускую мову, пары запішыце. Падкрэсліце словы з падоўжанымі зычнымі, укажыце ў дужках колькасць гукаў. З трыма словамі на выбар складзіце словазлучэнні па схеме *дзеяслоў* + *назоўнік*.

Ружьё – …, судья – …, кутья – …, сватья – …, варение (действие) – …, варение (кушанье) – …, жильё – …, замыкание – …, затишье – …, раздвоение – …, рассыпать – …, расседлать – …, расселить – …, редколесье – …, дробление – … .

**Практыкаванне 27.** Вызначце па слоўніку, як вымаўляюцца прапанаваныя словы з прыпадабненнем звонкага выбухнога [д] да глухой афрыкаты [ч]. Вусна прасачыце, ці ва ўсіх словах пры транскрыпцыі спалучэнне ***дч*** перадаецца доўгім гукам [ч]. Падкрэсліце слова, у якім колькасць літар і гукаў супадае.

Падрадчык, падчапіць, падчас, неадчувальны, спадчына, сведчыць, падчыстую, следчы.

**Практыкаванне 28.** Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары. Праверце напісанае па слоўніку. Адкажыце, якому прынцыпу арфаграфіі падпарадкавана напісанне прыведзеных слоў; па якой прымеце суадносяцца прапанаваныя пары.

1) *з – с*
но…біт про…ба
2) *д – т*
баске…бол фу…бол
3) *дж – ч*
лі…ба лі…бавы
4) *дз – ц*
бара…ба мала…ба
5) *б – п*
зя…кі а…кідаць
6) *ж – ш*
піра…кі ця…кі

**Практыкаванне 29.** Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары – ***ш*** або ***с***. Праверце напісанае па слоўніку. Падкрэсліце словы, у якіх напісанне спалучэнняў зычных з прапушчанымі літарамі адпавядае марфалагічнаму прынцыпу арфаграфіі.

Ра…чэсаны, відові…чны, выпу…чаны, распе…чаны, водаачы…чальны, віду…чы, ра…чэрпаны, ра…чышчаны, бе…чалавечны, ра…чулены, ра…чэплены, дні…ча, …чэплены, уме…чаны, ро…чырк, ро…чына.

**Практыкаванне 30.** Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары – ***д*** або ***т***. Праверце напісанае па слоўніку. Падкрэсліце словы, якія падпарадкоўваюцца фанетычнаму прынцыпу напісання.

Бу…ка, гла…кі, увачаві…кі, шчо…ка, раке…ка, напача…ку, па…тып, па…тэкст, во…пуск, зга…ка, знахо…ка, на…філь, ната…ка, накі…ка, накла…ка, насагло…ка, незабу…ка, па…казка.

**Практыкаванне 31.** Спішыце словы, устаўце прапушчаныя літары – ***г*** або ***х***. Праверце напісанае па слоўніку. Вусна вызначце, які прынцып напісання аб'ядноўвае словы.

Ле…кавы, падбе…чы, дама…чыся, бера…чы, запрэ…чы, злё…ку, ла…чына, ле…чы, лё…кі, ма…чымы, мі…цець.

**Практыкаванне 32.** Выпішыце са слоўніка (с. 139) пяць слоў, у якіх літара ***з*** з'яўляецца прыстаўкай, і пяць слоў, у якіх пачатковая літара ***з*** уваходзіць у склад кораня.

**Практыкаванне 33.** Перакладзіце словы з рускай мовы на беларускую, пастаўце ў іх націскі. Праверце напісанае па слоўніку. Падкрэсліце словы, значэнне якіх залежыць ад месца націску. Выпішыце асобна словы з падвоенымі зычнымі.

Грамматика – …, группа – …, панна – …, коллектив – …, коллекция – …, сумма – …, саванна – …, ванна – …, корреспонденция – …, мадонна – …, касса – …, манна – …, кассир – … .

**Практыкаванне 34.** Прапанаваныя словы пастаўце ў форме меснага склону адзіночнага ліку і запішыце іх у два слупкі. У першы слупок змясціце назоўнікі, у якіх спалучэнні ***дз***, ***дж*** абазначаюць адзін гук, у другі – два гукі. Правапіс канчаткаў праверце па слоўніку.

Падзямелле, гадзіннік, вядзенне, падзол, падзор, надзел, саджанец, аджылак, водзыў, удзельнік, падзагаловак, дажджавік.

**Практыкаванне 35.** Выпішыце са слоўніка чатырнаццаць тэрмінаў з адпаведнымі лексічнымі паметамі. Паметы запішыце ў дужках без скарачэнняў (гл. с. 7 – 8). Размясціце словы ў алфавітным парадку.

**Практыкаванне 36.** Пры спісванні размясціце словы ў алфавітным парадку. Карыстаючыся слоўнікам, да кожнага з іх у дужках запішыце лексічныя паметы, якія ўказваюць, да якой галіны навукі, культуры, тэхнікі і інш. адносяцца прапанаваныя тэрміны (гл. с. 7 – 8).

Харэй, апендыцыт, дэвальвацыя, кансервант, бенуар, базіліка, арматура, ацэтон, лагарытм, вінчэстар, магніт, фурацэлін, бегемот, забег.

**Практыкаванне 37.** Сярод прапанаваных слоў знайдзіце антонімы, запішыце іх парамі. Праверце напісанае па слоўніку. З трыма словамі складзіце і запішыце тры словазлучэнні па схеме *дзеяслоў* + *прыслоўе.*

(З)ранку, (па)ціху, (у)гору, (у)дзень, (у)права, (з)вечара, (у)ніз, (у)нутры, (у)голас, (у)начы, (з)вонку, (у)лева.

**Практыкаванне 38.** Спішыце пары слоў і паназірайце, як са зменай націску змяняецца іх лексічнае значэнне. Пасля кожнага слова ў дужках укажыце часціну мовы. Праверце напісанае па слоўніку.

са́ма – сама́ па́рыць – пары́ць
ту́га – туга́ па́даць – пада́ць
па́ра – пара́ сту́па – ступа́

**Практыкаванне 39.** Да назоўнікаў у множным ліку падбярыце адпаведнікі ў назоўным склоне адзіночнага ліку. Пары слоў запішыце. Праверце напісанае па слоўніку.

сандалі – … боты – …
сандалеты – … буцы – …
туфлі – … кеды – …
чаравікі – … басаножкі – …

Адкажыце, што аб'ядноўвае прыведзеныя словы паводле значэння.

*Заканчэнне будзе.*

Падрыхтавалі
**Валянціна РАМАНЦЭВІЧ,**
**Мікалай ПРЫГОДЗІЧ.**

*Па тэхнічных прычынах у "Слоўніку сучаснай беларускай мовы" на с. 111 памылкова надрукаваны словы* ***дэзінфармаваць*** *і* ***дэзінфіцыраваны****, якія ў адпаведнасці з вымаўленнем пасля прыстаўкі* ***дэз-*** *пішуцца з літарай* ***ы*** *(§ 22, п. 13 "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі"). Аўтары прыносяць свае прабачэнні карыстальнікам слоўніка.*

НОВАЯ РЭДАКЦЫЯ ПРАВІЛ БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

Павел МІХАЙЛАЎ
Святлана ФАЦЕЕВА

# ЗАДАННІ ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ ДЛЯ ПАЎРОЧНАГА КАНТРОЛЮ ВЕДАЎ ВУЧНЯЎ VIII – IX КЛАСАЎ

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 1, 2, 3.*

## VIII КЛАС

### КАРТКА 1. ПАРАЎНАЛЬНЫ ЗВАРОТ, СПОСАБЫ ВЫРАЖЭННЯ ПАРАЎНАННЯ

**Варыянт 1**

**1.** Знайдзіце і выпішыце нумары сказаў, у якіх ёсць параўнальныя звароты.

1) Шум стаіць над лясістай дуброваю, быццам рада аб нечым ідзе… 2) Вясною падалі пялёсткі, нібы сняжынкі, на мурог. 3) Над возерам устае, быццам белая воўна, пахучы туман. 4) Дзед штодня цешыць унукаў, быццам вясна ўжо блізка.

**2.** Дапоўніце фармулёўку.

Словы і словазлучэнні, якія шляхам параўнання раскрываюць і ўдакладняюць змест усяго … або пэўнага …, – гэта …

**3.** Спішыце сказы, расстаўце патрэбныя знакі прыпынку і падкрэсліце злучнікі, якімі параўнальныя звароты ўводзяцца ў сказ.

1) Навокал нібы дываны раскінуты цёмназялёныя сенажаці. 2) Стаяла яблыня ля вёскі як падарожнік між дарог. 3) На марозе рукі ледзь слухаюцца і робяцца што граблі. 4) Плывуць бы хмары мае думы.

**4.** Знайдзіце і выпішыце сказы з параўнальнымі зваротамі, зрабіце іх сінтаксічны разбор.

1) Як быццам сейбіт з поўнай жмені, гарохам кроплі вецер сеяў. 2) Паэт жыве ў народзе праз вякі, пакуль жыве яго ў народзе слова. 3) Эпоха наша галасістая, бо кожны хоча прагучаць. 4) Дарога, як струна, працягнулася па спакойнай і роўнай мясцовасці.

**5.** Складзіце і запішыце 2 сказы з параўнальнымі зваротамі *як вадою змыла*, *быццам мора*.

**Варыянт 2**

**1.** Знайдзіце і выпішыце нумары сказаў, у якіх ёсць параўнальныя звароты.

1) Так дакладна ўсё расказаў, нібы ён сам быў пры гэтым. 2) Перш чым сеяць, трэба старанна падрыхтаваць глебу. 3) Вавёркі з дрэва на дрэва скачуць, нібы дражняцца, сцярушваюць снег з сосен і ялін. 4) Бы скарб дарагі і жаданы, мы кнігі Скарыны ў рукі бяром.

**2.** Дапоўніце фармулёўку.

Параўнальныя звароты ўводзяцца ў сказ пры дапамозе злучнікаў …

**3.** Спішыце сказы, расстаўце патрэбныя знакі прыпынку і падкрэсліце злучнікі, якімі параўнальныя звароты ўводзяцца ў сказ.

1) Вярба як дзяўчына ў каралях стаіць над вірлівай вадой. 2) Веча забараніла князю мець пад рукой больш чым трыста ратнікаў. 3) Паміж лесу расплыўся туман нібы спушчаны з неба дыван. 4) За плотам чырванела спелымі ягадамі тонкая як у лесе рабіна.

**4.** Знайдзіце і выпішыце сказы з параўнальнымі зваротамі, зрабіце іх сінтаксічны разбор.

1) Збожжа на полі ледзь-ледзь скалыхнецца, калі павее гарачы вецер. 2) Найлепшы ў вёсцы цэлай дом, нібы знарок, стаіць здалёку. 3) Белы снег Радзіме лёг на плечы, нібы акрыў яе пуховы шаль. 4) Усё навокал як бы дыхала святочна-радасным настроем вясновага абуджэння.

**5.** Складзіце і запішыце 2 сказы з параўнальнымі зваротамі *чырвоны як рак*, *нібы ў люстры*.

### КАРТКА 2. ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА Ў VIII КЛАСЕ. СЛОВАЗЛУЧЭННЕ. ПРОСТЫ ДВУХСАСТАЎНЫ СКАЗ

**Варыянт 1**

**1.** Вызначце і запішыце тыя спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца словазлучэннямі.

Высокая гара, з-за хмары, трава пажаўцела, вывучаць мясцовасць, рэчка насупраць, вясенні настрой, пачытаў бы, спяшалася ж.

*Звесткі пра аўтараў змешчаны ў № 1.*

**2.** Запішыце словазлучэнні, вызначце іх будову і граматычнае значэнне.

Жытнія каласы, калыхацца на ветры, мноства кветак, глядзець смела.

**3.** Вызначце і запішыце спосаб сувязі слоў у словазлучэннях.

1) Пяцёра аднакласнікаў; 2) майская ноч; 3) паварот улева; 4) капаць бульбу.

**4.** Прачытайце сказы. Выпішыце спачатку простыя дзеяслоўныя, а затым – састаўныя іменныя выказнікі.

1) Вада ў нашай рэчцы была чыстая і халодная. 2) Нам выткала ціхая восень ручнік на дзівосны ўзор. 3) Завецца спадчына мая ўсяго старонкай роднаю. 4) Шум залацістай дубровы стаў родным для партызан.

**5.** Зрабіце сінтаксічны разбор прапанаваных сказаў.

1) Вясна пахла гаркаватым пылам прырэчных вербаў. 2) Лебедзь – цар на сінім плёсе.

**Варыянт 2**

**1.** Вызначце і запішыце тыя спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца словазлучэннямі.

Перамог жа, у лесе, галоўная мэта, цікавіцца навінамі, усміхнулася б, мора супакоілася, наведаць канцэрт, выступіць на спаборніцтвах.

**2.** Запішыце словазлучэнні, вызначце іх будову і граматычнае значэнне.

Берагчы сяброў, птушыная песня, вожык пад кустом, змрок лесу.

**3.** Вызначце і запішыце спосаб сувязі слоў у словазлучэннях.

1) Зялёны аўтобус; 2) касіць канюшыну; 3) пачулася непадалёку; 4) пятнаццаць гадзін.

**4.** Прачытайце сказы. Выпішыце спачатку простыя дзеяслоўныя, а затым – састаўныя дзеяслоўныя выказнікі.

1) Ужо дзе-нідзе з дубоў пачалі ападаць адзінокія лісты. 2) Салаўі ў цёмным садзе пяюць аб шчасці і тузе. 3) Бацька са стрэльбай за плячамі ішоў дадому хваўнякамі. 4) Воўк наважыўся перабрацца ў другое логава.

**5.** Зрабіце сінтаксічны разбор прапанаваных сказаў.

1) Чалавекам быць – самая высокая з усіх пасад на зямлі. 2) Чатыры сасны засталіся стаяць пасярод лесасекі.

**КАРТКА 3. ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА Ў VIII КЛАСЕ. АДНАСАСТАЎНЫЯ, НЯПОЎНЫЯ І ЎСКЛАДНЕНЫЯ СКАЗЫ**

**Варыянт 1**

**1.** Выпішыце нумары аднасастаўных сказаў.

1) Ціха месяц адзінокі ходзіць у небе над зямлёй. 2) Пад цёмнымі крыламі ночы нельга нічога ўбачыць. 3) Над палеткамі разліўся непаўторны водар канюшыны. 4) Страчанага вясною дня ўвосень не знойдзеш.

**2.** Спішыце пэўна-асабовыя сказы, у дужках укажыце, якая граматычная форма выказніка выражае значэнне пэўнай асобы.

1) Люблю цябе, мая краіна! 2) Усё зробім для шчасця сваёй краіны.

**3.** Перабудуйце аднасастаўныя безасабовыя сказы ў двухсастаўныя і запішыце іх.

1) У пакоі нікога не было. 2) На дварэ пачынала днець. 3) На ўзлеску моцна пахла сасной. 4) У навальніцу нам не спіцца.

**4.** Спішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку, пабудуйце графічныя схемы.

1) Усё зямля дрэвы стрэхі пакрылася звонкай ледзяной коркай. 2) Дождж ішоў спорны і цёплы.

**5.** З двух простых сказаў складзіце адзін, зрабіўшы выказнік другога сказа прыдаткам да дзейніка першага. Сказы запішыце.

1) Францыск Скарына нарадзіўся ў Полацку ў сям'і купца. Францыск Скарына – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар.

2) Крупнік часцей за ўсё гатавалі з ячных або прасяных круп і забельвалі малаком. Крупнік – рэдкая крупяная страва.

**Варыянт 2**

**1.** Выпішыце нумары аднасастаўных сказаў.

1) Сядайце, госці, за стол наш багаты адзначыць святочны час. 2) Нас яднае наша радзіма кроўю сэрца і самім жыццём. 3) Не паеду я ніколі з свайго краю дарагога. 4) Мне трэба было да вечара паспець управіцца з работай.

**2.** Спішыце пэўна-асабовыя сказы, у дужках укажыце, якая граматычная форма выказніка выражае значэнне пэўнай асобы.

1) Казкай цудоўнай, песняй вясновай, вечна жыві, мая родная мова! 2) Спакойна іду па мурожнай траве.

**3.** Перабудуйце двухсастаўныя сказы ў аднасастаўныя безасабовыя і запішыце іх.

1) Алесь не сядзіць у хаце. 2) Набліжаецца вечар. 3) Раніцай яшчэ бывае мароз. 4) Прыемна пахла ў лесе сухая сасна.

**4.** Спішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку, і пабудуйце графічныя схемы.

1) Восень выдалася халодная і дажджлівая. 2) На поўдзень лес алешнік і дубняк усё далей і далей адыходзіў ад ракі.

**5.** З двух простых сказаў складзіце адзін, зрабіўшы выказнік другога сказа прыдаткам да дзейніка першага. Сказы запішыце.

1) Нумізматыка вывучае гісторыю грашова-вагавых сістэм розных эпох і краін. Нумізматыка – спецыяльны кірунак гістарычных даследаванняў.

2) Яўхім Карскі ўжо ў студэнцкія гады выявіў схільнасці да навуковай творчасці. Яўхім Карскі – заснавальнік беларускай філалогіі.

## IX КЛАС

### КАРТКА 1. СІНТАКСІЧНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ З ПРОСТАЙ МОВАЙ. ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў СКАЗАХ З ПРОСТАЙ МОВАЙ

**Варыянт 1**

**1.** Знайдзіце і выпішыце нумары сказаў з простай мовай.

1) "Давайце мы вам дапаможам перайсці", – прапанавалі дзеці бабульцы. 2) Сябар пісаў мне, каб я ўсіх слухаў, але свой розум меў. 3) "Мамачка, галубка, – просіць хлопчык міла, – можа б ты на рэчку пагуляць пусціла?" 4) Мы помнім, што кроўю здабыта на працу вялікае права.

**2.** Дапоўніце фармулёўку.

Чужое выказванне, якое перадаецца даслоўна, без якіх-небудзь лексічных ці граматычных змен, называецца …

**3.** Знайдзіце сказы з простай мовай, якія адпавядаюць наступным схемам. Насупраць кожнай схемы запішыце нумар сказа.

"П", – а.
"П, – а. – П".
"П, – а, – п".
А: "П".

1) "Цяпер ужо ўсе сабраліся, – сказала гаспадыня. – Прашу ў сталовую". 2) "Чалавек жыве, пакуль нешта робіць", – сказаў бацька. 3) Ніна папрасіла: "Раскажыце мне што-небудзь пра вашы вясковыя абрады". 4) "Вясною, – марыць Валік, – вернецца наша птушка ў родны край".

**4.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

1) Эх і лесу ж у вас многа сказаў настаўнік каб разгаварыцца з палешукамі і пазнаёміцца з імі бліжэй. 2) Чытай мой хлопчык пачынаў свае павучанні стары. Кнігі многа даюць яны вучаць як трэба жыць на свеце. 3) Як прыгожа ў лесе сказала Марыля і сумна падумала не кожны ўмее цаніць і берагчы такую прыгажосць. 4) Вярнідуб нахмурыў бровы ды адказвае сурова няма такой сілы каб скарыўся я ёй!

**5.** Складзіце і запішыце сказы з простай мовай па прапанаваных схемах.

А: "П?"
"П! – а. – П".

**Варыянт 2**

**1.** Знайдзіце і выпішыце нумары сказаў з простай мовай.

1) Людзі кажуць, што птушкам, заблудзіўшым уночы, Млечны Шлях служыць сцежкай-пуцінай у вырай. 2) "Зноў будзе дождж", – думае стары, пазіраючы на хмары. 3) Міколка думае, што яму рабіць далей. 4) "Дай, – падумаў хлопчык, – зайграю для сонейка, якое пануе над усім светам".

**2.** Дапоўніце фармулёўку.

Словы, якія паказваюць, каму належыць простая мова, называюцца …

**3.** Знайдзіце сказы з простай мовай, якія адпавядаюць наступным схемам. Насупраць кожнай схемы запішыце нумар сказа.

"П", – а.
"П, – а. – П".
"П, – а, – п".
А: "П".

1) "Ідзі, мой сын, – гаворыць маці, – будзь непахісным у баі за мір і шчасце ў нашай хаце, спакой і маладосць тваю". 2) "Колькім людскім пакаленням свяцілі гэтыя зоркі", – разважаў настаўнік. 3) Яшчэ старадаўні грэчаскі філосаф сказаў: "Усё цячэ і ўсё змяняецца". 4) "Хароміна, сапраўдная хароміна, – азіраючы новую хату, гаварыў Паходня. – Вось вам і жыць тут у радасці і шчасці".

**4.** Запішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

1) Што самае галоўнае было ў маім жыцці пытаецца сам у сябе Васіль Сухамлінскі і дае вычарпальны адказ любоў да дзяцей. 2) Эх каб дождж не раз думаў Лагуновіч з надзеяй пазіраючы ўгору. Вось было б добра! 3) Дзень добры матуля! Не засумавала ты тут без мяне спытаў сын. 4) Наш настаўнік беларускай мовы і літаратуры заўсёды раіў нам бярыце прыклад з лепшага а не з горшага.

**5.** Складзіце і запішыце сказы з простай мовай па прапанаваных схемах.

А: "П!"
"П? – а. – П".

### КАРТКА 2. МАНАЛОГ. ДЫЯЛОГ. СКАЗЫ З УСКОСНАЙ МОВАЙ

**Варыянт 1**

**1.** Знайдзіце і выпішыце нумары сказаў з ускоснай мовай.

1) Прыйшла мама, пераступіла парог, тлумачыла, чаго і як хадзіла. 2) Куды б ні завяла далёкая дарога, не забывай бацькоўскага парога. 3) Хлопцы хацелі выпытаць яшчэ, ці не з другога я канца горада, ці быў тут калі. 4) Мужчына гаварыў так спакойна, што ў Мялешкі зусім стала лёгка на душы.

**2.** Дапоўніце фармулёўку.

Маналог – працяглая гаворка, звернутая … або да …, але не разлічаная на …

**3.** Запішыце сказы з ускоснай мовай, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

1) Прасіла маладое насенне каб вецер узяў яго з сабою панёс у аблюбаваную даль. 2) Лабановіч пайшоў на кухню і папрасіў бабку каб яна згатавала чай.

**4.** Перабудуйце сказы з простай мовай у сказы з ускоснай мовай. Сказы запішыце, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

1) Валік прызнаваўся маёй маці: “Я не магу жыць без кніг”. 2) Настаўніца спытала ў вучняў: “Ці дапамагалі вы сваім бацькам улетку?” 3) “Чалавек жыве дзеля дабра, дзеля служэння праўдзе, каб стварыць нейкія вартасці жыцця і каб быць карысным для іншых”, – сказаў Турсевіч. 4) “Куды ты паедзеш?” – спалохана спытаў я.

**5.** Складзіце дыялог (4-5 сказаў) на тэму “Наведванне спартыўнага мерапрыемства” (футбола, хакея і інш.).

### Варыянт 2

**1.** Знайдзіце і выпішыце нумары сказаў з ускоснай мовай.

1) Лабановіч слухаў сябра, згаджаўся з ім, як бы Турсевіч выказваў яго ўласныя думкі. 2) Настаўнік сказаў Сцёпку, каб не пакідаў навукі: у яго вялікія здольнасці да яе. 3) Карэспандэнт пацікавіўся, як дабрацца адсюль да цэнтральнай сядзібы. 4) Як мёд пчала збірае рупна ў соты, збіраем скарб з зямлі і з-пад зямлі.

**2.** Дапоўніце фармулёўку.

Дыялог – гэта простая мова, якая перадае …

**3.** Запішыце сказы з ускоснай мовай, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

1) Настаўнік сказаў старэйшым вучням каб яны рыхтаваліся да экзаменаў. 2) Мама казала што бабуля вельмі любіла шыпшыну і ў іх пад акном раслі гэтыя кветкі.

**4.** Перабудуйце сказы з простай мовай у сказы з ускоснай мовай. Сказы запішыце, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

1) “Добры гэта вучань?” – спытала ў яе бібліятэкарка. 2) “Прынясіце мне, цётка Кацярына, галінку бэзу”, – ціха папрасіла Клава. 3) Па мясцовым радыё перадалі: “Вецер можа дасягнуць ураганнай хуткасці”. 4) Пісьменнік гаварыў: “Адной з галоўных рыс індыйскага характару з’яўляецца адчуванне ўласнай годнасці”.

**5.** Складзіце дыялог (4-5 сказаў) на тэму “Наведванне культурнага мерапрыемства” (кіно, тэатра, музея і інш.).

## КАРТКА 3. ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА Ў ІХ КЛАСЕ. СКЛАДАНЫЯ СКАЗЫ

### Варыянт 1

**1.** Выпішыце нумары складаных сказаў.

1) У кожнага з нас ёсць свае абавязкі, свая, хоць малая, а ўсё ж такі праца. 2) На дварэ было холадна, хоць стаяла яшчэ лета. 3) Жыта хвалявалася пад ветрам, і над ім слаўся жаўтаваты рэдкі туман. 4) У песнях родны край, родныя словы жылі, і жывуць, і жыць будуць заўсёды.

**2.** Вызначце і запішыце ў дужках від складанага сказа.

1) Здзіўляе цудам разнастайным навука наша ў добры час, і незвычайнае звычайным здаецца многім сярод нас. 2) Дзень хіліўся на вечар, і доўгія цені дрэў, што коса падалі на каляіны, ужо дыхалі вячэрнім халадком.

**3.** На аснове прапанаваных пар простых сказаў пабудуйце складаназалежныя і запішыце іх.

1) Глядзіш на зямлю з акна самалёта. Яна нагадвае вялізную, ярка пафарбаваную геаграфічную карту. 2) Без веры ў чалавека не можа трымацца не толькі сям’я або сяброўства двух, але і цэлая дзяржава. Гэта трэба ведаць кожнаму.

**4.** Спішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку, і пабудуйце графічныя схемы.

1) Ёсць куток на зямлі дзе крыніцы звіняць з трыснягамі гавораць азёры дзе на кожнай сцяжыне курганы стаяць векавечным парослыя борам. 2) Поле было засеяна азімінай сняжок сышоў амаль увесь і па-веснавому зазелянела жыта.

**5.** Складзіце і запішыце сказы па прапанаваных схемах.

[ ] – [ ].

(Калі…), [ ], (бо…).

### Варыянт 2

**1.** Выпішыце нумары складаных сказаў.

1) Раніца, сапраўды, была выдатная, сонечная, але не яркая, а мяккая, ціхая, пяшчотная. 2) Самалёт, быццам голуб, узняўся і на сонечных крылах паплыў. 3) Лёгкі туман праплывае над Мінскам, быццам пялёсткамі сыплюць сады. 4) Гарачыня ў полі, а пад сярпом звініць залацістая ніва аўсом.

**2.** Вызначце і запішыце ў дужках від складанага сказа.

1) Дзе лозы ніцыя ў тумане журбу выплаквалі да дна, там адзінока на кургане стаяла стромкая сасна. 2) Пахне ціхі прасёлак лясной канюшынай, ціха бусел садзіцца на стог.

**3.** На аснове прапанаваных пар простых сказаў пабудуйце складаназалежныя і запішыце іх.

1) Павольна цячэ Прыпяць па вялізнай нізіне. Называецца яна з даўніх часоў Палессем. 2) Дрэвы на некаторых вуліцах пераплятаюцца пышнымі кронамі. Яны ствараюць над брукам зялёную арку.

**4.** Спішыце сказы, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку, і пабудуйце графічныя схемы.

1) Я не знаю месяца больш за май шчаслівага калі пушчы цешацца з гоману шумлівага калі вербы ніцыя рвуцца ўвысь галінамі калі скрозь пшаніцаю пахне над далінамі. 2) Баброў не цікавіць рыба якую ловіць выдра а выдру не цікавяць расліны якімі кормяцца бабры.

**5.** Складзіце і запішыце сказы па прапанаваных схемах.

[ ], і [ ].

[ ], [ ], (дзе…).

*Рыхтуемся да цэнтралізаванага тэсціравання*

# ТЭСТ ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

**Частка А**

**А1.** Адзначце словы з гукам [й]:

1) яблык 4) імідж
2) іншы 5) раз'юшаны
3) песня

**А2.** Адзначце словы, у якіх націск падае на другі склад:

1) жыхар 4) крапіва
2) намітка 5) прыкус
3) наспех

**А3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***э***:

1) лід…р 4) хр…бет
2) р…мень 5) лод…р
3) ш…вялюра

**А4.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***я***:

1) тыс…ча 4) паве…ны
2) зал…жы 5) с…ньёр
3) кл…новы

**А5.** Адзначце правільна напісаныя словы:

1) памкнуцца 4) абыйсці
2) заіка 5) бортынжынер
3) прыдзе

**А6.** Адзначце словы і словазлучэнні, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***у*** (складовае):

1) а…кцыён
2) прамова-…льтыматум
3) дзяўчына спрытная, …вішная
4) возера …сомля
5) вывучэнне рамана "Пошукі будучыні" … школе

**А7.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ь***:

1) зац…менне 4) Об…
2) мен…шы 5) манпанс…е
3) якімс…ці

**А8.** Адзначце тыя словы, беларускамоўныя адпаведнікі якіх маюць падоўжаныя гукі:

1) областью 4) затишье
2) чередование 5) пятью
3) колосье

**А9.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***д***:

1) трына…цаць 4) наўра… ці
2) а…казаць 5) праяз…ны
3) дакла…чык

**А10.** Адзначце словы, у якіх выдзеленыя марфемы – канчаткі:

1) цісн*е*цца 4) выпусц*іш*
2) свец*іць* 5) уверс*е*
3) спява*ў*

**А11.** Адзначце сінонімы да слова *зневажаць*:

1) ганіць 4) нішчыць
2) губіць 5) бэсціць
3) абражаць

**А12.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме меснага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***-і***:

1) кароль 4) жыццё
2) кужаль 5) шалаш
3) малако

**А13.** Адзначце словы, якія трэба пісаць праз злучок:

1) (прыма)балерына
2) (кіла)герц
3) (грос)майстар
4) (папарaць)кветка
5) (пан)Еўропа

**А14.** Адзначце словазлучэнні, у якіх адносныя прыметнікі ўжываюцца са значэннем якасных:

1) папяровы караблік
2) сакавіцкія маразы
3) ватныя ногі
4) жалезны характар
5) гарадскія вуліцы

**А15.** Адзначце складаныя прыметнікі, якія трэба пісаць разам:

1) (шахматна)шашачны
2) (драбна)лісты
3) (вада)лазны
4) (цёмна)вішнёвы
5) (вышэй)сказаны

**А16.** Адзначце сказы з дзеясловамі загаднага ладу:

1) Хацеў бы я, каб кожны вечар спявалі салаўі.
2) Не спыняйцеся, хлопцы, на дасягнутым.
3) Самалёты павярнулі ад лесу.
4) Ідзіце ў лес, адкапайце жыта.
5) Давай, Наста, пасядзім крыху перад дарогай.

**А17.** Адзначце дзеясловы, якія ў форме 1-й асобы множнага ліку цяперашняга або будучага простага часу маюць канчатак ***-ым*** (***-ім***):

1) дагнаць 4) напаіць
2) цягнуць 5) акружыць
3) гуляць

**А18.** Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць разам:

1) чытаць *(у)голас*
2) пісаць *(што)дзень*

3) працаваць *(як)след*
4) скідваць *(на)хаду*
5) злучыць *(у)адно*

**А19.** Адзначце прыклады, у якіх ***не***, ***ні*** з выдзеленымі словамі трэба пісаць асобна:
1) *(не)працэджанае* малако
2) *(не)заўважыўшы*
3) *(не)насыпаныя* бабуляй мяшкі
4) лясы *(не)вырублены*
5) *(ні)хто*

**А20.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба пісаць ***ні***:
1) Імшарыны збоку ўжо … было відаць: яе схаваў з вачэй туман.
2) Наста плакала … сціхаючы.
3) …хто не хацеў паміраць.
4) У вёсцы раптам стала ціха: не скрыпелі … калёсы, … вароты, … калодзежны журавель.
5) …хта пастукаў у дзверы.

**А21.** Адзначце словазлучэнні:
1) рэдкія стрэлы
2) чыстае і высокае
3) глядзеў уважліва
4) б'юць кулямёты
5) трава ля ракі

**А22.** Вызначце сінтаксічную ролю выдзеленага інфінітыва:
*Узнікла неабходнасць* ***адвезці*** *сабранае жыта.*
1) дзейнік
2) выказнік
3) дапаўненне
4) азначэнне
5) акалічнасць

**А23.** Адзначце сказы, у якіх абавязкова ставіцца працяжнік:
1) Я жыхар вёскі Дальва.
2) Змагацца за шчасце сваёй зямлі задача кожнага.
3) Партызанам лес нібы родная матка.
4) Бярозы і сосны сябры партызан.
5) Наста, безумоўна, працавітая жанчына.

**А24.** Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пры аднародных членах пастаўлены правільна:
1) Ціха было ўсюды: і на шашы, і ў Красным, і на беразе ля моста.
2) Едучы на возе, ён цёр пальцамі ў жмені каласы, і сыпаў жыта ў рот.
3) Наста ехала, і лесам, і пясчанай дарогай.
4) Павярнуўшыся, Таня садзіцца бачком на мяхах і глядзіць на дарогу.
5) На дарозе ад сонца блішчалі вінтоўкі, аўтаматы.

**А25.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў не трэба ставіць коску:
1) Старыя цяпер … што малыя.
2) Месяц, круглы і жоўты … што блін з вялікай скаварады … стаяў цяпер за плячыма над самай зямлёй.
3) Лес … нібы казка.
4) Таня дрыжала … як асінавы ліст.
5) Гарачыня была … як у пекле.

**А26.** Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам словы трэба выдзеліць (аддзяліць) знакамі прыпынку:
1) Наста падумала, што трэба падпаліць у печы, бо *прачнуўшыся* дзеці захочуць есці.
2) Боганчык *седзячы на мяхах* паганяў сівога ў яблыкі жарабка.
3) *Зробленая з цынку* бляшанка блішчала ўся, як вядро, калі яго вышаруеш вехцем з пяском.
4) *Белыя і халодныя* яны (ракеты) доўга стаялі на адным месцы, пакуль не патухлі.
5) *Акрамя дарослых* каля хаты сядзелі і дзеці.

**А27.** Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам словы трэба выдзеліць (аддзяліць) коскамі:
1) *Мусіць* на сухім балоце ля грэблі загарэўся торф.
2) Яна *здаецца* зарыла яе (бляшанку) напасля ў куфры глыбока ў жыта.
3) Парашут *казалі* знесла ветрам з пасекі.
4) Угары *відаць* краёк чыстага неба.
5) *Мо* па галаве пагладзяць.

**А28.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коску:
1) Клікнула пасля Таню … і яны пабеглі з двара адна за адной.
2) Чатыры скрыначкі былі пагнутыя … і лунінцы зарылі іх разам з патронамі ў зямлю.
3) Яна не магла дыхаць гарам ад гумы і старалася закрыць рот … але тады кашаль спіраў у грудзях.
4) Тут канчалася возера … і пачыналася непраходнае балота.
5) Ці то чалавек прабег … ці то жывёліна прашмыгнула.

**А29.** Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коску (коскі):
1) У тым баку … дзе сыпаўся з гары агонь … падняўся чырвоны слуп дыму і стаў распаўзацца на ўсё неба над лесам.
2) Выйшаўшы на ездавую дарогу, ён пабег, каб сагрэцца, па калдобінах і па карэнні ў той бок, дзе зайшло сонца … і дзе было ціха.
3) Там … дзе паабапал вуліцы былі хаты, угару падымалася чырвонае полымя.
4) Ён баяўся ткнуцца на дарогу … па якой вечарам ішлі танкі.
5) Дарогі … па якіх не ходзяць … зарастаюць.

**А30.** Адзначце бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх трэба паставіць двукроп'е:
1) Паснулі на возе дзеці не спалі ў лесе ўсю ноч, лежачы пад калёсамі на зямлі.

2) Бразгала вядро на кручку скрыпеў асвер.

3) Жарабок натапырыў вушы і замахаў галавой рассыпалася на шыі грыва.

4) Травы тут не было яе глушыў мох.

5) Выходзіў з дому з самай раніцы ісці было далёка.

**А31.** Адзначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, у якіх паміж часткамі прапушчаны знакі прыпынку:

1) Хацелася спаць балелі вочы і балела галава.

2) З вёскі партызаны ўзялі сем падвод, і цяпер падводы даганялі абоз, які падымаўся на поле з лагчыны.

3) Ногі ў дзеравяшках чапляліся за раллю і Алёша, скінуўшы іх, пабег босы сцежкай, дзе ляжаў яшчэ лёд.

4) Стала шарэць, і ля дуплаватых старых бяроз, што абступілі ў лесе з двух бакоў дарогу, таўкла мак машка́.

5) Вясна была сухая і на гародах дзе пасеялі бульбу вецер гнаў пясок.

**А32.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць працяжнік:

1) – Нехта стогне там, уперадзе. _ Не спі, сын, – зашаптала Наста.

2) – Гэта ты, пан? Там нешта ёсць, – і, як успомніўшы што, сказаў: _ Ехаць трэба, пакуль не развіднела.

3) – Ты хаваеш усё ад мяне, Махорка, – сказала Наста. _ Дальва ў тым баку.

4) – Назад! Назад да моста! Сам забяру дзяўчыну! _ закрычаў Махорка.

5) Дзверы былі расчынены, і ён крыкнуў у сенцы: _

– Дзяцей!.. Дзяцей вынось… Ве-е-рка!..

## Частка В

**В1.** Знайдзіце колькасны лічэбнік, запісаны з парушэннем граматычнай нормы. Запішыце лічэбнік правільна:

| | |
|---|---|
| 1) шасцюстамі | 4) трыма |
| 2) пяццю | 5) дзевяноста |
| 3) сям'ю | |

**В2.** Знайдзіце назоўнік, ад якога форма множнага ліку назоўнага склону ўтворана няправільна. Запішыце назоўнік правільна:

| | |
|---|---|
| 1) мары́ | 4) вышыні |
| 2) гушчары | 5) летапісы |
| 3) туманы | |

**В3.** Суаднясіце фразеалагізмы і іх сінанімічныя адпаведнікі. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| А) кату па пяту | 1) куды вочы глядзяць |
| Б) толькі пяткі заблішчалі | 2) з глузду з'ехаць |
| В) з розуму сысці | 3) як карова языком злізала |
| Г) лынды біць | 4) ад зямлі не адрос |
| | 5) хварэць на пана |

### ТЭКСТ ДА ЗАДАННЯЎ В4 – В8

1) Дарога ішла лагчынай.

2) *Паабапал* яе воддаль раслі старыя рэдкія сосны.

3) На глыбокім, густым і дробным, як перасеяным на рэшата, жоўтым пяску на дарозе тырчалі што ўкапаныя сасновыя пні – чорныя смалякі, абдзёртыя восямі і вымазаныя ў дзёгаць, і раслі сасонкі, дробныя, жоўтыя: не ўсталі з зямлі.

4) З гары, калі ішоў дождж, відаць, гнала сюды пясок, да самага маста.

5) Ля моста было свежа.

6) Запахла балотам, гразёю і сырым бабком.

7) Зафорскаў конь, чуючы ваду, – хацеў піць.

8) За мастом дарога выводзіла на стары буй.

9) Пачынаўся Тартак.

**В4.** Знайдзіце ў 7-м сказе дзеепрыслоўе, вызначце трыванне. Адказ запішыце.

**В5.** Вызначце часцінамоўную прыналежнасць выдзеленага ў 2-м сказе слова.

**В6.** Вызначце від 6-га сказа. Адказ запішыце адпаведнай лічбай:

1) аднасастаўны пэўна-асабовы
2) аднасастаўны няпэўна-асабовы
3) аднасастаўны абагульнена-асабовы
4) аднасастаўны безасабовы
5) аднасастаўны назыўны

**В7.** Дапішыце сказ:

*Сродкам сувязі 1-га і 2-га сказаў у тэксце з'яўляецца…*

**В8.** Вызначце стыль тэксту.

### АДКАЗЫ

**Частка А: А1.** 1, 2, 5; **А2.** 1, 3, 5; **А3.** 1, 2; **А4.** 1, 3, 4; **А5.** 1, 2; **А6.** 2, 3, 4; **А7.** 1, 3, 5; **А8.** 2, 3, 4, 5; **А9.** 2, 3, 4; **А10.** 1, 2, 4; **А11.** 1, 3, 5; **А12.** 2, 4; **А13.** 1, 4, 5; **А14.** 3, 4; **А15.** 2, 3, 5; **А16.** 2, 4, 5; **А17.** 1, 4, 5; **А18.** 1, 2; **А19.** 2, 3, 4; **А20.** 3, 4; **А21.** 1, 3, 5; **А22.** 4; **А23.** 2, 4; **А24.** 1, 4, 5; **А25.** 1, 3, 4, 5; **А26.** 1, 2, 4, 5; **А27.** 1, 2, 3; **А28.** 1, 2, 3, 5; **А29.** 1, 3, 4, 5; **А30.** 1, 4, 5; **А31.** 1, 3, 5; **А32.** 2, 3, 4.

**Частка В: В1.** – сямю; **В2.** – моры; **В3.** – А4Б3В2Г5; **В4.** – незакончанае; **В5.** – прыназоўнік; **В6.** – 4; **В7.** – займеннік; **В8.** – мастацкі.

Падрыхтавала
**Ларыса ПШАНІЧНАЯ.**

*Тэст складзены на аснове аповесці "Тартак" І. Пташнікава.*

*З вопыту работы*

# УЖЫВАННЕ ЛАДОЎ ДЗЕЯСЛОВА

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў VI КЛАСЕ

**Мэты і задачы:** даць звесткі пра лады дзеяслова; фарміраваць уменне вызначаць і ўтвараць формы ладоў, выкарыстоўваць іх у маўленні, складаючы тэксты на лінгвістычныя тэмы; выхоўваць павагу да роднай мовы і культуры.

**Абсталяванне:** табліца "Дзеяслоўныя формы", тэмы творчых работ, якія запісаны на дошцы.

### ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйны момант.**

**Уступнае слова настаўніка.** Калі спытаць у дарослага чалавека, ці бываў ён у краіне Дзеясловіі, ён, пацiснуўшы плячыма, адкажа, што такой краіны ўвогуле няма. Мы з вамі можам яму запярэчыць: "Такая краіна існуе, і па ёй вельмі цікава падарожнічаць, калі ведаеш…"

**II. Пастаноўка мэт і задач урока.**

**• Пытанні да класа.**

– Што нам трэба ведаць, каб без перашкод вандраваць па казачнай краіне? *(Трэба ведаць: азначэнне паняцця "дзеяслоў"; як дзеяслоў змяняецца; як утвараюцца формы ладоў дзеяслова; у якіх моўных сітуацыях ужываюцца формы ладоў дзеяслова.)*

– Чаму мы павінны навучыцца на ўроку? *(Адрозніваць, утвараць, ужываць формы трох ладоў дзеяслова.)*

**III. Праверка дамашняга задання.**

**Настаўнік.** Дома вы рыхтавалі выказванні, якія мы дамовіліся называць "Маналогі Ладоў". Давайце паслухаем.

**1-ы вучань.** Пачну я, Абвесны Лад, самы галоўны з трох, самы зразумелы і распаўсюджаны. Але вось з чым мне не пашанцавала, дык гэта з імем. Што такое "абвесны"? Напэўна, ад слова *абвяшчаць* – гэта значыць "паведамляць", "апавядаць". Я быў, ёсць і буду, прычым абавязкова. Я рэальна існую, у адрозненне ад маіх братоў, існую ў кожным з часоў – цяперашнім, прошлым ці будучым.

А цяпер слова майму сярэдняму брату.

**2-і вучань.** Як заўважыў Абвесны Лад, мы сваякі. Я – Умоўны Лад. Гэта значыць, што я мог бы адбыцца, але толькі пры пэўных умовах. Мяне лёгка пазнаць: са мной, як верны паж, часціца *б* (*бы*). Я, праўда, не дапускаю яе блізка, трымаю толькі на адлегласці. Што я яшчэ мог бы сказаць пра сябе? Я назаўсёды абраў сабе форму прошлага часу, але самога часу ў мяне няма, таму што я летуценны, я толькі мог бы існаваць. А ў таго, што не існуе, і часу быць не можа.

**3-і вучань.** Ну і мне слова, нарэшце, дайце. Я створаны для таго, каб загадваць. Я хаджу і прымушаю іншых: зрабі, паглядзі, адчыні, аддайце, забярыце. Няхай я не існую ў рэальнасці і ў мяне таксама няма часу, я ганаруся сабой і сваім імем. Я – Загадны Лад, і не мая віна ў тым, што многія на мяне крыўдзяцца за маю патрабавальнасць, але я заўсёды спачатку прашу, пабуджаю, заклікаю, а потым ужо патрабую і загадваю.

**IV. Сістэматызацыя тэарэтычных ведаў пра дзеяслоўныя формы.**

**• Работа з табліцай.**

| Дзеяслоўныя формы абазначаюць | | |
|---|---|---|
| **рэальныя дзеянні** | **нерэальныя дзеянні** | |
| у абвесным ладзе – дзеянні, якія адбываліся, адбываюцца ці будуць адбывацца: *бярог, берагу, буду берагчы* | ва ўмоўным ладзе – дзеянні, што могуць адбыцца: *не страціў бы, не пагарджалі б* | у загадным ладзе – пабуджэнне да дзеяння: *шануй, паважайце, няхай жыве* |

**Настаўнік.** Звярніце ўвагу на прыклады. Вызначце тэму нашай гаворкі. Якія назоўнікі можна дапісаць да названых дзеясловаў? (Буду берагчы *мову*, не страціў бы *памяць*, *гонар*, не пагарджалі б *традыцыямі*, шануй *роднае слова*, паважайце *культуру*, няхай жыве *родны край!*)

**• Выбарачная дыктоўка на замацаванне вызначэння ладу дзеяслова.**

**Настаўнік.** Праслухайце вершы і запішыце дзеясловы: 1-ы рад – у форме абвеснага ладу; 2-і рад – умоўнага; 3-і рад – загаднага.

…Калі шануеш тую мову,
Якую продкі зберагглі,
Скажы на ёй такія словы,
Каб у вяках яны жылі.
Каб той,
Хто прыйдзе за табою,
Не папракаў цябе ні ў чым,
А ўзяў бы мову, нібы зброю,
Каб для нашчадкаў берагчы.

Юрась Свірка.

…Хацеў бы я, каб ты не забывала,
Што мову я не для сябе бярог.
Хацеў бы я,
Каб ты так размаўляла,
Каб папраўляць цябе ніхто не змог.
Дачка мая,

Хачу, каб шлях кароткі
Да шчасця быў,
Каб ты яго знайшла,
Каб мову ты
Сваіх бацькоў і продкаў,
Як вернасць, як сумленне берагла.

Юрась Свірка.

Без прычыны не шкадуйце
Беларускай мовы
І наперад не рыхтуйце
Сумныя прамовы.
Спачувальна не глядзіце
Ў твар любімай мовы –
Пашукайце і знайдзіце
Сонечныя словы.

Уладзімір Скарынкін.

*Праверка запісанага вучнямі.*

**V. Замацаванне і паглыбленне вывучанага.**

**Заданне 1.** На дошцы запісаны дзеясловы. Утварыце ад іх формы загаднага і абвеснага ладоў множнага ліку.

| | заг. л., 2-я ас., мн. л. | абв. л., 2-я ас., мн. л. |
|---|---|---|
| сказаць | *скажыце* | *скажаце* |
| хваліць | *хваліце* | *пахваліце* |
| прыйсці | *прыйдзіце* | *прыйдзеце* |
| звязаць | *звяжыце* | *звяжаце* |
| выпісаць | *выпішыце* | *выпішаце* |

*Вучні робяць вывад: трэба адрозніваць формы 2-й асобы множнага ліку абвеснага і загаднага ладоў. У дзеясловах загаднага ладу заўсёды прысутнічаюць суфіксы **-ы-**, **-і-**. У абвесным – адпаведна спражэнню: І спр. – **-аце**, **-еце** (**-яце**); ІІ спр. – **-ыце**, **-іце**.*

**Заданне 2.** Складзіце сказы з парай дзеясловаў (*скажаце – скажыце*).

**Заданне 3.** Прааналізуйце адрозненне ладоў у кантэксце і высветліце, дзеясловы якога ладу ўжыты ў сказах:

Прыйдзі я трохі пазней, маглі і не сустрэцца. *(Загадны ў значэнні ўмоўнага.)*

Можа, вы з ім хацелі б пабачыцца? *(Умоўны ў значэнні абвеснага.)*

“Чытаў бы ты, Толя”, – папрасіла маці.

“Перакусіў бы чаго”, – прапанаваў гаспадар. *(Умоўны ў значэнні загаднага.)*

• **Работа з тэкстам.**

*Папярэдне вучням неабходна ўзгадаць тыпы тэкстаў і іх характэрныя рысы.*

**Заданне.** На аснове прапанаваных пачаткаў вызначце тып тэксту. Пра якія падзеі – рэальныя ці нерэальныя – пойдзе размова? Дзеясловы якога ладу будуць пераважаць?

а) Калі я быў маленькі, я думаў: вось бы трапіць у такую краіну, каб ні звяры, ні птушкі мяне не баяліся…

б) Тым зімовым вечарам у нас дома ўпрыгожвалі елку…

Формы якога ладу будуць пераважаць:
– пры апісанні любімай пары года?
– пры пераказе любімай кнігі?
– пры запрашэнні сяброў у тэатр?

**Настаўнік.** Вывучаючы дзеяслоў, мы з вамі пераканаліся, які ён разнастайны і багаты на формы; як лёгка ён мяняе сваю асобу, выгляд.

**Заданне.** Напішыце некалькі сказаў на адну з прапанаваных тэм:

“Дзеяслоў – вялікі працаўнік”;

“Дзеяслоў – багацей сярод іншых часцін мовы”.

Прыклады работ:

а) Дзеяслоў – вялікі працаўнік. Асноўны яго абавязак у мове – выражаць разнастайныя дзеянні. Ён хвалюецца, радуецца (выражае стан), ляціць, бяжыць (рух), паважае, ненавідзіць (пачуцці), звініць, скрыпіць (перадае гукі) і нават вечарэе. Яму нялёгка ўсюды паспець, усё абазначыць ды яшчэ праспрагацца. Але ён не скардзіцца. Гэта ж вялікі гонар! Без яго цяжка жыць іншым словам у сказе. Сказ без дзеяслова-выказніка застылы, безжыццёвы.

б) Дзеяслоў – сапраўдны багацей сярод іншых часцін мовы. Ён мае асобу, час, лад, трыванне, бывае пераходным і непераходным, зваротным і незваротным. Не забудзьцеся пра спражэнне, лік, род. Якая яшчэ часціна мовы можа пахваліцца такім багаццем?!

*Зачытванне работ вучнямі, выпраўленне магчымых памылак.*

**VI. Падвядзенне вынікаў урока.**

**VII. Рэфлексія “Астравы настрою”.**

*Кожнаму вучню раздадзены аркуш паперы з намаляванымі астравамі Радасці, Задавальнення, Асалоды, Прасвятлення, Неразумення, Суму, Трывогі і Бермудскім трохкутнікам. У адпаведнасці са сваім настроем вучні малююць побач з абраным востравам караблік.*

**VIII. Дамашняе заданне.**

Напісаць сачыненне-мініяцюру на адну з дзвюх тэм на выбар: 1) “У вандроўку па родным краі”; 2) “Размова з пісьменнікам”.

*Настаўнік звяртае ўвагу вучняў на дошку, дзе запісаны падказкі, на якія можна абапірацца пры напісанні творчай работы.*

1) Вы любіце вандраваць? Якія гарады і мястэчкі Беларусі вы хацелі б наведаць? Што вы хацелі б там пабачыць?

2) Падумайце, каго з беларускіх пісьменнікаў вы запрасілі б у госці. Як наладзілі б сустрэчу? Якія пытанні задавалі б? Што хацелі б пачуць?

**Наталля ВАСІЛЕНКА,**
выкладчык вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі гімназіі № 10 г. Гомеля.

*Настаўнік прапануе*

# ЗАПРАШЭННЕ Ў ТЭАТР

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў VIII КЛАСЕ

**Мэты і задачы ўрока:** даць звесткі пра паходжанне тэатральнага мастацтва, працэс стварэння спектакля і ролі ўдзельнікаў творчага калектыву тэатра ў ім; развіваць аналітычныя, камунікатыўныя і рэфлексійныя ўменні вучняў, культуру маўлення; абуджаць цікавасць да тэатральнага мастацтва.

**Тып урока:** урок засваення новых ведаў і спосабаў дзеяння.

**Месца ўрока ў раздзеле "Драматычныя жанры":** уступныя заняткі.

**Абсталяванне:** мультымедыйны праектар, мультымедыйная прэзентацыя, маскі, карткі з заданнямі, тэатральная афіша.

**Апераджальнае заданне:** падрыхтаваць кароткія паведамленні з мультымедыйнай прэзентацыяй пра сталічныя тэатры (заданні па групах).

### ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйны момант.**

*Задачы этапу: стварэнне добразычлівай рабочай атмасферы; арганізацыя ўвагі вучняў.*

**II. Падрыхтоўка вучняў да працы на асноўным этапе.**

*Задачы этапу: забяспечыць асэнсаванне вучнямі тэмы ўрока, прыняцце імі мэт і задач; матываваць вучняў да пазнавальнай дзейнасці; актуалізаваць апорныя веды.*

**Настаўнік.** Ці запрашалі вас калі-небудзь у тэатр? Калі запрашалі, то вы памятаеце, з якім святочным настроем чакалі сустрэчы з гэтым загадкавым і прывабным светам. Гэта – прадчуванне цуду.

У свеце тэатра ўсё незвычайнае. Вы бачыце дэкарацыі, намаляваныя мастаком. Бачыце персанажаў, створаных, як правіла, фантазіяй пісьменніка і сыграных артыстамі. Не выходзячы з глядзельнай залы, можаце здзейсніць падарожжа ў любую краіну і ў любую эпоху. А ці ведаем мы з вамі пра тэатр столькі, колькі ён ведае пра нас?

Вазьміце лісткі, уважліва перачытаўшы пытанні, адзначце знакам "+" тыя, на якія можаце даць адказ, і знакам "–", на якія – не (гл. дадатак 1).

*Вучні працуюць індывідуальна.*

*Настаўнік прапануе падняць руку тым, хто змог адказаць на ўсе пытанні (прагназуецца адсутнасць такіх вучняў).*

**Настаўнік.** Атрымліваецца, што ў кожнага з вас ёсць пытанні, на якія вы не можаце даць адказу. Таму я прапаную вам сфармуляваць мэту ўласнай працы на сённяшнім уроку.

*Вучні выказваюцца і фармулююць мэту сваёй працы.*

**Настаўнік.** Перад тым як шукаць адказы на пастаўленыя пытанні, варта ўзгадаць, што ўвогуле мы разумеем пад словам *тэатр*. Можа, хтонебудзь з вас ведае?

*Вучні выказваюць свае меркаванні. Калі адказу няма, то настаўнік дапамагае.*

**Настаўнік.** Слова *тэатр* у перакладзе з грэчаскай мовы абазначае *відовішча*, значыць, нешта цікавае і захапляльнае. Гэта від мастацтва, у якім жыццё адлюстроўваецца праз сцэнічнае дзеянне, якое акцёры выконваюць перад гледачамі.

**III. Засваенне новых ведаў і спосабаў дзеяння.**

*Задачы этапу: спрыяць усведамленню і засваенню вучнямі звестак пра гісторыю ўзнікнення і развіцця тэатральнага мастацтва, стан сучасных сталічных тэатраў; садзейнічаць фарміраванню ўмення працаваць з тэкстам, аналізаваць, выбіраць галоўнае, прадстаўляць вынікі сваёй працы, працаваць у групе.*

**Настаўнік.** Тэатр, як і іншыя віды мастацтва, мае сваю гісторыю. І я прапаную зазірнуць у яе. Працаваць будзем у групах. Кожная група атрымае тэкст, з якога вы павінны вылучыць ключавыя паняцці для складання апорнай схемы.

*Настаўнік прапануе прадстаўнікам кожнай групы падысці да дошкі і выбраць заданне, змешчанае на масцы (гл. дадатак 2).*

*Выступленні груп: вучні каменціруюць свае працы і змяшчаюць на дошцы лісты паперы з запісамі ключавых паняццяў.*

**Настаўнік.** Перад намі апорная схема, якая адлюстроўвае гісторыю ўзнікнення і развіцця беларускага тэатра. Мы бачым, што ён прайшоў шлях ад выступленняў скамарохаў да сучаснага прафесійнага тэатра.

У Беларусі працуе больш за 30 тэатраў. Але найбольш бурнае тэатральнае жыццё ідзе ў сталіцы. Я прапаную вам правесці кароткую завочную экскурсію па тэатрах горада Мінска.

*Вучні прадстаўляюць вынікі сваёй дамашняй працы над апераджальным заданнем: выступа-*

*юць у суправаджэнні мультымедыйнай прэзентацыі.*

**• Фізкультхвілінка (антракт).**

**IV. Замацаванне новых ведаў і спосабаў дзеяння.**

*Задачы этапу: замацаваць і пашырыць веды вучняў пра абавязкі членаў творчай групы тэатра пры падрыхтоўцы спектакля; фарміраваць уменне вучняў выказваць уласныя меркаванні на аснове схем.*

**Настаўнік.** Знаходзячыся ў глядзельнай зале, мы захапляемся тым, што адбываецца на сцэне, часам нават забываючы, што жыццё спектакля пачалося не ў гэты момант і не ў гэтым месцы. Над спектаклем працаваў творчы калектыў тэатра. Давайце паспрабуем прасачыць шлях спектакля ад нараджэння ідэі да прэм'еры. Перавярніце маску, і вы ўбачыце, ролю каго вам прапанавана апісаць.

*Вучні адказваюць, настаўнік прапануе ім ліст з алгарытмам выканання задання (гл. дадатак 3).*

*Прадстаўленні груп: вучні адлюстроўваюць на дошцы лагічны ланцуг і каменціруюць вынікі працы сваёй групы.*

**Настаўнік.** Няцяжка заўважыць, што абавязкі кожнага з членаў творчага калектыву тэатра цесна звязаны, і ад гэтага залежыць будучы поспех спектакля.

**V. Падвядзенне вынікаў урока, рэфлексія.**

*Задачы этапу: стварыць умовы для асэнсавання і ацэньвання вучнямі ступені дасягнення мэт і задач урока; забяспечыць разуменне імі мэты і зместу дамашняга задання; ацаніць працу класа і асобных вучняў.*

**Настаўнік.** Давайце вернемся да тых пытанняў, на якія вы не маглі адказаць на пачатку ўрока, і паспрабуем даць на іх адказы.

*Настаўнік прапануе падняць рукі тым вучням, у каго і цяпер засталіся пытанні без адказаў (прагназуецца адсутнасць такіх вучняў).*

*Падводзячы вынікі, настаўнік высвятляе ўзровень дасягнення мэт і задач, пастаўленых на пачатку ўрока перад вучнямі; дае якасную ацэнку працы класа і асобных вучняў, выстаўляе адзнакі.*

**VI. Дамашняе заданне.**

1) Пазнаёміцца з матэрыялам падручніка па тэме ўрока;

2) паразважаць над пытаннем, як звязаны літаратура і тэатр, п'еса і спектакль;

3) падрыхтаваць кароткія паведамленні пра любімых акцёраў, расказаць, чым запомніліся іх ролі.

**Настаўнік.** Я хачу шчыра падзякаваць вам за супрацоўніцтва і выказаць спадзяванне, што запрашэнне ў тэатр адбылося. А каб вам было лягчэй зрабіць выбар спектакля, які варта ўбачыць, затрымайце свой позірк на тэатральнай афішы.

Да сустрэчы!

**ДАДАТАК 1**

| Пытанне | Пачатак урока | Канец урока |
|---|---|---|
| 1. Ці ведаеце вы, у чым сутнасць паняцця *тэатр*? | | |
| 2. Ці ведаеце вы гісторыю ўзнікнення і развіцця беларускага тэатра? | | |
| 3. Ці можаце вы расказаць пра сталічныя тэатры і іх рэпертуар? | | |
| 4. Ці ведаеце вы, як і кім ствараецца спектакль? | | |

**ДАДАТАК 2**

**Парадак выканання заданняў:**

1. Пазнаёмцеся з тэкстам.
2. Вызначце ключавыя паняцці.
3. Запішыце іх на паперы.
4. Падрыхтуйце кароткую характарыстыку (1-2 сказы) ключавых паняццяў.
5. Выберыце прадстаўніка групы для выступлення.

**1-я група**

Вытокі беларускага тэатральнага мастацтва знаходзяцца ў глыбокай старажытнасці – у народных гульнях, абрадах, якія былі багата тэатралізаваны, суправаджаліся народнымі спевамі, пераапрананнем. Так, на Каляды людзі пераапраналіся "казой", "мядзведзем" і хадзілі з віншаваннямі ад хаты да хаты. Гэты звычай шмат дзе захаваўся і сёння. Пераапранутыя людзі не толькі спявалі, але і ладзілі смешныя сцэнкі з народнага жыцця. З гэтымі кароткімі вясёлымі спектаклямі-інсцэніроўкамі калядоўшчыкі вандравалі не толькі ад хаты да хаты, але і з адной вёскі ў другую. Таму іх пачалі называць вандроўнымі акцёрамі, або скамарохамі. Яшчэ іх называлі гудцамі, плясцамі і інш.

**2-я група**

У XVI – XVIII стст. на Беларусі было шмат рэлігійных школ, іх навучэнцы рыхтавалі і ставілі невялікія спектаклі. Гэтая з'ява атрымала назву школьнага тэатра. Школьныя тэатры існавалі ў Мінску, Віцебску, Магілёве, Полацку, Оршы, Слуцку, Нясвіжы, Слоніме, Навагрудку і іншых гарадах.

Школьны тэатр праіснаваў на Беларусі да XIX ст. Ён станоўча паўплываў на развіццё прафесійнага тэатра, спрыяў з'яўленню шматлікіх п'ес на фальклорнай аснове.

**3-я група**

Найбольш папулярным відам народнага тэатра была батлейка – вандроўны лялечны тэатр. (Слова *батлейка* паходзіць ад назвы горада Віфліем, ці Бэтлеем, дзе, паводле Біблії, нарадзіўся Ісус Хрыстос.)

Батлейка спачатку насіла рэлігійны характар, у ёй разыгрывалася толькі адна п'еса – "Цар Ірад", створаная паводле біблейскага аповеду. Злы Ірад са з'яўленнем Хрыста павінен быў страціць сваю ўладу. Таму ён загадаў знішчыць усіх нованароджаных хлопчыкаў, за што атрымаў заслужаную адплату.

Аднак адзін і той жа сюжэт не мог доўга захапляць гледачоў, і батлейшчыкі пачалі ўводзіць у п'есу "Цар Ірад" інтэрмедыі, бытавыя сцэнкі камедыйнага характару. Сцэнкі карысталіся вялікай папулярнасцю і ўрэшце зусім выцеснілі п'есу "Цар Ірад". Так узнік лялечны тэатр.

**4-я група**

У XVII – першай палове XIX ст. на Беларусі пачалі стварацца першыя прафесійныя тэатры. Гэта былі прыватныя тэатры магнатаў Агінскіх, Радзівілаў, такія тэатры існавалі ў Нясвіжы, Слоніме і іншых гарадах. Звычайна артыстамі ў іх станавіліся таленавітыя прыгонныя сяляне, якіх рыхтавалі спецыяльна запрошаныя з-за мяжы майстры.

Найбольшага развіцця тэатральнае мастацтва дасягнула ў ХХ ст. Напачатку ў Беларусі складваліся аматарскія тэатральныя калектывы, напрыклад, пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага, Уладзіслава Галубка, а ў 1920-я гг. узніклі прафесійныя тэатры.

**ДАДАТАК 3**

*Для падрыхтоўкі выступленняў вучні атрымліваюць аднолькавыя алгарытмы для апісання ролі мастацкага кіраўніка, рэжысёра, акцёра, драматурга.*

**Час працы – 6 хвілін.**

**Алгарытм:**

1. Пазнаёмцеся з матэрыялам падручніка.
2. Вызначце, якія абавязкі выконвае мастацкі кіраўнік (рэжысёр, акцёр, драматург) пры падрыхтоўцы спектакля – ад з'яўлення ідэі да прэм'еры.
3. Устанавіце паслядоўнасць гэтых дзеянняў.
4. Адлюструйце гэтую паслядоўнасць у выглядзе лагічнага ланцужка на лістах паперы.
5. Выберыце прадстаўніка групы, які агучыць вынікі вашай працы.

**Наталля КЕНДЫШ,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі
гімназіі № 22 г. Мінска.

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2010 год

ЧЭРВЕНЬ

**3 чэрвеня** – 75 гадоў з дня нараджэння Васіля Зуёнка, паэта, перакладчыка, літаратуразнаўцы, крытыка

70 гадоў з дня нараджэння Андрэя Каляды, літаратуразнаўцы, тэатразнаўцы, педагога, заснавальніка і кіраўніка Мінскага народнага літаратурнага тэатра "Жывое слова"

**4 чэрвеня** – 105 гадоў з дня нараджэння Мікалая Гурскага (1905 – 1972), мовазнаўцы

80 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Сакалоўскага, літаратуразнаўцы

**5 чэрвеня** – 100 гадоў з дня нараджэння Зямы Піваварава (1910 – 1937), паэта, перакладчыка

100 гадоў з дня нараджэння Яфіма Тараса (1910 – 1981), графіка, плакатыста

**6 чэрвеня** – 100 гадоў з дня нараджэння Антона Антановіча (1910 – 1980), мовазнаўцы

60 гадоў з дня нараджэння Аляксея Дударава, драматурга, празаіка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**7 чэрвеня** – 185 гадоў з дня нараджэння Эдварда Баніфацы Паўловіча (1825 – 1909), мемуарыста, мастака, асветніка

**8 чэрвеня** – 115 гадоў з дня нараджэння Ігната Дварчаніна (1895 – 1937), літаратуразнаўцы, паэта, публіцыста, грамадскага дзеяча

**9 чэрвеня** – 75 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Кузняцова (1935 – 1994), мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва

50 гадоў з часу стварэння Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва

**10 чэрвеня** – 70 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Вальнова, жывапісца і графіка

70 гадоў з дня нараджэння Ігара Хадановіча (1940 – 1966), празаіка, паэта

**12 чэрвеня** – 115 гадоў з дня нараджэння Леапольда Родзевіча (1895 – 1938?), палітычнага і грамадскага дзеяча, празаіка, публіцыста, паэта, драматурга

**13 чэрвеня –** 105 гадоў з дня нараджэння Лазара Шапіры (1905 – 1991), празаіка

**14 чэрвеня –** 110 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Забэйды-Суміцкага (1900 – 1981), спевака. З 1940 г. жыў у Празе

75 гадоў з дня нараджэння Івана Леткі (1935 – 1999), паэта

**15 чэрвеня** – 105 гадоў з дня нараджэння Юркі Віцьбіча (сапр. Шчарбакоў; 1905 – 1975), празаіка і культурнага дзеяча. Жыў у ЗША

90 гадоў з дня нараджэння Таццяны Аляксеевай, актрысы, рэжысёра радыё, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

70 гадоў з дня нараджэння Адольфа Варановіча (1940 – 2001), празаіка

*Заканчэнне на с. 111.*

*Асобы*

# НА НІВЕ БЕЛАРУСКАЙ ЛІНГВАМЕТОДЫКІ

## ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВАСІЛЯ ПРОТЧАНКІ



Вядомаму беларускаму вучонаму, метадысту, педагогу, доктару педагагічных навук, прафесару Васілю Ульянавічу Протчанку, чалавеку вялікай душы і высокіх памкненняў, адданаму сваёй справе, 7 красавіка 2010 г. споўнілася б 80 гадоў.

Праз усё жыццё пранёс Васіль Ульянавіч любоў да роднай зямлі, да беларускага слова. Вытокі яго высокай духоўнасці, магутнага інтэлекту – у народнай педагогіцы, засвоенай ад бацькоў, аднавяскоўцаў на роднай Брагіншчыне. Васіль Протчанка закончыў Мазырскае педвучылішча і Мазырскі педагагічны інстытут. Настаўнічаў у Катловіцкай пачатковай школе, потым быў намеснікам дырэктара Брагінскага дзіцячага дома, Савіцкай СШ, дырэктарам брагінскай СШ № 1. У 1959 г. прага ведаў прывяла В. Протчанку ў аспірантуру Беларускага дзяржаўнага універсітэта, пасля заканчэння якой выкладаў у БДУ, Мазырскім педінстытуце, Мінскім абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. У Нацыянальны інстытут адукацыі (у якім працаваў да апошняга дня больш за 30 гадоў) В. Протчанка прыйшоў, маючы багаты вопыт педагагічнай дзейнасці, што дало яму магчымасць у вельмі кароткія тэрміны абараніць у Маскве спачатку кандыдацкую, а потым і доктарскую дысертацыі па актуальных праблемах вывучэння сінтаксісу беларускай мовы. Сваю навуковую дзейнасць Васіль Ульянавіч заўсёды спалучаў з працай у школе, выступаў перад настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры ў інстытутах павышэння кваліфікацыі, удзельнічаў у семінарах і навукова-практычных канферэнцыях, чытаў лекцыі па методыцы выкладання беларускай мовы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Увесь час В. Протчанка клапаціўся пра маладую змену ў навуцы, кіраваў навуковымі даследаваннямі аспірантаў, кансультаваў дактарантаў. Дысертацыі, падрыхтаваныя пад яго навуковым кіраўніцтвам, вызначаюцца высокім тэарэтычным узроўнем і практычнай значнасцю.

Больш за сто навуковых прац сведчаць пра актыўную творчую дзейнасць В. Протчанкі на ніве беларускай лінгваметодыкі. Ім напісаны шматлікія артыкулы, вучэбныя праграмы па беларускай мове для агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання, праграмы для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ і аспірантаў, падручнік для IX класа агульнаадукацыйных устаноў, вучэбныя і метадычныя дапаможнікі, манаграфіі, сярод якіх “Вывучэнне сінтаксісу ў школе: Словазлучэнне. Просты сказ” (1984), “Шматаспектны аналіз пры вывучэнні сінтаксісу беларускай мовы” (1987), “Вывучэнне сінтаксісу ў школе: Складаны сказ” (1989), “Актуальныя пытанні тэорыі і практыкі навучання беларускай мове” (2001).

Што б ні рабіў В. Протчанка, ён заўсёды кіраваўся той ісцінай, што роднае слова адыгрывае выключную ролю ў станаўленні светапогляду маладых людзей, у фарміраванні іх духоўнага свету – інтэлектуальнага, маральна-этычнага, нацыянальна-культурнага. Ён заўсёды імкнуўся, каб мова ў навучальных установах засвойвалася не толькі як сістэма пэўных паняццяў і правілаў, але і як сродак пазнання, развіцця і выхавання.

Васіль Ульянавіч Протчанка быў прызнаным аўтарытэтам у навуковым асяроддзі. Да яго меркавання прыслухоўваліся, з яго словам лічыліся. За выдатныя заслугі ён быў узнагароджаны знакамі “Выдатнік асветы БССР” (1977) і “Ударнік дзевятай пяцігодкі” (1976), медалямі “За працоўную адзнаку” (1986) і “Ветэран працы” (1989), медалём Францыска Скарыны (1999).

Не стала В. Протчанкі 23 лютага 2002 г.

Усё напісанае Васілём Ульянавічам працізана клопатам пра лёс роднага слова. Яго імя – у энцыклапедыі “Беларуская мова”, у “Беларускай энцыклапедыі”, ва ўдзячнай памяці ўсіх, хто яго ведаў, хто з ім працаваў, каму дапамог выйсці на шырокую дарогу ў педагагічнай навуцы. Яго жыццё – прыклад самаахвярнага служэння роднаму слову, беларускай навуцы і Бацькаўшчыне.

**Ганна ВАЛОЧКА,**
загадчык лабараторыі гуманітарнай адукацыі
Нацыянальнага інстытута адукацыі,
доктар педагагічных навук.



# КАЛІ ЗАКОНЧЫЎСЯ ЎРОК

*Літаратурная гасцёўня*

## *“ТЫ КАЖАШ, Я НЕ ВЕДАЮ ВАЙНЫ…”*

### СЦЭНАРЫЙ ПАЗАКЛАСНАГА МЕРАПРЫЕМСТВА

**Мэты і задачы:** пашырыць веды вучняў пра Вялікую Айчынную вайну; дапамагчы ўсвядоміць, што вайна – гэта нястачы, смерць, ахвяры, а мір ва ўсім свеце – шчасце і радасць; выхоўваць патрыятычныя пачуцці і павагу да тых, хто здабываў для нас Перамогу.

**Абсталяванне:** выстава кніг, малюнкаў, прысвечаных Дню Перамогі; жывыя кветкі; слайдаскоп ці мультымедыйны праектар для дэманстрацыі ілюстрацый.

**Эпіграфы:**

*Я вас прашу, не зведаў хто вайны,*
*Прашу вас, мае дочкі і сыны,*
*Узяць хоць долю памяці маёй –*
*Каб потым ёй не зарасці травой.*

Анатоль Вярцінскі.

*Гаварыць,*
*Лішніх слёз не ліць,*
*Памяць не любіць слёз.*
*Заклінаць,*
*Каб нашчадкаў зямлі*
*Абмінуў непапраўны лёс.*

Данута Бічэль-Загнетава.

**1-ы вядучы.** Амаль 66 гадоў вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 66 гадоў над намі блакітнае, мірнае неба. І гэта не падарунак лёсу. Нашы бацькі, дзяды і прадзеды змагаліся за тое, каб мы былі шчаслівыя. Няшмат засталося тых, хто, не шкадуючы сябе, крок за крокам праз усе страты, боль, смутак набліжаў Перамогу. Яна прыйшла да нас з яркай, непаўторнай вясной. Гэта свята са слязьмі на вачах. Кожная сям’я захоўвае памяць пра сваіх блізкіх, пра сваіх герояў.

**2-і вядучы.** Давайце і мы ўспомнім пра людзей, якія прайшлі праз пекла вайны, пра людзей, якія аддалі сваё жыццё ў імя Перамогі.

*Гучыць ціхая музыка.*

*Вучань (за сцэнай) чытае ўрывак з верша “Дрэвы забылі пра буры і страты…” Максіма Танка:*

Дрэвы забылі пра буры і страты,
Раны свае загаіла зямля.
Толькі нічога забыць не змагла ты,
Памяць мая!..

*Інсцэніроўка песні “Алёша”. Гучыць мелодыя песні. Пасля слоў “Цветов он не дарит девчатам, девчатам, / Они ему дарят цветы…” песня абрываецца. На сцэне паступова гасне святло. Гучыць жалобная музыка. Святло запальваецца. У цэнтры сцэны – помнік савецкаму салдату (салдат нерухома стаіць на пастаменце, трымаючы ў руках аўтамат). Каля помніка – дзве шарэнгі дзяўчат, апранутых у цёмнае адзенне.*

**1-ы вядучы.** Магіла невядомага салдата. Хто ён? Твой сын, брат, бацька, муж?

**2-і вядучы.** Сюды ідуць маці, бацькі, якія не дачакаліся сыноў і дачок.

**1-ы вядучы.** Ідуць удовы.

**2-і вядучы.** Ідуць унукі, якія ведаюць дзядуляў толькі па фотаздымках.

**1-ы вядучы.** І кожны думае, што, можа быць, менавіта тут ляжыць яго родны чалавек.

**2-і вядучы.** Невядомы салдат зрабіў крок у бессмяротнасць.

*Да помніка падыходзіць старая жанчына ў чорнай вопратцы. Спыняецца, ускладае кветкі, ціха плача.*

**Жанчына.** Ты тут ляжыш… А я засталася… Дзякуй табе, сынок, за ўсё, што ты зрабіў.

**1-ы вядучы.** Яна не спяшаецца пайсці адсюль. Яна ўпэўнена, што яе сын ляжыць тут.

*Жанчына павольна адыходзіць у глыб сцэны.*

*Да помніка падыходзяць сівы мужчына і хлапчук. Мужчына становіцца на калені перад чырвонай плітой і цалуе граніт. Хлапчук ускладае кветкі.*

**2-і вядучы.** І старая жанчына, і мужчына, і хлапчук доўга стаяць каля помніка, ведаючы, што менавіта тут ляжыць той, каго не можа забыць сэрца. Прайшло ўжо 66 гадоў, як змоўклі гарматы.

**1-ы вядучы.** І толькі ад нас залежыць, ці здолеем мы зберагчы мір.

**2-і вядучы.** Гэта было б найлепшым помнікам загінулым у гады Вялікай Айчыннай вайны.

**1-ы вядучы.** Так, сённяшняе пакаленне не ведае жахаў вайны.

**2-і вядучы.** Але ўзімку і ўлетку, у спёку і сцюжу прыходзяць нашы землякі да брацкіх магіл, каб аддаць даніну павагі загінулым.

*1-ы чытальнік дэкламуе верш "На радзіме маёй" Алега Салтука.*

**1-ы вядучы.** Удзячныя нашчадкі схіляюць галовы перад помнікамі героям Вялікай Айчыннай вайны.

**2-і вядучы.** Пра што яны думаюць?

**1-ы вядучы.** Мне здаецца, што кожны з нас каля помніка Перамогі думае пра адно і тое: пра смеласць і адвагу салдат, гераізм і самаадданасць партызан і пра ўсіх тых, хто, як мог, набліжаў дзень Перамогі.

**2-і вядучы.** Перад вачыма паўстаюць старонкі мінулай вайны. Пяцярых сыноў адправіла на вайну беларуская жанчына Настасся Фамінічна Купрыянава. Усе яны загінулі, абараняючы Радзіму. Сын Пётр паўтарыў подзвіг Аляксандра Матросава.

**1-ы вядучы.** Каля горада Жодзіна з мармуру і бронзы ўзведзены манумент у гонар маці-патрыёткі.

**2-і вядучы.** У памяці народа навечна засталіся 29 трагічных дзён – менавіта столькі дзён мужна змагаліся абаронцы Брэсцкай крэпасці і не скарыліся ворагу.

**1-ы вядучы.** 250 дзён гераічнай абароны Севастопаля.

**2-і вядучы.** 900 дзён блакады Ленінграда.

**1-ы вядучы.** 103 дні вялікай бітвы пад Масквой.

**2-і вядучы.** 201 дзень стойкасці і мужнасці абаронцаў Сталінграда.

**1-ы вядучы.** 150 дзён змагання на Курскай дузе.

**2-і вядучы.** Увесь народ узняўся на абарону Радзімы: фашысты не шкадавалі ні жанчын, ні старых, ні дзяцей.

**1-ы вядучы.** Дзеці вайны… Яны рана і хутка станавіліся дарослымі. Не дзіцячы гэта цяжар, вайна, а яны адчулі яго напоўніцу.

**2-і вядучы.** Дзеці свайго народа, яны адпраўлялі воінам Чырвонай Арміі пасылкі, збіралі грошы ў фонд дапамогі сем'ям ваеннаслужачых. Ваявалі самі.

**1-ы вядучы.** Званне Героя Савецкага Саюза было прысвоена Марату Казею, Валю Коціку, Лёню Голікаву і Зіне Партновай.

*2-і чытальнік дэкламуе верш "Дзеці вайны" Пімена Панчанкі.*

**2-і вядучы.** У час Другой сусветнай вайны загінула 50 мільёнаў чалавек, з іх – 20 мільёнаў жыццяў савецкіх людзей, аддадзеных за вызваленне ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*На сцэну выходзяць салдат і хлопчык.*

**Салдат.** Табе дванаццаць. Ты нарадзіўся і вырас на мірнай зямлі. Ты ніколі не чуў выбухаў снарадаў. Ты бачыш, як будуюць новыя дамы. Ты ведаеш, якое шчасце жыць, марыць. Але ты не ведаеш, што чалавечае жыццё можа абарвацца імгненна.

*Хлопчык чытае верш "Ты кажаш, я не ведаю вайны…" Ніла Гілевіча.*

*Гучыць голас чатырохгадовага хлапчука (за сцэнай):*

Раніцай, раніцай…
Рана-раненька, ледзь сонца ўзыдзе…
Я чакаў, што мама прыйдзе па мяне,
Нечым цёплым, цёплым-цёплым ахіне…
Мама прыйдзе, мама ўпросіць вартавых
Адпусціць мяне дадому, да сваіх…
Але раніцы не было.
Але сонца ў той дзень для мяне не ўзышло.
Уначы, калі гуртам
мы плакалі ціха за дротам, –
Засвяцілі пражэктары раптам,
наўсцяж адчынілі вароты
І спусцілі на нас
зграю страшных аўчарак вялізных:
Мы не зналі, што іх
доўгі час не кармілі наўмысна…
Пакрамсаны, паклычаны ікламі,
ледзьве жывы,
Я ляжаў і стагнаў на дарозе,
пакуль не дабіў вартавы…

Ніл Гілевіч. А раніцы ўжо не было.

**Хлопчык.** Скажыце, а вы хацелі б, каб вайна адыходзіла ад нас, вашых унукаў, усё далей? Каб мы забыліся пра яе?

**Салдат.** Так, мы ваявалі за тое, каб вайна адышла ў нябыт. Але мы ўсё ж хочам, каб помнілі пра нас. Вайна – гэта наша агульная памяць.

*На сцэну выходзяць вучні і чытаюць пад гукі ціхай мелодыі ўрывак з паэмы "Гарыць, гарыць мая Лагойшчына" Ніла Гілевіча.*

**1-ы вучань.**

У свеце знаюць смутак Лідзіцэ
І Арадур у горкай скрусе.
А партызанкай першай лічыцца
Зямля бясстрашнай Беларусі.

**2-і вучань.**

Павек забойцаў ненавідзячы,
Мой край і кроплі не прыдумаў
Пра нашых дзевяць тысяч Лідзіцэ
І дзевяць тысяч Арадураў.

**3-і вучань.**

У нас агонь каціўся вёрстамі,

Па ўсёй зямлі гудзеў лавінай,
Забраўшы кожнага чацвёртага
І – два мільёны з палавінай!

**1-ы вучань.**

У нас усе бары і ельнікі –
Музеі славы несмяротнай.
Вы знайце гэта, пераемнікі
Вялікай доблесці народнай.

**2-і вучань.**

Не забывайце сцежкі даўнія,
Што мсціўцы вытапталі ў лесе,
Калі праз ночы легендарныя
Вам светлы дзень насустрач неслі.

**3-і вучань.**

Не забывайце, што не ўсе яны
Садзяцца сёння між гасцямі,
Што нашы долы-горы ўсеяны
Не толькі ворагаў касцямі.

**1-ы вучань.**

Усё, чаму яны не здрадзілі:
І праўду іх, што ў бой вадзіла,
І веру іх, якой не страцілі, –
Спытае заўтра з нас Радзіма.

**2-і вучань.**

Столькі зведаўшы гора, нягод,
Столькі слёз, і крыві, і агню –
Беларусь, ты на тысячы год
Заслужыла сабе цішыню.
Ні пра што не забыўшы ад той
Гераічнай і грознай пары, –
Больш за ўсё ты вартуеш спакой,
Больш за ўсё цэніш міру дары…

Ніл Гілевіч. А раніцы ўжо не было.

*Гучыць фрагмент “Рэквіема” В. Моцарта.*

**1-ы вядучы.** Нашы бабулі і дзядулі спадзяваліся, кахалі, радаваліся жыццю. Але вайна парушыла іх мары.

**2-і вядучы.** Родныя вы нашы! У смутку вялікім схіліўшы галовы, стаім перад вамі. Вы не скарыліся лютым забойцам у чорныя дні фашысцкай навалы. Вы смерць прынялі, ды полымя сэрцаў вашай любові да нашай Радзімы навек незгасальнае. Памяць пра вас у нас назаўсёды, як неўміручая наша зямля і як вечна яркае сонца над ёю!

Паводле гісторыка-дакументальнай хронікі “Памяць”.

**1-ы вядучы.** Пра жудасныя дні вайны нам нагадвае зварот хатынцаў да ўсіх людзей, напісаны святою крывёю пакутнікаў. Ён гучыць як наказ будучым пакаленням:

Людзі добрыя, помніце!
Мы любілі жыццё, і Радзіму,
І вас, дарагія.
Мы згарэлі жывымі ў агні.
Наша просьба да ўсіх:
Хай жалоба і смутак
Абернуцца ў мужнасць і сілу,
Каб змаглі ўвекавечыць вы
Мір і спакой на зямлі,
Каб нідзе і ніколі
У віхуры пажараў
Жыццё не ўмірала.

Надпіс на мемарыяльным вянцы ў Хатыні.

*Гучыць мелодыя песні “Хатынь” (муз. І. Лучанка).*

*3-і чытальнік дэкламуе верш “Хатынь” Сяргея Законнікава.*

*4-ы чытальнік дэкламуе верш “Званіце, званы, у Хатыні” Станіслава Шушкевіча.*

**1-ы вядучы.** Вайна… Маладое пакаленне нашай краіны ведае пра яе па ўспамінах ветэранаў, кадрах кінафільмаў, творах мастацкай літаратуры. Мы захапляемся мужнасцю ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, чуем, як гучыць пераможны салют у маі сорак пятага года.

**2-і вядучы.** Вайна адышла ў мінулае, стала старонкай гісторыі.

*Гучыць “Жалобны марш” Ф. Шапэна. Пад музыку вучні па адной страфе чытаюць верш “Рэквіем” Анатоля Вярцінскага.*

**1-ы вядучы.** Стаяць на беларускай зямлі помнікі, мемарыяльныя ансамблі, абеліскі. Велічныя і сціплыя.

**2-і вядучы.** Успаміны відавочцаў не даюць нам забыць трагічныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны.

*1-ы вядучы зачытвае ўрывак з успамінаў Ц. Ламакі, жыхара мястэчка Рудзенск.*

У ліпені 1943 года настаўнік школы вёскі Рудзенск пасвіў карову каля чыгункі. Немцы, якія ахоўвалі чыгунку, затрымалі яго, абвінаваціўшы ў тым, што гэта ён падклаў міну пад рэйкі. Доўгі час мучылі. Нарэшце перадалі паліцаям, якія яго і расстралялі.

У жніўні 1943 года немцы павесілі невядомага чалавека, абвінаваціўшы ў тым, што ён партызан.

*2-і вядучы зачытвае ўрывак з успамінаў Р. Казанцавай, жыхаркі горада Мар’іна Горка.*

У вайну мне было 14 гадоў. У пачатку вайны яшчэ хадзіла ў школу. Аднойчы, ідучы ў школу, я пераходзіла чыгунку паблізу таго месца, дзе цяпер абсталявана пляцоўка для стаянкі аўтамашын, і ўбачыла жудасную карціну. Паабапал чыгункі ў ледзяной скарынцы лужын ляжалі трупы палонных чырвонаармейцаў. Іх было шмат: дзесяткі, магчыма, сотні. Некаторыя з прахожых баязліва падыходзілі, каб паглядзець, ці няма знаёмых сярод забітых.

На чыгунцы стаяў эшалон, у якім у бок Мінска везлі палонных. Ён спыніўся ў Мар’інай Горцы ноччу.

Стралялі той ноччу бесперапынна і доўга. Прыслухоўваючыся да гэтага жудаснага голасу вайны, мае бацькі нават меркавалі, што высадзіўся савецкі дэсант і дае бой захопнікам. Аднак, як толькі ўзышло сонца і маці выйшла на двор, усё стала ясна: у нашым хляве хаваліся двое палонных, якім пашанцавала пераадолець смяротную зону, што прастрэльвалася з кулямётаў. Пасля па горадзе хадзілі патрулі, шукалі ўцекачоў.

Маці аднесла гасцям кавалачак хлеба і ўвесь дзень малілася, каб ніхто іх не ўбачыў, бо тады фашысты расстралялі б усю нашу сям'ю. Наступнай ноччу ўцекачы пайшлі з нашага двара.

**1-ы вядучы.** За тое, што на світанні мы чуем песні жаўрукоў, а не выбухі бомбаў, што радуемся цудоўным краявідам прыроды, што нашы вочы свецяцца шчасцем, вялікі дзякуй і нізкі паклон вам, салдаты Вялікай Айчыннай, яе ветэраны!

**2-і вядучы.** Усё менш застаецца тых, хто абараняў нашу Радзіму. На жаль, час бязлітасны. Тым не менш у нас у гасцях сёння ветэраны.

*Слова даецца ветэранам.*

**1-ы вядучы.** Сённяшняй цішынёй, светлым жаданым мірам, бясклапотным дзяцінствам мы абавязаны Вялікай Перамозе.

**2-і вядучы.**

За свет, з пажару ўратаваны,
за радасць нашых ясных дзён, –
вайны мінулай ветэраны,
прыміце ўдзячнасці паклон!

*Вучні дораць ветэранам кветкі.*

**1-ы вядучы.** У глыбокім смутку схіляем мы галовы перад ахвярамі фашысцкай навалы. Ушануем хвілінай маўчання ўсіх тых, хто загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны і быў закатаваны ў канцэнтрацыйных лагерах.

*Хвіліна маўчання.*

*Гучыць песня "Журавли" (муз. Я. Фрэнкеля, сл. Р. Гамзатава).*

*1-ы чытальнік дэкламуе верш "Урок арыфметыкі" Анатоля Грачанікава.*

**Інсцэніроўка ўрыўка з драматычнай балады "Радавыя" Аляксея Дударава**

*Па сцэне мітусяцца людзі. Здалёк павольна-павольна ідзе Дзерваед. Брудны, запылены, расхрыстаны, без каскі. Сівы ўвесь, нават бровы сівыя. Змучаныя вочы ўвесь час глядзяць пад ногі. Цягне за рэмень аўтамат, спатыкаецца. Падыходзіць да сцяны, прытуліўся да яе. На сцэне з'яўляецца маладая бялявая Жанчына з дзіцем на руках. Доўгая, вышываная чырвоным белая-белая сарочка. Стаіць і калыша дзіця. Бязгучна, запаволена.*

**Дзерваед** (*цяжка*). Жывы, жывы я, Мар'я… Хочаш не хочаш, а жывы… Даруй ты мне… Нацярпеўся… Так нацярпеўся…

*Мар'я не адказвае. Калыша дзіця.*

Пуста ў маім сэрцы, Мар'я… Выкіпела ўсё… Адпусці ты маю душу! Хоць трошкі на вайну спішы. Хоць трохі, Мар'я…

*Мар'я не адказвае. Калышучы дзіця, знікае. Уваходзіць Бушцец. Салянік вядзе Адуванчыка з перабінтаванай галавой. Адуванчык плача.*

**Бушцец.** Ну, вось і ўсё, Мішка… Старыя твае і дзеткі малыя ў Ленінградзе з голаду памерлі ў блакаду, жонку на фронце забіла, сам ты пяць разоў быў паранены і два разы кантужаны і лёг касцьмі на чужой зямлі перад канцом вайны… Два гады пад адным шынялькам спалі, з аднаго кацялка елі. Мне б зараз выць, валасы на сабе рваць… Нават рады, што не мяне сёння, а яго паклалі…

**Салянік.** Ужо і плакаць не можаш?..

**Бушцец.** Чым плакаць? Калі б па адной слязінцы на кожную смерць, на ўсё, што бачыў, ды я б па кропельцы расплюскаўся ад Ржэва да Германіі…

**Салянік.** Цяжка табе будзе… Калі ўсё высахла…

*Паўза. Уваходзіць старшына Дугін.*

**Дугін.** Бушцец!

**Бушцец.** Што?

**Дугін.** Не што, а я! Хадзі сюды…

**Бушцец** (*падыходзіць*). Ну, я…

**Дугін** (*шэптам, зацята*). Ты ў склепе быў?

**Бушцец.** У якім склепе?

**Дугін.** Ты тут Ваньку не строй… пакажы сваю фінягу!

*Бушцец, крыва ўсміхнуўшыся, дастае з-за спіны трафейны эсэсаўскі корцік, падае Дугіну. Той разглядвае.*

**Бушцец.** Ну што ты, старшына… Я б яго вышчер ці ў сажалцы спаласнуў… (*І нечакана ўзвіўся.*) Я з атакі, а не з бульварчыка!

**Дугін.** Разгаворчыкі! (*Спакойна, вяртаючы корцік.*) Адным словам, вось што, Сярожа: загад Вярхоўнага ты ведаеш… Ведаеш ці не?

**Бушцец.** Ну, ведаю…

**Дугін.** Не "ну"…

**Бушцец.** Так точна, таварыш старшына! За жорсткае абыходжанне з мірным насельніцтвам або з ваеннапалоннымі…

**Дугін.** Вось іменна… Ведаеш. Ты мне блізкі чалавек… Брат. Але звярэць, стаць такімі, як яны, я табе не дам! Чуеш? Яшчэ што-небудзь… я цябе без трыбунала… Сам… Усёк?

**Бушцец.** Усёк.

**Дугін.** Мы з табой славяне, Сярожа… І прыйшлі сюды заваёўваць сімпатыю…

**Бушчэц.** А я з немкай жаніцца не збіраюся. Сімпатый мне не трэба.

**Дугін.** Мне таксама. Тваім дзецям можа спатрэбіцца.

**Бушчэц.** Чаму ж яны пра гэта не думалі?

**Дугін.** Мы з табой не яны! Я так думаю… Пытанні ёсць?

**Бушчэц.** Табе сны сняцца, Дугін?

**Дугін.** Я чацвёрты год не высыпаюся…

**Бушчэц.** А я засынаць баюся! Загад… Вярхоўны ў Маскве, а я тут… Бацька, маці, сястрычкі маленькія зямлю парацъ… Жонку ў канцлагеры спалілі… Мяне ад Люські з вясельнага стала ўзялі пасля першай чаркі… “Горка” нават не крычалі! Ведаеш, што мне сніцца?! Ад самага Ржэва! Вяселле маё. Сядзім за сталом усе ў белым… І перад кожным чарка… А ў чарцы кроў замест віна… І ўсе госці глядзяць на мяне! Я з Люськай павінен выпіць… Тады ім не давядзецца… Я ўстаю, бяру гэтую чарку… І прачынаюся… Халодны пот, а ў роце салёны смак… (*Жорстка.*) Пытанні ёсць?!

**Дугін.** Пайшлі вып’ем… Вайна хутка скончыцца… І трэба будзе жыць… Разумееш, жыць…

**Бушчэц.** Жыць…

*Апускаецца заслона.*

*Гучыць урачыстая музыка. 2-і вядучы чытае пісьмо Невядомаму салдату.*

Добры дзень, Невядомы салдат! Мне вельмі шкада, што ты загінуў. Мне здаецца, што ты ўсім сэрцам успрыняў бяду, якая прыйшла на нашу зямлю. Я думаю: ты зрабіў усё для таго, каб ніколі не было на нашай Радзіме стогнаў, крыкаў, каб ніколі не было болю, пакутаў, слёз і смерцяў. Ты, напэўна, хацеў, каб наша зямля была падобна да заквітнелага саду, дзе жылі б шчаслівыя, добрыя, міласэрныя людзі.

Дзякуй табе за тое, што ты абараняў нашу Радзіму. Ты ахвяраваў сабою дзеля мяне, дзеля ўсіх маіх блізкіх. Ты ваяваў за тое, каб на зямлі быў мір, каб людзі жылі ў згодзе. Дзякуй табе за ўсё!

На жаль, і цяпер у некаторых краінах ідуць войны, але, я думаю, людзі будуць змагацца за Мір. Бывай, Невядомы салдат!

*2-і чытальнік дэкламуе верш “Надпіс на помніку ў вёсцы Шунёўка” Рыгора Барадуліна.*

*3-і чытальнік дэкламуе верш “Трасцянец” Анатоля Вялюгіна.*

*Гучыць песня “День Победы” (муз. Д. Тухманава, сл. У. Харытонава).*

**Зоя ШЧУПЛЯКОВА,**
настаўнік беларускай мовы і літаратуры
вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі
сярэдняй школы № 1 п. Дружны Пухавіцкага раёна.

*Даніна памяці*

# “УСЁ РАДЗІМЕ АДДАЛІ…”

## ЛІТАРАТУРНАЯ ГАСЦЁЎНЯ ДА 65-ГОДДЗЯ ВЯЛІКАЙ ПЕРАМОГІ

*Памяці беларускіх паэтаў,
якія загінулі на Вялікай Айчыннай вайне, прысвячаецца…*

### ХОД МЕРАПРЫЕМСТВА

*На заднім плане сцэны (заслоне) прымацаваны лічбы 1945 – 2010, на экране – Вечны агонь; стаіць столік для кветак, якія будуць “ускладаць” удзельнікі мерапрыемства.*

*Чытальнікі апрануты ў вайсковую форму.*

**1-ы вядучы.** Не адна ваенная навала пракацілася па беларускай зямлі, пакідаючы папялішчы і руіны, а ў людскіх сэрцах – гора і пакуты.

**2-і вядучы.** Смерць аднаго чалавека – гэта непамерная трагедыя, бо разам з ім гіне цэлы свет, а што тады казаць пра цану людскіх ахвяр усяго нашага народа…

**1-ы вядучы.** У вяках застанецца подзвіг народа ў найвялікшай з усіх войнаў, у людской памяці застанецца подзвіг літаратуры, якая была з народам у велічнай бітве за свабоду Радзімы.

**2-і вядучы.** Сапраўды, незвычайны і нечуваны ўдзел брала ў смяротнай бітве савецкая літаратура. Больш за тысячу сяброў Саюза пісьменнікаў СССР пайшлі на фронт. За ўдзел у баях супраць фашысцкіх захопнікаў каля пяцісот з іх былі адзначаны ўзнагародамі, васемнаццаць уганараваны званнямі Герояў Савецкага Саюза.

**1-ы вядучы.** Каля чатырохсот пісьменнікаў аддалі жыццё за Радзіму. У трагічным спісе загінулых – беларускія пісьменнікі, памяць якіх мы ўшануем хвілінай маўчання.

*Хвіліна маўчання. На экране – прозвішчы загінулых.*

**“Імёны іх прачытай і запомні…”**

Уладзімір Рагуцкі (1917 – 1941)
Алесь Пруднікаў (1910 – 1941)
Рыгор Суніца (1909 – 1941)
Алесь Дубровіч (1906 – 1941)
Леанід Гаўрылаў (1918 – 1941)
Мікола Сямашка (1914 – 1941)
Янка Бобрык (1905 – 1942)
Аркадзь Гейнэ (1919 – 1942)
Андрэй Ушакоў (1912 – 1942)
Алесь Жаўрук (1910 – 1942)
Рыгор Жалязняк (1914 – 1942)
Алесь Мілюць (1908 – 1944)
Змітрок Астапенка (1900 – 1944)
Мікола Сурначоў (1917 – 1945)
Аляксей Коршак (1920 – 1945)
Сяргей Крывец (1907 – 1945)
Хвядос Шынклер (1903 – 1942)
Павел Левановіч (1914 – 1943)
Рыгор Мурашка (1902 – 1944)
Мікола Нікановіч (1902 – 1944)
Міхась Юдэлевіч (1914 – 1941)
Іван Шапавалаў (1907 – 1941)
Рува Рэйзін (1911 – 1942)
Леў Талалай (1908 – 1942)
Генадзь Шведзік (1914 – 1942)
Сямён Ляльчук (1916 – 1944)
Эля Каган (1908 – 1945)

*Ціха пачынае гучаць “Рэквіем” В. Моцарта.*

**2-і вядучы.** Гэты спіс можна працягваць. Разам з тымі, хто паспеў ужо заявіць пра сябе ў літаратуры, загінулі і тыя, хто яшчэ толькі спрабаваў голас: Тодар Курбацкі, Алег Радзівонаў, Уладзімір Ясючэня… Памяць пра іх – у нашых сэрцах.

*На экране з’яўляюцца словы з верша “Часцей, часцей прыпамінай…” Ніла Гілевіча:*

Прыпамінай часцей, мой друг,
Імёны тых, што ўсё зрабілі –
Вышэй усіх тваіх заслуг,
Што, як і ты, да слёз любілі
Маністы ўвосень на рабіне
І ў ліпкіх смолках майскі луг, –
Не забывай пра іх, мой друг!

**1-ы вядучы.** Творы паэтаў, якія аддалі жыццё за Радзіму ў час Вялікай Айчыннай, – адна з самых дарагіх, балючых і святых старонак нашай паэзіі.

**2-і вядучы.** Літаратары апраналі вайсковыя шынялі і ішлі на фронт, змагаліся ў партызанах і антыфашысцкім падполлі, іншым давялося выжываць ва ўмовах акупацыі, многія прайшлі праз пакуты ў гета.

**1-ы вядучы.** Франтавікам выпаў неймаверна цяжкі і суровы лёс, яны сустрэліся са смерцю вочы ў вочы, падымаліся ў атаку пад градам куль і асколкаў. Маршал Георгій Жукаў сказаў: “Я лічу, што моладзь прынесла галоўную ахвяру ў вайне”. Гэты ж славуты палкаводзец, каго сёння называюць ваенным геніем, дакладна акрэсліў лёсавызначальны характар той вайны: “Мы схапіліся з фашызмам, калі амаль уся Еўропа была ім пераможана. Мы заставаліся для многіх людзей і нацый апошняй надзеяй. Свет замёр у чаканні ў 1941 годзе: выстаім мы ці фашысты і тут возьмуць верх? Для нас саміх гэтая схватка была найвялікшым выпрабаваннем”.

**2-і вядучы.** Нацысцкая Германія кінула на СССР добра ўзброеныя сілы, і таму ў пачатку вайны савецкія войскі не здолелі спыніць магутнага і вопытнага агрэсара. Былі на тое і іншыя прычыны: у 1937 – 1938 гадах рэпрэсіўная машына знішчыла тысячы таленавітых савецкіх военачальнікаў і камандзіраў.

**1-ы вядучы.** Праз Беларусь пралёг баявы шлях больш як 120 пісьменнікаў усіх рэспублік былога Савецкага Саюза. Для трынаццаці з іх наша родная зямля стала вечным прыстанкам. Магілы нашых землякоў, якія змагаліся з фашызмам, параскіданы на абшарах ад Масквы да Брэста, а таксама па ўсёй Еўропе.

*Музыка сціхае.*

**2-і вядучы.** Пераможнага салюту не прычакаў наш зямляк, франтавік, паэт ***Канстанцін Клімковіч***.

*На экране – фотаздымак Канстанціна Клімковіча і гады яго жыцця.*

Канстанцін Клімковіч родам з Пагарэльцаў, што знаходзяцца на ўчастку чыгункі Баранавічы – Стоўбцы. Тут мінулі яго дзіцячыя і юнацкія гады, калі ён захапляўся творамі Янкі Купалы і Якуба Коласа, адсюль ён пайшоў на вайну. У студзені 1944 года варожы снарад разарваўся каля ног маладога лейтэнанта, аднапалчане пахавалі яго на ўскрайку вёскі Краснаполле, што на Жытоміршчыне. У лісце да брата Захара ён пісаў: “Па гэтых бязлесых прасторах некалі імчалася конніца ханаў Залатой Арды. Але яна растала на гэтых прасторах, як снег, як злавесны прывід. Цяпер гэтую зямлю топчуць фашысцкія орды. Іх чакае такая ж доля…” Там, на фронце, у час кароткіх перапынкаў паміж баямі, нараджаліся вершаваныя радкі, прасякнутыя пафасам змагання і верай у перамогу:

Размахнись, всенародного мщенья
Боевая рука, и ударь!
Дуй смелее, весны дуновенье,
Разжигай нашей мести пожар!

**1-ы вядучы.** Нямала пісьменнікаў загінула ў віхуры вайны без вестак, пры нявысветленых абставінах, як у выпадку са ***Змітраком Астапенкам***.

Будучы творца нарадзіўся ў Смаленскай вобласці ў сям'і настаўніка і пасля заканчэння Мсціслаўскага педагагічнага вучылішча ў 1929 годзе пераехаў у Мінск.

*На экране – фотаздымак Змітрака Астапенкі і гады яго жыцця, ніжэй урывак з верша "Ноч на станцыі Негарэлае":*

Я люблю Беларусь, як каханы, як сын,
І таму не трываю пякельнага болю,
Што пастаўленым слупам, дзе шэпчуць лясы,
Падзяляецца напал радзімае поле.
І на гэтай палове, дзе ўсе мы жывем
І дзе нашая доля ўзрастае, мацнее,
Мы складаем пякельныя песні паэм,
Што дыктуюцца словам пахмурнага гневу.

Лёс беларускага паэта Змітрака Астапенкі падобны да легенды. Яшчэ да вайны было выдадзена некалькі зборнікаў яго вершаў і навукова-фантастычны раман "Вызваленне сіл". У пачатку 1930-х Астапенку двойчы незаконна арыштоўвалі, а ў 1937 годзе асудзілі на восем гадоў зняволення. Перад вайной ён уцёк з сібірскага лагера, вандраваў па краіне, мяняючы раз за разам месцы працы. Увесь гэты час Змітрок Астапенка піша ў розныя інстанцыі, сцвярджаючы, што ўцёк дзеля таго, каб даказаць: ён сапраўдны патрыёт і гатовы аддаць жыццё за Радзіму.

**2-і вядучы.** Сябар Змітрака Астапенкі, пісьменнік Станіслаў Шушкевіч, адшукаў цікавыя дакументы, з якіх даведаўся, што Астапенку паверылі і ўзялі ў армію, а пасля накіравалі са спецыяльным заданнем у варожы тыл. Перад адлётам паэт напісаў эпічную паэму "Эдэм".

7 кастрычніка 1941 года Астапенка даслаў у Маскву пісьмо сваім родным: "Вакол мяне крутыя горы. Схілы гор параслі елкамі і букам. Цяпер сонца. Учора, пазаўчора хмары чапляліся за нашы палаткі. Ішлі дажджы… Колькі хвалявання. Напрыклад, пералёт праз лінію фронту. Парашутны скачок у горныя лясы і шмат іншага… Мае родныя! Напэўна, пасля гэтага пісьма я надоўга не буду мець магчымасці напісаць вам. Хай вас гэта не бянтэжыць. Зараз іду пешкі ў горы, насустрач небяспецы, у агонь барацьбы. Я ніколі не баюся небяспекі, ненавіджу ворага, люблю вас, мае родныя. Чакайце!"

**1-ы вядучы.** Гэта быў апошні ліст да родных. Пазней жонцы паведамілі, што "Дзмітрый Емяльянавіч Астапенка, знаходзячыся на фронце, прапаў без вестак у кастрычніку 1944 года". Ёсць меркаванне, што ён загінуў у Славакіі.

**2-і вядучы. *Аляксей Коршак*** нарадзіўся на Случчыне. Да вайны вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута. Асноўны матыў яго паэзіі – улюбёнасць у жыццё. У гады вайны малады паэт быў разведчыкам. Варожая куля знайшла дваццаціпяцігадовага паэта ва Усходняй Прусіі, недалёка ад паселішча Ласлейндорф.

*На экране – фотаздымак Аляксея Коршака і гады яго жыцця, ніжэй урывак з верша "Расстрэл":*

Хтосьці ў спеве чароўным
Ўспамінае мяне там…
Вось і жвір супакойны…
Дык страляйце! Ўсё роўна
Не забіць мяне вам!

*Гучыць песня "На безымянной высоте" (муз. В. Баснера, сл. М. Матусоўскага).*

*Музыка сціхае.*

**1-ы вядучы.** Назаўсёды застаўся ў памяці Міколы Аўрамчыка Аляксей Коршак, сябра па інстытуце, які плённа і старанна працаваў над паэтычным радком у пакойчыку на Студэнцкай!..

*3-і чытальнік дэкламуе верш "Памяці Аляксея Коршака" Міколы Аўрамчыка.*

*Гучыць песня "Поле памяці" (муз. А. Захлеўнага, сл. У. Някляева).*

**1-ы вядучы.** У 1941 годзе, калі ішлі баі пад Масквой, на старонках "Комсомольской правды" было надрукавана некалькі вершаў, пад якімі стаяў подпіс *Палітрук А. Сінічкін.* Гэта былі вершы ***Алеся Жаўрука***. Перад вайной малады паэт скончыў Рагачоўскі педтэхнікум, Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры, займаўся ў аспірантуры пры Акадэміі навук БССР. Алесь Жаўрук, аўтар лірычных зборнікаў "Ручаіны" і "Дняпро выходзіць з берагоў", пайшоў на фронт у першыя дні вайны і служыў карэспандэнтам газеты "На защиту Родины". 23 жніўня 1942 года ў час бамбёжкі Сталінграда і яго прыгарадаў палітрук 62-й арміі Аляксандр Дзмітрыевіч Сінічкін быў цяжка паранены і накіраваны ў шпіталь. Пры эвакуацыі шпіталя на другі бераг Волгі бомба трапіла ў судна, на якім знаходзіўся і Алесь Жаўрук.

*На экране – фотаздымак Алеся Жаўрука і гады яго жыцця, ніжэй урывак з верша:*

За разоренные селенья,
За кровь, насилие, разбой,

За непомерное глумленье
Над нашей Родиной святой.
За стариков, сожженных в хатах,
Заброшенных под танк ребят,
За все, что дорого и свято
С тех пор, как помним мы себя;
За полыхание пожарищ,
Земли поруганную честь –
Один ответ у нас, товарищ, –
Святая, яростная месть.

*Музыка сціхае. 4-ы чытальнік дэкламуе верш "Ружа" Алеся Жаўрука.*

*Гучыць песня "За бацькамі – сыны" (муз. Я. Глебава, сл. П. Макаля).*

**2-і вядучы.** У кастрычніку 1942 года пад Бранскам загінуў кулямётчык ***Генадзь Шведзік***.

*На экране – фотаздымак Генадзя Шведзіка і гады яго жыцця, ніжэй урывак з верша:*

Пагляд мой,
Не будзь летуценным,
Пагляд мой,
Сіней і ззяй!
Інакш гэта ўсё паўторыцца
І тое ж з табою станецца.
Помні пра сіняе возера,
Помні!
Не забывай!

Абарвалася жыццё салдата, песня паэта… Камандзір роты старшы лейтэнант Талстоў напісаў тады пра яго родным: "Ён быў добры таварыш, просты, ніколі не выхваляўся сваёй адукацыяй. Мы блізка з ім пасябравалі… Шведзік пахаваны ля вёскі Дваешкі Смаленскай вобласці".

І хоць Генадзь Шведзік апрануў салдацкую форму і ўзяў у рукі зброю – кулямёт, аднак да апошняга не выпускаў з рук і другую – пяро.

Паэт не дажыў да таго дня, калі беларускую зямлю вызвалілі ад фашысцкіх захопнікаў. Разам з горкай весткай пра яго гібель сям'я атрымала нізку апошніх вершаў, вершаў з акопаў. Пасля яны ўвайшлі ў зборнік "Лірыка".

*Музыка сціхае. 5-ы чытальнік дэкламуе верш "Матчына сляза" Генадзя Шведзіка.*

*Гучыць песня "Бухенвальдский набат" (муз. В. Мурадэлі, сл. А. Собалева).*

*На экране – фотаздымак Міколы Сурначова і гады яго жыцця, ніжэй урывак з верша:*

І толькі б дзе ні ваяваў,
Дзе б ні быў у траншэі,
Такіх, як на радзіме, траў,
Такіх густых завеяў,
Такіх світанняў і крыніц,
Крутых віроў, палонак,
Такіх, як нашы, зараніц,
Як на Сажы сасонак, –
Я не знайшоў, як ні хацеў
Знайсці ў другой мясціне.
І доўга мой акопны спеў
Журыўся па Айчыне.

**1-ы вядучы. *Мікола Сурначоў*** нарадзіўся на Рагачоўшчыне ў 1917 годзе. Вучыўся на літаратурным факультэце Гомельскага педінстытута, а потым працаваў у рэдакцыях газет "Звязда" і "Чырвоная змена".

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны ён знаходзіўся ў дзеючай арміі. Ужо на подступах да Берліна варожы снарад абарваў жыццё старшага лейтэнанта Міколы Сурначова.

Многія яго вершы ствараліся ў кароткіх перапынках паміж баямі: у траншэях над Дняпром, у бліндажах у Румыніі, на лясных прывалах у Беларусі і Польшчы, у шпіталях глыбокага тылу.

*6-ы чытальнік дэкламуе верш "Ліст да маці" Міколы Сурначова.*

*Гучыць песня "Памяць сэрца" (муз. І. Лучанка, сл. М. Ясеня).*

*На экране – словы з верша "Магілы" Пімена Панчанкі:*

Можа рознае быць…
І які б ні ўз'юшыўся вецер,
Мы Радзіму сваю
Адстаім, не шкадуючы сіл.
Аднаго толькі страшна,
Каб заўтра, пасля нашай смерці,
Раўнадушнае племя
Не жыло каля нашых магіл.

**2-і вядучы.** Наша сустрэча – сведчанне таго, што ў Беларусі ніколі не знікне памяць пра палеглых на палях вайны салдат, пра іх трагічны лёс, пра тое, што любая вайна нясе страты, нішчыць маладосць і каханне, красу жыцця, чалавечае шчасце.

**1-ы вядучы.** Няхай Бог апякуе душы забітых, закатаваных, памерлых ад ран і голаду. Вечная слава і пашана тым, хто ахвяраваў сабой дзеля пераможнай вясны 1945-га, мірнай будучыні наступных пакаленняў.

*Гучыць песня "Памяць сэрца" (муз. І. Лучанка, сл. М. Ясеня).*

**Любоў МІСЮКАВЕЦ,**
выкладчык беларускай мовы
Палескага дзяржаўнага універсітэта.

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

*Да 65-годдзя з Дня Перамогі*

# *“ДАБРА ВАМ І МІРУ”*

## ГУТАРКА З ВЕТЭРАНАМ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ, ПЕДАГОГАМ ІВАНАМ ЯНУЧКОМ



Іван Паўлавіч Янучок нарадзіўся 21 чэрвеня 1923 г. Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, настаўнік беларускай мовы і літаратуры. Мае ўрадавыя ўзнагароды: ордэн Айчыннай вайны ІІ ступені, медалі “За адвагу”, “За ўзяцце Кёнігсберга”, “За перамогу над Германіяй”, шматлікія юбілейныя медалі.

З 1949 да 1989 г. выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Сяражскай сярэдняй школе Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Ветэран педагагічнай працы.

У юбілейны год Вялікай Перамогі мы сустрэліся з Іванам Паўлавічам, каб успомніць мінулае, пагутарыць пра сучаснае, яшчэ раз аддаць даніну глыбокай павагі і засведчыць шчырую ўдзячнасць салдату, настаўніку, бацьку…

**– Іван Паўлавіч, вядома, што дзяцінства – падмурак, на якім грунтуецца далейшае жыццё чалавека. Як праходзілі гады Вашага дзяцінства і юнацтва?**

– Нарадзіўся я ў далёкім 1923 г. у вёсцы Сярагі Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Хата была старэнькая, таму бацькі купілі ў суседняй вёсцы зруб, перавезлі яго і заснавалі хутар паміж вёскамі Сярагі і Падліпцы. Недалёка ад Падліпцаў, каля лесу, знаходзіўся пасёлак Манькова, у якім налічвалася дзевяць гаспадарак і куды неўзабаве пераехала наша сям’я.

Так сталася, што мяне і малодшага брата Пятра матулі Арыне Адамаўне прыйшлося выхоўваць адной. Я імкнуўся да ведаў. Марыў стаць настаўнікам. І маці аддавала апошняе, каб я змог атрымаць адукацыю.

Вясной 1939 г. скончыў 7 класаў Сяражскай няпоўнай сярэдняй школы, а восенню паспяхова здаў экзамены і паступіў у Слуцкае педвучылішча. Да вайны паспеў скончыць два курсы. Вучоба давалася лёгка, але студэнты жылі бедна, грошай не хапала нават на неабходнае. Стыпендыю атрымлівалі толькі выдатнікі – два-тры чалавекі ў групе.

У той час слуцкая электрастанцыя працавала на торфе, таму нярэдка былі перабоі са святлом. Часам у інтэрнаце яго проста не было, а таму навучэнцы мелі цяжкасці пры падрыхтоўцы дамашніх заданняў. Вучыцца мне вельмі хацелася. Уяўляў, як стану настаўнікам, правяду першы ў жыцці ўрок… Аднак мае мары, як і ўсіх прадстаўнікоў майго пакалення, перакрэсліла вайна.

**– Як змагаліся з ворагам жыхары Манькова ў страшныя гады акупацыі?**

– 21 чэрвеня 1941 г. мне споўнілася 18 гадоў, а на наступны дзень пачалася вайна. Хлопцаў майго ўзросту ў 1941 г. у Чырвоную Армію не мабілізоўвалі. Тры гады акупацыі жыў і працаваў у Манькове на сельскай гаспадарцы, бачыў на свае вочы, як здзекаваліся фашысты з мірных жыхароў. Але вяскоўцы не сядзелі склаўшы рукі. Хутка пачалі дзейнічаць партызанскія атрады, якім мы дапамагалі. Часта народныя мсціўцы наведвалі наш пасёлак і смела начавалі ў кожнай хаце, сушылі адзенне, абутак. Мы іх кармілі, давалі вопратку, пры неабходнасці падвозілі ў іншыя населеныя пункты, якія размяшчаліся блізка ад лесу. Днём часта прыходзілі ў пасёлак паліцэйскія ці немцы, таму трымаць сувязь з партызанамі было небяспечна.

Жыхары Манькова па чарзе хадзілі ў слуцкую царкву маліцца Богу, прасіць анёла-ахоўніка выратаваць наш маленькі лясны пасёлак. Мне і сёння страшна пра гэта ўспамінаць. Здзіўляюся, як уцалелі, перажылі тыя цяжкія ваенныя гады. Пасёлак мог стаць другой Хатынню – быць спаленым разам з намі…

**– Ці помніце дзень, калі Савецкая Армія вызваліла Случчыну?**

– 30 чэрвеня 1944 г. запомнілася назаўсёды. Было спякотна. Па ўсіх дарогах Случчыны ў заходнім накірунку ішлі вайсковыя падраздзяленні. Нягледзячы на стомленасць, салдаты спявалі ваенныя песні, смяяліся. А вечарам байцы Савецкай Арміі з’явіліся ў Манькове. Яны ішлі прасёлачнай дарогай з вёскі Сярагі ў Падліпцы.

Да нас у хату забеглі трое салдат. Маці, якая толькі што падаіла карову і працадзіла малако, пра-




На долгую и хорошую память своим дорогим родителям!
Любимой жене Анютке, Родной мамаше, братишку Петрику и дочери Аленке!!!

Анютка, Любимая жена!
Взгляни и всегда вспомни образ своего любимого мужа
И сохрани нашу молодую любовь в чистоте и пошане до моего возвращения из Красной Армии!!!
17.10.45. гор. Тапиау. Янучок.

**Камандзір кулямётнага аддзялення, камсорг роты Іван Янучок** (злева) **з франтавым сябрам Іванам Прадко.** Горад Тапілау. 1945 г. **Справа – адваротны бок фотаздымка.**

панавала ім выпіць па кубачку сырадою. Часу было настолькі мала, што два хлопцы паспелі папіць, а трэці – не: тэрмінова трэба было ехаць далей.

Малады лейтэнант убачыў у нашым двары авечак і папрасіў у мяне дазволу ўзяць адну з іх на вячэру салдатам. Я, зразумела, дазволіў. Байцы пакінулі ў нас маладую, але стомленую паходам кабылу. Брат Пятрок выхадзіў яе і пасля здаў у калгас.

7 ліпеня 1944 г. мужчыны прызыўнога ўзросту з вёсак Сярагі, Падліпцы і Манькова былі мабілізаваны ў рады Савецкай Арміі. Не пазней за 11 гадзін мы павінны былі прыбыць на зборны пункт, што размяшчаўся ў Старцавічах (сучасная назва – Знамя), якія знаходзіліся за Падліпцамі. Акрамя мяне з Манькова на фронт пайшлі Іван Чыжэўскі, Ярафей Шахновіч, Андрэй Яўсеенка, Міхаіл Амбражэвіч, Васіль Пушкарэнка, Яўген Бараноўскі.

**– Чым запомніўся дзень адыходу на фронт?**

– За ноч маці пашыла паходны мяшок, які напоўнілі няхітрым скарбам. А раніцай 7 ліпеня ў сям'і пачалося сапраўднае хваляванне. Маці надзела мне на шыю срэбны бліскучы крыжык, пацалавала і блаславіла, каб Бог бярог мяне на фронце, каб я жывым вярнуўся да сваёй сям'і. Па просьбе маці я перахрысціўся і пацалаваў усе іконы, якія былі ў нашай хаце. А маленькі абразок Мікалая Цудатворца разам з фотакарткамі я паклаў у запісную кніжачку. На фронт апрануў самае старое адзенне, а лепшае пакінуў брату Пятру.

З хаты выходзіў з васьмімесячнай дачкой Аленкай на руках. Побач ішлі жонка Анюта і маці Арына Адамаўна. Калі праходзілі міма бацькавай хаты, я вырашыў зайсці да яго, нягледзячы на тое, што ён жыў у другой сям'і. Памятаю бацькавы словы-бласлаўленне: "Сынок, калі цябе параняць, няхай рана будзе не смяротнай". Ніколі б не падумаў, што гэтыя словы стануць прарочымі.

На фронт праводзілі нас усёй вёскай: жадалі здароўя, поспехаў, салдацкага шчасця. Плакалі ўсе: і падлеткі, і старыя людзі.

На зборны пункт мяне суправаджала жонка Анюта. Аднак хутка прыйшлося развітвацца і з ёю, бо нас пастроілі і павялі ў Слуцк. Там размясцілі ў былым вайсковым гарадку па вуліцы Валадарскага. Памятаю, у тую ноч мы не маглі заснуць, бо нямецкія самалёты бамбілі горад.

**– І куды далей пралягаў Ваш салдацкі шлях?**

– Раніцай 8 ліпеня 1944 г. мы пайшлі са Слуцка ў бок Сіняўкі і размясціліся непадалёку ад яе, у лесе. Там прастаялі амаль тыдзень. Жылі ў шалашах. Жанчыны, калі даведаліся, дзе спыніліся салдаты, прыязджалі – а некаторыя і ўвогуле дабіраліся пехатой – пабачыцца з намі. Мая Анюта таксама наведала мяне. У той трывожны ваенны час яна знайшла магчымасць яшчэ раз пабачыцца са мной, прывезла бялізну, сыр, кавалак сала… Гэты выпадак памятаю ўсё жыццё і вельмі ўдзячны жонцы за яе клопаты і мужнасць.

Затым нас адправілі на вызваленне Варшавы. Ішлі пехатой, пераважна па начах. Днём адпачывалі, лячылі крывавыя мазалі на нагах. Побач было шмат хлопцаў-землякоў, якіх добра памятаю і сёння: Уладзімір Долбік, Іван Кірута, Іван Барцэвіч, Сямён Дубовік, Павел Шуманскі, Аляксей Жук, Іван Ляткоўскі, Анатоль Ляткоўскі, Іван Пятровіч, Васіль Кітун, Пётр Канончык, Рыгор Канончык, Рыгор Жук, Васіль Пунчык, Уладзімір Ажэўскі, Леанід Янковіч, Міхаіл Янковіч, Мікалай Паўлейчык, Іван Янковіч, Мікалай Пятровіч і многія іншыя. Наш шлях пралягаў праз Бярозу, Кобрын, Жабінку, Сядлец, Макаводы, Януў Мазавецкі, Венгруў, Лосіцэ.

Увесь час перад вачыма стаялі родныя. Успамінаў, як плакала маці прыгаворваючы: "Сыночак ты мой, каласочак ты наш дарагі, на каго ты

нас пакідаеш, беражы цябе Бог у дарозе і на вайне, прынясі цябе Божа дадому, каб гадаваў сваю дачку Аленку. Пішы хоць тры-чатыры словы, каб толькі мы ведалі, што тваёй рукой напісана". Прыпаміналася, як супакойваў, што ўсе разам мы дачакаемся заканчэння вайны…

**– Як склаўся Ваш франтавы лёс?**

– На передавую я трапіў з 197-га армейскага запаснога стралковага палка ў склад 52-га стралковага палка 50-й гвардзейскай стралковай дывізіі 3-га Беларускага фронту, якім камандаваў І. Чарняхоўскі.

Далёка на захад часці нашага злучэння не пайшлі, а рушылі ў бок Усходняй Прусіі праз Пружаны, Ваўкавыск, Каўнас, Вільнюс, Алітус, Кібартай, Эткунен, Марыямпаль, Інсценбург. У хуткім часе нас накіравалі на пярэдні край капаць траншэі, стаяць у абароне, а затым па загадзе камандавання мы крочылі па тэрыторыі Усходняй Прусіі (сучасная Калінінградская вобласць). З баямі бралі Інсценбург (сучасны Чарняхоўск), Велау, Домнау. Перамогу сустрэў у горадзе Тапілау.

Калі мне прысвоілі званне малодшага сяржанта, то даручылі камандаваць аддзяленнем. Разам са мною ваявалі байцы розных нацыянальнасцей: камандзір роты Хамза Гарыфавіч Сабітаў, камандзір узвода Кучаран, байцы Чыж, Субоцін, Карымаў, Бальшакоў, Ягораў, Сахараў, Бернутайціс, Татарадзэ, Грыцкевіч, Гапановіч – усе жылі дружнай сям'ёй франтавікоў. На жаль, двое апошніх – мае землякі – перамогі не дачакаліся, загінулі пад Кёнігсбергам 17 студзеня 1945 г. Помню, як у той дзень, на світанні, мы адкрылі кансервы, каб паснедаць. Аднак Раман Гапановіч схаваў лыжку ў рэчавы мяшок і сказаў: "Не хочацца есці, усё роўна нас паб'юць, а кансервы забяры, Янучок, у свой рэчавы мяшок. Калі сустрэнемся пасля бою, тады і перакусім". Тое самае зрабіў і Пятрок Грыцкевіч. На жаль, не давялося нам больш сустрэцца пасля таго страшнага бою… У час зацішша я дастаў з мяшка тыя кансервы, глянуў на іх, і слёзы самі пасыпаліся з вачэй. Зняў шапку, перахрысціўся і пачаў даядаць кансервы. Пасля ў лісце дадому я паведаміў, што не стала маіх баявых таварышаў Грыцкевіча і Гапановіча.

**– Іван Паўлавіч, ведаю, што ў баях з фашыстамі Вы былі двойчы паранены. Адзін раз увогуле цудам засталіся ў жывых…**

– Сапраўды, мне пашанцавала. Першы раз быў паранены асколкам міны ў правае плячо ў пачатку жніўня 1944 г. у польскім пасёлку Люта, калі наша падраздзяленне дапамагала сялянам збіраць ураджай.

Другі раз атрымаў раненне 21 студзеня 1945 г. пад горадам Гумбінен (Усходняя Прусія) падчас наступлення. Куля нямецкага снайпера трапіла ў пераноссе. Пашчасціла, што яна была простай, а не разрыўной. Пасля таго выпадку амаль чатыры месяцы праляжаў у шпіталі ў Каўнасе. І толькі дзякуючы загадчыцы афтальмалагічнага аддзялення шпіталя Ліліі Лазараўне я не страціў зрок. Больш за тое, я нават ніколі не карыстаўся акулярамі.

**– Пасля шпіталя Вас зноў накіравалі на фронт?**

– Так. Пасля шпіталя я вярнуўся на фронт у 202-гі запасны полк у Алінштэйне. Ваяваў у складзе 11-й гвардзейскай арміі ў 5-й дывізіі малодшым сяржантам, камандзірам кулямётнага аддзялення. Неўзабаве мяне прызначылі камсоргам роты. Адначасова выконваў абавязкі ротнага пісара: камандаванню спадабаўся мой каліграфічны почырк.

Праз некаторы час я зноў трапіў на передавую – удзельнічаў у вызваленні Кёнігсберга (сучасны Калінінград) і Пілау (сучасны Балтыйск), у наступленні на паўвостраве Касе ў Балтыйскім моры. Пасля баёў наша часць размясцілася ў Тапілау на кароткі адпачынак. Там мы і сустрэлі Дзень Перамогі. Упершыню за доўгія ваенныя гады адчулі вясну. І я падумаў, што дома, напэўна, зацвілі сады…

Як мы ўсе тады радаваліся: камандзір роты татарын Сабітаў, камандзір узвода армянін Кучаран, літовец Бернутайціс і іншыя аднапалчане, сярод якіх былі рускія, беларусы, украінцы, грузіны, казахі – усе адчувалі моц вялікай краіны, мужнасць і гераізм яе людзей.

**– Іван Паўлавіч, як хутка пасля вайны збылася Ваша мара стаць настаўнікам?**

– Сапраўды, гэтая мара не пакідала мяне. Аднак пасля вайны яшчэ два гады я павінен быў адслужыць у войску. У канцы 1945 г. скончыў трохмесячныя шафёрскія курсы, а летам 1946 г. наша часць пераехала ў Полацк, дзе працаваў шафёрам спачатку на грузавой машыне ЗІС-5, а потым – на ГАЗ-2А.

Пасля дэмабілізацыі ў лютым 1947 г. працаваў у калгасе "Чырвоны маяк", у які ўваходзілі Падліпцы і Манькова. У 1948/49 навучальным годзе прадоўжыў вучобу ў Слуцкім педвучылішчы, а восенню 1949 г. быў накіраваны ў Сяражскую школу Слуцкага раёна настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, дзе і працаваў сорак гадоў.

Пасля вайны працаваць было цяжка: не хапала падручнікаў, сшыткаў, школа была не поўнасцю ўкамплектавана кадрамі. Таму выкладаў і фізічную культуру, і маляванне. Праўда, паступова сітуацыя мянялася да лепшага: моладзь імкнулася да ведаў. У 1954 г. я завочна скончыў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут, а ў 1958 г. – Гомельскі дзяржаўны педінстытут імя В. П. Чкалава.

Пастулова прывыкаў да мірнага жыцця, але часта ўспамінаў пра сяброў-аднапалчан, спрабаваў знайсці некаторых з іх, пісаў лісты. Аднойчы паштальён прынёс мне ў настаўніцкую пісьмо.



**Малодшы сяржант Іван Янучок у час службы ў войску.** Вільнюс. 1946 г.

З хваляваннем я прачытаў ліст ад сябра ваенных гадоў Івана Прадко, ад якога даўно чакаў звестак. Радаваўся, што мы знайшліся. Таксама чакаў ліст ад Хамзы Сабітава. Адказ атрымаў ад яго сястры, якая напісала, што ў 1955 г. наш камандзір роты загінуў пры выкананні службовых абавязкаў.

У маім узросце цяжка ўспомніць многае, што было нядаўна. А вось гады ваеннага ліхалецця помню да дробязей – іх забыць немагчыма. Бывае, быццам бачу сваіх сяброў побач. Тады не толькі ўспаміны трывожаць сэрца, але і міжволі задумваешся, ці годна жывеш, ці варты тых, хто назаўсёды застаўся на полі бою?

Калі бываю ў Слуцку, кожны раз падыходжу да будынка кансервавага завода, у якім раней размяшчалася педвучылішча, успамінаю вучобу, ваенныя гады, загінуўшых аднакурснікаў Сяргея Шахновіча і Паўла Патапеню. Не вярнуліся з фронту і мае выкладчыкі з Сяражскай школы: настаўнік фізікі М. Карлінскі, настаўнік беларускай мовы і літаратуры І. Краўчанка, дырэктар Р. Кавалёў, якія былі расстраляны немцамі ў першыя дні вайны. Вечная ім памяць.

**– Іван Паўлавіч, як былая вучаніца памятаю, з якой павагай Вы ставіліся да роднага слова, як цікава праводзілі ўрокі, з уласцівым толькі Вам артыстызмам. Нават падчас заняткаў было відаць Ваша захапленне тэатрам…**

– Сапраўды, усё жыццё я любіў сцэну: спяваў у хоры, кіраваў школьным драматычным гуртком, у якім разам з настаўнікамі і вучнямі ставілі спектаклі і інтэрмедыі, ездзілі з выступленнямі ў вёскі Слуцкага раёна.

Акрамя педагагічнай адукацыі я маю яшчэ адну – скончыў рэжысёрскае аддзяленне тэатральнага факультэта Маскоўскага народнага універсітэта мастацтваў і атрымаў прафесію рэжысёра народнага тэатра. Экзамен па рэжысуры ў мяне прымалі вядомыя артысты маскоўскіх тэатраў І. Трубнікаў і В. Грыднева. Як рэжысёр я паставіў спектаклі “Цуд” Э. Валасевіча і “Прымакі” Янкі Купалы. А ў “Калінавым гаі” па творы А. Карнейчука выступіў не толькі рэжысёрам, але і выканаўцам галоўнай ролі.

**– Ужо шмат гадоў Вы на пенсіі. Ці сумуеце па педагагічнай працы?**

– Калі гаварыць шчыра, то звычка працаваць па начах захавалася. І зараз, калі не спіцца, хочацца праверыць сшыткі або напісаць план урока… Аднак забытым сябе не адчуваю: часта прыходзяць вучні, прыязджаюць карэспандэнты газет і часопісаў. Я расказваю ім пра ваенныя гады, дзялюся жыццёвым вопытам. А нядаўна па ініцыятыве дырэктара Сяражскай сярэдняй школы Марыі Міхайлаўны Дварэцкай – маёй былой вучаніцы – завіталі вучні разам з настаўнікамі Жаннай Леанідаўнай Рогаль і Святланай Вячаславаўнай Аляшкевіч, каб зняць дакументальны фільм. Ці ж гэта можа не радаваць сэрца настаўніка-пенсіянера?

**– Іван Паўлавіч, я гутару з Вамі з вялікім хваляваннем у душы – не толькі як галоўны рэдактар часопіса “Роднае слова”, але і як малодшая дачка. Мы, шасцёра Вашых дзяцей, ужо самі бацькі, а нехта мае і ўнукаў… Схіляем галовы перад Вамі і дзякуем за выхаваную ў нас любоў да роднай мовы і сваёй зямлі.**

– Гэта вялікае шчасце, калі бацькі могуць ганарыцца сваімі дзецьмі. А выхоўваць… За сшыткамі і планамі ў настаўніка часу на выхаванне ўласных дзяцей было не так многа. Мяне радуе, што вы, абедзве мае дачкі Таіса і Зоя [Таіса Трафімава і Зоя Падліпская], – члены Саюза пісьменнікаў Беларусі. Я з цікавасцю стаўлюся да вашай творчасці, з радасцю вітаю кожны новы верш, публікацыю ці чарговы зборнік паэзіі. Ганаруся і тым, што яшчэ адна дачка Ларыса Пшанічная – настаўнік беларускай мовы і літаратуры, а ўнучка Наталля – таксама філолаг – працуе ў Мінску ў камітэце па адукацыі намеснікам начальніка ўпраўлення ідэалагічнай, сацыяльнай і выхаваўчай работы. Прыемна, што традыцыі нашай сям’і працягваюцца. Шкада, што так рана пайшла з жыцця ваша маці, не паспела парадавацца…

Цяпер я мару толькі пра адно: каб не было больш вайны, не гінулі людзі, каб былі шчаслівыя дзеці, унукі і праўнукі. Каб было светлае неба, свяціла яснае сонца, звінелі радасцю дзіцячыя галасы, квітнела зямля!

**– Дзякуй Вам і ўсім ветэранам вайны за магчымасць жыць і працаваць пад мірным небам. З надыходзячым святам Вас – 65-годдзем з Дня Перамогі!**

– Шчыра дзякую! Дабра вам і міру.

Гутарыла
**Зоя ПАДЛІПСКАЯ.**

*Спадчына*

# АРЫСТАКРАТЫЧНАЯ КУЛЬТУРА НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ У XIII – XVIII стст.

*Заканчэнне. Пачатак у № 3.*

Фрыдрых Ніцшэ адзначаў, што "передумовай рыцарска-арыстакратычнага разумення каштоўнасці выступае магутная цялеснасць, квітнеючае, багатае, нават бурлівае здароўе і тое, што абумоўлівае яго захаванне, – вайна, авантура, паляванне, танец, турніры і ўвогуле ўсё, што ўтрымлівае моцную, свабодную, радасную актыўнасць" [8, с. 305 – 306].

Адным з элементаў арыстакратычнай "радаснай актыўнасці" з'яўлялася паляванне. У ім сканцэнтраваны ўвесь комплекс характэрных рыс арыстакратычнай культуры. Так, галоўнымі героямі магнацкага палявання былі толькі высакародныя прадстаўнікі вышэйшага саслоўя. Яно суправаджалася ўдзелам пародзістых коней, сабак, сокалаў. Сам працэс нагадваў вайсковыя дзеянні, якія лічыліся пачэсным заняткам арыстакратыі. Багацце, шчодрасць праяўляліся ў тым размаху, з якім наладжваліся паляванні эліты.

Рускі даследчык М. Смірноў пісаў пра вялікага князя Ягайлу: "Адно толькі выводзіць яго з бяздзеяння: палкі паляўнічы з дзяцінства да самай смерці, ён кожны год палюе ад пачатку кастрычніка да канца студзеня; гэтыя чатыры месяцы ён не выходзіць з лясоў, не падтрымлівае сувязі з астатнім светам і жыве з мядзведзямі, турамі, зубрамі і іншым насельніцтвам дрымучых літоўскіх лясоў; выпадае яму паляваць і ў іншы час года… Такім гарачым паляўнічым Ягайла застаўся і ў глыбокай старасці: у 1426 годзе, калі яму было ўжо каля 75 гадоў, палюючы ў Белавежскай пушчы і гонячы звера па непраезных месцах, ён упаў з каня і зламаў сабе нагу, што, дарэчы, не адвучыла яго ад падобных подзвігаў" [10, с. 112].

Гарачым аматарам палявання быў вялікі князь літоўскі і кароль польскі Казімір IV. "Хроніка Быхаўца" распавядае, як трынаццацігадовы каралевіч Казімір згадзіўся стаць вялікім князем літоўскім пасля таго, як пачуў расказ паслоў "пра літоўскую зямлю, пра раскошнае паляванне ў Літве, пра паляванне на тураў і зуброў і на іншых розных звяроў" [12, с. 91]. "Хроніка…" таксама паведамляе, што Казімір "ахвотней жыў у Вялікім княстве Літоўскім, чым у Польшчы, бо ў Літве было вельмі цудоўнае паляванне, там мелася шмат розных звяроў, якіх ні ў адной краіне не было, а кароль Казімір вельмі любіў паляванне" [12, с. 105].

Паляванні прадстаўнікоў вышэйшага саслоўя ўяўлялі сабой мнагадзённыя выезды на прыроду ці ў спецыяльна падрыхтаваныя ўгоддзі. Князі і магнаты выязджалі ў суправаджэнні вялікай колькасці людзей. Акрамя гасцей і сяброў гаспадара ў світу ўваходзілі шматлікія прадстаўнікі так званых лоўчых службаў. Падрыхтоўкай каралеўскіх, вялікакняжацкіх і магнацкіх паляванняў займаліся лоўчыя, падлоўчыя, ляснічыя, стральцы, асочнікі, птушнікі, сакольнічыя, катлавыя, сабачнікі і інш. У час аблаў на дапамогу штатным служачым у якасці загоншчыкаў, клікуноў і гучкоў, прыцягваліся таксама сяляне найбліжэйшых вёсак. Яны ж былі абавязаны ўзводзіць разнастайныя лоўчыя загароды і забяспечваць харчаваннем паляўнічых сабак і сокалаў.

У княжацка-магнацкім асяроддзі папулярным відам ловаў з'яўлялася сакалінае паляванне, якое адрознівалася не толькі выключнай віртуознасцю і прыгажосцю, але і вялізнымі грашовымі выдаткамі. "Валоданне сокалам лічылася другой пасля шаблі на баку прыкметай прыналежнасці да шляхецкага саслоўя" [11, с. 88]. Даследчык Жак Ле Гофф, жадаючы паказаць багацце француза Ганцье Коля – каралеўскага сакратара, галоўнага кантралёра фінансаў, аднаго з двух каралеўскіх казначэяў, піша: "Ён жыве на шырокую нагу, мае шмат прыслугі, дываноў, коней, сабак, сокалаў…" [7, с. 148]. Кошт выдрэсіраванага сокала ў XVI ст. складаў 30 злотых і быў роўны кошту двух коней ці трох добрых валоў [16, с. 167].

Паляўнічыя сокалы забяспечваліся амуніцыяй. Для птушак шыліся палявы (працоўны) і святочны ўборы. Клабучкі, нагруднікі і нахвоснікі апошняга рабіліся з каштоўнага персідскага ці турэцкага аксаміту, упрыгожваліся золатам, серабром і жэмчугам. Вельмі пачэснай лічылася пасада сакольнічага. У "Хроніцы Быхаўца", напрыклад, ёсць звесткі пра тое, што пасля смерці жонкі вялікага князя Аль-

герда кароль Ягайла перадаў горад Віцебск свайму сакольнічаму Фёдару Вясне [12, с. 72].

Правіламі зносін паміж прадстаўнікамі арыстакратычнага асяроддзя выступалі патрабаванні этыкету і цырыманіялу. Паводле прыдворнага цырыманіялу адбываўся камунікатыўны працэс паміж каралём і магнатамі. Акрамя таго, Н. Эліас разглядаў этыкет і цырыманіял як сістэмастваральныя элементы прыдворнага грамадства, адмаўленне ад якіх азначала для знаці “распад яе як арыстакратыі” [15, с. 111].

Этыкет як спецыяльная сістэма адносін цалкам вызначаў паводзіны вышэйшага саслоўя. Напрыклад, у камунікатыўнай сістэме прыдворнага XVII ст. прасторавая прыбліжанасць да каралеўскай асобы адпавядала месцу саслоўнай іерархіі. Усе перамяшчэнні ў прысутнасці каралеўскай асобы былі строга рэгламентаваны: “Былі мы зранку на пакоях у палацы каралеўскім на Кракаўскім прадмесьці, дзе панства цяпер летам становіцца і juxta gradum (адпаведна мейсцу) у карэтах асыставалі мы панству да касьцёла Сьв. Яна…” [5, с. 172].

Рэгламентаваліся таксама адносіны паміж прадстаўнікамі каралеўскай улады. У сваім дыярыушы Альбрыхт Станіслаў Радзівіл апісвае здарэнне, якое адбылося ў час сустрэчы паслоў з Масквы. Адзін з іх, каб прымусіць прадстаўнікоў Рэчы Паспалітай першымі сысці з коней, зрабіў выгляд, што збіраецца вылезці з саней. Зразумеўшы падман, прадстаўнікі другога боку адмовіліся пакінуць коней. У выніку завязалася слоўная сутычка: масквічы жадалі заслухаць даручэнні караля не сыходзячы з коней. Аднак прадстаўнікі Рэчы Паспалітай настаялі, каб паслы выйшлі з саней “дзеля павагі каралеўскай годнасці”. Урэшце паслы згадзіліся і “тады толькі ўзаемна павіталіся і перадалі даручэньні караля пры пільным назіраньні з абодвух бакоў за здыманьнем шапак так, нібы яны ім былі ў цяжар” [9, с. 172].

Аўтар дыярыуша адзначае, што маскоўскія паслы “хацелі па-варварску ўжыць каварства ў цырыманіяле” [9, с. 172]. Такім чынам, парушэнне правіл у гэтым выпадку пагражала нанясеннем крыўды каралеўскаму гонару. У спрэчку ўцягваўся асабісты інтарэс кожнага магната, а менавіта – абражаўся гонар усяго арыстакратычнага асяроддзя Рэчы Паспалітай. Гэты інцыдэнт дэманструе сур’ёзнасць гульнявога аспекту арыстакратычнай культуры, у аснове якога ляжаць найперш паважлівыя адносіны да традыцый, што замацаваліся на ўзроўні падсвядомасці і ўспрымаліся як выкананне грамадскага абавязку.

Асаблівае месца ў іерархіі каштоўнасцей арыстакратычнай культуры адводзілася спецыфічнаму паняццю шляхецкага гонару, які ў канцы XV – XVI ст. “уяўляў даволі ўстойлівы грамадскі інстытут” [6, с. 6], што рэгуляваў адносіны ў арыстакратычным асяроддзі і вылучаў комплекс патрабаванняў да асобы арыстакрата. О. Шпенглер адзначаў, што гонар – з’ява крыві, а не розуму – уключаў у сябе вернасць, пакорнасць, храбрасць, самавалоданне, рашучасць. Наяўнасць гонару сведчыла, што “жыццё ў дадзенай асобы нечага вартае, што яна валодае гістарычным рангам, вылучанасцю, знатнасцю” [14, с. 357]. А. Гурэвіч прапанаваў процілеглае шпенглераўскаму меркаванне пра з’яву феадальнага гонару, указаўшы на яго сацыяльную значнасць: “Уяўленні пра гонар насілі спецыфічны характар: гонар – не столькі ўнутранае ўсведамленне ўласнай годнасці, самасвядомасць чалавека, які адчувае свае індывідуальныя якасці, што адрозніваюць яго ад іншых, колькі слава сярод акружаючых” [4, с. 165].

Кодэкс шляхецкага гонару адлюстраваў вайсковую схільнасць арыстакратыі, бо яго асноўныя пастулаты прызначаліся для ваяра. Значная ўвага аддавалася маральна-этычным якасцям. Так, арыстакрат са зброяй у руках павінен быў абараняць Айчыну, свайго гаспадара – вялікага князя, уласны гонар і гонар блізкіх яму людзей, а значыць – быць спрактыкаваным воінам, смелым, мужным; прытрымлівацца правілаў вайсковай этыкі: велікадушна ставіцца да пераможаных, паважаць роўных сабе па становішчы (нават ворагаў), выконваць абяцанні і інш.

Жыццё арыстакратычнага грамадства ўпарадкоўвалася пэўнымі сацыяльнымі інстытутамі, якія забяспечвалі ўстойлівасць сувязей і адносін у яго межах. Адным з такіх інстытутаў з’яўлялася Рада ВКЛ – паны-рада, што ўзнікла як дарадчы орган пры вялікім князю і складалася з вышэйшых службовых асоб (маршалка, гетмана, канцлера, падскарбія, ваяводаў, кашталянаў і інш.), каталіцкіх епіскапаў і найбуйнейшых феадалаў. Як прадстаўнічы орган магнацкай супольнасці паны-рада паступова набывала ўсё большую самастойнасць. Так, прывілей 1492 г., выдадзены пры ўступленні на вялікакняжацкі пасад Аляксандра Казіміравіча, устанаўліваў, што вялікі князь не меў права адмяняць або змяняць законы, пастановы і судовыя рашэнні, прынятыя сумесна з Вялікай Радай. Пры вырашэнні спрэчных пытанняў і немагчымасці знайсці кампраміс паміж панамі-радай і вялікім князем апошні павінен быў згадзіцца з прапановай паноў.

Прыкладна ў XV ст. у ВКЛ аформіўся такі сацыяльна-палітычны інстытут, як сейм. Сейм з’яўляўся саслоўна-прадстаўнічым органам, што рэпрэзентаваў інтарэсы вышэйшага саслоўя. Згодна са Статутам ВКЛ 1566 г. у склад сейма ўваходзілі паны-рада, асобныя князі і паны па персанальных запрашэннях і прадстаўнікі павятовай шляхты, якія карысталіся правамі на сваіх землях пад

сюзерэнам – вялікім князем. На сейм запрашаліся ўсе князі Вішнявецкія, Дзярэчынскія, Друцкія, Радзівілы, Сангушкі, Чартарыйскія, Валовічы, Глябовічы, Гарнастаі, Завішы, Іллінічы, Кішкі, Нарбуты, Пацы, Сапегі, Тышкевічы, Храптовічы і інш. У кампетэнцыю вальнага сейма ўваходзіла выбранне вялікага князя, выданне заканадаўчых актаў, увядзенне падаткаў, скліканне паспалітага рушэння, набілітацыя, зацвярджэнне перамір'яў і інш. У залежнасці ад мэты склікання існавалі таксама канвакацыйны, элекцыйны, каранацыйны, пацыфікацыйны, канфедэрацыйны сеймы.

Функцыі сацыяльнага інстытута выконвала канфедэрацыя, якая ўяўляла сабой часовы саслоўны палітычны саюз, створаны для дасягнення пэўнай мэты. Напрыклад, канфедэрацыі ўтвараліся ў перыяды безуладдзя з мэтай захавання цэласнасці дзяржавы і ўнутранай бяспекі. Канфедэрацыя ўзначальвалася маршалкам і мела кіраўнічы орган – вальную раду, якая выбіралася канфедэрацкімі сеймікамі. Для забеспячэння парадку і барацьбы з палітычнымі праціўнікамі канфедэрацыі стваралі каптуровыя і канфедэрацкія суды. З XVI ст. канфедэрацыі, якія былі накіраваны супраць караля, атрымалі назву "рокаш" (рокаш – ад узброенай шляхецкай апазіцыі). Вельмі часта канфедэрацыя станавілася сродкам барацьбы магнацкіх груповак за ўладу або пашырэнне прывілеяў. Напрыклад, Слуцкая канфедэрацыя 1767 г. была створана прадстаўнікамі пратэстанцкай і праваслаўнай шляхты з мэтай ураўнавання іх у палітычных правах з прадстаўнікамі каталіцкай шляхты.

Сацыяльным інстытутам з'яўлялася таксама паспалітае рушэнне – асноўная форма арганізацыі ўзброеных сіл ВКЛ. У аснове паспалітага рушэння ляжаў прынцып, па якім кожны прадстаўнік вышэйшага саслоўя незалежна ад памераў маёмасці ў час вайны павінен быў выступіць у паход. Гэты род шляхецкага апалчэння праіснаваў да канца XVIII ст.

Разнастайныя сімвалы і атрыбуты напаўнялі рэчавы свет, прастору і час магнатаў, пранікалі ва ўсе без выключэння сферы арыстакратычнага жыцця. Спецыяльныя знакі выконвалі функцыю захавання культурнага кода. Так, знатнасць паходжання не толькі фіксавалася шэрагам дакументаў, але замацоўвалася добра распрацаваным геральдычным апаратам. Актыўнае пранікненне геральдычнай традыцыі на беларускія землі пачалося ў пачатку XV ст. Гербы прыйшлі на змену старажытным клеймам, якія выкарыстоўваліся ў больш раннія часы з мэтай абазначэння ўласніцкіх правоў. Кожны род абавязкова належаў да якога-небудзь герба. Напрыклад, Кезгайлы карысталіся гербам "Задора", Кішкі – "Дуброва", Глябовічы, Забярэзінскія, Тышкевічы – "Ляліва", Радзівілы, Осцікавічы – "Трубы", Пацы – "Газдава", Сапегі – "Ліс" і г. д.

Спецыяльна распрацаваная гербавая сімволіка ўтрымлівала інфармацыю пра ўладальнікаў герба. Ён дэманстраваў месца арыстакрата ў феадальнай іерархіі. Каралеўская, княжацкая ці шляхецкая годнасць пазначалася пэўным элементам – каронай, якая размяшчалася на прылбіцы герба. Кожная з такіх карон выглядала па-рознаму, што дазваляла з лёгкасцю вызначаць ранг той ці іншай асобы. Некаторыя гербы адлюстроўвалі шлюбныя саюзы прадстаўнікоў магнацкіх родаў. Сямейныя гербы ўяўлялі сабой два таркі (шчыты) з прыватнымі гербамі, аб'яднанымі пад адной прылбіцай.

На тэрыторыі Беларусі існавала некалькі відаў гербаў: родавыя, прыватныя і асабістыя. Родавыя гербы падкрэслівалі прыналежнасць асобы да родавой арганізацыі, усіх членаў якой аб'ядноўвала агульнасць паходжання па мужчынскай лініі. Прыватныя гербы належалі канкрэтнаму чалавеку і насілі больш індывідуальны характар. У адпаведнасці з правіламі геральдыкі ў прыватныя гербы ўключаліся элементы сімволікі мацярынскага герба. Нярэдка на гербе магната размяшчаліся гербы бацькавага і матчынага родаў. Складзены ў адпаведнасці з нормамі геральдыкі, такі герб дакладна паведамляў пра паходжанне і родныя сувязі яго ўладальніка ў некалькіх пакаленнях. Напрыклад, герб Мікалая Радзівіла Чорнага ўтрымліваў чатыры гербы: бацькоўскі "Трубы", бабулін па бацьку "Ляліва", мацярынскі "Падкова", бабулін па маці "Рыбы" [17, с. 59]. Асабістыя гербы маглі надавацца за значныя заслугі ў розных галінах дзейнасці разам з правам асабістага шляхецтва, але пры гэтым іх уладальнікі былі пазбаўлены права спадчыннай перадачы.

Родавыя знакі паўсюль суправаджалі арыстакрата на працягу жыцця. Гербы размяшчаліся на харугвах, сцягах, шчытах, пячатках, манетах. Уладальнікі ўпрыгожвалі імі хатняе начынне, рукапісы, творы мастацтва. Спадчыннымі гербамі аздабляліся архітэктурныя элементы і прадметы інтэр'ера ў прыватнаўласніцкіх рэзідэнцыях. Выявы гербаў Глябовічаў, Пацаў, Сапегаў, Хадкевічаў, Радзівілаў знойдзены на гарматах, адлітых у прыватных людвісарнях [1, с. 285]. Некаторыя магнаты пераносілі ўласны герб ці асобныя яго элементы на гербы гарадоў, якімі валодалі. Так, радзівілаўскія геральдычныя сімвалы сустракаліся ў гербах Нясвіжа, Біржаў, Капыля, Клецка; першы варыянт герба Любчы ўтрымліваў гербы ўладальніка горада Яна Кішкі і яго жонкі [13]. З развіццём і пашырэннем кнігадрукавання з'явілася геральдычная гравюра. Адлюстраваннямі гербаў магнатаў-мецэнатаў, на сродкі якіх выходзілі кнігі, аздабляліся адвароты тытулаў.

Напрыклад, гербы Агінскіх, Валовічаў і Хадкевіча ўпрыгожвалі "Евангелле" (1616) з Еўя, Льва Сапегі – "Служэбнік" (1617) з Вільні, Трызнаў – "Малітваслоў" (1652) з Вільні і інш. [3, с. 63].

Значнае месца ў сімволіцы арыстакратычнай культуры адводзілася вайсковым атрыбутам. Уся культура прадстаўнікоў вышэйшага саслоўя прасякнута служэннем культу зброі. Прычына гэтага ў тым, што асноўным іх заняткам з'яўлялася вайна. Спадчынная радавая арыстакратыя, што вядзе пачатак ад першых ваяроў, абавязана сваім існаваннем зброі, з дапамогай якой быў пракладзены шлях на верхнія прыступкі сацыяльнай лесвіцы. Зброя падтрымлівала культ воіна, выступаючы сімвалам адвагі, смеласці і высакародства, а таксама сведчаннем прыналежнасці да шляхецкага стану.

Адносіны да зброі ў арыстакратычным асяроддзі былі вельмі паважлівыя, яна з'яўлялася вартым гонару прадметам, а таму нярэдка трапляла ў магнацкія калекцыі. Так, напрыклад, у радзівілаўскай скарбніцы захоўвалася найбагацейшая калекцыя, якая ўтрымлівала агнястрэльную і халодную зброю розных часоў: карабелы, сагайдакі і шчыты, шаблі ў залатых ножнах, упрыгожаныя каштоўнымі камянямі мячы і кінжалы, гарматы і многае іншае.

Значнасць зброі для прадстаўнікоў вышэйшага саслоўя беларускага грамадства можна прадэманстраваць з дапамогай партрэта Валовіча з кнігі "Слава нашчадка роду Валовічаў..." (Вільня, 1669), выкананага гравёрам Л. Вілатцам. Выява чалавека патанае сярод зброі самага рознага кшталту: дзід, гармат, сякер, лукаў і інш. На партрэце зброя – гэта сімвал ваеннай адвагі магната Валовіча.

Спецыфічнасць светаўспрымання прадстаўнікоў арыстакратычнай супольнасці абумоўлівалася асаблівым стылем жыцця. Т. Веблен у манаграфіі "Тэорыя бяздзейнага класа" вылучыў наступныя кірункі дзейнасці, якія вызначаюць лад жыцця вышэйшых слаёў грамадства: дзяржаўная, вайсковая, рэлігійная служба, спорт і забавы. Для носьбітаў самага высокага стану, такіх, як вялікі князь ці кароль, гэтыя заняткі з'яўляюцца "адзінымі відамі дзейнасці, што дапускаюцца звычаем ці разумным сэнсам членаў грамадства" [2, с. 58].

Калі разглядаць тую галіну функцыянавання чалавека, якую сёння мы назвалі б прафесійнай сферай, то прадстаўнікі магнацкіх сямей, акрамя вайсковай службы, маглі разлічваць яшчэ на вышэйшыя дзяржаўныя і адміністрацыйныя пасады. Шляхце забаранялася займацца рамёствамі ці гандлем. Практычна кожная прыдворная асоба пры вялікакняжацкім двары належала да якога-небудзь знатнага роду. Магнаты і шляхта ў якасці паслоў прадстаўлялі ў іншаземных краінах ВКЛ. Арыстакраты на чале з вялікім князем кіравалі дзяржавай. Напрыклад, пасаду канцлера ВКЛ у розны час займалі: Мікалай Мікалаевіч Радзівіл (1510 – 1522), Альбрэхт Марцінавіч Гаштольд (1522 – 1539), Ян Юр'евіч Глябовіч (1546 – 1549), Мікалай Янавіч Радзівіл (1550 – 1565), Мікалай Юр'евіч Радзівіл (1566 – 1579), Астафій Валовіч (1579 – 1587), Леў Сапега (1589 – 1623), Альбрэхт Станіслаў Радзівіл (1623 – 1656), Крыштоф Пац (1658 – 1684), Марцыян Агінскі (1684 – 1690), Дамінік Радзівіл (1690 – 1697), Кароль Станіслаў Радзівіл (1698 – 1719), Міхал Вішнявецкі (1720 – 1735), Ян Фрыдэрык Сапега (1735 – 1751), Фрыдэрык Міхал Чартарыйскі (1752 – 1775), Аляксандр Міхал Сапега (1775 – 1793), Іаахім Літавор-Храптовіч (1793 – 1795). Гэтыя прозвішчы сустракаюцца і сярод маршалкаў, гетманаў, пісараў, лоўчых, ваяводаў, старостаў і іншых дзеячаў.

Прыдворная кар'ера магнатаў пачыналася з пасад намеснікаў, памочнікаў – падчашага, падстолія, падканюшага і г. д. Потым, зарэкамендаваўшы сябе, маладыя арыстакраты рухаліся далей, атрымліваючы больш уплывовыя пасады стольніка, ваяводы, пісара і г. д. З цягам часу самыя таленавітыя і спрытныя даслужваліся да маршалка, гетмана, канцлера і інш. Калі ўзяць, да прыкладу, асобу Мікалая Радзівіла Рудога, дык на працягу свайго жыцця ён выконваў абавязкі падчашага, лоўчага, ваяводы трокскага і віленскага, вялікага гетмана і ўрэшце канцлера ВКЛ. Казімір Ян Павел з роду Сапегаў займаў пасады чашніка, падстолія, падскарбія дворнага, ваяводы полацкага, гетмана польнага, гетмана вялікага, ваяводы віленскага і старосты брэсцкага.

Дзяржаўным дзеячам знатнага паходжання спадарожнічаў актыўны кар'ерны рост. Аднак часам здараліся выключныя выпадкі пазбаўлення пасад за антыдзяржаўную дзейнасць. Той жа Казімір Ян Павел Сапега ў 1703 г. застаўся без пасад за пераход на бок шведаў у час Паўночнай вайны.

Стыль і лад жыцця прадстаўнікоў арыстакратычнай суполкі дыктаваў спецыфічныя адносіны магнатаў да шлюбу. Прыватная справа стварэння сям'і ўздымалася да падзеі грамадскага ўзроўню. Галоўнай мэтай пры гэтым было "павелічэнне ці прынамсі замацаванне рангу і аўтарытэту асоб, што бралі шлюб, як прадстаўнікоў свайго дому" [15, с. 67]. У такіх умовах арыстакраты маглі ажаніцца толькі з роўнымі свайму саслоўю. У выніку магнацкія роды цесна перапляталіся, уладанні пераходзілі ад адной сям'і да іншай. Напрыклад, праз шлюбы Радзівілы парадніліся з Астрожскімі, Вітгенштэйнамі, Вішнявецкімі, Глябовічамі, Кішкамі, Любамірскімі, Манівідавічамі, Сангушкамі, Сапегамі, Хадкевічамі і некаторымі іншымі магнацкімі родамі.

Здараліся выпадкі сваяцтва прадстаўнікоў вышэйшага саслоўя з прадстаўнікамі каралеў-

скіх дынастый. Так, у 1547 г. у Вільні адбылося таемнае вянчанне Барбары Радзівіл з вялікім князем літоўскім і каралём польскім Жыгімонтам Аўгустам ІІ. Міхал Казімір Радзівіл быў у шлюбе з Кацярынай Сабескай – сястрой Яна ІІІ Сабескага. Другім мужам Людвікі Караліны Радзівіл стаў швагер германскага імператара, каталіцкі прынц нойбургскі і пфальцграф рэйнскі Карл Філіп з дынастыі Вітэльсбахаў.

Неад'емным элементам арыстакратычнага ладу жыцця былі вандроўкі па свеце. Лічылася прэстыжным пасылаць моладзь вучыцца ў замежжа. У XVI – XVII стст. найлепшыя еўрапейскія універсітэты сталі Меккай для будучых дзяржаўных дзеячаў беларускіх зямель. Напрыклад, кардынал Ежы Радзівіл вучыўся ў Лейпцыгскім універсітэце, вывучаў філасофію і тэалогію ў Рымскім калегіуме. Мікалай Сапега – харунжы ВКЛ – атрымліваў адукацыю ў езуіцкім калегіуме ў Брунсбергу, універсітэтах Вены, Трыра, Майнца, Парыжа. Казімір Леў Сапега – маршалак дворны, падканцлер – вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Мюнхене, Інгальштацкім, Лёвенскім, Балонскім універсітэтах. Януш Радзівіл – вялікі гетман ВКЛ – вучыўся ў Лейпцыгскім, Альтдорфскім і Лейдэнскім універсітэтах.

Вучоба ў іншых дзяржавах не абмяжоўвалася наведваннем еўрапейскіх адукацыйных цэнтраў, а суправаджалася таксама вандроўкамі па гістарычных мясцінах. Беларускія арыстакраты падарожнічалі па Германіі, Чэхіі, Аўстрыі, Францыі, Англіі, Галандыі, Італіі, Бельгіі, Іспаніі і іншых краінах, што значна пашырала і ўзбагачала кругагляд маладых людзей. Яны актыўна цікавіліся прагрэсіўнымі ідэямі ў палітыцы, рэлігіі, навуцы, тэхніцы, новымі кірункамі мастацтва і літаратуры. Вялікакняжацкія магнаты заводзілі знаёмствы з вядомымі людзьмі свайго часу. Паказальныя ў гэтым сэнсе міжнародныя сувязі Мікалая Радзівіла Чорнага. У 1544 г. у час падарожжа ён атрымаў права на княжацкі тытул для сябе і асобных прадстаўнікоў свайго роду ад імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Карла V. Цесныя стасункі звязвалі магната з лідэрам рэфарматарскага руху Генрыхам Булінгерам, актыўная перапіска з якім вялася амаль на працягу цэлага дзесяцігоддзя. У працэсе гэтых зносін Мікалай Радзівіл Чорны з мэтай азнаямлення з ідэямі знакамітага швейцарца накіраваў у Цюрых групу студэнтаў, сярод якіх быў яго пляменнік Ян Кішка.

Спецыфічнасць арыстакратычнага стылю і ладу жыцця, якія таксама ўключалі тыповыя спосабы баўлення часу, арганізацыю і ўладкаванне жыллёвай прасторы, выбар адзення, ежы і г. д., праяўлялася ва ўсіх сферах існавання. Выключнай асаблівасцю арыстакратыі была недасягальнасць такога самага жыццёвага ўзроўню для прадстаўнікоў іншых сацыяльных груп (нават для фактычна роўнай у правах з магнатамі шляхты).

Такім чынам, арыстакратычная культура, што існавала на беларускіх землях у XIII – XVIII стст., мела магутны патэнцыял, праяўленні якога закранал практычна ўсе сферы дзейнасці чалавека. Намаганнямі беларускіх князёў і магнатаў была створана самабытная культура, яе здабыткі адпавядаюць узроўню не толькі агульнаеўрапейскага, але і сусветнага маштабу.

**Спіс літаратуры**

1. **Археалогія Беларусі** : у 4 т. / Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т гіст.; пад. рэд. В. М. Ляўко. – Мінск : Беларус. навука, 1998 – 2001. – Т. 4 : Помнікі XIV – XVIII стст. / В. М. Ляўко, М. Ф. Гурын, Ю. А. Заяц; пад рэд. В. М. Ляўко. – 2001. – 597 с.

2. **Веблен, Т.** Теория праздного класса / Т. Веблен; пер. с англ. С. Г. Сорокиной; общ. ред. В. В. Мотылева. – М. : Прогресс, 1984. – 367 с.

3. **Гісторыя беларускага мастацтва** : у 6 т. / рэдкал. С. В. Марцэлеў (гал. рэд.). – Мінск : Навука і тэхніка, 1987 – 1994. – Т. 2 : Другая палова XVI – канец XVIII ст. / рэдкал. : С. В. Марцэлеў (гал. рэд.); рэд. тома Я. М. Сахута. – 1988. – 384 с.

4. **Гуревич, А. Я.** Избранные труды : в 4 т. / А. Я. Гуревич; редкол. Л. В. Скворцов. – М. – СПб. : Университетская книга, 1999. – Т. 2 : Средневековый мир. – 1999. – 560 с.

5. **Дыярыюш князя Міхала Казімера Радзівіла. Ваяводы Віленскага, Гетмана Вялікага В. К. Літ.** / Спадчына. – 1995. – № 6. – С. 170 – 199.

6. **Килбас, А. А.** Культура привилегированного сословия на территории Беларуси в XIV – XVI вв. / А. А. Килбас // Вестн. Бел. гос. ун-та. Сер. 3. История. Философия. Психология. Политология. Экономика. Право. – 1998. – № 2. – С. 3 – 6.

7. **Ле Гофф, Ж.** Интеллектуалы в средние века / Ж. Ле Гофф; пер. с фр. А. М. Руткевича. – СПб. : Изд-во С.-Петерб. ун-та, 2003. – 160 с.

8. **Ницше, Ф.** Так говорил Заратустра. К генеалогии морали. Рождение трагедии. Воля к власти. Посмертные афоризмы / Ф. Ницше; пер. с нем. – Минск : Харвест, 2003. – 1040 с.

9. **Радзівіл, Аўгуст Станіслаў**. Дыярыюш аб падзеях у Польшчы / Аўгуст Станіслаў Радзівіл // Спадчына. – 1996. – № 2. – С. 166 – 204.

10. **Смирнов, М.** Ягелло – Яков – Владислав и первое соединение Литвы с Польшею / М. Смирнов // Записки имп. Новороссийского ун-та. – Одесса, 1868. – Вып. 1. – Т. 2.

11. **Терехин, С. Ф.** Охота в Белоруссии / С. Ф. Терехин. – Минск : Полымя, 1986. – 159 с.

12. **Хроника Быховца** / редкол. : М. Н. Тихомиров (гл. ред.), В. Д. Королюк; пер. Н. Н. Улащика. – М. : Наука, 1966. – 154 с.

13. **Цітоў, А. К.** Гарадская геральдыка Беларусі / А. К. Цітоў. – Мінск : Полымя, 1989. – 207 с.

14. **Шпенглер, О.** Закат Европы. Очерки мифологии мировой истории / О. Шпенглер; пер. И. И. Маханькова. – М. : Мысль, 1998. – 538 с.

15. **Элиас, Н.** Придворное общество. Исследования по социологии короля и придворной аристократии / Н. Элиас; пер. с нем. А. П. Кухтенкова, К. А. Левинсона, А. М. Перлова, Е. А. Прудниковой, А. К. Судакова. – М. : Языки славянской культуры, 2002. – 368 с.

16. **Gloger, Z.** Encyklopedia staropolska ilustrowana / Z. Gloger. – Warszawa : Druk. P. Laskauera i W. Babickiego. – T. 3. – 167 s.

17. **Niesiecki, K.** Herbarz Polski / K. Niesiecki. – Lipsk, 1841. – T. VIII. – 652 s.

**Святлана ПАЦЫЕНКА,**
старшы выкладчык кафедры менеджменту сацыякультурнай дзейнасці
Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў.

*Пачынальнікі*

# ДЗЕЙНАСЦЬ ЮЛЬЯНА ДРЭЙЗІНА ПА ПАДРЫХТОЎЦЫ БЕЛАРУСКАГА СЛОЎНІКА МУЗЫЧНЫХ ТЭРМІНАЎ

Для беларускай культуры 1920 – 1930-х гг. Юльян Мікалаевіч Дрэйзін з'яўляецца знакавай асобай. Ён валодаў шматгранным талентам, які найперш праявіўся ў дзвюх гуманітарных галінах ведаў: філалогіі і музыказнаўстве. Нястомна і плённа Дрэйзін працаваў як лібрэтыст, паэт, лінгвіст, літаратуразнаўца, музыказнаўца-крытык, публіцыст, рэдактар, лектар. Значнай была яго перакладчыцкая і педагагічная дзейнасць.

Перакладчыцкай працы Ю. Дрэйзін аддаваў шмат увагі і займаўся ёй на працягу ўсяго жыцця. Паліглот, ён валодаў старажытнымі і сучаснымі еўрапейскімі мовамі: са старажытнагрэчаскай перакладаў творы Сафокла, Эўрыпіда, Арыстафана, Гамера; з латыні – Лукрэцыя і Каменскага; з італьянскай, французскай, нямецкай, рускай – оперныя лібрэта і асобныя нумары з вакальнай сусветнай літаратуры. Дзякуючы каласальнай працаздольнасці, грунтоўным ведам, перакладчыцкаму майстэрству Ю. Дрэйзін ажыццявіў увогуле каля 840 перакладаў*, большасць якіх звязана з музыкай. Сярод іх – падручнік тэорыі музыкі прафесара М. Кашкіна**, слоўнік "Музычныя тэрміны" (1926), тэксты больш як 800 нумароў з опер, араторый, кантат, рамансаў, песень больш чым 160 кампазітараў (1920 – 1930), 20 оперных лібрэта (1925 – 1930).

Перакладчыцкая і, у прыватнасці, музычна-перакладчыцкая спадчына Ю. Дрэйзіна, якая складае вялікі і значны пласт яго творчай працы, сёння практычна не даследавана [14]. Наш артыкул з'яўляецца адной з першых спроб асэнсавання гэтай тэмы.

Росквіт музычна-перакладчыцкай дзейнасці Ю. Дрэйзіна прыпадае на 1925 – 1930-я гг. і звязаны з яго працай у Інстытуце беларускай культуры, Беларускім музычным тэхнікуме, членствам у Беларускім таварыстве драматычных пісьменнікаў і кампазітараў. Спынімся больш падрабязна на дзейнасці навукоўца ў першай установе.

Пераехаўшы ў 1925 г. з Магілёва ў Мінск, Ю. Дрэйзін неўзабаве стаў сябрам-карэспандэнтам музычнай падсекцыі Інбелкульта, які складаўся з 8 пастаянных камісій (камісіі па стварэнні слоўніка жывой беларускай мовы, фальклорна-дыялекталагічнай, літаратурнай, слоўнікавай, правапісна-тэрміналагічнай) і 7 секцый, што мелі характар навуковых таварыстваў. Адным з такіх таварыстваў была заснаваная ў лютым 1925 г. секцыя мастацтва (старшыня – Я. Дыла, сакратар – М. Шчакаціхін), падзеленая на падсекцыі – тэатральную, музычную і выяўленчага мастацтва.

Музычная падсекцыя ў складзе В. Сэляха, А. Грыневіча, М. Аладава, Т. Шнітмана, У. Тэраўскага, А. Ягорава, Я. Прохарава, сяброў-карэспандэнтаў Ю. Дрэйзіна, М. Равенскага ў сваю чаргу складалася з песеннай камісіі і камісій па вывучэнні беларускай музыкі і беларускага народнага танца. Супрацоўнікі першай камісіі (спачатку на чале з А. Грыневічам, потым – Я. Прохаравым) займаліся збіраннем, запісам, распаўсюджаннем, папулярызацыяй, публікацыяй народнай песні і музыкі.

Дзякуючы публікацыям Ю. Дрэйзіна вядома, якія пытанні ўздымаліся на пасяджэннях музычнай падсекцыі ў лістападзе 1925 г. На адным з іх былі адабраны 17 апрацовак народных песень і адпраўлены ў Кіеў для выканання народнай украінскай капэлай "Думка" [7] (уражанні ад гэтага выканання адлюстраваны ў пяці публікацыях Ю. Дрэйзіна на трох мовах).

На іншым пасяджэнні высвятлялася, якім чынам падсекцыя можа садзейнічаць працы навуковага кангрэса. Было прынята рашэнне, па-першае, пра ўдзел у выстаўцы і арганізацыю экспанавання ўсіх музычных выданняў, калекцыі беларускіх нацыянальных інструментаў, па-другое, пра падрыхтоўку канцэрта беларускай музыкі. Ю. Дрэйзіну, у прыватнасці, было даручана распрацаваць даклад на тэму "Разьвіццё сучаснага становішча беларускай музыкі" [6].

У 1926 г. пры музычнай падсекцыі стварылі Беларускую народную харавую капэлу (арганізатар – В. Сэлях, дырыжор – А. Ягораў), галоўнай мэтай якой было ўзорнае выкананне беларускіх народных песень.

Дзейнасць Ю. Дрэйзіна (і перакладчыцкая, і грамадская) у Інбелкульце вылучаецца актыўнасцю і плённасцю. У снежні 1925 г. як прадстаўнік музычнай падсекцыі (разам з В. Сэляхам) ён удзельнічаў у Савеце пры галоўпрафасветы па пытанні пашырэння музычнай асветы на Беларусі, быў дэлегаваны ў Кіеў на канцэрт украінскай капэлы "Думка", па заказе секцыі мастацтва пераклаў "Антыгону" Сафокла.

* Аб'ём гэтых перакладаў складае больш за 500 старонак друкаванага, 30 старонак машынапіснага і 960 старонак рукапіснага тэксту.

** Пра гэта паведамлялася ў рубрыцы "Музыка" часопіса "Полымя" (1925, № 1).

*У снежаньскім нумары за 2009 г. друкаваўся артыкул "Музычна-перакладчыцкая дзейнасць Юльяна Дрэйзіна"* ***Наталлі Стасюк****, прысвечаны 130-годдзю навукоўца.*

Супрацоўнікі секцыі мастацтва ўвогуле ажыццяўлялі вялікую культурна-асветніцкую дзейнасць. Яны арганізавалі ў Мінску дзве ўсебеларускія мастацкія выставы (1925, 1927), заснавалі тэатральны музей, займаліся падрыхтоўкай рэпертуару для беларускіх тэатраў, у чым Ю. Дрэйзін як перакладчык браў самы актыўны ўдзел. У прыватнасці, у студзені 1927 г. часткова, а ў маі цалкам, сіламі харавой капэлы В. Сэляха і акцёраў БДТ-1 была ажыццёўлена пастаноўка оперы "Русалка" А. Даргамыжскага ў яго перакладзе. У маі таго ж года была пастаўлена перакладзеная для Маскоўскай беларускай драматычнай студыі п'еса "Бакханкі" Эўрыпіда.

Аднак найважнейшай працай у Інбелкульце для Ю. Дрэйзіна стала складанне слоўніка "Музычныя тэрміны".

Трэба адзначыць, што Інбелкульт быў заснаваны на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры Наркамасветы БССР у складзе гуманітарнай, прыродазнаўчай і матэматычнай секцый. У функцыі камісій уваходзіла збіранне, вывучэнне, апрацоўка тэрмінаў ва ўсіх сферах навукі і выданне тэрміналагічных слоўнікаў. У выніку гэтай працы ў перыяд з 1922 да 1930 г. былі створаны і выдадзены спецыяльныя слоўнікі па 24 галінах навукі – "Беларуская навуковая тэрмінолёгія". Актыўна працавалі над складаннем слоўнікаў беларускай мовы і беларускай навуковай тэрміналогіі С. Некрашэвіч (першы старшыня Інбелкульта), М. Байкоў, Б. Эпімах-Шыпіла, Я. Купала, Я. Колас, М. Гарэцкі, У. Дубоўка і інш.

У 1920-я гг. тэрміналагічныя слоўнікі былі асабліва патрэбныя: неабходна было забяспечыць выкладанне на беларускай мове. Вось чаму праца слоўнікавай і тэрміналагічнай камісій мела актыўны, масавы характар і падтрымлівалася на вышэйшым узроўні. Так, у пастанове III сесіі ЦВК БССР VI склікання "Аб Інстытуце Беларускай культуры і зацвярджэнні Палажэння аб ім" ад 4 лістапада 1924 г. гаварылася:

*"Зьвярнуць увагу усіх Савецкіх установ на неабходнасьць максымальнага падтрыманьня Інстытуту у яго працы па беларускай тэрмінолёгіі у розных галінах ведаў, што павінна палегчыць пераход нашых ВУЗаў на беларускую мову выкладаньня. <…>*

*Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР А. Чарвякоў"* [10, арк. 10].

Супрацоўнікі секцыі мастацтва, складаючы план сваёй працы, таксама абазначылі апрацоўку навуковай беларускай тэрміналогіі па ўсіх галінах мастацтва як адну з найпершых задач. У выніку з'явіўся сёмы выпуск "Беларускай навуковай тэрмінолёгіі" – "Музычныя тэрміны", складзены Ю. Дрэйзіным.

Усе 24 выпускі "Беларускай навуковай тэрмінолёгіі" пабудаваны па адным прынцыпе: змяшчаюць прадмову складальніка; руска-беларускі слоўнік, у левай калонцы якога знаходзіцца рускі тэрмін, у правай – яго пераклад; слоўнік беларускіх тэрмінаў з указаннем нумара ў руска-беларускім слоўніку; схему выданняў Інбелкульта ("па аддзелах і сэрыях"); пералік папярэдніх выпускаў "Беларускай навуковай тэрмінолёгіі" [2]. Указанні на прынцып распрацоўкі слоўнікавага артыкула і прэзентацыі лексічнай адзінкі адсутнічаюць.

У слоўніку Ю. Дрэйзіна знайшла адлюстраванне музычная тэрміналогія свайго часу. Шэраг тэрмінаў, сярод якіх *автоматические инструменты*, *возвратный ход*, *однозвучие*, *меломимика*, *сродство тонов*, *одночертный*, *пятичертный*, *хордометр*, *созвучание*, у наш час не ўжываюцца. Асноўная ж частка слоў і сёння шырока выкарыстоўваецца ў галіне прафесійнай музычнай культуры*: у элементарнай тэорыі (самая вялікая група тэрмінаў – назвы інтэрвалаў, ладоў, ключоў, мелізмаў і інш.); гармоніі [назвы неакордавых гукаў (*затрыманне*, *прад'ём*, *дапаможная нота*, *прахадныя тоны*) і інш.]; поліфаніі (*бясконцы канон*, *генералбас*, *імітацыя*, *кантрапункт*, *мензура*, *тэма*, *фуга*, *фугата*, *фугета* і інш.); у абазначэнні музычных формаў (*інвенцыя*, *прэлюдыя*, *рапсодыя*, *ронда*, *серэнада*, *сімфонія*, *саната*, *санаціна*, *сюіта* і інш.), інструментоўкі (*аранжыроўка*, *divisi*, *сола*, *tutti*, *партытура*, *партыя*, *аркестр* і інш.). Слоўнік таксама ўключае распаўсюджаныя ў сусветнай музычнай культуры пазначэнні (у асноўным італьянскія) тэмпаў, дынамікі, настрояў, афектаў; назвы музычных інструментаў (*арфа*, *барабан*, *балалайка*, *бубен*, *лютня*, *мандаліна*, *піяніна*, *жалейка*, *шарманка* і інш.). Пры гэтым нярэдка тэрміны адной паняційнай групы пададзены выбарачна, напрыклад:

| Прысутнічаюць | Адсутнічаюць |
|---|---|
| *духовые, ударные инструменты* | *струнные инструменты* |
| *запев* | *куплет, припев* |
| *трезвучие, секстаккорд* | *квартсекстаккорд* |
| *хореография* | *танец* |

Тэрміналогія найноўшых тэарэтычных палажэнняў (напрыклад, ладавых тэорый Б. Яворскага, М. Гарбузава), якія на той час не атрымалі канчатковага навуковага прызнання, у склад слоўніка не ўвайшла. Адзначым яшчэ некаторыя асаблівасці працы Ю. Дрэйзіна.

Па-першае, нягледзячы на назву "Расійска-беларускі слоўнік" асноўнай часткі выдання, у левай калонцы мы бачым абазначэнні, напісаныя як кірыліцай, так і лацініцай. Руская частка, безумоўна, з'яўляецца базавай (525 тэрмінаў супраць 263, напісаных лацініцай), аднак незразумелы прынцып адбору слоў, пададзеных і кірыліцай, і лацініцай. Маг-

* Наступныя тэрміны прыведзены паводле выдання "Музычны слоўнік беларуска-рускі. Музыкальный словарь русско-белорусский" (Мінск, 1999) [11].

чыма, узорам для Ю. Дрэйзіна паслужыў распаўсюджаны ў той час “Краткий музыкальный словарь” Ю. Энгеля [15], у якім напісаныя кірыліцай тэрміны таксама чаргуюцца з лацінскімі адпаведнікамі. Некаторыя ж словы прысутнічаюць у слоўніку і ў адным, і ў другім варыянце, што мае месца таксама ў назвах інструментаў (*труба* і *tromba*, *флейта* і *flauto*, *бубен* і *tamburo*, *валторна* і *corno*).

Параўнайце таксама:

| Парадкавы нумар | Тэрмін на рускай ці лацінскай мове | Пераклад Ю. Дрэйзіна |
|---|---|---|
| 100 | *выразительность* | *выразнасць, выразістасьць* |
| 771 | *экспрессия* | *выразістасьць* |
| 784 | *espressione* | *выразістасьць* |
| 419 | *pezzo* | *п'еса* |
| 459 | *пьеса* | *п'еса* |

Па-другое, у слоўніку прысутнічае дастатковая колькасць тэрмінаў у форме прыметніка, пададзеных без назоўнікаў. Па гэтай прычыне распазнаваць музычны сэнс слоў чытачу даводзіцца самастойна, напрыклад:

| Тэрмін на рускай мове | Магчымае ўстойлівае словазлучэнне |
|---|---|
| *буквенный* | *буквенное нотописание, обозначение* |
| *измененный* | *измененный мотив* |
| *классический* | *классический стиль, классический танец* |

Па-трэцяе, аўтар нярэдка выкарыстоўвае дзеяслоўныя формы (разам з назоўнікам), што, на наш погляд, абцяжарвае тэрміналогію і пазбаўляе яе дакладнасці: *фразировать*, *темперировать*, *разрешать*, *настраивать*, *транспонировать*, *тремолировать* і г. д.

Можна выказаць меркаванне, што Ю. Дрэйзін працаваў двума метадамі:

– знаходзіў іншамоўнаму тэрміну беларускамоўны эквівалент:

| Тэрмін на рускай мове | Пераклад Ю. Дрэйзіна | Сучасная форма |
|---|---|---|
| *предъем* | *прадузяцьцё* | *прад'ём* |
| *полифония* | *мнагагалосьсе* | *поліфанія* |
| *параллельные квинты* | *роўналежныя квінты* | *паралельныя квінты* |
| *обращение* | *зварот* | *абарачэнне* |

– пры адсутнасці адэкватнага беларускамоўнага тэрміна ўтвараў неалагізмы, напрыклад: *аббревиатура – скарачэньне*, *акколада – дужка*, *виртуоз – мастак*, *реплика – адказ*, *респирация – дыханьне*, *фраза – сказ*, *фразировать – выражаць*, *фразировка – выражэньне*, *хордометр – струнамер*, *экспрессия – выразістасьць* і г. д.

Трэба адзначыць, што Ю. Дрэйзін у сваёй працы над слоўнікам быў не першы, хто займаўся стварэннем музычнай тэрміналогіі на роднай мове. У 1923 г. выйшаў падручнік А. Грыневіча “Навука сьпеваў”, у якім аўтар выкарыстоўваў такія тэрміны-неалагізмы, як *нотная драбінка* (нотастан), *адступы* (інтэрвалы), *васьмігук* (актава), *тахтоўка* (дырыжыраванне), *пераважка* (сінкопа), а таксама пераклады паводле М. Байкова (гл. наступную табліцу). А. Грыневіч лічыў, што падручнік з падобнай тэрміналогіяй будзе больш лёгкім і зразумелым для вучняў школ і іншых чытачоў, дазволіць “без вялікага высілку пазнаць і выкарыстаць у поўнай меры сваю народную песьню” [5, с. 3], таму стараўся замяняць усе чужаземныя словы, якія “мучаць памяць і туманяць разуменьне”, беларускімі. Аднак час паказаў, што гэтыя неалагізмы аказаліся штучнымі і не прыжыліся ў мове.

У складанні слоўніка Ю. Дрэйзін прытрымліваўся “інтэрнацыянальнага” падыходу. “Тэрміны, якія набылі інтэрнацыянальнае значэнне, не павінны перакладацца на беларускую мову” [8], – сцвярджаў ён. У тэрміналагічнай камісіі лічылі інакш і прапанавалі змяніць некалькі інтэрнацыянальных тэрмінаў на беларускія “наватворы”. У выніку, пасля доўгіх спрэчак, Ю. Дрэйзіну ўдалося адстаяць свой погляд, і слоўнік быў надрукаваны без змяненняў. Тым не менш праз год пасля яго выдання паміж М. Байковым і Ю. Дрэйзіным разгарнулася навуковая дыскусія. Першы ўпікнуў філолага-музыказнаўцу за вельмі малую колькасць створаных ім неалагізмаў (усяго 10) і стаўленне да перакладу ўвогуле [1, с. 154]. Параўнайце, напрыклад:

| Тэрмін на рускай мове | Пераклад Ю. Дрэйзіна | Пераклад М. Байкова |
|---|---|---|
| *аккорд* | *акорд* | *суладдзе* |
| *акцент* | *акцэнт, націск* | *моцка* |
| *бемоль* | *бэмоль* | *зніжок* |

У сваю чаргу Ю. Дрэйзін адказаў, што “рабіць па яго [Байкова] рацэпце адносна ўтварэньня новых слоў, гэта значыць скласьці такую тэрмінолёгію, якая будзе зразумелая толькі… для аўтара” [9, с. 179]. Прыклады перакладаў апанента ён назваў «словатворчымі “подвігамі”» [9, с. 179].

Дарэчы, разыходжанне назіраецца і ў перакладах некаторых агульных для літаратуры і музыкі тэрмінаў, прыведзеных у “Беларускай навуковай тэрмінолёгіі” (вып. 2, 7):

| Тэрмін на рускай мове | Пераклад Ю. Дрэйзіна | Пераклад І. Луцэвіча (Я. Купалы) [4] |
|---|---|---|
| *гармония* | *гармонія* | *суладзьдзе* |
| *дисгармония* | *дысгармонія* | *разладзьдзе* |
| *игра (на инструменте)* | *ігра* | *граньне* |
| *какафония* | *какафонія, ліхагучнасць* | *немілагучнасць* |

Як бачым, у 1920-я гг. уздымаліся пытанні пра шляхі ўзбагачэння і аднаўлення беларускай лексікі, што ў рэцэнзіях на выпускі “навуковай тэрмінолёгіі” (асабліва першыя) актыўна абмяркоўваліся філолагамі і зацікаўленымі грамадскімі дзеячамі на старонках часопіса “Полымя”. А. Смоліч, у прыватнасці, пісаў: “Чым больш лік нэолёгізмаў

будзем мы старацца ўвесці ў мову, тым менш шансаў на жыцьцёвасьць кожнага з іх, бо ўсё-ж гэта словы штучныя, хаця можа і вельмі правільна і ўдала зложаныя. А тым часам такімі нэолёгізмамі часта замяняюцца словы ў поўным значэньні інтэрнацыянальныя, якія ўжываюцца ў навуковай тэрміналёгіі блізка ўсіх культурных народаў… <…> вартасьць такіх заменаў з пэдагогічнага дый навуковага боку ня дужа пэўная…" [13, с. 86].

Стварэнне 24 выпускаў "Беларускай навуковай тэрмінолёгіі" стала ў 1920-я гг. важным напрамкам у справе нацыянальнага адраджэння. Распрацоўка навуковай тэрміналогіі ў тыя часы паклала таксама пачатак вялікай і працяглай дзейнасці па складанні слоўнікаў сучаснай беларускай лексікі ў розных галінах навукі і мастацтва.

У 1994 (амаль праз 70 гадоў) і 1999 гг. былі выдадзены якасна новыя, дасканалыя па сваёй структуры слоўнікі з сучаснай музычнай лексікай. Адметная асаблівасць слоўніка, складзенага В. Антаневіч [12], – арыентацыя на еўрапейскую музычную тэрміналогію, сістэмнасць, яснасць і паслядоўнасць у распрацоўцы слоўнікавага артыкула. Па сутнасці, гэта слоўнік іншамоўных тэрмінаў, што ўтрымлівае больш за 1800 адзінак.

**Прынцыпы пабудовы беларускіх слоўнікаў музычных тэрмінаў.**

| Складальнікі | Алфавіт напісання тэрміна | Мова | |
|---|---|---|---|
| | | перакладу | тлумачэння |
| Ю. Дрэйзін | кірыліца і лацініца | беларуская | – |
| В. Антаневіч | лацініца | беларуская | беларуская |
| Г. Куляшова і інш. | кірыліца | руская і беларуская | руская і беларуская |

У 1999 г. выйшла ў свет і выданне "Музычны слоўнік беларуска-рускі. Музыкальный словарь русско-белорусский" даследчыкаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Рэспублікі Беларусь у складзе Г. Куляшовай, Т. Мдывані, Н. Юўчанкі і інш. Гэты слоўнік "з'яўляецца першай у Беларусі спробай зводнага і сістэматычнага выкладу звестак аб розных галінах музычнай культуры і мастацтва на беларускай і рускай мовах, распрацоўкі і ўпарадкавання сучаснай музычнай тэрміналогіі" [11, с. 3], – гаворыцца ў прадмове. Задуманы спачатку менавіта як тэрміналагічны, у працэсе працы аўтарскага калектыву ён ператварыўся ў тлумачальны слоўнік энцыклапедычнага тыпу і змяшчае (на адной мове) каля 3200 тэрмінаў (што ў 4 разы больш за слоўнік Ю. Дрэйзіна). Складальнікі адзначаюць, што і да цяперашняга часу беларуская музычная тэрміналогія недастаткова распрацавана і знаходзіцца на стадыі станаўлення. Пры падрыхтоўцы слоўніка яны імкнуліся да захавання традыцыі выкарыстання беларускай музычнай тэрміналогіі (у школьных падручніках, навуковых публікацыях, сродках масавай інфармацыі), пачатак якой паклаў слоўнік Юльяна Мікалаевіча Дрэйзіна.

Такім чынам, сёмы выпуск "Беларускай навуковай тэрмінолёгіі" (1926) з'яўляецца руска-еўрапейска-беларускім слоўнікам музычных тэрмінаў. У той час гэта быў першы вопыт стварэння падобнага слоўніка (дарэчы, слоўнікі ў іншых галінах мастацтваў так і не былі складзены). Ю. Дрэйзіну ўдалося аператыўна зрабіць адбор і апрацоўку музычнай тэрміналогіі, дастаткова граматна і прафесійна стварыць яе слоўнікавую базу. Наяўнасць жа некаторых недахопаў, на наш погляд, абумоўлена жаданнем аўтара хутчэй увесці ў музычную практыку тэрміналогію на роднай мове. "Каштоўнасць тэрміналагічнага слоўніка не выклікае ніякіх сумненняў. У ім прадэманстраваны даволі высокая культура навуковай працы, глыбіня ведаў у асноўных галінах тэорыі музыкі", – адзначаў М. Шыманскі [3, с. 6]. На жаль, выданне Ю. Дрэйзіна мела вузкую мэту – зрабіць пераклад музычных тэрмінаў на беларускую мову. Аднак і гэта аказалася няпростай задачай. Асноўны ж прынцып падрыхтоўкі слоўніка садзейнічаў сцвярджэнню інтэрнацыянальнага падыходу ў музычнай лексікаграфіі.

**Спіс літаратуры**

1. **Байкоў, М.** Да пытання аб чужаземных словах у нашай мове / М. Байкоў // Полымя. – 1927. – № 4. – С. 150 – 168.
2. **Беларуская навуковая тэрмінолёгія.** Вып. 7. Музычныя тэрміны / склад. Ю. Дрэйзіна. – Коштам Інстытуту Беларускае культуры у Менску, 1926. – 41 с.
3. **Беларуская навуковая тэрмінолёгія.** Вып. 7. Музычныя тэрміны / склад. Ю. Дрэйзіна. – 2-е выд., прадм. М. Шыманскага. – Мінск : БГК, 1989. – 36 с.
4. **Беларуская навуковая тэрмінолёгія.** Вып. 2. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва / склад. Ів. Луцэвіч. – Коштам Інстытуту Беларускае культуры у Менску, 1923. – 74 с.
5. **Грыневіч, А.** Навука сьпеваў (правілы і практыка) / А. Грыневіч. – Вільня, выданьне аўтара, 1923. – 40 с.
6. **Дрэйзін, Ю.** Беларускі навуковы кангрэс і музыка / Ю. Дрэйзін // Савецкая Беларусь. – 1925. – 26 ліст.
7. **Дрэйзін, Ю.** Папулярызацыя беларускае песьні / Ю. Дрэйзін // Савецкая Беларусь. – 1925. – 18 ліст.
8. **Дрэйзін, Ю.** Самакрытычныя заўвагі / Ю. Дрэйзін // ЛіМ. – 1934. – 31 студ.
9. **Дрэйзін, Ю.** Шануйце мову / Ю. Дрэйзін // Узвышша. – 1928. – № 1 (7). – С. 179 – 180.
10. **БДАМЛМ.** – Фонд 149. – Воп. 3. – С. 169.
11. **Музычны слоўнік беларуска-рускі. Музыкальный словарь русско-белорусский** / аўт.-склад. Г. Р. Куляшова, Т. Г. Мдывані, Н. А. Юўчанка [і інш.]; навук. рэд. Г. Р. Куляшова, Л. А. Антанюк. – Мінск : Беларус. навука, 1999. – 559 с.
12. **Слоўнік музычных тэрмінаў** / аўт.-уклад. В. А. Антаневіч. – Мінск : Беларусь, 1994. – 136 с.
13. **Смоліч, А.** Беларуская навуковая тэрміналёгія / А. Смоліч // Полымя. – 1922. – № 1. – С. 85 – 87.
14. **Стасюк, Н. Н.** "Белорусская тема" в музыкально-критическом наследии Ю. Н. Дрейзина / Н. Н. Стасюк // Весці Бел. дзярж. акадэміі музыкі. – 2009. – № 15. – С. 20 – 30.
15. **Энгель, Ю.** Краткий музыкальный словарь / Ю. Энгель. – Издание П. Юргенсона в Москвѣ, 1909. – 219 с.

**Наталля СТАСЮК,**
навуковы супрацоўнік
Праблемнай навукова-даследчай лабараторыі музыкі
Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Галіна ГОРАВА

# КАСМАЛАГІЧНЫЯ ТЭЗІСЫ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА Ў КАНТЭКСЦЕ ЕЎРАПЕЙСКАЙ КАСМАЛОГІІ І АСТРАНОМІІ

*Заканчэнне. Пачатак у № 3.*

Паводле ўяўленняў Язэпа Драздовіча, Месяц, таямнічы спадарожнік Зямлі, падыходзіць для жыцця, бо на ім ёсць вада і атмасфера. *"Месяц – гэта такі ж самы жывы мір, як і наша зямелька-планета"*, з такімі ж прапорцыямі прыдатнай і непрыдатнай паверхні для жыцця чалавекападобных істот. Розніца ў тым, што зямляне жывуць на сушы, "даліны", упадзіны Зямлі, залітыя акіянскай вадой, а луніды жывуць у "далінах", бо вада знаходзіцца на ўзвышшах у выглядзе снегу і лёду. На зямную сушу вада трапляе як туман і ападкі, а вяртаецца ў акіян рэкамі і ручаямі. На Месяцы, наадварот, вада сцякае ў "даліны" ў выглядзе ручаёў, а вяртаецца назад "лёгкатуманістым паветрам". Там таксама існуюць натуральныя "крынічныя вежы" – "вадакачкі" падземнай вады. Павышэнне тэмпературы паветра прыводзіць на Зямлі да памялення рэк, а на Месяцы – да рачнога паўнаводдзя [4, с. 112]. Яго паверхня таксама арашаецца вільгаццю паветра ў выглядзе шэрані (на ўзвышшах) і расы (у далінах). Вільготнасць убіраецца атмасферай у час месячнага дня, а працяглай месячнай ноччу вяртаецца. На Месяцы не існуе дажджоў, навальніц і засух; поры года адсутнічаюць [4, с. 112]. [Вады на Месяцы практычна няма, хоць не выключана наяўнасць лёду на дне некаторых кратэраў, што знаходзяцца днём у цені. Магчыма існаванне вады на паўднёвай палярнай шапцы Месяца*.]

Язэп Драздовіч часта характарызуе колер месячнай атмасферы: у цэнтры дыска мастак назіраў серабрыстае дзённае неба [2, с. 121], на поўнач ад Mare Crisium – ясна-стальное неба з паўдзённым сонцам, меншым за зямное, адсутнасць смугі, святлопаветранай перспектывы [3, с. 122]. Ноч на Месяцы цёмна-шэрая, *"тускласветная, папялятая"* [4, с. 119], падобная да туманнай зямной. Паколькі там не існуе дажджавых і снегавых аблокаў, то *"Месяц – гэта мір вечнапагоднага неба"* [4, с. 112]; ён асвятляецца Зямлёй і Сонцам, таму тон асвятлення змяняецца ў залежнасці ад таго, суша ці вада на Зямлі адлюстроўваюць сонечнае святло. Доказам існавання месячнай атмасферы служыць тое, што цень ад Зямлі на месячным дыску мае чырвоную аблямоўку. [У Месяца няма атмасферы, таму за дзень яго паверхня награваецца да +100 – +130°, а ноччу тэмпература можа ўпасці ніжэй за -150° па Цэльсію.]

Кожная *"пааддзельная краіна, а мо і кожны пааддзельны горны цырк, як самастойная фаза, мае сваю ўласную флору і фауну, свае дрэвы, свае травараслі, свой уласны клімат і сваіх уласных жывёл – пяшчэрнаскальных звяркоў…"* [3, с. 119]. Месячную флору мастак характарызуе як падобную да зямной, толькі з некаторымі адрозненнямі. Напрыклад, у Цырку Платона ён бачыў высокія злакавыя расліны, танкастволыя парасонападобныя дрэўцы, высокую расліннасць, падобную да хрэну [3, с. 118]. Флора Месяца разнастайная, сустракаюцца расліны падобныя да лугавога дзьмухаўца, ягелю, салаты, рамонку, верасу, хвашчу, чароту, моху, алеандру, агавы, пальмы, кедра, лістоўніцы, каліфарнійскай секвоі. У дачыненні да фауны Я. Драздовіч схільны злучаць прыкметы розных жывёл у аб'яднаныя вобразы, напрыклад яшчараката [3, с. 117] або *"рыжаватых чатырохногіх аленяў з заячымі вушамі"* [3, с. 105].

На думку Я. Драздовіча, на Месяцы існуе разумнае жыццё. Мастаком апісаны расавыя тыпы лунідаў, зроблены іх замалёўкі. На месячнай карце ён бачыў гарады, вадасховішчы, дарогі, чыгунку, узараныя палі, падскальныя вырубныя галерэі, вадасцёкавыя канавы, што можа сведчыць пра досыць высокі ўзровень развіцця культуры. Я. Драздовіч падае ўзоры скульптуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва лунідаў. Мастак падрабязна апавядае пра сваё падарожжа на месячным цягніку, адзначаючы: *"А ўсё ж такі луніды, як не бедны і просты ў параўнанні з нашымі цывілізаванымі зямлянамі, аднак жа з вялікай пашанай адносяцца да сваіх падарожнікаў і абарудуюць для іх вазы ў сваіх цягніках з найбольшай выгадай, з найэстэтычнейшай роскашшу"* [5, с. 133 – 134].

У рукапісах Я. Драздовіч прадракае, што калі зямляне прыляцяць на Месяц, яны заспеюць толькі руіны некалі ваяўнічай месячнай цывілізацыі [7, с. 112]. Па прагнозах мастака, зямляне патрапяць на Месяц праз *"паўтысячы гадоў"* [потым *"паўтысячы гадоў"* у рукапісе выпраўлена на *"сотні гадоў"*] [7, с. 120]. Там пабываюць дзве экспедыцыі агульнай колькасцю 12 чалавек [7, с. 75]. [З 1969 да 1972 г. на Месяцы было шэсць экспедыцый амерыканскіх астранаўтаў. Яны не выявілі слядоў арганічных злучэнняў, якія маглі б сведчыць пра існаванне жыцця.]

---

* Тут і далей у квадратных дужках падаюцца каментарыі аўтара.

Некаторыя фрагменты касмавізій Я. Драздовіча пакладзены ў аснову яго артыкулаў і манаграфій, але яны не з'яўляліся асноўнай крыніцай інфармацыі, бо аўтар адштурхоўваўся ад агульных уяўленняў касмалогіі і астраноміі.

У касмалагічных тэзісах мастака найбольш узважанай і цэласнай бачыцца тэорыя паходжання *"самовертящихся"* планет Сонечнай сістэмы. У сваім лісце ў Камітэт аховы аўтарскіх правоў пры Савеце Міністраў СССР аўтар выклаў яе наступным чынам: «*Большие планеты Земля и Марс, Юпитер и Сатурн, Уран и Нептун и другие самовертящиеся среди малых планет, как светопеременный Эрос, происходят не от массы Солнца по Канто-Лапласовской гипотезе, а из парнозвездных систем… в которых они и започатковали навсегда свои одинаковые самоверчения вокруг своей оси следующим образом: Марс кружился вокруг Земли, выводя Землю в круг из центра, и обе эти планеты проделывали на протяжении 24 часов свои кругобежья, обратясь друг к другу лунообразно одним и тем же боком, – вокруг пустующего центра. Системы эти не кружили на одном и том же месте без внешнего передвижения, а передвигались в межзвездном пространстве, и, пролетев на своем пути сквозь небольших размеров "перетворальную зону", в которой взаимопритяжение бездействует, системы эти разъединились, Марс отлетел от Земли на порядочное расстояние. А встретившись… со странствующим Солнцем, Земля и Марс вошли в состав Солнечной системы. Спутников себе приобрели уже в Солнечной системе, встав на их орбиты. Ибо первоначально Солнечная система состояла только из планет луноподобных, как Венера и Меркурий, не состоявших в парнозвездных системах, и верчение их вокруг своей оси зависит от годовых круговращений вокруг Солнца*» [10].

Паводле Я. Драздовіча, парназорныя сістэмы існуюць і ў поясе астэроідаў [10].

Сведчаннем парназорнага паходжання планет з'яўляюцца:

1. Прыблізна роўная даўгата сутачнага вярчэння ў Зямлі і Марса, Юпітэра і Сатурна, у Урана і Нептуна [10]. [Перыяд вярчэння Зямлі – 23 г. 56 м., Марса – 24 г. 37 м., Юпітэра – 9 г. 50 м., Сатурна – 10 г. 14 м., Урана – 10 г. 49 м., Нептуна – 15,7 г. Перыяд вярчэння Нептуна стаў вядомы Драздовічу ў 1950-я гг., і ён палічыў, што Нептун *"недостаточно исследован"*.]

2. Аднолькавы накірунак восі вярчэння адносна плоскасці экліптыкі [10]. [Нахіл восі вярчэння да плоскасці арбіты ў Зямлі – 23,5°, Марса – 25,2°, Юпітэра – 3,1°, Сатурна – 26,4°, Урана – 98°, Нептуна – 29°.]

3. Гарманічнае размяшчэнне на арбітах па велічыні (вялікая планета становіцца бліжэй да Сонца). Сіла сусветнага прыцягнення паміж Сонцам і планетамі парназорнай сістэмы прымушае большую планету размясціцца бліжэй да Сонца [10].

У 1775 г. І. Кант выказаў здагадку, што Сонца і планеты ўтварыліся з адзінай туманнасці, якая распалася на асобныя згусткі рэчыва – планеты. У 1796 г., незалежна ад Канта, да гэтай жа высновы прыйшоў П. Лаплас. Тэорыя Канта-Лапласа захоўвае статус базавай касмаганічнай тэорыі. Свае папраўкі ў гэтую тэорыю ўносілі Э. Фай, Э. Рош, Д. Дарвін і інш. Суайчыннік Я. Драздовіча Р. Астроўскі меркаваў, што спадарожнікі аддаленых планет Сонечнай сістэмы маглі ўтварыцца ад пранікнення ў Сонечную сістэму, акружаную яшчэ туманнай абалонкай, новых невялікіх метэорных раёў, а кольцы Сатурна маглі з'явіцца з прычыны пранікнення метэорнага пылу [1, с. 77].

Язэп Драздовіч у абвяржэнне тэорыі Канта-Лапласа прапаноўваў наступныя контраргументы: арбіты камет і некаторых астэроідаў (напрыклад, Палады) выходзяць за межы плоскасці экліптыкі; у спадарожніка Марса Фобаса вельмі высокая хуткасць вярчэння.

[Самі па сабе гэтыя палажэнні не арыгінальныя: асобныя супярэчнасці тэорыі Канта-Лапласа ўжо на той час былі відавочныя. У святле сучасных уяўленняў астраноміі контраргументы Я. Драздовіча таксама выглядаюць беспадстаўнымі. Так, лічыцца, што мільярды каметных цел рухаюцца вакол Сонца на перыферыі Сонечнай сістэмы ў поясе Койпера і яшчэ далей, дзе гіганцкая колькасць ледзяных цел захавалася яшчэ з часоў нараджэння планет з протапланетнага дыска. Час ад часу некаторыя з гэтых далёкіх цел пад уздзеяннем зменлівых сіл прыцягнення ўваходзяць ва ўнутраную вобласць Сонечнай сістэмы, дзе мы назіраем іх як каметы.

Сучасных астраномаў таксама не здзіўляе высокая хуткасць Фобаса: хуткасць спадарожнікаў вялікіх планет, у прыватнасці Юпітэра, перавышае хуткасць Фобаса. Так, спадарожнік Юпітэра Метыда рухаецца па радыусе 127 960 *км* з перыядам абарачэння 0,2948 сутак.

Сярод асноўных прычын адрознення фізічных уласцівасцей планет і іх паверхневых асаблівасцей навукоўцы называюць розную гісторыю развіцця. Напрыклад, газавыя атмасферы ўтрымліваюцца за кошт гравітацыі, а працэс паступовага знікнення старых кратэраў можа адбывацца з прычыны затаплення лавай або разбурэння пад уздзеяннем ветру або вады. У 1940-я гг. О. Шміт распрацаваў касмаганічную гіпотэзу ўтварэння цел Сонечнай сістэмы ў выніку кандэнсацыі калясонечнага газа-пылавога воблака, якая здымае асноўныя супярэчнасці тэорыі Канта-Лапласа.

Тэзіс пра існаванне ў космасе, і нават у Сонечнай сістэме, парнапланетных сістэм мае пад сабою глебу. Даўно вядома, што пры назіранні праз тэлескоп шматлікія адзінкавыя зоркі віда-

вочна распадаюцца на пары. Гэтыя зоркі рухаюцца адна вакол адной, утрымліваючыся сіламі прыцягнення. Яны, як правіла, адначасова нараджаюцца, хоць бываюць пары, якія ўтварыліся ў выніку захопу адной зоркі іншай пры цесным збліжэнні (асабліва часта гэта адбываецца ў шаравых скопішчах і цэнтральных абласцях галактык). Гістарычна першымі былі разгледжаны мадэлі эвалюцыі адзіночных зорак. Аднак вялікая частка зорак, як вынікае з назіранняў, уваходзіць у склад падвойных і кратных сістэм.

Нябесныя целы, якія супастаўляюцца па масах і ўтрымліваюцца сіламі ўзаемнага прыцягнення, рухаюцца вакол агульнага цэнтра мас. Так, па памеры Харон, спадарожнік Плутона, у два разы меншы за яго, таму гавораць пра падвойную сістэму Плутон – Харон.]

Прааналізуем іншыя касмалагічныя тэзісы Я. Драздовіча.

**Эфір і абсалютная пустата.** Ва ўяўленні мастака эфір – гэта празрыстае асяроддзе, праваднік мікрахвалевай сувязі ў Сусвеце. Нараўне з эфірам існуюць зоны абсалютнай пустаты, або "ператваральныя зоны", "безэфірная прастора" (апошнія тры паняцці ў Я. Драздовіча тоесныя). У безэфір'і свячэнне цел нябачнае, яны рухаюцца прамалінейна, бо безэфірнае асяроддзе рассістэматызуе кругабежныя рухі [9, с. 7].

Рух у Сусвеце сістэмны, там няма панавання абсалютнай пустаты і цемры. Кожная зорка прытрымліваецца кругабежнага цэнтра, як і наша Сонца. Галактыка таксама рухаецца вакол свайго ўнутранага і знешняга цэнтраў. Прамалінейны рух магчымы толькі як разгонная сіла ў абсалютнай пустаце. Пры пападанні ў "ператваральную зону" Сонца пацямнела б, а планеты страцілі б гравітацыйную сувязь, не губляючы характару самаабарачэння і нахілу восі. Далей яны зрушыліся б пад уздзеяннем двух першапачатковых імпульсаў: у накірунку руху Сонечнай сістэмы і свайго цэнтрабежнага разгону.

Знаходзячыся ў "ператваральнай зоне", зорка не можа выпраменьваць светлавыя і цеплавыя імпульсы, таму энергія цяпла ў ёй нібы кансервуецца. Праходжанне "ператваральнай зоны" можа адрадзіць зорку, прымусіць успыхнуць яе новым святлом. Так загараюцца на небе новыя зоркі. "Безэфірную прастору" можна выявіць па ўласцівых ёй зацьменнях: вугальныя мяшкі на Млечным Шляху – гэта зоны "безэфір'я". [Па сучасных звестках – гэта вялікая колькасць касмічнага пылу, які перашкаджае распаўсюджванню зорнага святла.]

Існаванне сусветнага эфіру – вечнае пытанне фізікі і касмалогіі, краевугольны камень фізічнай карціны свету; ужо ў Старажытнай Грэцыі навукоўцы не атаясамлівалі правадное асяроддзе і прастору. Пачынаючы з Р. Дэкарта, эфір у еўрапейскай касмалогіі разглядаўся як асяроддзе, што запаўняе сусветную прастору і прамежкі паміж часціцамі рэчыва. З дапамогай тэорыі эфіру тлумачылі распаўсюджванне электрамагнітных хваль і прамяністай энергіі. Пасля стварэння А. Эйнштэйнам спецыяльнай тэорыі адноснасці і агульнай тэорыі адноснасці (тэорыі гравітацыі;1905 – 1916) уяўленне пра сусветны эфір засталося па-за ўвагай навукоўцаў. А. Эйнштэйн распрацаваў тэорыю электрадынамікі руху цел, паводле якой святло можа распаўсюджвацца без асяроддзя, гэта значыць у вакууме, або абсалютна пустой прасторы. Удар па тэорыі сусветнага эфіру быў таксама нанесены вопытам А. Майкельсана. Праўда, супрацьборства прыхільнікаў вакууму і эфіру не спынілася канчаткова, напрыклад, К. Цыялкоўскі не сумняваўся ў існаванні эфіру, А. Эйнштэйн у канцы жыцця таксама вярнуўся да гэтай тэорыі. Сёння навукоўцы прыйшлі да высновы, што касмічная прастора з'яўляецца асяроддзем пэўнага роду, а значыць – не абсалютнай пустатой. Таму ў наш час адбываецца своеасаблівы рэнесанс тэорыі сусветнага эфіру.

Паняцці эфіру і абсалютнай пустаты ляжаць у аснове дыяметральна процілеглых тэорый, якія па-рознаму тлумачаць прыроду фізічных узаемадзеянняў у касмічнай прасторы. Навукоўцы дапускаюць магчымасць змены святлопранікальнасці эфіру; у 1990-я гг. атрымана пацвярджэнне існавання ў касмічнай прасторы масіўных аб'ектаў, якія не выпраменьваюць святла ("чорныя дзіркі"). Але ў дадзеным выпадку гаворка ідзе не пра суседства эфіру і "безэфір'я", а пра іншыя ўласцівасці асяроддзя і матэрыі.

**"Пазаатмасферная браня планет".** Паводле Я. Драздовіча, атмасфера складаецца са сфероідных пластоў матэрыі – рухомых, цякучых газаў, якія залежаць ад прыцягнення зямной паверхні. Але сапраўдная ахоўная "браня" Зямлі – гэта не атмасфера, а гравітацыйнае поле планеты, якое валодае не толькі сілай прыцягнення, але і сілай адштурхоўвання. Заатмасферная браня Зямлі па форме таксама ўяўляе з сябе нейкія сфероідныя пласты, але не матэрыі, а сілы прыцягнення зямной масы. *"Пазаатмасферная цэнтрацяжная, а за адно і адкідальная абалонь зямлі, – гэта ёсць ня што іншае, як сфэроіды цэнтральна-паверхнянага стацявога прыцягу зямной кулі, ахапліваючыя сабой ня толькі найвышэйшыя слаі газаў атмосфэры, але зверх гэтага і агібаючыя кругом зямлі пазаатмосфэрай, безпаветральныя прасторы да шасьці тысяч вёрст ў гору, вышынёй, над паверхняю зямлі"* [6, с. 8 – 9]. У кнізе "Нябесныя бегі" [6] мастак адзначае, што дзякуючы гэтай брані наша планета не баіцца сутыкненняў з каметамі і метэорамі.

Згодна з навуковым уяўленнем, само па сабе гравітацыйнае поле Зямлі не з'яўляецца шчытом

ад уварвання ў атмасферу камет і метэарытаў. Існуе сувязь паміж гравітацыйнай канстантай G і генерацыяй магнітнага поля Зямлі. Магчыма, ведаючы пра існаванне падобнай сувязі, Я. Драздовіч прапанаваў сцвярджэнне, што "цяжарапрыцяжны прыцяг" з'яўляецца "адкідальнай абалонню" планеты.

Вобласць вакол Зямлі, дзе ціск зямнога магнітнага поля пераважае над ціскам разрэджанага газавага асяроддзя, называецца зямной магнітасферай. Яна распасціраецца на дзесяткі тысяч кіламетраў у бок Сонца і ўтварае значна большы хвост у процілеглым, антысонечным накірунку. Даследаванні генерацыі магнітнага поля Зямлі вядуцца з 1600 г. (У. Гільберт). У наш час для вытлумачэння з'явы планетарнага магнетызму спецыялістамі выкарыстоўваецца гідрадынамічная гіпотэза, або дынамагіпотэза, прапанаваная І. Фрэнкелем у канцы 1940-х гг., добра распрацаваная і агульнапрынятая. Пачатак гэтаму падыходу паклаў у першыя гады XX ст. В. Сузерленд, які меркаваў, што Зямля валодае дадатным аб'ёмным зарадам, які кампенсуецца адмоўным паверхневым.

**Цвёрдыя кольцы Сатурна.** Насуперак палажэнням, што склаліся ў астраноміі, Я. Драздовіч лічыў, што кольцы Сатурна – цэльныя цвёрдыя ўтварэнні, якія ўзніклі ў час фарміравання планеты. Гэтыя целы ўяўляюць з сябе частку цвёрдай абалонкі Сатурна, што занадта хутка астылі і "адслаіліся" ў працэсе яго астуджэння і сціскання. Гэтая тэорыя падрабязна выкладзена ў кнізе "Нябесныя бегі" [6, с. 13 – 23]. Для ўнутранага, шырэйшага, "брылявастага" кольца Сатурна аўтар прыдумаў назву "Брылявік"; для знешняга, "брыжавастага" – "Брыжавік". Я. Драздовіч спрабаваў абгрунтаваць сваю тэорыю, зыходзячы з разлікаў узаемадзеяння гравітацыйных сіл Сатурна і яго кольцаў.

Астраномы XIX – пачатку XX ст., у прыватнасці Д. Скіяпарэлі, выключалі магчымасць існавання ў космасе цвёрдых кольцападобных цел вакол Сатурна, і Я. Драздовічу было добра вядома пра гэта.

[Кольцы Сатурна складаюцца з цвёрдых і рыхлых ледзяных часціц (снежных камякоў) памерам ад долей сантыметра да некалькіх метраў, якія рухаюцца з хуткасцю 10 *км/сек* і добра адлюстроўваюць святло.]

**Прырода камет і іх руху вакол Сонца.** Паводле Я. Драздовіча, каметы складаюцца з газаў і раздробненых горных парод, вялікія часткі якіх трымаюцца ў "галаве", а меншыя – у "хвасце". Існуюць роевыя каметы, якія ўтвораны толькі з камянёў. Мастак меркаваў, што "хвост" каметы заўсёды накіраваны ў бок супрацьлеглы Сонцу, таму што ён вельмі лёгкі і гоніцца цэнтрабежнай сілай, як плётка ў час кругавога руху рукі.

Астраномы, сучаснікі Я. Драздовіча, лічылі, што камета – лёгкая туманная маса, ядро якой можа быць цвёрдым або складацца з цвёрдых аэралітаў, але галоўным чынам з газаў, дзе пераважаюць пары вугляроду. Прырода "хвастоў" камет на той час была невядомая.

[Ядро каметы складаецца са звычайнага лёду. Калі камета набліжаецца да Сонца, ядро пачынае разбурацца. Струмень сонечнага іянізаванага газу ("сонечны вецер") узаемадзейнічае з газам каметы праз сваё магнітнае поле і "здзімае" яго ў бок, процілеглы Сонцу. На парушынкі, якія пакідаюць ядро каметы разам з газам, дзейнічае светлавы ціск сонечных промняў. У выніку ў каметы развіваюцца газавы і пылавы "хвасты".]

**Выгляд неба на Месяцы і вялікіх планетах Сонечнай сістэмы.** Гэтыя ўяўленні мастака, безумоўна, грунтаваліся на яго касмавізіях, у якіх іншапланетныя атмасферы афарбоўваліся ў колеры, блізкія да зямных. Так, згодна з аўтарам, неба на Месяцы серабрыста-шэрае; Венеры – ясна-блакітнае; на Марсе – блакітнае і бірузовае; Юпітэры – ясна-блакітнаватае; Сатурне – цёмна-сіняе, кобальтавае; Уране – невыразнае, жаўтлявае. Колер неба на Меркурыі і Нептуне мастак сабе не ўяўляў.

На пачатак XX ст. атмасфера Меркурыя была недаступная для даследаванняў. У 1761 г. М. Ламаносаў адкрыў, што атмасфера Венеры складаецца з магутных воблакавых пластоў, з-за якіх на паверхні планеты заўсёды пахмурна. К. Фламарыён меркаваў, што ў Марса чырвоная атмасфера, атмасфера Юпітэра шчыльная, акружаная зверху белымі паласамі і аблокамі, а ніжнія пласты атмасферы цёмна-каштанавыя або з чырванаватым адценнем [11, с. 431]; на Сатурне існуе атмасфера, падобная да юпітэрыянскай [11, с. 453]; атмасфера Урана складаецца з газаў, якіх не існуе на Зямлі; на Нептуне пануе цемра, холад, лёд [13, с. 474].

[З прычыны адсутнасці атмасферы неба на Месяцы і Меркурыі чорнага колеру. Спектральны склад сонечнага выпраменьвання, пасля праходжання праз шчыльную атмасферу Венеры, афарбаваны ў вогненна-аранжавыя тоны. З-за вялікай колькасці пылу ў атмасферы неба Марса – цьмяна-ружовае. Неба Юпітэра пакрыта тоўстым слоем аблокаў, у яго атмасферы існуюць гіганцкія віхуры (цыклоны і антыцыклоны), дзякуючы чаму планета перажывае заўсёдныя атмасферныя пераўтварэнні. Паверхню Сатурна таксама засланяе шчыльны слой аблокаў, практычна не пранікальны для сонечных промняў, таму ў глыбіні яго атмасферы пануе цемра. Планеты Уран і Нептун захутаныя атмасферным туманам, які не прапускае зялёных промняў, таму неба ў глыбіні іх атмасфер мае аквамарынавую афарбоўку.]

**Унутраны стан планет.** Я. Драздовіч уздымаў пытанне пра тое, ці з'яўляюцца нябесныя аб'екты цэльнымі або ў цэнтрах планет знаходзіцца пустата, запоўненая газамі. Мастак прапаноўваў свой спосаб праверкі гэтага: шляхам узважвання мернага эталона ў нізіне, на гары і на аэрастаце.

[Спосаб праверкі на аснове змены сілы цяжару на рознай адлегласці ад Зямлі сам па сабе мог бы стаць эфектыўным, але ў гісторыі навукі ён не выкарыстоўваўся, бо навукоўцы ніколі не сумняваліся ў пустацеласці Зямлі. Цэнтральная частка зямнога шара ўяўляе з сябе шчыльнае жалеза-нікелевае ядро з тэмпературай некалькі тысяч кельвінаў, знешняя частка якога знаходзіцца ў расплаўленым або вязкім стане. Вонкавая цвёрдая абалонка Зямлі мае таўшчыню ад некалькіх да 40 – 60 *км*.]

**Чырвоныя плямы Юпітэра.** Юпітэр знаходзіцца ў гарачым напаўвадкім стане, вялізная чырвоная пляма на планеце – вынік выкіду распаленай вогненнай лавы.

У пачатку XX ст. некаторыя даследчыкі сцвярджалі, што на Юпітэры дзейнічае велізарны вулкан або ўтвараецца на яшчэ не зацвярдзелай паверхні планеты новы гіганцкі мацярык.

[Як і ў зямной атмасферы, у атмасферы Юпітэра існуюць гіганцкія віхуры (цыклоны і антыцыклоны). Гэтыя структуры могуць захоўвацца ў атмасферы на працягу некалькіх стагоддзяў. Вялікая чырвоная пляма – віхравое ўтварэнне эліптычнай формы, якое па памерах пераўзыходзіць зямны шар.]

**Паходжанне марсіянскіх каналаў.** Адштурхоўваючыся ад самнамбулічных касмавізій, Я. Драздовіч сцвярджаў, што каналы Марса – гэта рэчышчы вялізных рэк. Паколькі мастак верыў, што на планеце існуе разумнае жыццё, то апісваў і штучныя марсіянскія каналы і дамбы.

Марсіянскія каналы выяўлены ў 1877 г. Д. Скіяпарэлі, які лічыў іх прыроднымі пралівамі. Каналы Марса выклікалі пільную цікавасць шматлікіх астраномаў: так, у 1894 г. П. Ловел пабудаваў у штаце Арызона спецыяльную абсерваторыю для назірання за планетай. Ужо ў тыя гады навукоўцы здагадваліся, што на Марсе засушліва; у гіпотэзе Ловела сцвярджалася, што гэта насельнікі планеты, якія паміраюць ад засухі, узводзяць ірыгацыйныя збудаванні. Арбітальныя даследаванні Марса 1965 – 1966 гг. паказалі, што там няма жыцця.

[Паводле касмічных даследаванняў НАСА 2001 – 2003 гг., каналы Марса – гэта вялізныя расколіны, што ўзніклі ў выніку тэктанічных працэсаў на планеце.]

**Чырвоны колер Марса.** Я. Драздовіч меркаваў, што Марс пакрыты жоўта-ружовымі пустынямі, якія з Зямлі ўспрымаюцца як чырвоныя, а ў час туману – як ружовыя. У 1933 г. Марс быў чырвоным, а праз чатыры гады стаў проста ружовым, што мастак растлумачыў моцнай летняй марсіянскай засухай 1933 г.

Тагачасныя астраномы лічылі, што афарбоўка мацерыкоў Марса – жоўтая, бо яны пакрыты пяскамі ці жоўтай раслiннасцю, а атмасфера планеты мае чырванаватае адценне [11, с. 395].

[Паверхня Марса – сухая халодная пустыня, пакрытая чырванаватым пяском з раскіданымі паўсюль вялікімі і дробнымі камянямі. На планеце ўздымаюцца вялізныя пылавыя буры, якія разрэджваюць атмасферу, а пыл афарбоўвае Марс у чырвоны колер. Адлегласць паміж планетай і Зямлёй вагаецца ад 55 да 400 млн *км*, таму выразнасць Марса пры назіранні з Зямлі неаднолькавая.]

Такім чынам, найбольш значныя касмалагічныя тэзісы Я. Драздовіча пра паходжанне “самовертящихся” планет Сонечнай сістэмы, эфір і абсалютную пустату, пазаатмасферны гравітацыйны шчыт Зямлі, цвёрдыя кольцы Сатурна, прыроду камет і іх руху вакол Сонца і іншыя ішлі насуперак фізічным уяўленням першай паловы XX ст. Можна сказаць, што тэарэтычныя даследаванні мастака актуалізавалі нявырашаныя пытанні сучаснай яму касмалогіі і астраноміі і з'яўляліся своеасаблівай ненавуковай спробай тлумачэння таямніц і загадак космасу. Ніводны з касмалагічных тэзісаў не пацвярджаецца сучаснай навукай. Аднак гэта не здымае праблему адпаведнасці некаторых з іх рэальнай карціне свету.

Аргументы Я. Драздовіча ў абарону ўласнай тэорыі паходжання планет Сонечнай сістэмы засталіся бездапаможнымі ў святле сучасных астранамічных адкрыццяў. Але, магчыма, сёння ўпарты мастак прапаноўваў бы ў абарону сваёй тэорыі іншыя доказы. Напрыклад тое, што сярэдняя шчыльнасць Месяца ў 1,65 разоў меншая за сярэднюю шчыльнасць Зямлі. Або тое, што Сатурн па ўласцівасцях і будове больш за ўсё падобны да Юпітэра, а Нептун – да Урана.

Мэтай сучаснай еўрапейскай касмалогіі з'яўляецца стварэнне фізічнай мадэлі свету, якая ўяўлялася б найбольш пераканаўчай у святле ўстаноўленых прыродных фактаў. Навакольная рэальнасць складаней за яе апісанні ў фізіцы, а навука верыць толькі разлікам і фактам, таму фізічная карціна свету на сёння не завершаная. Гэта дорыць магчымасць незадаволенаму творчаму розуму пісьменнікаў і мастакоў стварыць асаблівую персаніфікаваную карціну быцця, якая здыме перашкоды навуковага светаразумення.

*Пераклад з рускай мовы.*

*Спіс літаратуры змешчаны ў № 3.*

*Аўтар выказвае падзяку за кансультацыйную падтрымку і дапамогу ў напісанні артыкула Аляксандру Альбертавічу Шымбалёву, выкладчыку астраноміі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка.*

*Наша гасцёўня*

# СЫН ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

## ДУХОЎНЫ ПОДЗВІГ АНАТОЛЯ СТАТКЕВІЧА-ЧАБАГАНАВА



Радкамі класіка рускай літаратуры Аляксандра Пушкіна – *"исполнен труд, завещанный от Бога, мне грешному"* – можна сказаць і пра кнігу "Я – сын Ваш" – сапраўдны духоўны подзвіг Анатоля Васільевіча Статкевіча-Чабаганава, беларускага даследчыка, фундатара, прадстаўніка старажытнага шляхецкага роду, узнагароджанага Рускай праваслаўнай царквой ордэнам Святога Роўнаапостальнага князя Уладзіміра і Беларускай праваслаўнай царквой медалём Свяціцеля Кірылы Тураўскага. Подзвіг чалавека, які на працягу не аднаго дзесяцігоддзя па крупінках збірае гісторыю свайго радаводу, знаходзіць паўзабытыя магілы, аднаўляе магільныя камяні продкаў, зберагаючы і вывучаючы мінулае, дбае пра будучыню.

Шмат гадоў жыцця А. Статкевіча-Чабаганава аддадзена працы ў архівах Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы. Генеалагічныя дрэвы, дакументы, фотаздымкі, месцы пражывання і пахаванняў, легенды, жыццёвыя гісторыі прадстаўнікоў роду склалі рэдкі па сваёй сістэмнасці матэрыял даследавання. Прасочана геаграфія рассялення, купля-продаж зямлі, уласнасці, шматлікія пераезды… Прапушчаны праз уласнае сэрца жыццёвыя поспехі і трагічнасць лёсаў, духоўная моц і высакароднасць знакамітых продкаў.

Дакументы кожнага роду пачынаюцца звычайна справай пра дваранскае паходжанне. Да яе дадаюцца запісы з метрычных кніг, прашэнні, рапарты аб зацвярджэнні ў дваранстве, дакументы пра аб'яўленне падзякі за ахвяраванні, артыкулы з энцыклапедый і многае іншае.

Дакументальна пацверджанай, як і кожны матэрыял у кнізе, з'яўляецца інфармацыя пра герб роду Статкевічаў, што, як вядома, прысвойваўся за сапраўдную адвагу, меў розныя сэнсы, але заўсёды пацвярджаў "чалавечую годнасць". Анатоль Васільевіч, які ад маці атрымаў у спадчыну прыналежнасць да гэтага роду, змог даследаваць больш за трыццаць вядомых шляхецкіх родаў Беларусі – сваіх прамых продкаў.

Статкевічы, Карафа-Корбуты, Рудзінскія, Тычыны, Ждановічы-Гурыновічы, Сыцько, Ліпскія, Забэлы, Татуры, Некрашэвічы, Глінскія-Ліхадзіеўскія, Рэуты і шэраг іншых прозвішчаў складаюць ядро радаводу.

Магчыма, А. Статкевічу-Чабаганаву адзінаму з беларусаў удалося даследаваць лёс свайго роду за пяць апошніх стагоддзяў. Зроблены важкі крок чалавека, сына беларускай зямлі, да свайго першароднага пачатку, сваіх каранёў. Па сутнасці, кніга, рэцэнзентам якой з'яўляецца вядомы беларускі гісторык, доктар гістарычных навук Г. Галенчанка, сталася летапісам беларускай шляхты на матэрыяле даследаванняў радаводу аўтара. Такое вяртанне да вытокаў пад сілу далёка не кожна-



**Царква Нараджэння Прасвятой Багародзіцы ў в. Сёмкаў Гарадок Мінскага раёна (цяпер аднаўляецца), дзе вянчаліся бацькі Максіма Багдановіча. А. Статкевіч-Чабаганаў перадае ў дар царкве ікону XIX ст. Нараджэння Прасвятой Багародзіцы.**
1 мая 2005 г.



**Фундатар помніка Святой Сафіі, княгіні Слуцкай – А. Статкевіч-Чабаганаў.**
Слуцк, 2007 г.

му. Думаецца, прыклад дбайнага рупліўца, захавальніка і зберагальніка духоўных каштоўнасцей свайго роду – магутны доказ сыноўняй любові да продкаў, роднай зямлі і яе народа.

Разумеючы неардынарнасць асобы, мы ўсё ж не стрымаліся, каб не спытаць госця нашага часопіса, адкуль у яго патрэба па меры сіл і магчымасцей аказваць матэрыяльную дапамогу ў аднаўленні разбураных храмаў, рэстаўрацыі старажытных ікон. Ён адказаў годна і сціпла: *“Я думаю, гэта ад маіх продкаў”.*

…Канец 1960-х. Студэнцкія гады, горад Ленінград. Пасля хрушчоўскай адлігі студэнцкая моладзь была сур’ёзна заклапочана новымі ганеннямі на культуру. Амаль не выдаваліся паэты сярэбранага веку. З вялікімі цяжкасцямі прабіваліся ў выдавецтвах кнігі па іканапісе, гісторыі праваслаўнай культуры. Пачалася новая кампанія супраць хрысціянскай веры. Усё гэта зноў і зноў вяртала памяць да трагедыі ўласнай сям’і і яе народа.

Вось у такой атмасферы і з’явілася мэта ў Анатоля Васільевіча – вярнуць з забыцця гісторыю свайго роду як часцінку нашай культуры.

На светаўспрыманне дапытлівага юнака паўплывалі захаваныя сямейныя гісторыі. Вось адна з іх. Яго бабуля Еўдакія Фёдараўна Казанкіна вянчалася 9 лістапада 1901 г. з Аляксандрам Мітрафанавічам Чабаганавым. Вянчанне адбылося ў Троіцкім саборы г. Буінска Сімбірскай губерні. Першыя гады маладой сям’і не шчасціла: некалькі дзяцей памерлі маленькімі. І тады Еўдакія пайшла ў пасёлак Прамзіна, дзе знаходзіўся вядомы на той час манастыр. Дарога доўгая – 150 кіламетраў трэба было прайсці пехатой. Так сталася, што пасля гэтага паломніцтва ў сям’і нарадзіўся здаровы сын. Гэта быў бацька Анатоля Васільевіча. А пасля нарадзілася яшчэ пяць хлопчыкаў…

Успамінае А. Статкевіч-Чабаганаў: «*Часта гляджу на фотаздымак свайго дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча, з якім лёс не дазволіў сустрэцца, і мне ўсё ярчэй бачыцца несправядлівасць тых гадоў. Нішчылася хрысціянская вера, тысячагадовая культура, векавыя традыцыі грамадства, права на ўласнасць і свабоду думкі. Аказаліся няўгоднымі мільёны людзей… І ўсё гэта ў імя “сусветнага шчасця”. А ці можа яно быць для адных, калі пабудавана на горы і няшчасці іншых? Няўгодным стаўся і мой дзед Міхаіл Сацкевіч-Статкевіч. Уся яго віна была ў тым, што паходзіў з “чужога” – дваранскага – класа…*

*Мая бабуля Еўдакія Казанкіна была набожнай і адукаванай жанчынай. Закончыла гімназію. У яе доме зберагалася 24 іконы – цэлы іканастас. Кожны вечар і ў святы ўся сям’я малілася перад імі. У бабулі, яе сястры Пелагеі і цёці Нюры, маёй хроснай маці, былі добрыя галасы. Яны спявалі на “крыльце”, як раней называлася месца, дзе размяшчаўся царкоўны хор. Праваслаўная культура, духоўныя спевы ўмацоўвалі сям’ю. Да спеваў дома ставіліся шчыра, з любоўю. Так выхавала бабулю яе мама Марыя Аляксееўна.*

*Мой прапрадзед Якаў Сямёнавіч Сацкевіч-Статкевіч быў шчырым вернікам. Ён ішоў у царкву каб не толькі памаліцца, але і дапамагчы храму, калі была неабходнасць і патрэба ў падтрымцы. Пра гэта сведчаць некаторыя дакументы Мінскай духоўнай кансісторыі аб выдзяленні прадзедам грошай на рамонт царквы, ёсць падзяка 1836 г. ад архіепіскапа Мінскага і Гродзенскага Ніканора за перабудаванне царквы ў Пясочным. Якаў ахвяраваў на гэтую справу 50 рублёў срэбрам…*»

Вяртаючыся да кнігі “Я – сын Ваш” А. Статкевіча-Чабаганава, хочацца зазначыць, што далучэнне аўтара да духоўнай культуры роду атрымала змястоўны вынік у напоўненым дакументальным матэрыялам, унікальным выданні.

Падзяляючы думку рэцэнзентаў кнігі пра тое, што яна адкрывае нам незвычайны феномен даследчыка, калекцыянера, “рэстаўратара” духоўных каштоўнасцей, прапаведніка гармоніі і прыгажосці – Анатоля Васільевіча Статкевіча-Чабаганава, – упэўнена, што гэта тытанічная праца вернага сына сваёй зямлі неўзабаве прыцягне ўвагу аматараў беларускай культуры і стане магутным стымулам для іншых у пошуку рэальных шляхоў вывучэння гісторыі сваіх радаводаў.

**Наталля ВЕДРЫЧ.**

*Фотаздымкі з асабістага архіва А. Статкевіча-Чабаганава.*

Прапануем увазе чытачоў часопіса "Роднае слова" выбраныя раздзелы з кнігі – летапісу беларускай шляхты "Я – сын Ваш", што рыхтуецца да выдання.

*Вяртанне да вытокаў*

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

# НЕКРАШЭВІЧЫ ГЕРБА "ЛЮБІЧ"

Дваранскія роды Карафа-Корбутаў, Рудзінскіх, Тычынаў знаходзіліся ў шматлікіх сваяцкіх сувязях з родам Некрашэвічаў. Гэта добра відаць з нашага радаводу. У маіх прабабак: Матроны Рыгораўны, Агапы Фёдараўны і Арыны Данілаўны, народжаных Некрашэвіч, – быў агульны продак – Павел Сямёнавіч Некрашэвіч. Агапа Фёдараўна стала жонкай Гервазія Тычыны, Матрона Рыгораўна – жонкай яго сына Якава. Ну, а Арына Данілаўна выйшла замуж за Сцяпана Рудзінскага.

Вывучыўшы карані знакамітага прадстаўніка роду Некрашэвічаў – першага віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі **Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча** (1883 – 1937), я зразумеў, што ўсе тры мае прабабкі – яго блізкія родзічы.

Акрамя таго, удалося высветліць, што ў Сцяпана Міхайлавіча ёсць прамыя продкі з нашага роду Карафа-Корбутаў: прабабка яго бацькі, Агата Васільеўна, прыходзілася роднай сястрой Івану Васільевічу Карафа-Корбуту, дзеду Наталлі Васільеўны – маёй прабабкі.

Вядома, што многія прадстаўнікі роду Некрашэвічаў былі звязаны сваяцкімі сувязямі з выбітнымі асобамі беларускай інтэлігенцыі. Так, дачка Алены Рыгораўны Некрашэвіч – Алена Міхайлаўна – стала жонкай народнага паэта БССР Петруся Броўкі. Цікава, што Алена Рыгораўна з'яўляецца стрыечнай сястрой Сцяпану Некрашэвічу.

Зарына Уладзіміраўна Кулеўская, траюрадная пляменніца Сцяпана Міхайлавіча, выйшла замуж за сына Якуба Коласа Данілу Міцкевіча.

Многія слаўныя старонкі з гісторыі роду Некрашэвічаў, схаваныя ў далечыні стагоддзяў, адкрыліся мне дзякуючы архіўным матэрыялам.

Няпростая была ў прадстаўнікоў гэтага роду доля. За многія стагоддзі яны спазналі славу і веліч, узлёты і падзенні. Але ніводны дакумент не расказаў пра несумленнасць, дбанне пра асабістую выгоду, здраду і зайздрасць. Наадварот, заўсёды гаворка ідзе "пра высакароднасць паходжання", працалюбства і адданасць абавязку.

Нават герб "Любіч", якім карысталіся Некрашэвічы, сведчыць, паводле польскіх летапісцаў, пра вялікія ваенныя паслугі, аказаныя Айчыне ў старажытныя часы, і "абаронен дваранскай пе-




**Прыватнаўласніцкі герб "Любіч", вядомы з сярэдзіны XIV ст.**

равагай". А ў гербе тым: у блакітным полі шчыта сярэбраная падкова ўніз рагамі, на ёй стаіць кавалерскі крыж, другі крыж у сярэдзіне падковы, над прылбіцай з каронай тры страусавыя пёры. Ужо само пералічэнне: і шчыт, і шлем, і падкова, і кавалерскі крыж – гаворыць пра тое, кім былі ўладальнікі герба. Адна са старажытных грамат расказвае, што харунжыю Сямёну Некрашэвічу самім каралём польскім Жыгімонтам Трэцім "дозволено купить от Василия Сегеня землю Лопоце называемую". А народжаны ад яго сын Павел па духоўным завяшчанні 1639 г. адпісаў сваім тром сынам Хрыстафору, Івану і Нікіфару вотчынны маёнтак "Некращевизна именуемое, имение же Лопоце, отцом Семёном приобретённое, записал из тех сыновей своих двум последним".

Значыць, Сямён Некрашэвіч з'яўляўся харунжым і знаходзіўся ў пашане ў самога караля Жыгімонта Трэцяга. Яго нашчадкі таксама не былі абдзелены ўвагай высокіх заступнікаў. Як відаць з прывілеяў польскіх каралёў 1647, 1654, 1665, 1689 гг., сыны Сямёна Хрыстафор і Ізідор мелі званні чашніка і стольніка адпаведна, а яго ўнук Сцяпан знаходзіўся на пасадзе пасланніка Чарнігаўскага ваяводства.

Тут важна ўдакладніць, што ад згаданых вышэй сыноў Сямёна Некрашэвіча і пайшлі галіны родаў маіх прабабак: Агапы – ад Івана, Арыны



**Сцяпан Некрашэвіч** (у другім радзе злева) **з таварышамі па службе. Першая сусветная вайна.** 1916 г.

(як і акадэміка Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча) – ад Хрыстафора, Матроны – ад Нікіфара.

Дакументы наступных часоў сведчаць, што справы, распачатыя дзядамі і бацькамі, былі прадоўжаны наступнымі пакаленнямі. Пра гэта, у прыватнасці, гаворыць пастанова Мінскага дэпутацкага дваранскага сходу ад 9 сакавіка 1854 г. Яна далучыла і прызнала “ў дваранскай годнасці” Лявона, Антона і Лаўрэнція Некрашэвічаў.

Дзе ж жылі слаўныя прадстаўнікі роду Некрашэвічаў, дзе іх малая радзіма? Тады жонак і мужоў не ездзілі шукаць на край свету, ды і пасля жаніцьбы, хутчэй за ўсё, заставаліся жыць дзесьці побач. А побач – гэта Слуцкі рэгіён з яго наваколлем. І зямля “Лопоце называемая”, і маёнтак Некрашэвізна, і засценкі Сыцянец, Кулакі, Млынка, Куляшы, Шабунькі – усе яны там. Назвы некаторых і да сёння захаваліся. Ды і цэрквы, прыхаджанамі якіх былі Некрашэвічы, старобінская Мікалаеўская, цараўская Іаана-Багаслоўская, прусаўская Раство-Багародзіцкая, пагостаўская Іаана-Прадцечанская, знаходзіліся зусім недалёка адна ад адной. Прывяду цікавую гісторыю, што пацвердзіць родавую вернасць Некрашэвічаў свайму краю. Самуіл Некрашэвіч, які пакінуў родавае гняздо і пераехаў у пошуках лепшай долі пад Парычы, выбіраць жонку прыехаў дадому. Яго спадарожніцай стала Ірына Сямёнаўна, будучая прабабка акадэміка С. Некрашэвіча з нашага роду Івашкевічаў. Вянчанне праходзіла ў пагостаўскай Стрэчанскай царкве 8 студзеня 1822-га. Падобных прыкладаў шмат.

Праўда, з часам, калі сем’і павялічваліся, калі кожнаму сыну трэба было даць свой надзел зямлі, прыйшлося Некрашэвічам асвойваць новыя мясціны пад сонцам. Нехта паехаў на Мазыршчыну, нехта – на Бабруйшчыну, а продкі Сцяпана Міхайлавіча перабраліся пад Парычы разам з Карафа-Корбутамі і Рудзінскімі, з якімі былі ў блізкім сваяцтве. Жылі ў засценках Вікторын, Дражня, Майсееўка, Данілаўка. Па архіўных дакументах добра прасочваюцца прычыны і час пераездаў, відаць, як пашыраецца і ўмацоўваецца род, як маладыя сем’і пакідаюць вотчыны і абжываюцца на новых надзелах.

Вось акладныя лісты дадатковых збораў з дробнапамесных уладальнікаў трэцяга стана Бабруйскага павета за 1893 г. У іх значыцца некалькі Некрашэвічаў. Рыгор Некрашэвіч, які валодаў фальваркам Лучак, а ў ім – 40 дзесяцін зямлі, 32 дзесяціны лесу. У Івана Некрашэвіча з фальварка Сялец было 25 дзесяцін зямлі і 25 дзесяцін лесу. У Нікіфара Некрашэвіча, уладальніка фальваркаў Баравое і Пагарэлае, 30 дзесяцін зямлі і 11 дзесяцін лесу. У журнале генеральнай праверкі гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў Забалоцкай воласці Бабруйскага павета Мінскай губерні за 1894 г. таксама знаходзім прозвішчы Некрашэвічаў. Адзін з іх, Рыгор, “апякае пастаялы двор у вёсцы Закальнае на зямлі княгіні Гагенлое”. Там у яго два памяшканні і “адзін даход, сума гадавога абароту 2500 рублёў, сума чыстага прыбытку 500 рублёў”.

А ўвогуле па купчых крэпасцях набывалі зямлю многія з роду Некрашэвічаў. Яскравае сведчанне гэтаму – спіс землеўладальнікаў Мін-

На этой карточкѣ дано обличье
заведующаго хозяйствомъ со своимъ
штабомъ. Сидятъ двое моихъ товарищей
по семинарии, учителя, мои помощни-
ки: Мекшасъ и Броновицкий, отпущен-
ные домой, какъ служащие учитель-
ского института. А за меня съ заведу-
ющимъ тоже мой помощникъ.
Некрашевичъ Степан Михайловичъ

**Адваротны бок фотаздымка. Тэкст і подпіс Сцяпана Некрашэвіча.**

скай губерні за 1876 г., дзе сустракаюцца і Пётр, і Сцяпан, і Фёдар, і Васіль, і Іван Некрашэвічы. Выкупілі яны хто 177, хто 117 дзесяцін зямлі ў двух паветах: Мазырскім і Бабруйскім. Дарэчы, у Бабруйскім павеце праз 10 гадоў ужо значылася 12 землеўладальнікаў з роду Некрашэвічаў.

У вёсцы Данілаўка гэтага ж павета, што за некалькі кіламетраў ад Парычаў, грунтоўна ўладкаваўся і Міхаіл Некрашэвіч. У Данілаўцы, якая ў тыя часы лічылася маёнткам, ён меў значны надзел зямлі – 334 дзесяціны (прыкладна 350 *га*). Гэта ў яго 26 красавіка 1883 г. нарадзіўся сын Сцяпан, якога сёння ведаюць не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Найбуйнейшы вучоны-мовазнавец, аўтар шматлікіх навуковых прац, кніг і слоўнікаў, ён неаднаразова прыязджаў на сваю малую радзіму, каб яшчэ і яшчэ раз прыслухацца да каштоўных крыніц народнай мовы.

Дзівосны Парыцкі край, дзе нарадзіўся і вырас Сцяпан Міхайлавіч, знакаміты сваёй старажытнай гісторыяй і цікавымі людзьмі, якія жылі тут на працягу стагоддзяў.

Першае пісьмовае згадванне пра вёску Парычы сустракаецца ў 1639 г. у “інвентарным спіску” Бабруйскага староства. Але ішлі гады, і яна ператварылася ў мястэчка, што разрасталася, напаўнялася людзьмі, тут з’явілася даволі шматлікая яўрэйская абшчына. Пачалі будавацца школа, бальніца, запрацавала вінакурня, канатны і цукровы заводы. А яшчэ ажыла прыстань – у тыя часы найбуйнейшая ва ўсёй акрузе. Тут адбываўся даволі прыбытковы гандаль лесам.

У цэнтры мястэчка бурліла вялікая базарная плошча з бакалейнымі, скабянымі і галантарэйнымі крамамі. Вакол размяшчаліся корчмы і дамы гандляроў. У Парычах і сёння памятаюць, якія бойкія кірмашы праводзіліся тут у тыя далёкія часы. Прадавалася-куплялася ўсё на свеце: тытунь, посуд, мыла, свечкі, а таксама рыба, дары палёў і лясоў, мануфактурныя тавары, коні і розная іншая жыўнасць.

У тыя часы ў Парычах дзейнічала некалькі праваслаўных храмаў, касцёл і сінагога.

Адраджэнне мястэчка супала з новым гістарычным перыядам. Пасля далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі яно было падаравана імператарам Паўлам І свайму фавурыту і прыдворнаму вяльможу адміралу Пятру Іванавічу Пушчыну. Род Пушчыных праславілі на палях бітваў мужныя воіны, а таксама знакамітыя дзекабрысты, браты Іван і Міхаіл. Іх бацька, генерал-лейтэнант і сенатар, Іван Пятровіч Пушчын пабудаваў у Парычах царкву ў гонар Святога Духа. У плане яна нагадвала прадаўгаваты крыж. Пры яго сыне Міхаіле была скла-



**Сцяпан Некрашэвіч з жонкай Марыяй Ціманьковай.** 1929 г.

дзена белакаменная царква, яе прыхаджанамі з’яўляліся некалькі пакаленняў Некрашэвічаў. Там 2 студзеня 1850 г. хрысцілі Міхаіла Паўлавіча – бацьку акадэміка Сцяпана Некрашэвіча, а 7 ліпеня 1915 г. адпявалі яго маці – Еву Дзмітрыеўну.

Багаты на гісторыю і культуру, Парыцкі край, што захоўвае мноства старажытных таямніц, стаў той крыніцай, з якой Сцяпан Міхайлавіч Некрашэвіч чэрпаў натхненне для сваёй шматграннай працы.

Беларускі мовазнавец прайшоў вялікую і складаную дарогу жыцця. Першапачатковую адукацыю ён атрымаў у сваёй Данілаўцы ад вясковага “дарэктара”. А потым былі Панявежская настаўніцкая семінарыя, Віленскі настаўніцкі інстытут. Аднак працаваць па спецыяльнасці Сцяпану Некрашэвічу давялося нядоўга. Грымнула Першая сусветная вайна, і маладога настаўніка прызвалі ў армію. У 1917 г. пасля лютаўскай рэвалюцыі добра адукаваны, разважлівы і разумны салдат быў выбраны членам армейскага камітэта 6-й арміі, працаваў у воінскіх часцях.

Гэтая праца прывяла потым у Адэсу. Прыехаўшы на канферэнцыю, Сцяпан Некрашэвіч затрымаўся ў паўднёвым украінскім горадзе на некалькі гадоў, працуючы на карысць роднай Беларусі. Пад яго кіраўніцтвам быў створаны і дзейнічаў Беларускі нацыянальны камісарыят, які дапамагаў салдатам-беларусам. А калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, стаў яе прадстаўніком у гэтым рэгіёне.

Працуючы ў губернскім аддзеле народнай асветы Адэсы, Сцяпан Некрашэвіч змог адкрыць "30 пачатковых беларускіх школ і беларускую змешаную гімназію ў саставе першых чатырох класаў". Такія лічбы здадуцца неверагоднымі, калі ўспомніць час і месца, у якім гэта ўсё адбывалася!

Мне здаецца, Сцяпан Міхайлавіч зразумеў сваё прызначэнне, убачыў свой шлях. І, вярнуўшыся на радзіму ў 1920 г., з вялікім натхненнем узяў удзел у развіцці нацыянальнай культуры і стварэнні сучаснай літаратурнай мовы. Пачалося дзесяцігоддзе напружанай навуковай і грамадскай працы. Яго неаднаразова выбіраюць дэпутатам усебеларускіх з'ездаў Саветаў, членам ЦВК БССР, ён становіцца старшынёй першай шматгаліновай навукова-даследчай установы краіны – Інстытута беларускай культуры, а 26 снежня 1928 г. Сцяпан Некрашэвіч быў зацверджаны правамоцным членам і першым віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі. Яшчэ праз год – ён дырэктар Інстытута мовазнаўства. Здавалася б, такая нагрузка, столькі спраў і абавязкаў. Але малады акадэмік паспяваў ствараць кнігі і слоўнікі, весці вялікую навуковую працу, выдаваць даследаванні па мовазнаўстве. Вынікам яго дзейнасці стала навуковая праца "Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёна" (1929). Навуковец неаднаразова ездзіў на сваю малую радзіму. Менавіта ў гэтым рэгіёне ён змог адчуць усю паўнату і першародную прыгажосць роднай мовы. Нездарма галоўным сэнсам жыцця Сцяпана Міхайлавіча стала адраджэнне беларускай мовы. Гэта зблізіла яго з такімі выбітнымі прадстаўнікамі беларускай культуры, як Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Кандрат Крапіва. Яны працавалі разам, і мы бачым іх побач на многіх фотаздымках таго часу.

Аднак на гарызонце ўжо згушчаліся новыя хмары. Бальшавікі пачалі рыхтаваць новую вайну супраць свайго народа: на гэты раз супраць перадавога сялянства і інтэлігенцыі. Пакуль гэта былі толькі першыя хвалі, першыя прыкметы вялікай бяды. Сцяпан Міхайлавіч, напэўна, адчуваў іх і хацеў з'ехаць: невыпадкова летам 1930 г. яны разам з акадэмікам В. Ластоўскім накіраваліся ў навуковую камандзіроўку ў Томскую вобласць, дзе хацелі вывучаць жыццё і побыт беларускіх перасяленцаў. Але для магутных рэпрэсіўных органаў не існавала вялікіх адлегласцей.

Раніцай 21 ліпеня 1930 г. на параходзе "Табольск", што плыў па сібірскай рацэ Об, беларускія навукоўцы С. Некрашэвіч і В. Ластоўскі былі арыштаваны.

Нядаўна мне ўдалося ўбачыць у архіве КДБ дакументы, якія датычаць арышту і допытаў Сцяпана Некрашэвіча, а таксама прыгавораў яму. Найперш цікавіла, якія абвінавачванні прад'явілі вядомаму вучонаму, пасадзіўшы за краты ў далёкім 1930-м. А абвінавачванні гучалі так: былы член партыі беларускіх эсэраў, былы консул Беларускай Народнай Рэспублікі ў Адэсе, які з 1921 г. нібыта з'яўляўся членам кіруючага цэнтра контррэвалюцыйнай арганізацыі "САБ – СВБ" (Саюз адраджэння Беларусі – Саюз вызвалення Беларусі), здзяйсняў сувязь і здабываў важную інфармацыю, выкарыстоўваючы для гэтага замежныя камандзіроўкі, наладзіў і падтрымліваў кантакты з платонаўскай манархічнай арганізацыяй.

Сцяпана Некрашэвіча выслалі ў г. Сарапульск Удмурцкай АССР тэрмінам на пяць гадоў. Там ён працаваў планавіком-эканамістам, бухгалтарам і верыў у свой светлы дзень. Але дзень той так і не настаў. Вучонага яшчэ раз арыштавалі. У абвінаваўчым заключэнні сцвярджалася, што Сцяпан Міхайлавіч з'яўляўся агентам польскай разведкі з 1920 г., па заданні якой праводзіў шпіёнскую работу на тэрыторыі СССР і вербаваў новых асоб для ўдзелу ў агентурнай працы, быў членам нацыянал-фашысцкай арганізацыі з 1917 г., праводзіў шкодніцкую працу ў сістэме народнай адукацыі Беларусі.

Фінал гэтай сумнай гісторыі няцяжка было прадказаць. Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР 19 снежня 1937 г. прыгаварыла Сцяпана Міхайлавіча Некрашэвіча да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй усёй асабістай маёмасці. Прысуд быў выкананы літаральна на наступны дзень.

Жонка рэпрэсіраванага навукоўца Марыя Сяргееўна Ціманькова, не вытрымаўшы выпрабаванняў, рана пайшла з жыцця.

Пастановай Вярхоўнага суда БССР ад 10 чэрвеня 1988 г. Сцяпан Міхайлавіч Некрашэвіч быў рэабілітаваны.

Незвычайна склаўся і лёс сястры Сцяпана Міхайлавіча – Ганны Аканавіч. У час Другой сусветнай вайны яна выехала спачатку ў Германію, потым, пасля смерці мужа, у 1950-я гг. выкладала ў Нью-Йорку ў вядомай школе Міхельсона разам з прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі – М. Міцкевічам, М. Тулейкам, М. Каханоўскай.

Кланяюся ўсяму слаўнаму і шматпакутнаму роду Некрашэвічаў і веру, што "чалавек па натуры сваёй не востраў. Ён кавалачак Кантынента, частка цэлага. Хто б ні памёр, гэта адмірае часціца цябе, бо ў табе змяшчаецца чалавецтва…"

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

Наталля ШАРАНГОВІЧ

# ЖЫВАПІСНАЕ АБЛІЧЧА ПАКАЛЕННЯ*

## СУЧАСНАЕ МАСТАЦТВА ПЕЙЗАЖА

*Заканчэнне. Пачатак у № 3.*

Традыцыя, як і рэалізм, часта трактуецца залішне вузка. Тэрмін страціў тую інтэрпрэтацыю, якая адносіла яго да аналітычнага спасціжэння жыцця. Да таго ж механізм арт-рынку прыводзіць да перавагі ў інфармацыйнай прасторы больш даступных вербальнаму выяўленню мастацкіх феноменаў. Творы, што грунтуюцца на традыцыі ў зыходным яе разуменні, вельмі складана перавесці ў слоўны шэраг. Структураванасць жывапіснага вобраза заснавана на незвычайна складанай мове пластычнага рэалізму, які будуецца на тонкіх нюансах і суадносінах, дакладна выявіць іх можа толькі выхаваны погляд прафесіянала.

Тут варта адзначыць яшчэ адзін аспект. Сёння размываецца ўяўленне пра тое, што ёсць добры жывапіс і якія крытэрыі ацэнкі мастацкага твора. Мноства экспазіцый у выставачных залах і салонах ствараюць часам ілюзію даступнасці жывапісных работ. Аднак там часта сустракаюцца нейкія сурагатныя вырабы або творы, якія выходзяць за межы сапраўднага жывапісу. Забыццё крытэрыяў якасці стала істотным недахопам і мастацкай інфраструктуры савецкага перыяду, і сучаснага арт-рынку, дзе асноўную ролю іграюць чыста камерцыйныя інтарэсы або інфармацыйнае забеспячэнне праекта, калі прапаноўваецца не канкрэтная рэч з яе асаблівасцямі, а брэнд, увасабленне якога можа быць любым.

У сённяшніх умовах патрэбны такія выставы, дзе акцэнт ставіўся б на адбор імёнаў аўтараў і іх работы з пункту гледжання якаснага напаўнення. Таму жывапісцы, аб'яднаныя выставай “Посттрадыцыя”, – не выпадковы выбар куратара або вынік сяброўскіх стасункаў у мастакоўскім асяроддзі. “Посттрадыцыя” была пазіцыянавана як выстава секцыі жывапісу Беларускага саюза мастакоў, але на самай справе адбылася канцэптуальная акцыя, спроба выразна і досыць усебакова прадэманстраваць прыярытэты і кірункі, што лучаць немалое кола майстроў пэндзля і дазваляюць мастацтвазнаўцам гаварыць пра іх пэўныя стылявыя і пластычныя асаблівасці.

Арганізатары імкнуліся пазбегнуць павярхоўнасці агляду, якая магла стаць вынікам спалучэння ў адной экспазіцыі работ разнапланавых творцаў, хоць, зрэшты, выстава – не экскурс у гісторыю і не практычныя заняткі па тэме “Беларускі жывапіс”. “*...Мы заўсёды адчуваем сябе крыху разгубленымі і прыгнечанымі ў гэтых галерэях, – адны перад такой колькасцю мастацкасці. Прадукцыя незлічоных гадзін, змарнаваных столькімі майстрамі на маляванне і жывапіс, абрушваецца імгненна на нашы пачуцці і розум, але і гэтыя гадзіны, у сваю чаргу, нясуць цяжар гадоў, аддадзеных пошукам, доследам, уседлівасці, генію!.. Непазбежна мы павінны ўкленчыць перад іх цяжарам. Што ж рабіць? Мы становімся павярхоўнымі*”. Полю Валеры запярэчыць немагчыма.

Прынцып адбору – дастаткова жорсткі. Найперш існавала абмежаванне паводле ўзросту: было сабрана творча актыўнае і запатрабаванае на рынку пакаленне пяцідзесяцігадовых. Другі крытэрый – выяўленне ў творчасці гэтага пакалення пэўных тэндэнцый і характэрных кірункаў, якія грунтуюцца на традыцыях нашага і еўрапейскага жывапісу.

Дарэчы, мне здаецца, больш адпавядала задуме першапачатковая назва выставы – “Рэмінісцэнцыі ХХ стагоддзя”. Бо гаворка не пра тое, што адбылося з беларускім жывапісам пасля таго, як традыцыі, закладзеныя акадэмічнай мастацкай школай, сталі пераходзіць з цягам часу ў новую якасць. Традыцыя – паняцце жорсткае, яно вызначае ўстойлівае імкненне людзей да захавання спадчыны папярэднікаў. Рэмінісцэнцыі (ад лац. *reminiscentia* – успаміны) прымушаюць згадваць нейкі іншы твор; гэта вынік свядомага ці выпадковага пераймання аўтарам асобных узораў, матываў, стылістычных прыёмаў.

Аднак жа вартасць абранай для выставы тэмы залежыць ад таго, наколькі глыбока арганізатары і куратары імкнуліся асэнсаваць яе. Безумоўна, у сапраўдным мастацтве нічога дробязнага не бывае і кожная дэталь можа быць прадметам асобнай размовы. Але каб у выніку не атрымаўся банальны рэкламны ход, трэба абавязкова арыентавацца на вырашэнне праблемы ў адпаведнасці з глядацкай увагай або навуковым досведам.

Канцэпцыя згаданай выставы не прэтэндуе на ўсёахопнасць, але вылучае найважнейшыя

* Пачатак на апошняй старонцы вокладкі.

базавыя пункты развіцця сучаснага жывапісу і працяг традыцый XX ст. Тут знайшлі адлюстраванне драматызм і дынаміка нашай эпохі. Прадстаўленыя на выставе мастакі – вельмі розныя па сваіх творчых прыярытэтах.

Некаторыя з іх выяўляюць сучаснае прачытанне класічных жывапісных жанраў. Ёсць прадстаўнікі рамантычнага кірунку ў жывапісе, ёсць прадаўжальнікі традыцый мадэрнізму і прыхільнікі постмадэрнізму. Але, галоўнае, карціны ўдзельнікаў выставы выяўляюць сюжэтна-сэнсавыя прыярытэты і пластычныя пошукі прадстаўнікоў сярэдняга пакалення.

Якія ж яркія тэндэнцыі характэрныя для нашага выяўленчага мастацтва? Найперш – сцвярджэнне метафары і канцэпцыі, што прыходзяць на змену тэматычнаму складніку. Сучаснае беларускае мастацтва імкнецца ўвасобіць думку аўтара. Уласныя асацыятыўныя адчуванні творцаў цікавяць больш за рэаліі і калізіі рэчаіснасці. Узбагачаецца мастацкая паэтыка, майстар звяртаецца да ўнутраных рэалій быцця, псіхалагічнага стану героя, глыбінь падсвядомасці, і гэта вымагае ад яго нетрадыцыйнага падыходу ў вырашэнні палатна ці графічнага аркуша. Рэальныя ўражанні становяцца асновай для трансфармацыі рэчаіснасці. А прадметы, архітэктурныя збудаванні – штуршком для фантазіі, якая дазваляе выбудоўваць пэўную мізансцэну карціны.

Сучаснае мастацтва ўвайшло ў новую стадыю развіцця. Асноўнай праблемай мастацкай практыкі другой паловы XX ст. стала вызначэнне межаў мастацтва. Аднак пытанні “Што ёсць мастацтва? Якім павінна быць яго існаванне ў сучасным зменлівым свеце?” засталіся без адказу. Механізмы мастацкай творчасці, заканамернасці эстэтычнага і пазаэстэтычнага ўспрымання не вывучаны. Культурны партрэт часу яшчэ толькі пішацца, гісторыя ствараецца паміж эпохамі. Сёння больш важным за пытанне пра межы і логіку мастацтва з’яўляецца пытанне пра каардынаты пачуццёвасці, якая гэтую логіку змацоўвае. Сучаснаму творцу зноў цікавы чалавек, прычым чалавек “па абодва бакі палатна”.

Ніколі яшчэ ў мастацтве не існавала такой разнастайнасці формаў выказвання. Асабліва відавочна гэта ў жывапісе. Праўда, на згаданым біенале валадарыла класічнае стаўленне да жывапіснай творчасці. У нашай мастацкай практыцы палатно як матэрыяльны фактар знікае пакуль яшчэ рэдка. Аспрэчваюцца катэгорыі класічнай эстэтыкі – твор, творчасць увогуле, ідэал прыгожага, – але гэта не закранае тых, хто забяспечвае іх рэальнае функцыянаванне: упісаных у гісторыю мастака і гледача. Нас хвалююць тэхналогія творчасці, матэрыял мастацтва, энергетыка работ. Пры гэтым класічныя прыёмы не толькі не знікаюць у мінулым, але і прэтэндуюць на ролю спецыфічнага камертона для актуальных выказванняў. Палатно існуе як “памяць мастацтва”, што выступае дасканалым носьбітам структур дыялогу, які завязваецца паміж мастаком і гледачом. Твор працуе як сцяна, што аддзяляе “дом мастацтва” ад іншага свету. Зрэшты, такі погляд мае сваіх паслядоўнікаў і за межамі нашай краіны. Рукатворнасць у мастацкім мэйнстрыме апошніх гадоў можна праілюстраваць пэўнымі тэндэнцыямі: і так званым вяртаннем жывапісу з яго традыцыйнымі матэрыяльнымі дабрадзейнасцямі, і бумам малюнка, і новым вітком інсталяцыйнай творчасці, якая спалучае элементы дызайну, скульптуры і архітэктуры.

Шматгадовае паказальнае непрыманне акадэмічнай адукацыі на Беларусі з боку “пакрыўджаных” сістэмай, насмешлівасць, некампетэнтнасць крытыкі ў адносінах да фігуратыўнага метаду, адмаўленне пранікнення ў выяўленчае мастацтва новых тэхналогій і новых прынцыпаў мыслення, народжаных мадэрнам і эрай дызайну, – неперспектыўны шлях. Імкненне да спрошчанага запазычвання замежнага вопыту, адмаўленне ад уласнага выбару альтэрнатывы не стала стваральным вектарам мастацтва. Прыярытэт пластычнага формапошуку беларускіх мастакоў ператварыўся ў відавочна кансерватыўную тэндэнцыю на мяжы выканальніцкага дэкаратывізму.

Сучаснае мастацтва Беларусі – найперш тое, што ствараецца ў момант нашага быцця. Гэта адпаведнае свайму часу мастацтва, прызнанае актуальным крытыкай, перспектыўнае для развіцця. Многім мастакам здаецца, што наша сучасная культура развіваецца надта маруднымі тэмпамі і неабходна хутчэй вяртаць страчанае. На самай справе тэмпы развіцця надзвычай высокія. Драматызм сённяшняга стану і ў тым, што беларускія мастакі вымушаны пераадольваць шматлікія перашкоды, каб пазнаёміцца з замежным мастацкім досведам, замежнай мастацкай крытыкай, новымі навуковымі мастацтвазнаўчымі даследаваннямі.

Вяртаючыся да вызначэння асаблівасцей беларускай мастацкай школы, хочацца сказаць, што гэтае пытанне не знаходзіцца на паверхні. Як, здавалася б, у неверагоднай стракатасці шматпланавых, адметных і індывідуальных талентаў і характараў, якімі вызначаецца беларускае мастацтва, знайсці пэўнае знітаванне, што абагульняе мастацкую сітуацыю, фарміруе дакладныя рамкі нацыянальнай мастацкай школы? Развагі пра гэта могуць стаць тэмай не аднаго грунтоўнага дысертацыйнага даследавання.

Для саміх жа мастакоў тэорыя, не падмацаваная практыкай іх творчых пластычных вышукаў, – пусты стрэл у паветра.

Развіццё мастацкай школы было і ёсць. Гэта аб'ектыўны працэс, які немагчыма спыніць. Дасягненні пачатку 1990-х гг. цалкам звязаны з тым, што адбывалася ў 1970 – 1980-я гг. Іначай у мастацкай школе проста не можа быць. Асабліва ў той школе, якая мае значныя здабыткі, рухаецца побач з крытыкай і мастацтвазнаўствам, разам з унутранай творчай дыскусіяй, няпростай і вострай. Калі працэс маштабны, нейкіх скачкоў не адбываецца. Да скачкоў адношу найперш сяганне ўніз. А развіццё – калі моладзь пераймае вопыт у старэйшага пакалення, калі адсутнічаюць канфлікты паміж сталымі і маладымі, калі да настаўнікаў прыходзяць калегі – іх вучні. Гэта працэс натуральны і вельмі прадуктыўны. Таму рэвалюцыйных падзей у нашай мастацкай нацыянальнай школе я не назіраю. Аднак хтосьці можа запярэчыць, што ў 1960 – 1980-я гг. у беларускім мастацтве з'явіліся значныя імёны. А хто ёсць сёння? Пройдзе пэўны час, і мы зможам вызначыць маяковыя імёны новых мастакоў. І нават цяпер сярод нядаўніх выпускнікоў мастацкіх ВНУ бачу маладых, але ўжо вядомых творцаў Паўла Татарнікава, Юрыя Алісевіча, Анжэлу Малышаву, Рамана Сутава. Не падобна, каб нешта перашкодзіла гэтым асобам стаць у будучым у адзін шэраг з іх вядомымі калегамі. Тут наша школа выпрацавала механізм захавання ўласнай самабытнасці, звязанай з прафесіяналізмам сваім адметным бачаннем сусвету, жыццёвых рытмаў, праблем нацыянальнага. Гэты механізм – залог таго, што беларуская мастацкая школа будзе развівацца.

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2010 год

ЧЭРВЕНЬ

*Заканчэнне. Пачатак на с. 75.*

**16 чэрвеня** – 90 гадоў з дня нараджэння Яўгена Ражкова, жывапісца

**17 чэрвеня** – 120 гадоў з дня адкрыцця Мінскага гарадскога тэатра. З 1920 г. у яго памяшканні працуе Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы

95 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя Кавалёва (1915 – 1977), беларускага і рускага паэта і перакладчыка

**18 чэрвеня** – 350 гадоў з дня нараджэння Яна Алаізія Кулешы (1660 – 1706), рэлігійнага дзеяча, пісьменніка, палеміста

**20 чэрвеня** – 100 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Сімяонава (1910 – 1987), беларускага, украінскага, расійскага дырыжора, народнага артыста СССР

**21 чэрвеня** – 190 гадоў з дня нараджэння Браніслава Залескага (1820 – 1880), беларускага і польскага мастака, пісьменніка

75 гадоў з дня нараджэння Нінэлі Багуслаўскай, эстраднай спявачкі, заслужанай артысткі Беларусі

**22 чэрвеня** – 70 гадоў з дня нараджэння Святланы Цярэнцьевай, мастака дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва

**23 чэрвеня** – 70 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Шастакова, жывапісца

**24 чэрвеня** – 110 гадоў з дня нараджэння Кузьмы Чорнага (сапр. Мікалай Рамановскі; 1900 – 1944), празаіка, драматурга, публіцыста

**25 чэрвеня** – 110 гадоў з дня нараджэння Міколы Целеша (1900 – пасля 1976), празаіка, публіцыста, перакладчыка

105 гадоў з дня нараджэння Петруся Броўкі (1905 – 1980), паэта, празаіка, перакладчыка, грамадскага дзеяча, народнага паэта Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Леаніда Пекарскага (1935 – 2001), кінааператара

70 гадоў з дня нараджэння Віктара Стральчэні, спевака, заслужанага артыста Беларусі

**26 чэрвеня** – 75 гадоў з дня нараджэння Рымы Маленчанкі, актрысы, педагога, заслужанай артысткі Беларусі

**27 чэрвеня** – 100 гадоў з дня нараджэння Алеся (Айзіка) Кучара (1910 – 1996), крытыка і драматурга

85 гадоў з дня нараджэння Лідзіі Арабей, празаіка, літаратуразнаўцы

70 гадоў з дня нараджэння Юрыя Казакова, мастака ў галіне мемарыяльнай архітэктуры

*Паводле картатэкі БДАМЛМ.*

Супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва просяць прабачэння ў народнай артысткі Беларусі Ірыны Шыкуновай і чытачоў "Роднага слова" за прыкрую памылку ў падачы звестак, якая па тэхнічных прычынах была дапушчана ў "Календары памятных датаў і юбілейных дзён на 2010 год: Снежань" (апублікавана ў тым ліку ў "Родным слове", № 1). Калектыў БДАМЛМ і супрацоўнікі рэдакцыі віншуюць вядомую спявачку і педагога Ірыну Сямёнаўну з юбілеем, што адбыўся 15 сакавіка, і зычаць здароўя і творчых поспехаў.

